«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная кніжка — 50 гр. Заграніцу цана — падвойная. —
*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*

«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.

«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 1 (14) „Калосься“



**Вокладку запраектавала і выканала В. Пракаповічанка**

Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.


# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

**Кніжка 1 (14)** **1938 г.** **Год IV**


*МАКСІМ ТАНК*

## КАЛІНОЎСКІ

(П А Э М А)

1

### Паўночны вецер

З поўначы вецер
зьніжаным лётам
рве хмараў вячэрніх цяжкія плыты,
калышучы мачтаў п'яны готык
і цёмна — імглісты цень густы.
У гэткі час і пагутарыць не з кім, —
хоць-бы аб родным шолаху ніў...
Вось на шырокім і шумным Неўскім
мокрыя вечар агні запаліў.
Горад шуміць, вялікі горад,
шэры граніт, камяніцы, муры
і гэты назойлівы звон шпораў,
і эпалеты, лампасы, арлы...
Тронам — вастрогам край прыдавіла,
моцна калёны палацаў стаяць.
Здаецца, ці можна гэткую сілу
нат' гневам народным калі ўзарваць!

З поўначы вецер
у месяцы човен
плёскае сінія хвалі Нявы...
Пэўна таксама дзесь стары Нёман
з пены кудлатую грыву завіў.
Пэўна дзесь дрэмлюць хаты — зямлянкі,

цемру калыша лучыны агонь,
гора складае свае калыханкі, —
сумныя песьні пра чорны прыгон..
Але бяз лямкі шырокай праз грудзі,
шматмільённы народзе ты мой,
некалі сонца сабе на палудзень
паложыш на стале мазольнай рукой!
Недзе ў глушы, за парогам сасновым
моліцца, ночы ня сьпіць жняя...
Можа ты сяньня цень Пугачова
песьняй калышаш, вёска мая?..

З поўначы вецер палярны і быстры
топіць ў сьцюдзёнай
імгле Пецярбург...
Пэўна, над Нёмнам, разносіць ён іскры
стрэх саламяных крыльлямі бур;
пэўна па млечнай і зорнай руні,
заслухаўшыся ў рэк сібірскіх гул,
з люлькай пагасшай вольны Бакунін
путы сарваўшы ідзе праз тайгу...
А там, дзе сьцеп з морам цалуецца сінім
і скіфскіх курганаў вяршыны гараць, —
калыша кавыль ў сьцяпох Украіны
прызыўны напеў Свайго Кабзара...
Ну што-ж, —не глядзець-жа ў даль родную
[з сумам!..
Каб мог стаць на хмараў сінеючы плыт, —
пад парусам ветру паўночнага з шумам
на хвалі-б расьцьвіўшага лёну паплыў...

2

## Ноч у абозе

Гарацъ агні абозныя.
Дождж... Звоняць камары.
Пра слухі, весткі розныя
паўстанец гаварыў.
—Над сьцежкамі, над польнымі
ўстае дзень для сялян, —
казаў, што будзем вольнымі—
сам Сьвітка — Атаман...

Другі пад ёлкай стоючы,
пад дождж грыбны, густы,
пярэчыў яму горача
апёршыся на штык.
— Эх, штосьці мне ня верыцца



у байкі для малых:
мы б'емся за аселіцы,
за нейчыя валы.
Зямля, —дзе глянеш, —панская,
вада, лес і гара.
Прыелася мне ласка іх, —
як бацюшкі цара.
Ўсе сталі раптам „мілыя“,
але зарчэй глядзі,
каб нас пад плечы віламі
хто з іх не падсадзіў.

А трэці, шрот сартуючы,
пытаў раз можа сто:
— Але, скажы, гаруючы
змагаемся за што?
Вось маю раны хворыя,
чаго пайду дамоў?
ці перамогшы ворага
зноў легчы у ярмо?

Хтось галасы трывожныя
прыйшоўшы абарваў.
Ў зары агнёў разложаных
сам Атаман стаяў.
— Пільнуйце коняў, коньніца,
падсыпце ім аброк,
глядзеце ў парахоўніцах
набой каб не замок!

Пайшоў... А іскры золата
з агню ляцелі ўвысь.
Зноў гаварыў хтось шопатам,
як шолахам травы:
— Паны сягоньня водзяцца
з царом за бараду,
дасьць костку ім—пагодзяцца,
сялян запрададуць...
Каб Атамана нашага
ня даць у рукі ім...

Зноў шопат змоўк, як згашаны,
разьвеўся, як дым,
дождж акалотам — коласам
шумеў ў глухім бары
і хтось знаёмым голасам
пра порах гаварыў.

3

## Пра Сьвітку першы раз чую

...„Шесть раз его поцѣлавал—и каков—
ни слова мнѣ не сказал"!..
Мосолов „Русская Старина" 1883

*Палкоўнік Лосеў*

Сядайце!
Так... Я ня мог вас паклікаць раней.
Гэты мяцеж, безталковы мяцеж!
Шмат невінаватых людзей
часам змушана скутых сядзець,
пакуль разбяромся...
Як вас зваць?

*Арыштаваны*

Паўстанец... Пад Няміравам ўзяты...

*Палкоўнік Лосеў*

Шляхціц?

*Арыштаваны*

Не!..

*Палкоўнік Лосеў*

Усё-ж хацеў-бы я знаць,
хто вы? скуль? дзе сям'я ваша, хата?
хто ўцягнуў вас, за кім вы пайшлі ў гэты бунт?
колькі лічуць ў лясох вашы сілы?...
І... ўдалося-б ўцячы ад пятлі ці ад пут,
мо' дасталі-б на'т царскую міласьць..
Хэ, брат, дома...
ляжыць...
сіратой паласа.
Мне шкада, чалавека, ей богу, як брата, —
можа плача хтось ў полі над жменяй аўса,
конь і той пэўна ржэ за аратым...

*Арыштаваны*

Кінь, пан, — ведаў, — ішоў я куды,
тапарышча падняўшы рукамі худымі.
Што казаць? Каб вы посьле малых і старых
маім катаржным мучылі імем?!
Людзі памяць у вёску і так занясуць,
мяне зьняўшы з высокай асіны.



Шкода, пан, што ў руках ня ўтрымаў я касу
і ў лясох у час бітвы ня згінуў.

*Палкоўнік Лосеў*

Ну і ёсьць-жа чаго шкадаваць!
Можа гэта ў раз тысячу лепей?
Мне, павер, за вас баліць галава,
што йдзіцё за панамі вы сьлепа.
Цар даў волю,
а яны хочаць зноў
і на вас, і на вашы загоны
налажыць, як на стада валоў,
ўвесь цяжар і нядолю прыгону.
Слухай!..
будзеш вольным у гэту ноч,
расталкуй толькі масе шэрай, —
ўбілі-б ў грудзі паўстаньня нож, —
бо табе яны будуць верыць...

*Арыштаваны*

Не, пан, сам я з касьці мужыка.
Хай ляціць навальніца па нівах!
Не падымецца гэта рука
бунт ўстрымаць за агністую грыву.
А што разам, — да часу ідзём
і ня верым паном і іх радам;
яны поўзаць гатовы ужо прад царом
і мо' заўтра яны нас здрадзяць.
Важна нам, пакуль з лесу ня выйшлі яны,
пакуль плечы прад вамі ня хіляць, —
за Дняпро
і за сінія хвалі Дзьвіны
перакінуць лапцюжныя сілы.

*Палкоўнік Лосеў*

Ці ня з Сьвіткі абозу ты будзеш такі?

*Арыштаваны*

Не, ня чуў я ніколі аб гэткім...

*Палкоўнік Лосеў*

Дзіўна! Песьні аб ім жабракі
разнясьлі па дарогах, палетках.
Мяцяжом яго імя гучыць.
Так... Час толькі над вамі марную,
а хацеў-бы душой памагчы...

*Арыштаваны*

Ўсё-ж... пра Сьвітку...
першы раз чую...

4

## Сьнег на шыбеніцах і на твары

*Першы мешчанін*

Трэба лепш захінацца ў кажух.
Настаўляй, Клім Іваныч, каўнер!
Гэткі вецер! Табе я кажу:
паміраць не хацеў-бы цяпер.
І за гарнец гарэлкі ніхто-б
не пайшоў-бы нат' ямы капаць.
Бачыш: сьнег, быццам белы патоп
пачаў вуліцы хваляй змываць,
і нясе, і плыве, і вірыць
і чорт ведае дзе і куды;
быццам полымем неба гарыць,
студзень з люлькі пусьціў белы дым...

*Другі мешчанін*

Прашу, выбачце, вас, гаспадзін,
ці ня можна у вас аганьку?..
Вы на пляц ідзіцё так адзін?.. —
Клім Іваныч, а гэта мой кум.

*Каліноўскі*

Вельмі рад... Я Вітаўт Вітажэнц.
Думаў, сяньня вучыць не пайду.
Ды, прызнацца, хацеў паглядзець,
як на сьмерць гэта людзі ідуць.

*Першы мешчанін*

„Павучыцельна“, што і казаць.
Ўчора, — бачылі, — гналі ў Сібір,
або як ўскалыхнулі ксяндза?
Апісаць-бы мог толькі Шэкспір.
Мы вось так, Клім Іваныч і я,
ходзім разам заўсёды на пляц...

*Каліноўскі*

А мне школьная праца мая
не дае нават часу паспаць.
Каго-ж сяньня вядуць на парад?



*Першы мешчанін*

Чуў, здаецца студэнт з іх адзін,
пецярбурскі... так, нейкі Ігнат...
з Каліноўскім атрады вадзіў.
Вось ідуць... Барабанная „дроб“
зараз сыпне гарохам у сьнег...
Клім Іваныч, плячмі, праз народ! —
Ня відаць за галовамі мне.
Выбачайце! — ўступіў на нагу?..
Вось, ўжо бабам ня трэба глядзець.
Сьлёзы... Што-ж гэта я не магу
бачыць, дзе наш стаіць Вітажэнц?..

---

*Каліноўскі*

Вядуць... Нядаўна гутарыў з імі.
Апошнюю ноч сядзелі ў смалярні да дня,—
радзіліся, каб вясной зноў штыкамі стальнымі
над краем штандары паўстаньня падняць...

*З натоўпу*

— Пастаранецеся!
— Дайце глянуць!... Маладыя...
— а нябось пасівела, глядзі, галава.
— Эх, дурні, пацягнуў іх чорт нейкі за шыю, —
— захацелі з царом ваяваць.
— Цішэй там! Чытаюць...

*Каліноўскі*

Шукае вачыма знаёмых.
Бачу, брат, слаўна ідзеш!
Не зламалі цябе у засьценках сьцюдзёных,
не заліць ім ахвярнаю кроўю мяцеж...
Ды ідзеш не на сьмерць ты здаецца!
Даўно, помню, калісь ты так бодра хадзіў.
Пецярбург... Вечары...
а за пазухай Гэрцэн,
ў сэрцы „Колакала“ калыхаўся прызыў.
Пра Ўладзімерку песьню любіў ты
і Некрасава сумны напеў...
Прашумела жыцьцё прыдарожнай ракітай,
рана дзень твой зарой адзьвінеў...

*З натоўпу*

Вось паднялі...

*Мешчанін*

А мы вас шукалі...
Бачыце: вецер калыша,
тварам глядзяць на раку.
А можа з такой вышыні відаць ім зарэчныя далі.
Я перапрашаю, я зноў-бы у вас папрасіў аганьку.
Бачыце, сьвет ужо новы, іншыя людзі.
Што такім шыбеніца, катарга, сьмерць?..
Вось, ці на добрае толькі народ яны будзяць, —
як вы думаеце, гаспадзін Вітажэнц?..
А мяцель іх калыша...
абвіла іх тканінай сьцюдзёняй...
Вы йдзіцё?
А я пастаю, недалёка мне.
Ці ня плачыце вы?
Мо' хто родны, блізкі ці знаёмы?

*Каліноўскі*

Што вы?..
Гэта толькі на твары растаіў сьнег...

(Працяг будзе)

Студзень 1938 г.



М. ДАЛЬНЫ

# Шопат зямлі

Верасьнёвае сонца счырванелым лістом прыліпла недзе да страхі. Яшчэ хвіліна — і яно абарвецца за поле, за вёску, у маліны небасхіл. Хутка набяжыць змрок на зямлю, і серабыстыя зоры зайскрацца ярчэй. А неба, — як ліпавы цьвет.

Шалясьціць сена ў цяжка наладаваных вазох перацьветамі летніх днёў. Зачэпіцца фура дзе за галіну і абдае твар лёгкай пацярушшу.

— Но-о, Лыса!

Ідзем ля вазоў. Хяжкая дарога. Пясок сыплецца з колаў, як з млына.

— Э, ты — прыстала?!

— Ганяй, ганяй!

— Бічом!

Коні чыста ўпрэлі. А дарога ўплывае так паволі. Яшчэ далятаюць галасы вёскі — вячэрні крык дзяцей, брэх сабак. Карпальніцы вяртаюцца з поля. Іх постаці плаўна пасоўваюцца ў заход сонца. Капачкі як-бы дакранаюцца да хутка згараючага неба. І ёсьць нешта павабна прыгожае ў чалавеку, які ідзе на мяжы неба й зямлі. А гэты чалавек мо' думае аб вячэры ці сваім заработку. Дыхаецца так свабодна. У халадзеючым паветры—віно восені. Вечар мяккімі робіць галасы.

— Мае колы пачынаюць загаварываць. —

Праклінаем дарогу. Але не'к прыемна, лёгка. І аб чымсь няведамым расказвае скрып вазоў і йзноў новым, нябачаным здаецца гэты рознакалёрны вечар. Вазы трывожаць цішу апусьцелых палёў. Скрыпяць вазы, нібы травы й каласы нашумелі ў іх свае ясныя звоны. Жніва шэлестаў і напеваў!

Пясок скончыўся. Уяжджаем у лес. Байчэй ідуць калёсы, пераскакваючы праз аголенае карэньне, чапляючыся за галіны елак. Едзем доўга моўчкі. Мо' лес так ціхамірным шопатам навеяў нам гэтае маўчаньне й задуму. Быццам сьпяць думкі.

А мяне-ж нядаўна звольнілі з школы. Усе дні раптам страцілі сваю гатунковую вагу, раскідаліся ўсе пляны. А чамусьці спакойныя я, ціхі, як гэты вечар... Лес у імгле — як казка: пахне прыемна сырасьцю, і смалою, і мёдам. Дрэвы пачынаюць свой лёгкі, ясны сон. Мякка ісьці. І здаецца бачу — кляса. — У вакно чапляецца серабрыстае павучыньне — кожны ўкрадкам пазірае на гэтыя антэны, што калышацца мерна й плывуць у сонцы.

...Хай іншы жаліцца старонцы,
Я-ж сьлёзаў ня лію, як вы!..

Голас яе такі малады, як-бы яна прыйшла вось толькі што з зарошаных палёў. І ўся яна — моладасьць.

...Я-ж сьлёзаў ня лію, як вы...

А недзе ў ложачку ляжыць мая хворая дочанька. Коцяваркоця. Галоўка яе схілілася, як у птушачкі. Вочкі мутненькія. Вось за вакном серабрыцца дужкамі павучыньне. Сумна неяк. Можа таму, што адцьвітае мая моладасьць, а можа пануры, пахмурны дактыль кажа аб адцьвіўшых летніх днёх. —

Шалясьціць сена. Скрып — скрып — адзываюцца вазы. Цёмнай заслонай ахінаецца глыб лесу. І наплываюць далей у няіснуючай пэрспэктыве ўспаміны, яшчэ абвеяныя сьвежасьцю дзён:

— Паперка такая, надрукаваная нейкай машыністкай. Машыністка можа ела яблычка або шмінкавалася. І ў паперцы сухія формулкі, як у старых дакумэнтах і такое згубленае ў слоўніку між тысячаў іншых словаў: звальняю. — Чаму? За што? Ці-ж я здэфраўдаваны сэквэстратар, ці сьпіўшыся чыноўнік?

—Вясна. Зацьвітае зямля. У сонцы блішчаць лужыны ўдзень. І публіка вясёлая, разьсьмеяная. Прадвесьне дыхнула на места. І, здаецца, увесь сьвет такі цудоўны й дыхаючы, такі безгранічна прыгожы. Добра было-б пачытаць цяпер нешта... Я-ж так мала прачытаў. Экзамены, экзамены! І нашто яны? Каб пасьля надрывалася жыцьцё й нарастаў сум па страчаных, недацьвіўшых днёх. Я іду за плугам і конь ня слухаецца. Крывіць баразна, выскаквае плуг. І хочацца, здаецца, крыкнуць, абцёршы пот: Дзеці Беларусі! Дачка мая! Паслухайце...

— Мішка! Бяжы да каня! Заварачывай!

Я прачынаюся. Ужо шаша.

Замахорываем. Папраўляемся. Лезем на фуры й зарываемся ў сена. Хутчэй закруціліся колы, як-бы рады, што выехалі з пануряга лесу. І прыйшлі іншыя думкі. Заход згас, толькі на небе далёка, далёка расплыўся ясны адсьвет агнёў Беластока.

— Што-ж, Максім, раскажы што-небудзь...

Максім паварачываецца да мяне й на яго загарэлым твары відаць заклапочаньне.

— Я ня маю чаго расказаць. Вы скажэце — вы унівэрсытэт скончылі.

Я? А вось, сапраўды, што-б я расказаў Максіму, такое цікавае, каб яму вочы ня клеіліся. Здаецца, так мала я ведаю. Калі былі Пуніцкія войны ці Француская Рэвалюцыя, законы, тэорыі... Максім ведае, як аблічыць век каровы, ведае гэнэалёгію суседзяў, гісторыю хат.

— Ну, няўжо ты нічога не раскажаш? — і нейкае няпрыемнае пачуцьцё халадзіць словы.

Максім лічыць патрэбным расказаць гісторыю свайго жыцьця. Зачэплівае лейцы за рубель і — прадамной рысуюцца знаёмыя абразы.

— Вайна. — Доўгая дарога, таварным цягнікам. — Незнаёмыя месты, людзі. — Насіў яйкі гатаваныя да цягнікоў на станцыю. — Жабраваў з маткай па расейскіх вёсках, у салдат кашу прасіў, папіросы прадаваў. Сам навучыўся курыць. А пасьля —



ізноў таварныя цягнікі, кашаль, духата, сьмерці, абеды ў лесе гатавалі, лыжкі з капсуляў ад бомбаў вылівалі, стаялі тыднямі то ў лесе, то ў полі эшалонам. Але ўсё бліжэй і бліжэй была родная зямля. А вярнуліся — бацька сварыўся за зямлю з братам. Калатня ўзьнялася. За грудзі хапаліся. Так і ўмёр стары. Сам ён, Максім, гаспадарыць узяўся. А гаспадарка — адны пусткі. У тартак кінуўся. Гатровым пару лет працаваў. Так-сяк каня купілі. А вось цяпер ужо жанаты ён. Дзяцей чацьвёра. І ў кожны рот — даць-жа трэба. Зямлі мала. Ледзь ліпіш. Грошы туга прыходзяцца. І жыць нудна. Жывеш, як скаціна тая. За працай і сьвету ня бачыш. Гарэш, сееш увесь век і ніскуль няма, каб хоць радасьць нейкая. І людзі ўсё такія — прыдзе вечар, наткнешся ў вёску, а там — гарэлка, карты, лаянка. Усяго таго й бачыш. А ў хаце — сварка, плач. Каб так зямлі трошкі...

Максім доўга маўчыць і маўчаньнем як-бы даканчывае свой расказ. Я ўсё разумею.

Коні машуць галовамі й нейкай многазначна-таёмнай робіцца дарога. Сюдыма можа калісь каралі праяжджалі, абозы купцоў ішлі, войскі перасоўваліся... Глухая ноч. Толькі над вастраколам лясоў усё ярчэй гарыць Беласток.

З узгорка ня можам стрымаць коняй. І трэба-ж было не ад'ехацца трохі.

— Не наяжджай! Трымай! Трымай!

— Едзь! Едзь! Бо наеду!

— Вывернеш! Стой!

— Хлопцы! Сюды!

Але мы — ня можам стрымацца. Зьехаўшы ўніз, зьбягаемся. Міхась стаіць спалоханы й дробна лаецца ў ноч.

— А, халера, ледзь у аткос ня ўехаў!

Каб трохі, кола зьляцела-б. Шрубка дзесь выпала. Можа дзе ў траву закацілася.—Цёмна. Палім траву і як з паходнямі ідзем уздоўж шашы. Загараюцца золатам камлі высокіх соснаў.

Шрубкі няма. Абшукваем траву аткосаў, грабем віламі, мацаем рукамі, поўзаем, спацелыя й задыханыя. Нічога! Зарыўшыся ў сена, чакаем расьсьвету. А Міхал усё недзе лазае, усё шукае, як-бы бярэ ўсю віну на сябе.—Дрэмлем. Так прыемна. Не трасе жывата. Здаецца, кудысь плывеш, плывеш...

— Эх, чорт! Мелі быць рана ў Беластоку, а цяпер...

— Ай, заедзем яшчэ, заедзем!..

— Не пашэнціла, хлопцы!

— А ты сьпі — і ўсё!

Праз дрымоту чуецца тарахценьне вазоў. Мінаюць нас. Здаецца, ужо трохі сінее неба. Грукат расьце — быццам на вайну выбраліся вёскі абозам. Мутнымі абрыўкамі тчэцца трывожны сон:...

— З бежанства едзем. А Максім галоўку ад бомбы дзесь знайшоў у полі — вось капсулёк добры будзе. Максім — кры-

чу — цягнік рушыўся. Застанешся тут — і да хаты не дабярэшся. А Максім кажа ў адказ: мне і тут добра, а што там? на роднай зямлі, а? Пусткі адны. Цягнік усё шыбчэй, а мне шкада Максіма. Не, не пакіну яго тут на чужыне. — Стойце, крычу, чалавек астаўся. Але цягнік не становіцца. Саскакваю й бягу да Максіма. — Максім, Максім, Максім, што-ж ты ўздумаў? Ці-ж ты роднай зямлі ня любіш? Што пусткі — абы мы былі, — а сам цягну Максіма. І Максім ужо бярэцца бегчы, але ня дасьць рады. Я ўсё выбягаю наперад, яшчэ намагчы добра — дабяжым, але й Максіма кінуць не магу, бягу да яго, — хутчэй, крычу, махаю рукамі, то йзноў за цягнікам бягу. А задні вагон усё далей і далей — і раптам:

— Хлопцы! Шрубка! — Міхась задыханы бег па шашы і вымахваў нечым у руцэ.

— І хай-б падумаў! На самым разьезьдзе знайшоў!

Змагаюся з дрымотай. Дрыжыкі праходзяць па целе ад холаду. Едзем ізноў. Прад намі, за намі — вазы й вазы. Лілейкамі белымі ківаюцца на вазох жанкі ў хустках белых. То ня ймгла на дарозе, то пыл курыць. Едуць людзі, едуць у места тарговае, у Беласток. Дымяць смалякамі фабрычныя коміны. Лепяцца домікі — скрынкі ад сернічак. Вырэзваюць неба геомэтрычнымі фігурамі вуліцы.

— Каб добра сена прадаць...

Упарта таргуемся. Колькі панамахалі касой, колькі сонца панапякала. А гэты чалавечак, што плюецца скарагаворкай і сьмяецца з нашае працы, можа й касы ў руках ніколі ня трымаў.

— Пяцёрку хочаш?

— Правалівай, правалівай! Няма чаго.

Але мы наіўныя. Рынак у руках гэтага заплёванага пера купшчыка й мы змушаны прадаць за бязцэн сена.

Крыўда і злосьць. Мо' голад робіць чалавека злосным і нядобрым. Мы-ж яшчэ й сухога ў роце ня мелі. І такімі ненавіснымі здаюцца гэтыя жаўнеры, што мыюцца на ўквечаным панадворку кашараў. Пацеем, скідаючы сена ў нейкія склады. А яны глядзяць на нас, выпучваюць свае мускулы.

— Ну, добра, другі раз не ашукаемся...

Хтось на нас добра зарабіў. А на другі год мы таксама халодным ранкам сьмелымі ўдарамі ссыплем расу з сьвежых травау...

— Хутчэй!

Сьпяшаем: і коні, і мы.

— Чаго стаіш, разява? На бок! Аглобля ў рот уедзе! Людзі аглядаюцца на нас. — Мужыкі п'яныя паехалі... Мы горш, як п'яныя — мы змучаныя, вычэрпаныя, нявыспаныя, галодныя. А людзі паволі ідуць, не сьпяшаюцца. Так мне здаецца, бо я галодны й злосны.



— Мужыкі п'яныя паехалі...

І ніхто ня ведае, што я чытаў Сафокла, Гейнэ, Есеніна.

— Мрр...

Брудны рэстаранчык на „Пясках". Няпрыветна глядзяць пакрыўленыя ад гарэлкі твары сялян. Трохі сьвету ліецца праз счарнелыя шыбы, і каб убачыць нашыя хурманкі на пастоі, трэба працерці брудны пот, абсеўшы, як мароз, на вокны. Пахне гарэлкай, потам, селядцом. Нудна неяк, несымпатычна. Можа таму, што мы цэлыя суткі няеўшы. Не сядаем, а валімся ў кутку на лаву. Ногі адразу наліваюцца ўтомай, ня хочацца нават гаварыць.

Таўстая шынкарка хітрымі вачыма аглядае й ацэньвае кожнага з нас папарадку й, разстаўляючы шклянкі, пытае:

— Колькі даць? — бутэльку?

Шклянкі брудныя, спырсканыя для віду вадой. Лаемся на шынкарку, але яна, няўзрушаная, суне шклянку прад вочы Міхасю.

— Ну, гэта брудная?

— Я не сьляпы! Бачу! — адгрызаецца Міхась.

— Пастаўце, пастаўце, а то зараз яе палажу.

— Які ён сярдзіты, — сьмяецца шынкарка.

— Бо й сярдзіты. —

Ах, прыемна было-б ухапіць кавалак каўбасы й пхаць яе ў рот так бяз сораму, з шкуркай, закусваючы хлебам. Але мы выходзім.

Шукаем другой кнайпы. Валочым ацяжэўшыя ногі і — ўрэшце — сядзім у даволі чыстым пакоі. Прад намі „службовыя" з шкляначак ад муштарды, адзін нож да агульнага ўжытку і пара абпакрыўленых відэльцаў. О, чыстыя талеркі! Беласьнежныя абрусы! Ёсьць фабрыкі, дзе яны вырабляюцца. А Валодзя, хлопчык вясковы, есьць кашу лыжкай, упэцканай у пясок, дзе можа хтось пляваў...

— Службовы?

— Ну, валяй!

Адразу п'янеем. Змучаныя, утомленыя, сядзім і слухаем, як у бакоўцы іграе хтось на гармоніку й фальшывіць сьпітым голасам „Дубінушку".

— Добра іграе! — Хлопцы любяць музыку.

А ў гэтую хвіліну існуюць недзе людзі, якія слухаюць сымфонічныя канцэрты, пераліўныя галасы сьпявачак...

— Ну, пі — ня крывіся!

— Ня прыслухоўвайся!

— Гэта апошняя!

— Дай Божа, на Пасху ў вялікіх местах...

Мы зусім папіліся. Ня памятую, як з намі сеў той сьпявак. Сьмяюся:

— Вам-бы дубінушкай па сьпіне.

Ня мае нічога процiў і шопатам выясьняе: — ён быў шофэрам, а цяпер зарабляе сьпевам.

— Як там коні?

У вачох, як праз прызму, — буфэт, а за ім, як мэбэль, нярухомы й спакойны гаспадар. Нейкая сухотная паненка круціцца каля нас. Але мы... не! Яна відавочна злуе й нэрвуецца.

Выходзім і ўжо паволі брыдзем па крывых вулачках. Усё нас цяпер цікавіць. Заглядаем у вокны магазынаў. Дзівімся, што ў спажывецкай краме няма чэрні да вечных пёраў. Спрачаемся за два грошы рэшты.

Мне хочацца яшчэ пабачыцца з сябрам.

— Гэта-ж надта далёка!

Наймаем вазьніка. Не шкада залатоўкі. Так даўно ня бачыўся. Яшчэ студэнтамі ў Вільні. Зьбіраліся ў мастака Верамея, закурывалі яго пакойчык, хацелі зрабіць пераварот у беларускай літаратуры. Так нічога й ня выйшла. А хто ведае?

Едзем доўга аднэй вуліцай. Фабрычныя кварталы. Пачарнелыя коміны і доўгія платы — агарожы, вугаль, дровы, дым. Сумная абстаноўка. Побач туляцца маленькія да сьмеху домікі, баракі... Нечыя рукі засадзілі тут кусьцікі бэзу, язьміну. Бязьлюдна! На лавачцы нудзіцца беластоцкі пралетары з зламанай рукой — рука падвязана нязручна высока — ледзь не да самай шыі. Вочы яго, вялікія, чорныя, доўга праводзяць нас.

— Дык вось, брат, як ты жывеш.

У маленькім пакойчыку мы ледзь уселіся. У суседнім удвая большым пакоі — кухні — месьціцца ўся сям'я — бацькі, брат, сястра. Нейкі жаночы голас крычаў, як саксафон, а ў адказ яму гучэў захрыплы хранічна бас.

І мы гаварылі... Доўга, пакуль ня прыйшоў вечар.

— Ты разумееш, хочацца напісаць так, каб нават у такога паршывенькага, дробненькага чалавечка закалупаць трохі душы. Але гэта ня так проста...

— Вось накіды — жывыя нябожчыкі.

На стале ляжалі нядбала раскіданыя паперы.

— Працуеш і ўсё думаеш: ну, скончу працу, а праца толькі для заработку, і тады буду пісаць, пісаць... Але недаспаныя ночы робяць сваё — думкі слабыя, галава адмаўляецца працаваць.

— А ў нас павінен цяпер зьявіцца вялікі пісьменьнік, вялікі, з усясьветнай славай.

— Часам находзіць нуда й жыць ня хочацца. І думаеш так сабе — і на якога чорта я мушу пісаць, мучыцца, недасыпаць, нішчыць свой арганізм. Але гэта...

— Гэта цяпер для нас — опіум, які атручвае...

— — — — — — — — — — — — — — — —



— А мяне вось звольнілі.

Ня зьдзівіўся нават. Як-бы гэта было зусім зразумелым і звычайным.

---

Беласток мігцеў вагнямі, калі мы выяжджалі. Нясьліся вуліцы. Недзе ў бязьмежную вясковую даль спадалі электрычныя агні. Моцна трымаемся за лавэты. Можна выпасьці, а мы п'яныя. Дошкі ўядаюцца ў бакі, муляюць косьці. Сады й домікі, апаясаныя тратуарамі. Па бруку трасе, воз бражджыць і звоніць. Хвалі каменьняў. Як-бы каменьні сабраліся ўцякаць з места, а воз каменьні на іх хрыбтох, расьпіхае цагляныя дамы. Воз неміласэрімчыць па іх хрыбтох. Здаецца, сам едзеш запрэжаны й малоцішна танцуе па бруку. Здаецца, сам едзеш запрэжаны й малоціш каменьне. Прыемны вячэрні гоман вуліц. На тратуарах так зразумела паволі сунуцца пад рукі парачкі, пахне верасьнёвымі лісьцямі.

На прадмесьці ўяжджаем у мрок. Рэдкія аганькі, а далей мора цемры. І там недзе нашыя хаты й чакаюць нас. Апошні агянёк — і места нікне, прад намі шаша сьветлай істужкай плыве ў лясы, балоты. Міхась ляжыць упоперак лавэтаў, лейцы зачапіліся за нагу, галава зьвесілася ўніз і з-пад шапкі выбіўся пух сьветлых валасоў.

— Ты — халера! Ты-ж жонку маеш, дзіця. Што-ж ты робіш?

Трасу Міхася, але ён, відаць, не разумее.

— Ты чуеш? Ты-ж жонку маеш! А цябе аўтабус разьедзе!

— Мне... брацішка.. усё роўна. Пусьцеце, хлопцы!

Холадна й дрымотна. Гаворым нешта. Закурываем паламаныя папяросы. Сілімся ня спаць. Уважаем на Міхася. Але трудна змагчы сон. Усё здаецца такім непатрэбным, і гэтая дарога, і сена, і грошы. А ў хаце чакаюць, ня сьпяць.

Чапляюся мацней нагамі за лавэты, рукамі абыймаюся з Максімам, і так едзем.

Робіцца прыемна — прыемна — усё глушэй дзюрчыць жорсткі пясок пад коламі...

І шэпча мне зямля: дзеці мае! дзеці — бо я вас радзіла. Я ўсё вам дала, што мела, я вас карміла сваімі грудзьмі, я вам складала чароўныя казкі. І сінія зоркі і белы месяц заглядалі ў маю калыску. Я цешылася. Вы вырасьлі і забыліся, што вы ўсе дзеці мае. Вам стала цесна і вы пачалі забіваць адзін другога, вырываць кавалак хлеба з чужога рота, як дзікія зьвяры. Вы пабудавалі вялікія месты і дамы ў іх, але й там вам дрэнна. Вы нарабілі межаў і загарадак і брат не дазваляе нават зірнуць другому, што ў яго робіцца.

І ў шопаце зямлі чуецца мне ціхі плач.

— Вам цесна, вам душна, а гляньце — колькі сонца й прывольля ў маіх прасторах. Вы бедныя, а колькі багацьця раскі-

нула я вакол вас. Што больш я магла вам даць? Няма хіба ў сусьвеце істот шчасьлівейшых ад вас.

І ў нас сьлёзы — і ў Максіма, і Міхася, і ў мяне з сябрам— і мы быццам кажам:

— Гэта — ня мы! Гэта — ня мы! Мы верныя дзеці твае. Можа мы — можа мы адарваліся ад твайго ўлоньня й пайшлі ў душныя гарады, але ці мы вінаваты, што твой небасхіл ня мае канца. А глянь — і гэты Максім, у якога зацьвярдзелі на ўсё жыцьцё мазалі — і ён нездаволены.

І плакала зямля, ня сунімаючыся. І неяк нам было прыкра і больна. Глядзелі на нас месяц і зоркі й як-бы сьмяяліся.

Дваццаты кілямэтр. Няўжо мы спалі ўсю дарогу й міма нас імчалі самаходы.. Мы адны, а хлопцы можа дзе ў аткосе сьпяць, ці павыпадалі. Абапал шашы разгортваецца зямля, як-бы прыймае нас у свае абняцьці й расчыняе прад намі сваю глыб. Ціхамірна на душы. Ціхамірна, як-бы пасеяна там нейкая праўда. Спаць ужо ня хочацца. Раніца раскінула ружовыя платы на небасхіле. Патыхае сьвежы вецер і нікне туман. Усё далей і далей уяжджаем у родную даль.

Вось ужо відаць наша вёска. Стырчаць настрэшнікі ў сіняве неба, як рагі, быццам стада кароў лягло на выгане. Ужо чуваць, як недзе малоцяць.

Удары цапоў то глухія, то звонкія.

---





Успакаеньне буры

П. Сяргеевіч

## *МІХАСЬ МАШАРА*

* * *

Люблю цябе ў цішы сумуючае поле. —
Зямля абнятая васеньняю смугой.
Пяю табе душой зьняможанай ад болю
пра смуткі ціхія —
спакой.

Вісіць туман сівой заслонай над балотам,
прыблудай нейкай бродзіць вецер па кустох
і пахніш ты уся —
мужыцкім горкім потам,
чырвоным золатам —
гарыш у валасох.

Лісьце асыпалась на межы і узьмежкі,
стаіць бяз шолаху іржавая трава,
аб раньню сонечным задумаліся сьцежкі
і хата кожная, —
як мокрая сава.

Бяз раньня дзень ўстае...
старым ад нараджэньня
і гасьне ў туманох —
бяз сонца на ральлі,
і толькі ў снох тваіх —
надзею прабуджэньня,
як радасьць ціхую, —
калышуць карані.

Восень, 1937 г. Таболы.

* * *

Зімовы лес...
спакойна - хмуры,
стаіць у сьнежнай цішыне, —
як-бы няма на сьвеце буры,
як-бы жыцьця няма у сьне.

Як ў байцы нейкай —
дрэмлюць сьцежкі
у белым кужалю гальля,
як-бы аднэй жывой усьмешкі
ня мае сонная зямля.

І пэўна сьніцца соснам гонкім
пявучы шопат лясуна, —
як-бы ня будзе вецер звонкім,
як-бы ня прыдзе зноў вясна.

* * *

Такой вось ноччу — пышна-белай
ніяк заснуць я не магу.
Ля плоту цень абняўшы шэры
танцуе месяц на сьнягу.

Пад белым пухам лебядзіным
заснула вёска —
сном - нямым.
І думы ткуцца павучынай
і сэрца хочыць быць жывым.

У белым вэлюне асіны
купае месяц повад свой
і няжывы, сьцюдзёны іней
цьвіціць чаромхавай красой.

А ноч бяз шолахаў таёмных
над млечнай бельлю родных ніў
плыве у даль, —
як лебедзь сонны,
як песьні ціхай пераліў.

І пэўна сяньня сон ня змусіць
схіліць ў зьнямозе галаву,—
па сьцежках соннай Беларусі
з табой я ночка паплыву.
17.І.1938

---

## *АНАТОЛЬ ІВЭРС*

* * *

Я шукаў яшчэ вясною
песьняў звонкіх на палёх.
Ды задумаю лясною
заківала мне гальлё...
Што-ж, пайду, мо' там у лесе
сіні шолах абтрасу
і вязанку новых песень,
весялейшых прынясу.
Днём няма у лесе соваў,
пахаваліся, ці што?...
Ў перагудзе струн сасновых
ўвесь калышацца прастор.



## *ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ*

# Столькі песьняў

Столькі песьняў сьпяялі паэты,
і паэмаў злажылі ўжо шмат, —
але доля Твая — недацьветы,
Беларусь дарагая мая!..
І ня енкі, стагнаньні у вершы
я нанова хачу ўзварушыць, —
я ня буду радніцца з памершым,
ды нек сумна ў так званай душы.
Мне й хацелася-б песьняй аб шчасьці
узбуяніць наш родны прастор —
ўчора хлопчык Валодзя прадчасна
ў душнай хаце сялянскай памёр.
Ў гэтых хатах, занесеных сьнегам,
вецер ноту камячыць адну —
у махорачны дым — з нейкім гневам—
словы цэдзяцца... ўсё пра вайну.
Ў цемру ночы агні гэтых сёлаў
замятуха вугольлем мяце... —
Так, цяпер, Беларусь, невясёла
для Тваіх бяспрытульных дзяцей.
Жыць агоркла ў чорным горы —
ў сьнежнай далі лічыць крыжы...
І ніяк з за палёў, загор'я
сіні золак не набяжыць.
Эх, калі паніхідай апошняй
адпяюць гэты час песьняры —
векавую пакінуўшы ношу,
рукі выцягнуць к сьветлай зары!..

---

## *АНАТОЛЬ ІВЭРС*

* * *

Неяк раніцай гарачай,
разам з сонцам ў каласох
хустка — ''ейчая маячыць
на загоне між аўсоў...
І калышыць нібы мроя
і курыць дарожна пыл...
Кажды стане пад гарою
быццам лічачы снапы...

*С. КАЛІНА*

# На парозе новае эпохі ў беларускай літаратуры

Сяньняшнія праявы ў беларускім літаратурным жыцьці шмат у чым прыпамінаюць той стан, які быў каля трыццаці год таму назад. Тады сярод нямногіх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў сярэдняе якасьці, якіх творчасьць, хаця з многіх бакоў цікавая і вартасная, не магла яшчэ стварыць магутнага літаратурнага руху, паяўляюцца Купала і Колас і ў кароткім адносна часе надаюць нашай літаратуры моцны і трывалы быт. Кожны з іх прадстаўляў апрычоную і розную паэтыцкую індывідуальнасьць, але абодвы, дзякуючы вялікаму таленту, асягіваюць высокую ступень артыстычнага разьвіцьця; іхняя творчасьць, глыбокая паводле ідэйнага зьместу, высокая і разнаякая з гледзішча мастацкага, распачынае новую эпоху ў нашай літаратуры.

І паколькі ўся наша літаратура XIX ст., ня выключаючы нават Марцінкевіча, Багушэвіча і іншых, прадстаўляла скарэй за ўсё яшчэ нясьмелыя і спарадычныя, адасобленыя ад сябе фрагмэнты, чымсьці сыстэматычнае разьвіцьцё, патолькі ўжо часы Купалы і Коласа можым назваць эпохай поўнага і ўсестароньняга яе адраджэньня, эпохай яе расьцьвету і замацаваньня ў сваіх асновах. З гэтага гледзішча Купала і Колас маюць у нашай літаратуры вельмі вялікае значэньне, як ейныя тварцы ў сьціслым значэньні гэтага слова. Вялікую памылку робяць некаторыя літаратурныя крытыкі, пераважна чужыя, якія стараюцца ўвесь працэс разьвіцьця нашай літаратуры прыроўніваць бяз ніякіх засьцярогаў да літаратуры польскай ці расейскай, робячы на гэтай падставе розныя вывады, ясна-ж несправядлівыя і некарысныя для нас. Трэба ведаць, што абедзьве гэтыя літаратуры разьвіваліся праз у весь час нармальна, не адчуваючы ніякіх вонкавых перашкодаў, дык і аснаўны характар іх будзе розны ад літаратурнага жыцьця нятолькі Беларусаў, але і ўсіх тых эўропэйскіх народаў, якія разам з намі знаходзіліся ў падобным палажэньні. Такім спосабам беларуская літаратура вымагае іншага да яе падходу. Крытык мусіць яе разглядаць і ацэніваць, бяручы пад увагу ўсе тыя спэцыфічныя абставіны, у якіх яна радзілася і разьвівалася, і ўсе тыя яе характэрныя асаблівасьці, узалежненыя ад гістарычных праяваў народнага жыцьця. Недацэніваньне і ігнараваньне гэтых крытэрыяў, канечных у дадзеным прыпадку, можа лёгка завесьці на бездарожжа, а нават да абсурдаў. Клясычны гэтага прыклад мы бачылі ў артыкуле Ю. Путрамэнта*), які разглядаючы творчасьць Танка, трэба прызнаць быстра і наагул правільна, закрануў мімаходам і беларускую нашаніўскую літаратуру. І вось хочучы яе мерыць паводле Міцкевіча і Пушкіна, ды бяручы пад увагу спазьненьне нашых нацыянальных паэтаў—тварцоў новай беларускай літаратуры ў адносінах да такіх-жа ў Палякоў і Расейцаў, прыраўняў яе да таго стану разьвіцьця, у якім знаходзілася польская літаратура ў XVI в. і расейская ў часы Дзяржавіна.

*) „Mikrokosmos literacki" („Pion" з дня 15. IV. 1937).



Калі ўжо ня можна абыйсьціся без прыраўнаньняў, то мусім шукаць іх ня ў польскай ці ў расейскай літаратуры, а ў літаратурах тых народаў, перадусім славянскіх, якія, гэтак як і мы, перажывалі сваю няцыянальную і палітычную няволю, а разам з гэтым поўны ці частковы заняпад культурнага жыцьця. Такое прыраўнаньне ёсьць магчымым, а нават вельмі карысным, бо тут мы сустрэнімся з нязвычайна падобнымі праявамі і працэсамі, выкліканымі аднолькавым гістарычным палажэньнем. Праводзячы такую аналёгію, наш Купала і Колас займуць адно з найбольш пачэсных месцаў сярод найвыдатнейшых песьняроўадраджэнцаў у іншых славянскіх літаратурах, такіх, як Я. Коляр у Славакаў, Фр. Паляцкі — ў Чэхаў, П. Негош — у Сэрбаў, І. Мажураніч і П. Прэрадовіч — у Харватаў, Фр. Прэшэрн і Я. Стрытар—у Славенцаў, І. Вазаў—у Баўгараў, ды напасьледак Т. Шэўчэнка—ў Украінцаў.

Праўда, з прычыны шмат горшых умоваў беларускага жыцьця, поўны расьцьвет нашае адраджэнскае літаратуры прыпадае толькі на пачатак бягучага стагодзьдзя, а Купала і Колас, у прыраўнаньні да ўспомненых чужых паэтаў, зьяўляюцца спозьненымі што найменш на паўсотні год. Нягледзячы на гэта, роля і значэньне іх ані трохі ня меншая нават з гледзішча агульнага, а ня толькі беларускага, бо, як Колас, так і Купала, паяўляючыся пазьней на літаратурнай ніве, былі ў сваей творчасьці больш новымі і дасканалымі; кладучы асновы для новай беларускай літаратуры і цярэбячы шляхі для яе, стараліся адначасна ісьці з сучаснымі плынямі літаратурнага мастацтва.

Адраджэнская наша літаратура, рэпрэзэнтаваная Купалам, Коласам і многімі іншымі, фактычна ўжо скончылася яшчэ пры жыцьці тварцоў яе. Цікавае гэтае зьявішча магчымае толькі ў такіх літаратурах, як беларуская, якая, позна пакліканая да жыцьця, мусіла борзда прайсьці праз тыя мастацкія плыні і кірункі, якія ў іншых літаратурах разьвіваліся цэлымі эпохамі. І ўжо паваеннае літаратурнае пакаленьне, якое вырасла на творчасьці Купалы і Коласа, выяўляе ў многіх галінах зусім новыя асаблівасьці літаратурнага мастацтва, прадсказывае далейшыя зьмены і поступ у нашым літаратурным разьвіцьці.

Нягледзячы на пачатковыя пасьпехі, маладая гэнэрацыя, якая амаль выключна гуртавалася ў Менску, не змагла стварыць магутнага літаратурнага руху, бо быў ён, як ведама, прыпынены яшчэ ў раньнім расьцьвеце ў сувязі з першай хваляй перасьледаваньня бальшавікамі беларускай культуры ў 1929

і 1930 г. Такім спосабам паэзія ў Савецкай Беларусі не змагла належна разьвіцца, хаця творчасьць многіх маладых паэтаў, асабліва Я. Пушчы, У. Дубоўскі, М. Лужаніна і іншых была вельмі цікавая і прадсказывала буйныя і арыгінальныя таленты. Значна большыя рэзультаты асягнула там артыстычная проза, а повесьці і апавяданьні такіх аўтараў, як М. Зарэцкі, М. Лынькоў, С. Баранавых, П. Галавач і многіх іншых стаялі на адпаведнай вышыні і сьведчылі вымоўна, што й гэты род літаратурнага мастацтва пусьціў глыбокія карані. Тымчасам у мінулым годзе большасьць іх была абвешчаная „ворагамі народу", у выніку чаго спаткаў іх лёс падобны да іхніх папярэднікаў. Тыя-ж літаратурныя сілы, якія дасюль яшчэ ўсьцерагліся жорсткага пераследаваньня, мусяць згодна з афіцыяльнай г. зв. „літаратурнай крытыкай" пісаць пераважна „агіткі".

І вось у часы розных неспадзяваных і няспрыяючых праяваў у нашым культурным жыцьці на прасторы ўсяе этнографічнае Беларусі, у часы розных літаратурных экспэрымэнтаў і хістаньняў, паяўляецца пясьняр з магутнай творчай індывідуальнасьцю і непрыкмячаным дасюль у нашай літаратуры талентам — Максім Танк. Ягоная творчасьць, што паўстала на працягу ўсяго трох апошніх гадоў, уліла ў нашую літаратуру зусім новыя плыні, выявіла аграмадныя мастацкія асягненьні, напасьледак намеціла новы, адказуючы духу часу і варункам сучаснага жыцьця мастацкі і ідэёвы кірунак. Беларуская літаратура дзякуючы Танку перажывае сяньня, пасьля „нашаніўскай" пары і ейнага прадаўжэньня, свой другі рэнэсанс, тым іншы за першы, што паколькі Купала і Колас, могучы мала карыстаць з літаратурнай спадчыны сваіх папярэднікаў, мусілі перадусім тварыць і замацоўваць наш літаратурны быт, патолькі сяньня распачынае нашая літаратура эпоху поўнай дасканаласьці, асягіваючы агульнаэўропэйскую ступень разьвіцьця.

* * *

Спэцыфічнае палажэньне беларускага народу прычынілася да таго, што нашая літаратура не агранічаецца толькі да выяўленьня аб'ектыўных мастацкіх цэннасьцяў, але побач з гэтым зьяўляецца магутным аружжам у барацьбе за права народу да жыцьця. Гэтую асаблівасьць мы бачым у літаратурнай творчасьці ўсіх народаў, якія знаходзіліся ў падобным да нашага палажэньні, дык зусім натуральнай, а нават канечнай зьявай ёсьць гэта ў нас. Ходзіць толькі аб тое, каб утылітарызм літаратуры не разьмінаўся з яе мастацкімі вымаганьнямі, бо ў праціўным выпадку зьніжылася-б яна, як гэта бачым у Савецкай Беларусі, да ролі актуальнай публіцыстыкі і адыйшла-б далёка ад сваіх істотных заданьняў. Але гэтая небясьпека, зразумела не бяручы пад увагу адносінаў у Савецкай Беларусі ды некаторых іншых спорадычных выпадкаў, наагул яшчэ нам не пагражала і не пагражае. Наадварот, нашая літаратурная творчасьць, будучая мастацкім выяўленьнем грамадзкіх імкненьняў народу і апотэозай ягонай барацьбы, набірала шмат творчае сілы і разгону, вызначалася глыбокай эмоцыянальнасьцю, зьмяшчала ў сабе многа ідэалізму і геройскіх матываў. Найлепшым гэтага доказам была ўся творчасьць Купалы, а сяньня зьяўляецца ім творчасьць Танка.



Такім спосабам Танк, нягледзячы на шырокія паэтыцкія заінтэрэсаваньні і ўзапраўднае багацьце тэматыкі, зьяўляецца ня толькі паэтам — мастаком, але ў роўнай меры і змагаром за народную долю. У сваіх вершах шырака ён закранае грамадзкае жыцьцё народу, пратэстуе супроць сацыяльнае несправядлівасьці, заклікае да барацьбы за лепшы лёс. Апрача лірычных вершаў многа Танк зьвяртае ўвагі на грамадзкія пытаньні і ў сваіх паэмах. Найшырэй-жа і найпаўней выразіў іх у „Нарачы". Апісывае тут змаганьне наднарачанскіх рыбакоў за права да вазёр. Але гэтае змаганьне, ахопліваючае і іншыя мамэнты сяньняшняга беларускага жыцьця, можна расшырыць на ўвесь наш народ. Такім спосабам праблемы, закранутыя ў „Нарачы", зьяўляюцца агульнабеларускімі, што бязумоўна робіць паэму больш цэннай з гледзішча яе ідэйнага зьместу.

Танкавая паэзія мае ў сабе вялікую сугэстыўную сілу, моцна прамаўляе да чытача, які яе нятолькі разумее, але і глыбока перажывае. Асягівае гэта пясьняр галоўным чынам дзякуючы глыбокай і шчырай пачуцьцёвасьці, якой зьяўляецца пераcычаная ўся ягоная творчасьць. Тое, аб чым пяе паэт, на што жаліцца і да чаго заклікае, усё гэта магутнай хваляй выліваецца з яго душы, бо ўсё гэта ён перажывае асабіста. Пачуцьцёвасьць Танка, з якой выражае нятолькі ідэйны зьмест твору, але і ўсе іншыя закранутыя ў ім пытаньні, ёсьць беспасярэдняй і праўдзівай, далёкай ад штучнай і конвэнцыянальнай пачуцьцёвасьці, заімправізаванай усяго толькі для асягненьня эстэтычнага эфэкту. Пры гэтым варта зьвярнуць увагу, што і ўся беларуская літаратура наагул вызначаецца глыбокай эмоцыянальнасьцю, бо вырастае яна беспасярэдна з народных нетраў, выражае ў сабе, як было ўжо сказана, найбольш жыцьцёвыя імкненьні масы. Характэрна гэта асабліва для сучаснай нашай паэзіі, якая пазытыўна адрозьніваецца ад творчасьці многіх чужых паэтаў—прадстаўнікоў тых слаёў грамадзянства,якія ўжо перажыліся і ня маюць перад сабой вышэйшых жыцьцёвых мэтаў. Іхняя паэзія, бяручы наагул, гэта перадусім фармальныя экспэрымэнты, якім не адказываюць перажываньні аўтара. Паэзія такая—гэта рамясло, хоць часамі і нязвычайна містэрнае, але пазбаўленае душы, ня маючае творчага ўплыву на масы.

Эмоцыянальны падклад Танкавай паэзіі, як і ўсе іншыя ейныя элементы, зьяўляецца вельмі багаты і розныякі. З аднаго боку мы знойдзем творы, як *Акт першы*, *Тры песьні*, некаторыя фрагмэнты *Нарачы* і інш., якія гучаць славамі моцнага пратэсту і бунтарнасьці; гэтым-жа прызывам адказваюць па-

чуцьці раптоўныя, імпульсыўныя, якія б'юць магутным прыбоем хваляў. У іншых-жа творах, якіх бадай што большасьць, пераважаюць пачуцьці спакойныя і зроўнаважаныя, хаця па сваей глыбіні і сугэстыўнасьці не слабейшыя за першыя. Цікавае насоўваецца з гэтага гледзішча прыраўнаньне Танка з Купалам. Хаця ідэйны зьмест у абодвых зьяўляецца галоўным матывам творчасьці, як адзін, так і другі стараюцца быць вучыцялямі і правадырамі масы, аднак паэтыцкае выражэньне гэтых матываў у кожнага іншае. Купала перадусім зачароўвае нас нязвычайнасьцю і магутнасьцю тону, голасам вешчым, пачуцьцямі сільнымі і глыбокімі; у ніводнага іншага нашага паэта не зарысавалася так выразна, як у Купалы, тая эстэтычная асаблівасьць, якую называем панямецку „Die Erhabenheit“, папольску „wzniosłość“ і г. д. Калі-ж ходзіць аб Танка, то ягоная пачуцьцёвасьць палоніць чытача не магутнасьцю і глыбінёй сваей, але беспасярэднасьцю і праўдзівасьцю, субтэльнасьцю і мяккасьцю тонаў, сваей складанасьцю і вялікім багацьцем адценьняў. З гэтага гледзішча многа розьніцца Танк ад Купалы, затое зьяўляецца блізкім да Коласа, якога пачуцьцёвасьць, нягледзячы на іншае артыстычнае выражэньне яе, наагул падобная да пачуцьцёвасьці Танка.

У мастацкім выражэньні ідэйнага зьместу сваіх твораў ня мае Танк сабе роўных сярод усіх беларускіх паэтаў, і то нягледзячы на тое, што, як было гаворана, утылітарны падклад нашай літаратуры вельмі рэдка шкодзіў і дэформаваў яе артыстычнае аблічча. Так напрыклад у прадстаўленьні паасобных эпізодаў барацьбы ў *„Нарачы“* паказаў аўтар няштодзенныя здольнасьці, галоўнае тое, што, разьвіваючы тую ці іншую ідэйную праблему, не разьмінаецца ён амаль ніколі з вымаганьнямі чыста мастацкімі. Ня могуць нарушыць гэтага прынцыпу вельмі рэдкія мамэнты даволі прымітыўныя, як напрыклад падчыркнутая Ад. Станкевічам*) агітацыя залажыць профсаюз, прадстаўленая ў паэме ў такі спосаб, што выглядае, быццам ад гэтага толькі залежыць вынік усей барацьбы. Поўнае падпарадкаваньне аўтарам праблемаў ідэолёгічных прынцыпам чыста мастацкім, — бо ў мастацтве, зразумела, найбольшую ролю павінна іграць мастацтва, — вельмі пазытыўна сьведчыць аб Танку, а ягоным творам надае непрамінаючую вартасьць**). Ня ў прыклад амаль усім сваім папярэднікам, пясьняр наш, выражаючы свае ідэі і грамадзкія пачуцьці, рэдка паслугоўваецца дэклямацыйнасьцю і фразэолёгіяй, неабапёртай на канкрэтным зьмесьце. Грамадзкія матывы ў Танка выплываюць арганічна із абразоў і сытуацыяў, намаляваных у творы, рэалізуюцца пры помачы канкрэтных і арыгінальных сымболяў. Як прыклад гэтае мэтоды можа служыць хоць-бы эпізод з пачатку V часткі „Нарачы“, калі ўзбунтаванае сяло выплывае на возера — на палоў. Аўтар выразна падчырківае глыбокі ідэйны характар гэтага мамэнту, але, высьцерагаючыся конвэнцыянальных прызываў і заклікаў, з чаго скарыстаў-бы не адзін з ранейшых нашых паэтаў, выражае яго пры помачы наступнага абраза:

З Нарачы выплыла сонца;
шэрыя лодкі на сонца плылі;
біліся хвалі аб вёслы
і пераліўна і шумна цьвілі.

Сонца, якое выплыла з Нарачы якраз у гэты мамэнт і на якое плылі лодкі, мае тут бязумоўна шырэйшае, чымсьці дэкаратыўнае значэньне. Альбо якое-ж магутнае ўражаньне робіць на нас заканчэньне паэмы, калі рыбакі, перамогшы ў змаганьні, выплываюць на возера. Іхнія лодкі

Плывуць, разыходзяцца шырай...
хай вецер сьмяецца і звоніць
медзьдзю шарахавак, звоніць на вёслах, як гром!
Мы вылавім сонца
ў паднебных прасторах
і ў тонях!

Топяцца сеткі
ў жывое
азёр
серабро.

Пры помачы адно толькі адпаведна намаляванага абраза і глыбокага й прыгожага сымболю („Мы вылавім сонца ў паднебных прасторах і ў тонях“) аўтар вельмі эфэктоўна выражае вялікую ідэю перамогі і свой оптымізм у далейшы вынік барацьбы.

Паколькі ў мастацкім выражэньні ідэйнага зьместу ня мае Танк сабе роўных ува ўсей нашай літаратуры і ў многіх галінах пераўышшае нават Купалу, патолькі аднак не дараўновае

*) „У аспэкце социяльнай справядлівасьці“ („Калосьсе“. 1937 г. IV бач. 203).

**) Дзеля таго, што сярод нашага грамадзянства бываюць у гэтай галіне розныя непаразуменьні, якое часта любіць інтэрпрэтаваць літаратурны твор у спосаб зусім нелітаратурны, пазволю сабе на шырэйшыя высьпеньні. Ходзіць аб тое, што ў літаратурным творы, які ёсьць перадусім творам мастацкім, а ня нейкім іншым, можна, а нават трэба закранаць розныя грамадзкія праблемы, пры помачы якіх аўтар стараецца рабіць уплыў на грамадзянства, але гэтыя праблемы мусяць быць выражаны памастацку, з гледзішча на артыстычную цэласьць твору. Інакш кажучы, грамадзкія праблемы ў творы, апрача сваей функцыі социёлёгічнай, мусяць мець перадусім функцыі чыста артыстычныя, як адныя із арганічных мастацкіх элемэнтаў твору. Выражаная такім спосабам грамадзкая думка, апрача сваей вартасьці артыстычнай, будзе мець бязумоўна і социёлёгічнае значэньне куды большае, бо патрапіць глыбей закрануць чытача і прамовіць ня толькі да яго інтэлекту, але і пачуцьцёвасьці. І наадварот, грамадзкія матывы із выразнай шкодай для артыстычнай вартасьці твору, г. зн. уводжаныя ў прымітыўны і вульгарны спосаб, нятолькі бязлітасна мсьцяцца над мастацкасьцю твору, але ў роўнай меры маюць вельмі малую, усяго толькі публіцыстычную грамадзкую вартасьць самую ў сабе, якая бязьсьледна прамінае, як тольлі дадзеная праблема перастане быць актуальнай. Дзеля гэтага крытэрыюмам ацэны мастацкага твору не павінна быць толькі тое, што ў ім аўтар выразіў, але перадусім тое, як гэта ён выразіў, у які спосаб апрацаваў паказаную ў творы праблему.

апошняму з гледзішча багацьця і глыбіні грамадзкага зьместу. Купала ахоплівае у сваей творчасьці найшырэйшыя імкненьні народу, глыбака закранаў усе пастуляты нашага адраджэньня, быў найпаўнейшым і найбольш глыбокім яго ідэолёгам, пры гэтым не аграрнічываўся да праблемаў актуальных, сучасных, але так-жа сьмела сягаў у будучыню. У гэтай галіне Танк зьяўляецца крыху аднастароньнім і вузкім, аграрнічываючыся амаль выключна да праблемаў соцыяльнага характару. Праўда, у вапошнім часе пачаў Танк часьцей зьвяртаць увагу і на нацыянальныя пытаньні, але пераважна агранічаецца да канстатаваньня ўсяго толькі паасобных фактаў, найбольш яркіх і балючых у сучасным нашым жыцьці, як напр. адсутнасьць роднае школы і г. д., рэзыгнуючы з поўнага і ўсебаковага ахапленьня ўсіх нацыянальных патрэбаў народу. Трэба аднак верыць, што Танк яшчэ направіць сваю памылку, бо ўсе іншыя задаткі ягонае творчасьці прэдэстынуюць яго на агульнабеларускага народнага песьняра, які змог-бы быць у гэтай галіне годным наступнікам Купалы.

Паводле характару сваей творчасьці зьяўляецца Танк перадусім лірыкам, прынамсі такім сабе паказаў дагэтуль. Нават і ягоныя эпічныя творы, як „Нарач“ і іншыя паэмы, зьяўляюцца перасычаныя лірызмам, у якім тоне і часта губляецца іх эпічная канва. Незалежна ад тэматычнай размавітасьці і багацьця лірычных вершаў Танка, — бо ў іх мы знойдзем і асабістыя перажываньні і настроі паэта, захапленьні хараством прыроды, розныя жыцьцёвыя праблемы, ды напасьледак грамадзкія матывы, аб якіх была ўжо мова, — усе яны вызначаюцца вялікай канкрэтнасьцю, якая асабліва дадатна зарысоўваецца на фоне яшчэ нідаўнай, а часткава нават і сяньняшняй лірычнай нашай творчасьці, пераладаванай абстракцыйнасьцю і патэтычнай фразэолёгіяй. Кожная канцэпцыя, кожная думка ў Танкавым вершы, а ня толькі зьмест цэлага твору, выражаецца пры помачы канкрэтнага і амаль заўсёды новага і арыгінальнага сымболю, кожны амаль верш Танка — гэта як-бы эпіцкая паэмка ў мініятуры, якая мае свой канкрэтны зьмест, сваю як-бы фабулу. Прыкладам гэтага можа служыць адзін з найкарацейшых вершаў з „Журавінавага цьвету“ п. н. *„Зялёная радасьць“*:

Капае сокам зялёная радасьць
з месяца ціха на сьвежыя грады.
Ў садзе зялёным хтось позна гаворыць
голасам ветру і шопатам зораў.
Людзі варожаць, хтось ходзе на гульні.
Вусны, эх вусны, як п'яны багуньнік.
Як не хадзіць там, калі ноч такая:
сэрца, і вочы, і мак расьцьвітае.

Прыклад вельмі вымоўны. У першых двух радкох маем фрагмэнтарычны і міньятурны, але сакавіты і пукаты абраз зелені ў гародзе, калі сярэбраны блеск месяца разьлівае сьвежасьць, напаўняе радасьцю. Далей (два наступныя радкі) чуем у зялёным садзе людзкія галасы, падобныя да голасу ветру і шопату зораў. Яшчэ далей больш даведваемся аб тым, што дзеіцца ў садзе, бо „людзі варожаць“, што „хтось ходзе на гульні“, а гэтыя „гульні“—нішто іншае, як любоўныя спатканьні, аб чым гаворыць шосты радок верша. Напасьледак аўтар дае паэтыцкае апраўданьне таго, што дзеіцца ў садзе, калі пад уплывам сьвежасьці і чару месячнае ночы — „сэрца, і вусны, і мак расьцьвітае“.



Такім спосабам збудаваны верш,— у якім кожны сказ гаворыць аб нечым іншым і новым, а выражаныя канкрэтна думкі і сытуацыі зарысоўваюцца адно толькі фрагмэнтарычна, агульнымі рысамі, паміж якімі заходзяць часамі нават вельмі далёкія і нявыразныя на першы пагляд асоцыяцыі і толькі фантазія чытача іх мусіць дапаўняць і вязаць у вадну прычыновую цэласьць,—бязумоўна выклікае няштодзенныае ўражаньне, глыбока і трывала ўдзяляецца чытачу. Падобную-ж аналізу можна правесьці і над кожным вершам Танка і ўсюды дойдзем да падобных ня менш цікавых рэзультатаў.

У сувязі з гэтым і сама структура Танкавых вершаў—прычыновае павязаньне паасобных элемэнтаў зьместу і яго разьвіцьцё — зьяўляецца заўсёды лёгічна абдуманай і аблічанай на паэтыцкі эфэкт.Налепш можна аб гэтым пераканацца, калі ўзяць пад увагу вершы многіх іншых нашых паэтаў, у каторых свабодна можна перастаўляць, а нават выкідаць і ўстаўляць цэлыя строфкі, што часта і робіцца пры выдаваньні іхніх зборнікаў, ад чаго ані чуць не зьмяняецца сэнс твору. У Танка было-б гэта недапушчальным, бо кожны радок, кожнае слова нават, а нятолькі строфка, мае ў ягоным вершы, як мы ўжо бачылі на прыкладзе „Зялёнае радасьці“, сваё адпаведнае месца ў творы і ў залежнасьці ад гэтага выконывае тую ці іншую артыстычную функцыю. Такая лёгічнасьць і зьлітнасьць у будове верша і вялікая функцыянальнасьць яго структуральных элемэнтаў зьяўляецца ў Танка нязвычайна характэрнай і цэннай, тымбольш, што спасярод сучасных беларускіх паэтаў толькі нямногія могуць гэтым пахваліцца і ў значна меншай ступені, спасярод-жа паэтаў ранейшых фактычна толькі М. Багдановіч часткова быў у гэтай галіне папярэднікам Танка.

З мэтаю заілюстраваньня гэтае асаблівасьці, вернемся ўзноў да зацытаванага верша. Ня трэба доўга задзержывацца, каб заценіць, што два першыя радкі і два апошнія твораць як-бы раму для цэлага твору з тым толькі, што ўсе гэтыя часткі лёгічна і псыхолёгічна з сабой вяжацца. Іменна пачатковыя і апошнія радкі прадстаўляюць абраз прыроды, настраёвы фон, на якім разыгрываецца акцыя, выражаная ў сярэдняй частцы верша. Пры гэтым тое, аб чым гаворыцца ў сярэдніх радкох, зьяўляецца ў прычыновай сувязі із зьместам пачатковых радкоў, а два апошнія радкі — ёсьць як-бы рэзультатам таго, аб чым гаварылася ў цэлым вершы. Падобная канструкцыя верша зьяў-

ляецца ў Танка вельмі характэрнай. Пры гэтым паэт вельмі часта любіць замыкаць верш тэй самай строфкай, паўторанай ідэнтычна ці крыху зьмененай, якая была на пачатку верша. Толькі ўзноў-жа не зьяўляюцца яны ў ніякім прыпадку толькі вонкавымі прычэпкамі, але вяжацца арганічна з цэлым творам і кожная з іх, хоць аднолькавая ці падобная, мае іншае артыстычнае заданьне: першая як-бы ўводзе нас у тое, аб чым будзе мова далей, апошняя-ж зьяўляецца значэнёвым і мастацкім фіналам цэлага твору.

Мыляўся-б той, хто-бы думаў, што ўспомнены спосаб будаваньня верша стаўся ў Танка агульнай схэмай, ад якой недалёка да шаблёну. Хаця паэт вельмі часта ўжывае падобных прыёмаў, аднак у кожным прыпадку маюць яны іншае застасаваньне, служаць іншым мастацкім мэтам, зьяўляюцца збудаванымі на іншым слоўнікавым і рэчовым матар'яле. Чаго, чаго, але паўтарацца Танк ня любіць. Належыць ён да тых паэтаў, якія, нездаволіваючыся асягнутымі рэзультатамі, усьцяж шукаюць новых спосабаў мастацкага выражэньня, а разам з гэтым ідуць усьцяж наперад, ніколі не задзержываючыся на тым самым творчым шляху. Так напрыклад вершы Танка з „Журавінавага цьвету" зьяўляюцца з кожнага гледзішча аграмадным крокам наперад, зусім іншым і новым этапам у творчым разьвіцьці паэта, чымсьці вершы на адзін-два гады ранейшыя, што ўвайшлі ў сканфіскаваны зборнік „На этапах". Перадусім у ранейшых вершах Танка зусім іншая тэматыка: пераважаюць матывы пралетарскія і вастрожныя, як сьвежы і незацёрты яшчэ ўспамін асабістых перажываньняў за жалезнымі кратамі. Пазьнейшая-ж творчасьць галоўным чынам апіраецца на матар'яле із сялянскага жыцьця, шырака ахоплівае грамадзкія пытаньні і наагул, у сувязі з шыбкім узбагачваньнем спасьцярогаў і перажываньняў аўтара, круг ягоных сюжэтаў расшыраецца.

Але нятолькі ў гэтым істотная розьніца і поступ аўтара. Вершы ранейшыя вызначаюцца прасьцінёй, а нават, сказаў-бы, свайго роду ўбогасьцю і аднастайнасьцю спосабаў экспрэсіі. Ня здолеў яшчэ Танк поўнасьцю выявіць свайго таленту, ня выкарыстаў яшчэ нявычарпаных паэтыцкіх багацьцяў беларускай мовы, не сягнуў да крыніцы народнага языка. Вершы ранейшыя — гэта сталёвы і магутны ўдар молата, грукат машын і звон сталі — сільныя, часамі нат' панурыя ў іх настроі, а мала мяккіх і лагодных пачуцьцяў, якія-б выклікалі больш багатыя і складаныя перажываньні. А ў пазьнейшых творах пясьняр, ідучы ў кірунку ўзбагачваньня сваей эмоцыянальнасьці, стараецца выкрасаць пачуцьці і перажываньні мяккія, ласкавыя, больш разнастайныя, якія глыбей прамаўляюць да нашага сэрца і пакідаюць у ім трывалы сьлед. Чытач можа пераканацца аб гэтай эволюцыі Танка хоць-бы на прыкладзе двух вершаў із падобнай тэматыкай, але зусім рознымі з гледзішча яе мастацкага апрацаваньня. Першы верш — гэта *сэзановец*, напісаны ў 1935 г. („Маладая Беларусь", кн. I і зборнік „На этапах"), які мае ў сабе ўсе асаблівасьці ранейшых твораў, а другі — гэта адзін з найнавейшых вершаў, зьмешчаны ў апошнім нумары „Калосься" пад назваю, ня зусім удалаю, *У худых руках*. Розьніца ў настроі і ў артыстычным падходзе аўтара да творчага матар'ялу ўзапраўды нязвычайная!

Працэс шыбкай эволюцыі паэта ў кірунку шуканьня штораз новых дарог, ягонае імкненьне да навасьці і арыгінальнасьці, выразна можым бачыць асабліва на большых творах песьняра. Кожны з такіх твораў, паводле свайго характару і спосабаў артыстычнага апрацаваньня, зьяўляецца ў Танка адзіным, бо кожны наступны будзе новым мастацкім экспэрымэнтам, розным ад папярэдняга. Даволі прагледзіць у хронолёгічным парадку іх паўстаньня такія творы Танка, як *З каласамі, П'яны баян, Акт першы, Да дня, Тры песьні, Песьня кулікоў, Нарач, Журавінавы цьвет і Сказ пра Вяля*, каб пераканацца аб борздым разьвіцьці аўтара і бязупынным ягоным росьце.

Характэрна, што ўспомненая ўжо вельмі сьціслая і лёгічная канструкцыя Танкавых твораў і прэцызыйнае ўпарадкаваньне паасобных яго матываў у ніякім прыпадку не агранічаюць і не дэформуюць творчых парываў аўтара. Думка аўтарава лунае заўсёды свабодна, не напатыкаючы ні на якія формальныя перашкоды, а гэтая свабода, размах і вялікі запас заўсёды арыгінальных і новых творчых магчымасьцяў зазначаецца ў кожным элемэнце Танкавага твору. Асабліва выразна і цікава зарысоўваецца гэта ў выкарыстаньні артыстычных асаблівасьцяў мовы. У гэтай галіне зьяўляецца аўтар незраўнаным мастаком, як ніводзін з дасюлешніх нашых паэтаў, і ў гэтым іменна крыецца адна з найвялікшых ягоных заслугаў. Зьвярнуў ужо на гэта ўвагу Ю. Путрамэнт у ўспомненым артыкуле, цьвердзячы між іншым, што мова Танка, адпаведна зарганізаваная з гледзішча мастацкага, зьяўляецца артыстычнай вартасьцю самой у сабе і што дзеля гэтага прадстаўляе Танк у беларускай літаратуры зусім новы мамэнт, „мамэнт адкрыцьця паэтыцкага слова".

Неабходна тутака зазначыць, што й кожны ўзапраўдны паэт стараецца выдабыць з мовы незалежныя мастацкія вартасьці, а ня толькі карыстаецца ей, як сродкам дзеля выражэньня сваей думкі ці зьместу твору. Гэтакія адносіны да мовы мы зацемім у Купалы, Багдановіча, Коласа, Ясакара, напасьледак у творчасьці паваенных менскіх паэтаў зазначыліся вельмі характэрныя экспэрымэнты ў гэтым кірунку, асабліва ў Пушчы, які многа меў падобнага і супольнага з Танкам. Вышэйшасьць і арыгінальнасьць Танка іменна ў тым, што ён гэтую асаблівасьць паказаў у цэлай паўніні, ува ўсей ейнай дасканаласьці. Мастацкая *функцыянальнасьць* слова, калі так назавём гэтую асаблівасьць, сталася ў Танка агульнаабавязуючым прынцыпам і мэтай самой у сабе, тады, калі ў ягоных папярэднікаў было гэта адным із другарадных артыстычных дзейнікаў. Паэтыцкае

слова ў Танка, апрача сваей вартасьці значэнёвай, мае ня меншую вартасьць эмоцыянальную, зьмяшчае ў сабе вобразныя й музыкальныя эфэкты. А калі дададзём яшчэ да гэтага, што й сынтакс Танка зьяўляецца глыбока індывідуальны, аблічаны на той ці іншы артыстычны эфэкт, дык ня будзе дзіўным, што паэт наш ёсьць „неператлумачальным“, як наракаюць тыя польскія паэты, якія прабавалі прысвоіць некаторыя творы ягоныя сваей мове.

Каб лепш аб гэтым пераканацца, прыглядзімся да аднае лірычнае дыгрэсіі ў *Нарачы* з алюзыямі да ўласнага лёсу і ролі песьняра:

Ўжо ня раз і мяне адрывалі
ад сасонак і ціхіх бяроз,
ад вазёрных усьпененых хваляў,
ад сялянскіх дарог і палос.
Каласы мае град ня раз выбіў
і на помач прыйсьці я ня мог,
але сяньня аб чорныя скібы
адвастру новых песьняў нарог.
Перакіну праз плечы вясёлку
і вазьму ў рукі сонца—сяўню,
і зарой ураджаяў звонкіх
напаю вочы сінія дню.

Ужыты тут, асабліва ў дзьвюх апошніх строфках, сымболі і мэтафоры („Каласы мае град ня раз выбіў“, „Перакіну праз плечы вясёлку і вазьму ў рукі сонца—сяўню“), якія пуката канкрэтызуюць аўтаравы думкі, як-жа многа крыюць у сабе характва і глыбокай эмоцыі іменна дзякуючы дабору слоў із адпаведным вобразным і музыкальным адценкам і іх сынтактычнаму зарганізаваньню. Такі абраз востра ўразаецца ў памяць, пабуджае фантазію, выклікае глыбокія перажываньні.

Паэтыцкая мова Танка паводле свайго агульнага характару зьяўляецца передусім мэтафорычная. Вяжыцца гэта ў значнай меры з вялікай канкрэтнасьцю Танкавай творчасьці, аб чым была мова, бо мэтафора іменна палягае на тым, што аўтар свае думкі ці прадметы выражае пры помачы зусім іншых прадметаў, передусім канкрэтных, ня маючых з першымі ніякай беспасярэдняй сувязі. Сувязь гэтая ці падабенства бывае паўторная, а выплывае із значэньня цэлага сказу, комплексу сказаў, а часамі нават цэлага твору. Мэтафора не зьяўляецца такім спосабам усяго толькі вонкавым паэтыцкім экспэрымэнтам, але мае вялікае артыстычнае значэньне. Ходзіць аб тое, што людзкая штодзенная мова, якая звычайна мае камунікатыўныя функцыі, зьяўляецца сама ў сабе бедная дзеля дакладнага і тонкага выражэньня паэтыцкіх сымболяў, дзеля спрэцызаваньня іх эмоцыянальнага адценьня. Дзеля гэтага паэт—мастак творыць уласную мову, паэтыцкую, адпаведна яе арганізуе паводле сваей артыстычнай лёгікі, паасобным словам і выражэньням надае іншы значэнёвы і эмоцыянальны сэнс. Вось-жа адным з найбольш важных такіх мастацкіх прыёмаў зьяўляецца мэтафора. Пры гэтым мэтафора, як і кожны іншы спосаб „упаэтызаваньня“ мовы, мусіць быць заўсёды новая, сьвежая, арыгінальная, бо інакш станецца шаблёнам і страціць сваю нязвычайнасьць, сваю паэтыцкую вартасьць.



Апошнюю асаблівасьць мэтафоры добра ўсьведамляе Танк і ў гэтай галіне прыносіць шмат новага і арыгінальнага, любуецца асабліва ў сьмелых і нязвычайных злучэньнях слоў і выражэньняў, азначаючы часта прадмет ці думку, якую хоча выразіць, прадметам так далёкім паводле свайго аснаўнога значэньня, што прымушае працаваць нашую фантазію, дапаўняць розныя недаказы, злучаць паасобныя думкі. Сьмеласьць і арыгінальнасьць Танкавай мэтафоры надае яговым апісаньням многа пластычнасьці і пукатасьці, якія выразна зарысоўваюцца ў нашым выабражэньні і выклікаюць канкрэтнае ўяўленьне абраза. Вось першы лепшы прыклад з *Песьні кулікоў:*

Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам,
доўга іх пілуе месяца сярпом,
і снуе на плоце белы, сьнежны кужаль
з доўгай сьнежнай песьняй за сьляпым вакном.

Каб намаляваць такі абраз звычайнай мовай, трэба было-б пасьвяціць шмат мейсца, пры гэтым апісаньне было-б больш дакладнае і падробнае, але артыстычны эфэкт быў-бы мінімальны, бо не магло-б з такой сілай і выразнасьцю сканкрэтызавацца ў нашым выабражэньні. А тут—пры помачы ўсяго толькі чатырох радкоў цэлы абраз разгортваецца перад намі ў цэлай паўніні: выразна бачым, як рытмічна калышацца вяршаліны дрэў на фоне бледнага, заслоненага сьнежнай завеяй месяца, як паміж плоту перасыпаецца белымі столкамі сухі маразяны сьнег.

Часта густа, з мэтаю ўзбагачваньня сродкаў паэтыцкай экспрэсіі, творыць Танк нэолёгізмы, пераважна ад караня існуючых ужо слоў, надаючы ім у творы пераноснае, мэтафорычнае значэньне. Зьяўляюцца яны нявымоўна прыгожыя й арыгінальныя, дзеля чаго незразумелым выдаецца, як мог Ад. Станкевіч у ўспомненым ужо артыкуле аднесьці іх у лік заганаў Танка. Тым больш зьяўляецца гэта незразумелым, што такія мастацкія новатворы, ужытыя Танкам, як *мяцеліць, журавініць, крынічыць, пераззвон, кудзеліць, каласіць* і г. д., сталіся ўжо агульнапрынятымі ў сяньняшняй беларускай паэзіі і надаюць ей спэцыфічны стылёвы адценак, гэтак сама, як яшчэ нядаўна шырака ўжываныя словы *сонцавеіць, агнязьветы* і г. д. былі спэцыяльна ўлюбленымі сымболямі ў творчасьці „нашаніўцаў“ і іхніх эпігонаў. Іншая справа, што словы гэтыя, ужытыя ў штодзеннай мове, гучэлі-б ненатуральна, як і няменш дзівачна выглядалі-б там такія звароты, як „часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам, доўга іх пілуе месяца сярпом“ і г. д Такі ўжо закон мовы паэтыцкіх твораў, што мае яна многа асаблівасьцяў, якія недапушчальныя былі-б у мове звычайнай, бо напр. рытміка і рым — у паэзіі зьявішча нармальнае, у мове штодзеннай былі-б нечым сьмеш-

ным. Успамінаны ўжо Пушча значна больш за Танка тварыў падобных нэолёгізмаў, надаючы ім гэтак сама пераноснае значэньне, але былі яны ў ягонай творчасьці адно толькі зьявішчам дадатнім. Напасьледак ня трэба забывацца, што некаторыя выражэньні і словы з мовы паэта часта пераходзяць у звычайную літаратурную мову, і іменна гэта маючы на думцы, гаворым часта, што той ці іншы аўтар прычыніўся да разьвіцьця і ўзбагачаньня літаратурнага языка.

Вяртаючыся ўзноў да Танка, трэба зацеміць і з асаблівай яркасьцю падчыркнуць, што так свае мэтафоры, як і іншыя стылістычныя фігуры, будуе пясьняр, як гэта можна было бачыць хоць-бы ў зацытаваным вершы, амаль выключна на матар'яле з беларускага сялянскага жыцьця. У гэтай галіне ідзе ён за прыкладам менскіх паваенных паэтаў з Пушчай і Дубоўкай на чале, даючы, з другога боку, добры прыклад іншым нашым сучасным паэтам, на якіх творчасьць зрабіў Танк аграмадны ўплыў. Ня толькі ў тэматыцы сваіх твораў, але і ў стылю стараецца аўтар шырака выкарыстоўваць сялянскі матар'ял, а ў мове сваей чэрпае поўнымі прыгоршчамі з мовы народнай, сялянскай, якую знае з уласнай аўтопсіі і якую старанна студ'юе на падставе беларускіх этнографічных зборнікаў. З народных слоў і зваротаў патрапляе аўтар выкрасаць многа сьвежасьці і характэрыстычных ... раства. І ці-ж не чароўныя зьяўляюцца ў яго такія выражэньні, як „палыновая туга", „рабінавыя думы", „крушынавае шчасьце" і г. д.? Усё гэта, незалежна ад ролі чыста мастацкай, мае і іншае значэньне, бо надае Танкавай творчасьці нацыянальны беларускі характар.

Элемэнты беларускага фольклёру можна заўважыць і ў рытміцы Танкавых твораў. Ён звычайна будуе з сырога народнага матар'ялу рытмічныя сыстэмы вялікай мастацкай якасьці, пераапрацоўвае іх пасвойму, што з іх народных узораў астаюцца адно толькі некаторыя характэрныя асаблівасьці. І так чытач лёгка зацеміць народныя элемэнты ў рытміцы, як і ў стылю, у вершах: „Ой ня гніце, ветры, вербы над ракою", у „Трох песьнях", у такіх фрагмэнтах „Нарачы", як „Ой ды на зары ды на возеры сінім", „у людзей палосы доўгія, шырокія", „Трэба вёсламі ударыць,—зноў Прахор гавора" і г. д., але заўважыць так-жа, што Танк апрацаваў іх зусім арыгінальна і ўдасканаліў артыстычна. Прыходзіцца шкадаваць, што Танк адносна рэдка карыстаў дагэтуль з рытмічных асаблівасьцяў народнай песьні, якія, як і ўсе іншыя стылёвыя элемэнты нашага фольклёру, маглі-б ягоным творам прыдбаць многа першарадных артыстычных эфэктаў. Павінен зьвярнуць на гэта спэцыяльную ўвагу асабліва Танк, які ўсьцяж разьвіваючы і дасканалячы стылёвае багацьце сваей мовы, патрапіў-бы ў народнай песьні знайсьці многа сьвежых і арыгінальных узораў.

У галіне выкарыстаньня фольклёрыстычнага элемэнту асобнае месца займае ў Танкавай творчасьці невялічкая паэмка *Сказ пра Вяля*, як цікавая спроба сягнуць да народнае крыніцы нятолькі ў стылю і рытміцы твору, але так-жа і ў ягонай тэматыцы. Экспэрымэнт удаўся вельмі добра і павучальна для многіх нашых энтузыястаў фольклёру, якія аднак, забываючыся аб тым, што форма мастацкага выражэньня праходзе шыбкую эвалюцыю, і тое, што было добрым і арыгінальным некалі, сяньня зьяўляецца перастарэлым і няцікавым, у сваіх апрацаваньнях народных матываў ня шмат яшчэ розьняцца ад Марцінкевіча. Хаця народная творчасьць вельмі шырака адбілася ў нашай літаратуры, якая ў значнай меры вырасла на фольклёрыстычным падкладзе, і хаця на працягу развою яе мы можам абсэрваваць розныя спосабы артыстычнага апрацаваньня фольклёрыстычнага матар'ялу, ад дакладнага паўтарэньня прымітыўнага народнага матыву ці формы народнае песьні аж да канцэпцыяў больш арыгінальных і скомплікаваных, Танк аднак даў у гэтай галіне неасягальныя дасюль мастацкія ўзоры. Побач з іншымі мастацкімі асаблівасьцямі „Сказу пра Вяля", якія мы ўжо знаем на падставе іншых ягоных твораў, цікавае тут тое, што народны сырэц, прымітыўны сам па сабе, апрацаваў аўтар паводле найбольш сучасных і новых артыстычных вымаганьняў. Тэму з народнае казкі разьвіў аўтар зусім свабодна, расшырыў яе і дапоўніў уласнымі элемэнтамі, што ў цэласьці прадстаўляе паэма вельмі ўдалую і арыгінальную эпіцкую кампазыцыю пры адначасным захаваньні традыцыйных, народных матываў. Гэтак сама і ў стылістычнай орнамэнтыцы рысы вельмі простыя, узятыя беспасярэдня з народных песьняў і казкаў, зьяўляюцца арганічна павязанымі з элемэнтамі найбольш сучаснага стылю. У сувязі з гэтым поўнасьцю арыгінальны сам па сабе паэтыцкі твор, апрацаваны паводле найбольш новых і сучасных вымаганьняў літаратурнага мастацтва, набірае многа сьвежасьці, нязвычайнасьці, многа няштодзенных артыстычных эфэктаў іменна дзякуючы яго фольклёрыстычнаму падкладу. Такі экспэрымэнт зьяўляецца вельмі характэрным на фоне літаратурнай сучаснасьці іншых народаў, асабліва польскага, якая, разьвіваючыся пад знакам што раз больш вырафінаваных экспэрымэнтаў, адносіцца з пагардаю да фольклёру, як асаблівасьці ўжо перастарэлай і прымітыўнай. Вось-жа Танк у „Сказе пра Вяля" ды ў успомненых фрагмэнтах „Нарачы" даў поўнае запярэчаньне гэтым неабдуманым і недасьпелым паглядам.

Падчырківаючы ўплыў народнае творчасьці на стыль і рытміку Танка, немагчыма не сказаць некалькі слоў аб ягонай рытміцы наагул і іншых акустычных элемэнтах верша. Гэтыя элемэнты, як і ўсе іншыя ў Танка, вызначаюцца ўзапраўдным багацьцем і размавітасьцю, маюць у творы вялікае функцыянальнае значэньне. Вольным парывам песьняра і ягонай магутнай пачуцьцёвасьці часамі цесна ў традыцыйных, рэгулярных рамах верша, і тады ён ламае строфічную будову, піша вершам вольным, ужываючы розных разьмераў і свабоднай рытмікі.

У сувязі з гэтым гукавая структура Танкавага верша заўсёды гармонізуе із зьместам, дапаўняе і падчырківае тое, аб чым гаворыцца ў творы. І так напр. у рытмічнай будове *Акту першага* чуваць сталёвыя выстралы і шыбкі марш зрэвалюцыянізаванага натоўпу, у другой сцэне із IV ч. *Нарачы* цяжкі 14-ці і 15-ці складовы верш адказвае павольнаму і цяжкому ходу народу на вясковай сходцы, узноў-жа оптымістычныя і мяккія лірычныя пачуцьці на пачатку VII ч. гэтае паэмы, сваё захапленьне сьвежасьцю і хараством вясковае раніцы, выражае аўтар вершам лёгкім, із выразнымі пачуцьцёвымі акцэнтамі:

Я пайду, і мо' на росах,
ды на сьцежках адгалосаў,
эх, далонямі зьбяру
залацістую зару!...

Танк наагул мае чулае вуха і ў сваей творчасьці зьвяртае ўвагу, як было ўжо гаворана, ня толькі на значэнёвы і эмоцыянальны адценак слова, але так-жа і на яго асаблівасьці музыкальныя. Дык і ў гэтай галіне патрапіў ён адшукаць у беларускай мове многа сьвежых і нявыкарыстаных дасюль паэтыцкіх эфэктаў. Дзеля прыкладу зьвернем увагу, як у *Сказе пра Вяля* пры помачы слоў і гукаў з адпаведным музукальным адценьнем выклікае пясьняр уражаньне звону камарынай песьні:

Звоняць,
звоняць камары
у цёмным лесе,
і аплёў зьвінячай зябрай сосны звон.
Эх, на вочы багатырскія ты, месяц,
лепш ня лі
салодкі
камарыны сон!

Дагэтуль мы зьвярталі ўвагу перадусім на лірычныя элемэнты творчасьці Танка, бо і ёсьць ён у першую чаргу лірыкам, а ягоныя суб'ектыўныя перажываньні зьяўляюцца найчасьцейшым прадметам яго твораў. Адносіцца гэта ў роўнай меры да ягоных лірычных вершаў, як і паэмаў, у якіх, як ужо было гаворана, лірычны элемэнт бадай што пераважае над эпічным. Нягледзячы на гэта, ягоныя паэмы паказваюць, што мае Танк першарадны эпічны талент, і што ў гэтай галіне патрапіць яшчэ стварыць многа цікавага і вартаснага, а нават і тое, што ўжо даў дагэтуль, ня мае сабе роўных у беларускай літаратурнай творчасьці.

Найбольшай і найцікавейшай паэмай Танка зьяўляецца *Нарач*, правільна ўважаная за найбольш рэпрэзэнтатыўны і тыповы твор ягоны. „Нарач" гэта фактычна першы эпіцкі твор Танка, бо абедзьве меншыя яго паэмкі: *Журавінавы цьвет і Сказ пра Вяля* паўсталі пасьля заканчэньня яе. А бяручы пад увагу вялікія разьмеры паэмы, як на першы экспэрымэнт у гэтай галіне, і багацьце паасобных матываў, дык нічога дзіўнага, што некаторыя яе элемэнты апрацаваныя слабей. Пры гэтым



аўтар друкаваў паэму паасобнымі песьнямі перад напісаньнем песьняў наступных, што, зразумела, не магло ей выйсьці на карысьць. У сувязі з гэтым часткова будуць зразумелымі некаторыя пахібы ў галіне структуральнай „Нарачы", як не заўсёды добрае расплянаваньне акцыі, частае незгарманізаваньне паасобных элемэнтаў, нездавальняючае апрацоўваньне некаторых матываў, прыкладам матыву любові Тацяны і Грышкі, што, як зацеміў Ад. Станкевіч, зусім выйшла бледнай сцэна іх растаньня. Што гэтыя заганы ў пераважнай меры зьяўляюцца прыпадковымі, выкліканымі ўспомненымі ўжо варункамі пісаньня і друкаваньня паэмы, вымоўна сьведчаць *„Песьня кулікоў" і „Сказ пра Вяля."* Асабліва ў першым у гэтых твораў, хоць і кароткім паводле свайго разьмеру, аўтар выказаў вялікія композыцыйныя здольнасьці. Паасобныя элемэнты фабулы, а іх тут ёсьць аж некулькі, зьяўляюцца так містэрна павязаны і перапляцены між сабой, што разьвіваюцца раўналежна, арганічна, даючы ў цэласьці жывы і глыбока настраёвы абраз.

Вяртаючыся ўзноў да „Нарачы", мушу засьцерагчыся, што ўспомненыя заганы ў ніякім прыпадку не дыскваліфікуюць паэмы, бо ўсе іншыя яе элемэнты стаяць з гледзішча мастацкага так высока, апрацаваў іх аўтар з нязвычайнай стараннасьцю і талентам, што паэма ягоная назаўсёды астанецца монумэнтальным творам у нашай літаратуры. Немагчыма пры гэтым згадзіцца з Ад. Станкевічам, быццам „Нарач" многа страціла на тым, што аўтар не зіндывідуалізаваў сваіх герояў і не зьвярнуў належнай увагі на псыхолёгічны бок іх характараў. Спасьцярога зусім правільная, але ў ніякім прыпадку ня можна яе кваліфікаваць, як артыстычнай памылкі. Ня трэба забывацца, што „Нарач" — гэта паэма спэцыфічнага характару, у якой аўтар галоўную зьвяртае ўвагу не на штодзеннае жыцьцё наднарачанцаў, дзе-бы была-б магчымасьць, а нават і патрэба, закрануць іх псыхічныя асаблівасьці, але дае нам малюнак гэтых людзей у часе барацьбы, у мамэнт нязвычайны. Такім спосабам Тацяна, Прахор, Грышка, Сымон, Іван і іншыя рыбакі прадстаўляюць тую ці іншую ідэю, зьяўляюцца свайго роду сымболем, які трэба разумець шмат шырэй, а ня толькі ў адносінах да наднарачанскіх рыбакоў і да ўзапраўдных нідаўных выпадкаў над Нараччу. З гэтага гледзішча „Нарач" часткова можна прыраўняць да такіх твораў, як III ч. „Дзядоў" Міцкевіча, „Кордыяна" Славацкага, альбо найлепей да „Босых на вогнішчы" Чарота, дзе людзі, якія выступаюць у творы, зьяўляюцца сконкрэтызаванымі сымболямі тае ці іншае ідэі, і дзеля гэтага ня месца там на падчырківаньне індывідуальных асаблівасьцяў іх характараў.

Прыватнае-ж жыцьцё беларускіх наднарачанцаў паказаў аўтар усяго толькі мясцамі, — хаця гэтыя месцы належаць да найлепшых у паэме, — як абычаёвы фон, які аднак з акцыяй паэмы вяжыцца даволі слаба. Будзе гэта пластычны й колёрытны абраз Мядзельскага рынку і выгану ў поле скаціны. Іншыя-ж

эпізоды, як вечарынка ці пахароны Прахора — гэта арганічныя элемэнты акцыі, у якіх галоўная ўвага зьвернута на цэнтральнае пытаньне, а мамэнты штодзенныя, звычаёвыя адходзяць на задні плян. Зразумела, што аўтар мог-бы інакш расплянаваць паэму і больш прысьвяціць месца прыватнаму сялянскаму жыцьцю, і магчыма нават, што на гэтым паэма скарыстала б. Але ў дадзеным прыпадку ходзіць аб тое, што спосаб прадстаўленьня аўтарам герояў паэмы зьяўляецца правільным з гледзішча прынцыповага падходу да мэты і што дзеля гэтага, хаця і можна, а нават карысна задзержывацца над тым, якой яна магла-б быць пры тых ці іншых зьменах і дапаўненьнях, ня можна аднак з гэтага рабіць ніякіх закідаў.

Найбольш цэннымі з мастацкага гледзішча зьяўляюцца ў „Нарачы" вельмі частыя лірычныя дыгрэсіі, аб якіх можна нагул сказаць усё тое дадатняе, што і аб іншых лірычных вершах Танка, а так-жа апісаньні беларускіх наднарачанскіх краявідаў. Гэтым апошнім, як элемэнтам эпічнага характару, трэба тут прысьвяціць крыху болей увагі. Сучасны польскі крытык С. Сасноўскі, ацэніваючы паэму Танка, выразіўся, што „Зямля Нарачы і Нёмну ад Міцкевіча ня мела гэткага вялікага песьняра."*) Мы аднак пойдзем крыху далей і, думаю, не памылімся, калі скажым, што Танкавыя абразы беларускага краю значна перавышаюць Міцкевічавы, як з гледзішча мастацкага іх адмалёўваньня, так і з боку эмоцыянальнай насычанасьці. З Міцкевічам можа ўжо сьмела раўняцца ў гэтай галіне Якуб Колас, які першы ў нашай літаратуры даў шырокае мастацкае адбіцьцё красы наднёманскае краіны. Ягоныя апісаньні, зьмешчаныя перадусім у „Новай зямлі," часткова ў „Сымоне Музыку" і прозаічных творах, нягледзячы на іх высокую мастацкасьць і глыбокі лірычны падклад, ня маюць яшчэ тэй закончанасьці і прэцызыйнасьці, што абразы Танка.

Плястыка і сакавітасьць Танкавых абразоў нязвычайная: яны зарысоўваюцца ў нашым выбражэньні проста як жывыя, толькі многа прыгажэйшыя і больш чароўныя, бо аўтар апрацаваў іх памастацку. Мастацкі падход да іх Танка вельмі цікавы: ён не апісывае іх сьцісла і дакладна, вылічаючы сыстэматычна ўсе падробнасьці, як напр. робіць гэта Колас, але высоўвае ўсяго толькі некаторыя элемэнты, якія неабходна патрэбныя з гледзішча артыстычнага. Намаляваны такім спосабам абраз творыць у сабе закончаную композыцыйную цэласьць, пры гэтым нічога ня траціць із сваей праўдзівасьці, бо аўтар дабірае найбольш тыповыя і рэпрэзэнтатыўныя асаблівасьці беларускага краявіду. Зьдзіўляе нас так-жа нязвычайнае іх багацьце і размавітасьць, што асабліва ярка зарысоўваецца ў апісаньні тых самых ці падобных аб'ектаў. Гэтак напрыклад у сваей паэме аўтар часта перарывае эпічны ход апавяданьня, устаўляючы абраз возера, і хаця такіх абразоў вельмі шмат, але кожны з іх прыносіць новыя рысы, зьяўляецца іншым, да папярэдняга непадобным. Ня знойдзем так-жа паўтарэньняў і ў слоўнікавым матар'яле ані ў стылістычнай орнамэнтыцы. Трэба мець нязвычайную творчую фантазію і вялікі дар слова, каб асягіваць гэткія рэзультаты.

*) „Piewca Naroczy" („Sygnały" 1937. № 33).

Многа харáства зьмяшчаюць у сабе Танкавыя абразы яшчэ ў сувязі з тым, што аўтар апісывае іх ня суха і об'ектыўна, але з вялікай любоўю, падчырківаючы, падобна як і Колас, свой глыбокі да іх сэнтымэнт. А гэтую любоў і прывязанасьць да роднае краіны, з якой духова зросься пясьняр, выражае без патосу і абстракцыйнай дэклямацыі; яна, гэтак як і ўсе іншыя думкі і настроі аўтара, выплывае арганічна з самага абраза, а дзеля гэтага набірае асабліваe моцы і глыбіні.

Асабліва многа шчырых пачуцьцёвых акцэнтаў знаходзім у апісаньні беларускае зямлі ў *„Журавінавым цьвеце."* Вельмі характэрны гэты твор, які аўтару ня зусім удаўся ў скомпанованьні эпіцкае інтрыгі і ў павязаньні часткі апавядальнай з апісальнымі, прадстаўляе цікавы мамэнт, як новы, неспатыканы яшчэ ў „Нарачы" спосаб апісаньня прыроды. У „Нарачы" мы мелі абразы пераважна кароткія, фрагмэнтарычныя, якія арганічна вязаліся з фабулай, як яе настраёвы ці топографічны фон. Тутака спатыкаемся з апісаньнямі, пераважна незалежнымі ад ходу акцыі, прыгэтым з апісаньнямі сыстэматычнымі, падрабязнымі, захаванымі ў хронолёгічным парадку роўналежна із зьявамі ў прыродзе падчас наступаньня вясны. З гэтага боку маюць яны характар апісаньняў эпічных, а так-жа строфічны верш твору, збудаваны так, што мова разьвіваецца вельмі свабодна, быццам звычайная, штодзенная гутарка, добра надаваўся-б для эпічнай паэмы ў сьціслым значэньні гэтага слова. Абразы ў „Журавінавым цьвеце" з боку сваей сьвежасьці і сакавітасьці перавышаюць нават малюнкі прыроды ў „Нарачы," а таксама зьяўляюцца яшчэ адным крокам наперад з гледзішча іх эмоцыянальнай насычанасьці. Аўтар дае тутака поўную волю сваім захапленьням, як можа сьведчыць аб гэтым наступны цытат:

І паплылі
дні,
быццам журавы
над сьвежымі пакосамі травы,
у звоне камарыных песьняў, кос..
Начамі ціха месяц разьліецць
імглы сівой і парнай малако
на хвошч балотны, асаку, круглец,
абмые і раку і берагі,
алешнік, адзінокія стагі...
Таму так сьвежы раніцы у нас, —
як моладасьць, як серабро крыніц.
Часамі ў полі думаеш ня раз,
каб як прайсьці і сінь не замуціць...

У рамах кароткага артыкулу немагчыма падчыркнуць усіх цікавых асаблівасьцяў Танкавых абразоў і зьвярнуць належную

ўвагу на іх вялікую мастацкасьць. У кожным прыпадку ня можа быць сумніву, што ў гэтай галіне, як і некаторых іншых, пясьняр наш зьяўляецца нязвычайным артыстам, якіх яшчэ дасюль ня мела нашая літаратура.

З гэтага агляду Танкавай творчасьці выплывае адна характэрная ейная асаблівасьць: абодвы, найважнейшыя сяньня кірункі літаратурнага мастацтва — лірычны і эпічны — зарысоўваюцца ў ей бадай што роўналежна і ўзаемна дапаўняюцца. Я бяручы пад увагу вялікі талент песьняра і шыбкую ягоную эволюцыю ад адных літаратурных асягненьняў да іншых, што раз навейшых і дасканальшых, зусім на часе будзе ўвага Ад. Станкевіча, што Танк павінен ужо падумаць аб стварэньні беларускага нацыянальнага эпосу. Гэтую думку астаецца толькі падхапіць, разьвіць шырэй, тымбольш, што апошнім часам пачалі ў нас наракаць за ініцыятывай самога-ж Танка, што нашая літаратурная крытыка займаецца толькі сартаваньнем паэтаў, інвэнтарызацыяй мэтафараў, ды наагул „цягнецца“ з-заду за паэзіяй. Плястычныя і колёрытныя апісаньні быту беларускага сялянства ў „Нарачы,“ містэрныя абразы прыроды і беларускае зямлі, асабліва ў „Журавінавым цьвеце,“ як напасьледак выказанае ўжо ўменьне канструаваньня большых эпіцкіх композыцыяў, нямгледзячы на некаторыя пахібы ў „Нарачы“ і „Журавінавым цьвеце,“ вымоўна сьведчаць, што Танк ужо дасьпеў, каб стварыць у нашай літаратуры тое, чаго не ўдалося належна выканаць Коласу ў „Новай зямлі.“ Рэалізуючы гэты плян, меў-бы аўтар шырокую магчымасьць выявіць свой талент у галінах зусім новых, амаль незакранутых яшчэ дагэтуль, іменна ў галінах эпіцкага адмаляваньня прыватнага, штодзеннага жыцьця беларускага народу, адлюстраваньня найбольш тыповых і зіндывідуалізаваных характараў і іх псыхолёгічных асаблівасьцяў. Прыгэтым мог-бы выкарыстаць у большай ступені асаблівасьці народных гутарак і дыялектаў, індывідуалізуючы мову найбольш тыповых герояў, ды і ў галіне апісаньня беларускіх краявідаў меў-бы шырэйшае поле для мастацкіх экспэрымэнтаў. Але гэта справа недалёкае будучыні.

Ды ўжо і сяньня, ацэніваючы паэтыцкую прадукцыю Танка на падставе таго толькі, што нам даў дагэтуль, даходзім да вывадаў вельмі важных, так для самога песьняра, як і ўсяе беларускае літаратуры наагул. Уся Танкавая творчасьць, разгляданая на фоне дасюлешняй беларускай літаратуры і ў сувязі з найнавейшымі яе праявамі, не зьяўляецца ўжо ў ніякім прыпадку прадаўжэньнем і дапаўненьнем іх. Наадварот, пералічаныя асаблівасьці творчасьці Танка зьяўляюцца асягненьнямі зусім новымі, неспатыканымі дасюль у нашай літаратуры; калі-ж і ня ўсе з іх можна закваліфікаваць у такі спосаб, то ў найлепшым прыпадку будуць яны высокім мастацкім удасканаленьнем таго, што мелі мы дагэтуль. Пры гэтым варта зацеміць, што Танк патрапіў ужо надаць свой тон іншым нашым паэтам, аб чым найлепей



можа сьведчыць найнавейшая творчасьць Арсеньневай, Васілька, Машары, Івэрса, Тарасішкі і інш. Творчасьць гэтых паэтаў пад Танкавым уплывам значна ажывілася, набрала больш самапэўнасьці і разгону, мацней зраслася з беларускім сялянскім грунтам, прыблізілася да сучасных плыняў літаратурнага мастацтва. Такім спосабам Танк, пасьля Купалы і Коласа, як іхніх сучасьнікаў, якія фактычна стварылі нашую літаратуру ў сьціслым значэньні гэтага слова, распачынае новую эпоху — эпоху поўнага і ўсестароньняга ўдасканаленьня яе мастацкіх вартасьцяў.

---

*Прысьвячаю А. Чарняўскай-Орсе*

* * *

*Ёсьць варажбітныя травы*
*з папарацьцю кучаравай, —*
*быццам яны ўсё ліхое*
*дзіўнымі чарамі гояць.*
*Ў'ецца зялёная сьцежка.*
*Нейчая ў песьнях усьмешка*
*блеснула ярка і сіня, —*
*нават ня ведаю імя.*

*Лепей каб звалася Рутай,*
*Шчасьцем, Палярнаю зоркай,*
*а не Купальскай атрутай,*
*Сном ці Няволяю горкай.—*

*Рутай украсіш, што хочаш;*
*Шчасьцем нат' песьні напоіш;*
*Зорка у цёмныя ночы*
*будзе гарэць над зямлёю.*
*Але з атрутай і снамі,*
*але у сэрцы з няволяй, —*
*пойдзеш якімі трапамі*
*у каласістае поле?...*

*Нешта над рэчкай варожаць,*
*месяц, аер і бярозы*
*і забабонныя травы*
*з папарацьцю кучаравай.*

Вільня, 22.III.38.

*М. ТАНК*



*АД. СТАНКЕВІЧ*

# Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песьня

* * *

1. Таёмна-жудасны абраз прадстаўляе неба ў непагодлівы час, калі снуюцца па ім грозныя хмары і цалком засланяюць сабой і месяц і зоры. Неправідная цемра муча фізычнае вока чалавека, якое праз гушчыню хмар ня бача нічога, а бачыць і жадае і мусіць, бо такая яго прырода. І колькі-ж бывае радасьці для вока, калі бура міне і вецер хмары прагоне, а на небе ўзноў заз'яюць мігатлівыя, бязлікія зоркі, вяшчункі лепшага часу, вяшчуньні пагоды.

Нешта падобнае дзеецца і ў сьвеце духовым чалавека. Недахопы інтэлектуальныя і маральныя ў душы чалавека, як цёмныя хмары, засланяюць яго кругазор — духовую ўяву, а перамога іх і дапаўненьне дадатнімі духовымі вартасьцямі, як зоры, нясуць пачуцьцё сьвятла й радасьці.

Ня інакш дзеецца і ў жыцьці кожнага народу. Ягоны сон і дрэмка, яго нацыянальная нясьведамасьць — гэта сапраўды цёмныя хмары, што закрываюць прад ім належны яму ягоны жыцьцёвы шлях, спыняюць яго гістарычны культурны працэс і адымаюць яму творчую радасьць і паўнату жыцьця. І кожны праяў у народзе нацыянальнай сьведамасьці, асабліва ў даравітых і таленавітых сынох народу,—гэта тыя зоркі, што асьвячаюць народны небасхіл, вясьцяць яму сьветлае жыцьцё і паказваюць на адпаведныя для яго шляхі ў ягонай культурнай падарожы.

Гэтыя даравітыя і таленавітыя сыны народу, гэныя яго зоркі, — гэта яго вучоныя, паэты, пісьменьнікі, рожнага роду іншыя мастакі: сьпевакі, музыканты, маляры, плястыкі і інш. а так-жа ідэйныя і самаахвярныя барацьбіты — палітыкі, дзеячы і ім падобныя.

І на беларускім нацыянальным небасхіле яўна бачым, як усьцяж паяўляюцца новыя й новыя таленты, новыя нацыянальныя зоркі, якія зганяюць з павек народу сон, абуджаюць яго да нацыянальна-сьведамага жыцьця, пачуцьцём нацыянальнай сьведамасьці, як соцыяльнай вязяй, спалучаюць яго ў вадну сьведамую цэласьць і, авееную нацыянальнай сьведамасьцяй, пабуджаюць волю народу да творчага дзеяньня, да барацьбы з цемрай ў імя сьветлых, жыцьцёвых ідэалаў.

Аднэй з такіх новых зорак на беларускім нацыянальным небасхіле ў Польскай дзяржаве зьяўляецца ад некалькіх ужо гадоў мастак-сьпявак Міхал Забэйда-Суміцкі. Слухаюць яго сьпевы не Беларусы і бачаць у ім, — аб чым сьцьвярджаюць публічна — мастака сьпевака высокай маркі, мастака-сьпевака з Божай ласкі. Слухаюць яго Беларусы, асабліва беларускую народную песьню: асабіста-беспасрэдна, праз радыё ці з пліткаў патэфону і... захопліваюцца, бо чуюць і бачаць вухам душы сваей у гэтай песьні вялікі свой культурны скарб, частку душы сваей, якая напаўняецца красой і ажывае да паўнейшага і лепшага жыцьця, калі гэнай душы датыкаюць тоны беларускай песьні, што льецца з грудзей мастака-сьпевака М. Забэйды.

* * *

2. У прыродзе ня роўнасьць, не аднольковасьць, але рожнароднасьць існуе, а нават і рожнавартаснасьць. Так напрыклад, апрача звычайных нашых шаракоў каменьняў і апрача звычайнай жалезнай руды, існуюць так зв. дарагія і высокацэнныя каменьні і мэталы. Падобную рознаякасьць і рознацэннасьць спатыкаем і ў жыцьці чалавечым. Адных прырода-маці абдарыла дарамі-талентамі дужа багата, другіх менш шчодра, а іншых сусім скупа. Але й тыя, што багата абдараваны дарамі, незаўсёды аб гэтым ведаюць, незаўсёды могуць выявіць свае дары і падзяліцца імі з іншымі, а так-жа й са стараны людзі незаўсёды гэтыя дары могуць ўгледзіць, належна ацаніць іх і памагчы іх разьвіцьцю. Такім чынам шмат розных, часта і дужа вялікіх, талентаў у людзей не выяўляецца сусім і гіне, або выяўляецца недастатачна. Выяўленьню талентаў і іх згубе дужа спрыяюць усе тыя абставіны, у якіх чалавек жыве: асабліва час са свомымі яму духовымі плынямі, якімі чалавек звычайна праймаецца, так ці інакш на іх рэагуе, і — асяродзішча, у якім чалавек жыве, з якім пастаянна стыкаецца і — так ці інакш — часта сусім нясьведама, паддаецца яму, праймаецца ім, або бунтуецца проціў яго.

Міхал Забэйда (па матцы Суміцкі) радзіўся на самым пачатку XX ст., у 1900 годзе, у беднай сялянскай сям'і ў сяле Шэйпякі, Пружанскага пав. Гэта ўжо беларускі этнаграфічны рубеж, а на рубяжох заўсёды крысталізуюцца даравітыя тыпы народу. З Пружаншчыны паходзіць і Р. Шырма, ведамы працаўнік на ніве культуры беларускай песьні і кіраўнік слаўнага Беларускага хору ў Вільні.

Навокал сябе падрастаючы Міхась бачыў расейскае, чужое яго душы вялікадзяржаўе, якое кідалася ў вочы ў царкве, школе, у паліцыі, войску і г. д., а так-жа бачыў і балюча адчуваў сялянскую соцыяльную крыўду, жывым прыкладам чаго былі чужыя нацыянальна двары, іх адносіны да сялян, асабліва да службова залежных ад іх парабкоў і агулам тая іх роль, якую яны, як асьвечаная і багатая кляса, праводзілі сярод чужога сабе беларускага народу.

Ня мог гэтага ўсяго ня бачыць і не адчуваць малады Міхась, асабліва калі скончыў пачатковую мясцовую школу і ўжо вучыўся ў вучыцельскай сэмінарыі ў Маладэчне падчас сусьветнай вайны, якая такім страшным цяжарам звалілася на Бела-

русь і калі Вялікая Расейская Рэвалюцыя ўвесь стары, згніўшы грамадзкі лад, вярнула дагары дном.

Першыя 20 гадоў XX ст., гэта першыя 20 гадоў жыцьця М. Забэйды, калі складаўся і аформліваўся яго характар. Тады быў гэта час накапленьня з аднаго боку вялікага запалу і энэргіі, як духовай, так і матар'яльнай у Расейскай Імпэрыі (навука, промысл) коштам „інородцев," „іноверцев" і соцыяльна акінутых кляс, а з другога — гэта час вялікага напружаньня большасьці расейскай і не расейскай інтэлігенцыі і работнікаў, якія ставілі на карту ўсё, абы толькі вырваца на шлях лепшага, вольнага жыцьця.

Міхась Забэйда, мастак з натуры, уражлівы, мяккі, працавіты і інтэлігентны ўсё гэта, што навокал яго дзеелася, жыва й глыбока адчуваў, перадумваў, студ'яваў і, ня сьмела прабуючы загаду свайго таленту, выяўляў свае пачуцьці і перажываньні ў песьні. Народныя беларускія песьні, прадусім якія ён чуў ад сваей маці, цягнулі яго і праймалі асабліва. Гэта душа будучага мастака ўжо тады, яшчэ нясьведама, адчувала беларускую народную стыхію, у якой, казаў-бы ў люстры, шмат чаго адбівалася, што ён, пры сваім разьвіцьці, ужо ненавідзеў, або любіў. Словам, адрываючыся ад старога і становячыся на новы шлях падчас вайны і рэвалюцыі, М. Забэйда, між іншым, яшчэ падсьведама становіўся ўжо на беларускі нацыянальны шлях. Спрыяла гэтаму так-жа і праца ў Вучыцельскай Сэмінарыі ў Маладэчне над беларускім народным фольклёрам, што хоць рабілася з мэтай русыфікатарскай, мела й дадатныя староны, бо спрыяла сэмінарыстам безпасрэдна і ў некаторай меры навукова, стыкацца з беларускай стыхіяй, ужо шмат шырэйшай, як родная вёска і як песьня роднай маці. Далей нацыянальнаму пачуцьцю М. Забэйды спрыяла вайна і рэвалюцыя, праз якія дакаціліся і на Беларусь вялікія ідэалы самаазначэньня народаў.

Вось больш менш тая атмасфэра, якой аддыхаў Міх. Забэйда, вось больш менш тыя абставіны яго жыцьця, у якіх ён жыў, вучыўся і разьвіваўся духова, вось больш менш тое, што спрычынялася да разбуджэньня й выяўленьня ня толькі агулам мастацка-сьпявацкага таленту ў яго, але так-жа выяўленьня таленту мастака-сьпявака Беларуса і што спрычынілася да таго, што М. Забэйда знайшоў самога сябе.

* * *

3. Прыгледзімся бліжэй да жыцьцёвай „мэтрыкі" М. Забэйды. Ваенная завяруха адарвала яго ад роднай краіны і выкінула на шырокія ўсходнія прасторы быўшай Расеі. Пабываўшы ў беларускім Смаленску, трапіў у Пэнзу, у Барнаул на Сібіры і ўрэшце апынуўся аж у далёкай Манджурыі ў Харбіне. У гэтым часе скончыў ён вучыцельскую сэмінарыю, вучыцельскі інстытут і ўрэшце ў Харбінскім унівэрсытэце скончыў эканамічны аддзел юрыдычнага факультэту. Здабываючы асьвету, адначасна працаваў ён як настаўнік у розных школах, а ўрэшце ў гандлёвай школе ў Харбіне.

Да сьпеву М. Забэйда меў пацяг змалку. Аб сьпеве праз увесь час сваей моладасьці ён не забываўся ніколі. Вучачыся й зарабляючы на кавалак штодзеннага хлеба, ён заўсёды знаходзіў крыху часу й для песьні. Але да Харбіну сьпеў М. З. уважаў хутчэй забаўкай, культурнай і прыемнай разрыўкай, а ня мэтай свайго жыцьця й вышэйшым прызваньнем. І толькі ў Харбіне М. З. свае дасюлешнія адносіны да сьпеву зьмяніў прынцыпова й сыстэматычна й грунтоўна пачаў працаваць, як над сьпевам, так і над музыкай агулам. Прафэсарамі яго ў гэтым былі: партнэрка Шаляпіна Юлія Плотніцкая, Мэттэр і Томашынская. У гэтым часе пачынае ён першы раз выступаць у Харбінскай Опэры, як саліст, у опэры „Евгеній Онегін" — Чайкоўскага ў ролі Ленскага, у ролі князя ў опэры „Русалка" — Даргомыжскага і ў ролі Леля ў опэры „Снегурочка" — Рымскага — Карсакова.

У расейскай і кітайскай прэсе паявіліся галасы крытыкі, якія зразу М. Забэйду ацэньвалі, як вялікага сьпевака-мастака. Гэтак напр. пасьля выступленьня М. Забэйды у „Евгеній Онегіне" Харбінская расейская *„Зоря" у № 300* з 1929 г. пісала: „Ему (М. Забэйдзе) отлично удалась сцена на балу у Лариных, но в сцене дуэли он превзошел ожиданія-" Узноўжа кітайская газэта „Гунбао" ў тым-жа часе піша, што „чуткій музыкальный певец Забэйда старается осмыслить роль в мельчайшых деталях и по возможности перевоплотиться при исполненіи роли. Артист со временем наверное будет пожинать лавры на этом завидном поприще." Крытыка дужа трафная і аказалася прарочай.

М. Забэйда, як праўдзівы мастак і як інтэлігентны чалавек, хвальбы гэтай слухаў цьвяроза, не ўпіваўся ей і не спачываў на лаўрах. Ён крытычна адносіўся да крытыкі і праўдзівыя яе староны стараўся выкарыстаць для далейшага лёсу і разьвіцьця свайго сьпявацкага таленту.

У 1932 г. М. З. пакінуў Харбін і выехаў у Італію, у Мілан, каб там далей папрацаваць над сваім голасам. Працаваў ён там пад кіраўніцтвам ведамага прафэсара Фэрнандо Карпі. Дзякуючы здольнасьці і працавітасьці мастака, праца яго пашла тут значна ў перад. Прафэсар Карпі даў яму добрую рэкомэндацыю і ён дастаўся ў Міланскую Опэру. Італьянская музычная крытыка ацаніла яго ня толькі дадатна, але і высока. Так напр. афіцыяльны орган Акадэміі Музыкі *„Giornale del arte"* прыраўняў М. Забэйду з вялікай славы італьянскім тэнарам М. Скіпай, а так-жа з слаўным расейскім сьпеваком Л. Собінавым. Ня інакш да яго адносіліся і іншыя італьянскія крытыкі, маючы нагоду прыслухацца да яго сьпеваў падчас яго разьезду па Італіі. Гэтыя крытыкі трафна паказвалі на адну з галоўных выдатных старон сьпеву Забэйды, гэта на яго сьпявачую інтэрпрэтацыю, на тое іменна, што ён пяе ня толькі голасам, але й душой. Напр. *„Corriere di Savona"* пісала: „Тэнар Міхал Забэйда-

Суміцкі і гэтым разам пацьвердзіў здабычы з апошніх сваіх артыстычных падарожаў. Ён здраджае ўражлівую душу мрыючага паэта, гэтак характэрыстычную для славянаў. Ягоны голас робіць уражаньне дасканальнага інструманту, які здабывае і чаруе слухачоў."

Прабыўшы ў Італіі бадай чатыры гады, М. З. у 1935 г. вярнуўся ў родны край, на Бацькаўшчыну, з якой роўна 20 гадоў быў у разлуцы. У Шэйпякох застаў старэнькую маці, з каторай пісьмамі ўсьцяж падтрымліваў лучнасьць і праз якую, як праз адзінае злучво, быў у жывым кантакце з беларускай стыхіяй. Пабыўшы на Бацькаўшчыне і выступіўшы з некалькімі канцэртамі, знашоў вялікае зацікаўленьне ў польскіх музыкальна-сьпявачых кругох і быў запрошаны ў Пазнанскую Опэру. Запросіны гэтыя сьпявак наш прыняў і выступаў там салістым, у галоўных ролях, у опэрах: „Галька" — Манюшкі, „Рыголетто" — Вэрдзі, „Сэвільскі цырульнік" — Россіні, — „Фауст" — Гуно, „Uprowadzenie z Seraju" — Моцарта, „Юлій Цэзар" — Гэндля, „Евгеній Онегін" — Чайкоўскага і інш.

Аставацца аднак далей у Пазнані М. З. не жадаў. Яго цягнула ў большы мастацкі сьвет, на шырэйшыя сьпявачыя прасторы. Дзеля гэтага, калі скончыўся час яго ўмовы з Пазнанскай Опэрай, ён пераехаў у сталіцу Варшаву. Тут дае канцэрты, пяе ў Польскім Радыё, выяжджае з канцэртамі на правінцыю, а такжа й заграніцу, як Рыга і Талін. У гэтым пэрыядзе свайго жыцьця і працы на сьпявачым грунце М. З. апрача вытрывалай далейшай шліфоўкі свайго таленту агулам, ён асаблівую зьвярнуў увагу на беларускую народную песьню, у якой выявіўся, як сапраўды вялікі і адзіны ў гэтым родзе мастак на беларускім небасхіле.

* * *

4. І што-ж, вярнуўшыся з далёкіх краёў і асеўшы настала ў Варшаве, мо' мастак наш спачывае на старых ляўрах, карыстаючы з тэй славы, якую ўжо здабыў за граніцай і якая ўжо цьвёрда ўстаноўлена? Не! Мастак наш свайго таленту ў зямлю не закопвае, а дасканаліць яго і далей разьвівае, робячы ўсьцяж новыя поступы. Слава яго, якой ён дазнае за свае сьпевы ў Варшаве, на правінцыі і за граніцай — гэта слава ўсьцяж дасканаленага і паступаючага ў перад таленту. Аб гэтым сьведчаць рэцэнзыі як у польскіх газэтах розных кірункаў, так і ў газэтах жыдоўскіх і расейскіх.

Асабліва захапілі варшаўскую польскую публіку выкананыя Забэйдай грэчанінаўскія беларускія народныя песьні на канцэрце ў Варшаўскай кансэрваторыі 27 лютага 1937 г., якія артыст быў змушаны паўтараць. Віленскае „*Słowo*", даючы агляд рэпэртуару М. Забэйды-Суміцкага і яго выступленьняў у Варшаве і ў Пінску, між іншым пісала: „нязвычайная музыкальнасьць, пекны голас, вельмі добра апанаваны тэхнічна ўва ўсіх дынамічных ступенях, надзвычай павабная вонкавая індывідуальнасьць артыста і выразная інтэрпрэтацыя твораў з рознаякімі настроямі, падымаюць артыста да праўдзівых нештодзенных эстрадных зьяваў."

А вось што піша аб Забэйдавых песьнях яго аднапаветнік, які першы парадзіў яму і памог ськіваваць ягоны талент на беларускую песьню, вышэй тут успамінаны, дужа заслужаны для беларускай сьпявачай культуры, Р. Шырма:

„Што-ж датычыць радыёвых канцэртаў Забэйды, то можна сьмела сказаць, што яны зьяўляюцца скарбам для Польскага Радыё. Такога сьпевака, такога выявіцеля народнай душы, асабліва ў народных песьнях, — усёроўна польскіх ці беларускіх — у Польшчы нам не прыходзілася чуць. Нават праслаўлены Кепура не перадасьць і ня здолее так далікатна выявіць усей глыбіні польскага народнага музыкальнага духу, як гэта ўмее зрабіць М. Забэйда-Суміцкі з польскімі народнымі песьнямі. Калі ў Кепуры стыхія голасу забівае душу, зводзіць усё да нямецкае халоднасьці, то ў Забэйды-Суміцкага наадварот — голас разам са словам служыць для выяўленьня ўсіх тых адценьняў, нават самых далікатных і тонкіх у перажываньнях і настроях, якія захаваны ў песьнях." (*„Калосьсе" № 2 (11) 1937*).

Віленскае грамадзянства, як беларускае, так польскае і іншае бліжэй пазнала Забэйду, як сьпевака ў сьнежні месяцы ў 1936 г. падчас сьвяткаваньня Беларускага Дня Культуры, а пасьля вясной і ў сьнежні 1937 г. на канцэртах, ладжаных Беларускім Студэнцкім Саюзам.

Вясной мінулага году канцэрт М. Забэйды адбыўся ў Вільні 16.V. З гэтай нагоды ў польскай газэце „*Słowo*" (*Nr. 135, 18.V.37*) ведамы кампазытар і музыкальны крытык праф. М. Юззэфовіч пісаў гэтак:

„Канцэрт, сарганізаваны Беларускім Студэнцкім Саюзам УСБ, адбыўся ў запоўненай залі Сьнядэцкіх УСБ з нязвычайнай мастацкай удачай.

Гэтак удалы вынік быў перадусім дзеля таго, што ў канцэрце браў удзел ведамы ўжо Вільні малады тэнар *Міхал Забэйда-Суміцкі*, які здабывае штораз большы розгалас у розных эўрапэйскіх краёх. Яго мілагучны, дасканальна апанаваны голас, у спалучэньні з вялікай артыстычнай культурай, ёсьць на ўслугах выкананьня, перасычанага беспасярэднім нутраным адчуцьцём зьместу твораў і іх настрою. Выразная і акуратная дыкцыя, у чатырох языках, узмацняла ўражаньне вельмі сымпатычнага і высока-мастацкага сьпеву. Усе прадукцыі былі на вельмі высокім мастацкім роўні, як небісаваныя, так — з прычыны спэцыяльнай папулярнасьці твораў, як арыя Ленскага — бісаваныя, якія выклікалі шчыры энтузыязм, выяўляны ў гураганных воплесках і многіх дарах кветкамі."

Пасьля гэтага канцэрту пісала аб Забэйдзе як аб мастаку ў самых супэрлятывах так-жа прэса расейская (*„Русское Слово"*) і жыдоўская.

Сіріус, рэцэнзэнт-крытык з Русскаго Слова," падчоркнуўшы М. Забэйду, як мастака-сьпевака агулам, з захопленьнем зварачваў увагу на яго, як на мастака-сьпевака беларускай народнай песьні. У гэтай галіне выкананьне М. Забэйды — піша Сіріус — зьяўляецца ўжо сапраўднай рэвэляцыяй: беларускую народную песьню ўздымае ён на вышыню, якая ня сьнілася ні яе тварцу-народу, ні яе навейшаму мастаку-гарманізатару. І трэба добра ацаніць асабістую шляхотнасьць артыста, які родную сваю песьню моцна трымае ў сваім сэрцы і нясе яе з сабой і на польскую і далей на эўропэйскую эстраду, ня гледзячы ні на якія перашкоды"... *(„Калосьсе" кн. 3, 1937, артыкул М. С.—„На службе вокальнага мастацтва").*

А вось найсьвяжэйшыя галасы крытыкі польскай сталічнай прэсы. Пад канец лістапада 1937 г. у „Stowarzyszeniu Miłośników Dawnej Muzyki" адбыўся вечар-канцэрт. *„Express Poranny" (Nr 330 28.XI.1937)* аб гэтым так адзываецца:

„Bohaterem wieczoru wypadnie nam nazwać p. M. Zabejdę-Sumickiego, którego publiczność po prostu nie chciała wypuścić z estrady. Rzeczywiście jest to bardzo niepowszedni talent śpiewaczy: co za muzykalność, jaki temperament, ile humoru! Z przyjemnością wysłuchaliśmy całej grupy aryj włoskich (Carissimi, G. Gaccini, Scarlatti, Giordani). Nareszcie tenor, który dba nie tylko o efekt wokalny, ale i o ekspresję!"

Аб выступленьні М. Забэйды на тым-жа канцэрце, у газэце *„Nasz Przegląd"* (*Nr 341; 1.XII.1937*) ведамы музычны крытык, які піша пад крыптонімам M. Cent., вось што кажа:

„Prawdziwą radością dla wielbicieli „bel canta" były pieśni włoskich mistrzów z XVII i XVIII stuleci w interpretacji p. Zabejdy-Sumickiego. Nareszcie zdając relację o występach miejscowych śpiewaków, można napisać coś o umiejętności prowadzenia głosu, świetnie upozowanego na masce, zwrotnego w falsetach, filowaniu i koloraturze. P. Sumicki jest wokalistą najlepszej próby: rozumie i kocha swój instrument. Każdy akcent ekspresyjny znajduje w jego wykonaniu doskonałe techniczne i muzyczne rozwiązanie. „Mezza voce," legato, crescendowanie dają słuchającemu prawdziwe zadowolenie estetyczne, nie budzą obawy o załamanie się w jakimś trudniejszym przejściu lub fermacie. W śpiewie p. Sumickiego ekspresja pasuje do objętości głosu, objętość odpowiada skali dynamicznej, dynamika — ekspresji. Tak jak to ma miejsce u każdego dobrego włoskiego śpiewaka, który niezależnie od gatunku głosu posiada umiejętność wydobycia z niego wszystkich możliwych odcieni barwy i ekspresji. Prawda, że głos p. Sumickiego nie należy do silnych. Ale jaka w nim elastyczność, śpiewność i finezja poddana regułom dobrego smaku i nieprzeciętnej muzykalności."

Так, Забэйда — гэта вялікі сьпявачы талент, талент — да таго — жывы, які яшчэ ня скончыў расьці і разьвівацца. Доказам гэтага, апрача вышэйсказанага, служаць галасы сярод польскага музычнага грамадзянства, якія Забэйду, як мастака, вышэй



ставяць, як Кепуру, а так жа доказам гэтага найсьвяжэйшае ў Вільні выступленьне Забэйды на канцэрце ўзноў Бел. Студ. Саюзу 12.XII.37, на якім віленскае грамадзянства асабіста пракаралася і аб сучаснай статыцы Забэйдавага таленту і аб яго далейшай дынаміцы. М. Забэйда як сьпявак-мастак апошняга свайго слова яшчэ не сказаў. Яно яшчэ ў перадзе. Яно выявіцца ў беларускай народнай стыхіі, у беларускай народнай песьні. Там — на наш пагляд — найвялікшая Забэйды будучыня, там яго праўдзівае прызваньне.

* * *

5. Асаблівасьцяй псыхічнай будовы кожнага чалавека зьяўляецца ягонае імкненьне да творства. Кожны чалавек, адпаведна да свайго культурнага разьвіцьця, нешта твора, нечым узбагачвае, паляпшае і прыхарашвае сваё жыцьцё. Вынікі такой творчай працы чалавека, хоць-бы яны былі і сусім малыя і нязначныя, агулам называюцца культурай.

Нешта падобнае дзеецца ня толькі ў людзкой адзінкі, але так-жа і сярод кожнай людзкой грамадзкай суспольнасьці, сярод кожнай соцыялёгічнай адзінкі, як напр. народ.

Гэтае агульнае правіла псыхічнай будовы чалавека адносіцца так-жа і да беларускага народу. І наш народ, паслушны свайму творчаму інстынкту, нямала даканаў у сваей гістарычнай падарожы, як у галіне культуры матарыяльнай, так і духовай. Даволі хоць-бы толькі збольшага запазнацца з бібліографіяй з галіны беларускага народнага фольклёру, каб аб гэтым праканацца.

Часткай беларускай народнай культуры зьяўляецца беларуская народная паэзія, выражаная ў песьні. Частка гэта дужа багатая й featureнародная. Польскія й расейскія галасы, якія яшчэ й сяньня можна пачуць аб паэтычкай быццам убогасьці беларускай народнай песьні, належаць да легендаў, якія ў сабе ня маюць праўды.

Ведама, дагэтуль наша песьня мала распрацавана і мала дасьледжана. Згэтуль, відаць, гэтыя крыўдныя аб ей паяўляюцца легенды. Але й з таго, што маем аб нашай народнай культуры агулам (акадэмік Карскі, Насовіч, П. Безсонов, Малевіч etc.) можна ўжо непахібна судзіць аб тых вялікіх эстэтычных вартасьцях нашай песьні, якімі яна так арыгінальна і дзіўна багата.

Вось-жа некаторыя для прыкладу галасы аб нашай песьні з 70—80-х гадоў мін. ст.: „Белорусскія простонародныя песни можно назвать безискусственным, но не лишенным изящества изложеніем чувст простого, необразованнаго народа при радостных, забавных, не менее как и при скорбных, печальных и непріятных обстоятельствах жизни человека.

Белорусскія песни очень многія составляют глубокую старину, из века в век устным единственно путем перешедшую

к нынешним простолюдинам, и эти старинныя песни носят тип Славянскаго, а в особенности Кривичскаго племени ..

Древность Белорусских песень ясно видна из следующих обстоятельств:

1) В песнях, распеваемых и ныне Белорусскими простолюдинами, оказываются слова совершенно вышедшія из употребленія в живом простонародном говоре, как-то: бояре, боярочка, Лях – Поляк, Царь-город, шарварка, шестак и другія.

2) Выражаются древнія воинскія обстоятельства, напр.:

Едуць татарскія раци
Хочуць твайго каня ўзяци.

3) В старинных Белорусских песнях, и ныне употребляемых Белорусскими простолюдинами, выражается дух не крестьянскаго быта, а свободнаго и самостоятельнаго сословія и даже богатаго, как-то:

Баяры (сваты) вороты аблягли,
Пасыпали золата па скам'и...

Чем древнее Белорусская песня, тем, кажется, более проглядывает в ней образованность и изящество творчества...

Поэтическія красоты, которыми отличаются старинныя песни, заставляют заключить, что Белорусское Кривичское наречіе в старину было уделом не одного Белорусскаго простонародія, но и высшаго класса народа, который не лишен был совершеннаго образованія...

Во всех Белорусских песнях, и в особенности старинных, господствует тоническое стихосложеніе, в котором удареніе главнаго в смысле слова подчиняет себе всех прочих слов слоги и ударенія так, что Белорусскій стих состоит из пиррихіев и сугубых амфибрахіев, независимо от числа слогов. Напр. Камарочки мае.

Пад им коник брое,
Капыцикам землю крое".

(*И. И. Носович — Белорусскія песни: предварительный взгляд на характер белорусских песень*)

А вось яшчэ голас аб беларускай песьні іншага даўнейшага дасьледчыка беларускай народнай духовай культуры, які кажа, што творства гэта ў свой час кіпела ўсей сілай: „песнею и стихом, не широкими и не длинными, а в тысяче видов, с изящным и частію шутливым характером, оглашался весь этот видимый и невидимый образ жизни народной: довольно сказать, что Слово о Полку Игореве без нея убавилось бы на треть, что многое для целаго славянскаго песнотворчества сгибло-бы неясным и неполным без ея наследія, даже в теперешних его остатках предлежащих читателю". (*И. Безсонов — Белорусскія песни, Москва 1871: В об'ясненіе к изданію*).

А калі да гэтых галасоў дададзём усё тое, што для беларускай народнай песьні зрабілі сучасныя кампазытары (Галкоўскі, Грэчанінаў, Евец, Уладзімірскі і інш.) і Рыгор Шырма з сваім



хорам, — дык можам мець абраз поўны і цалком пазытыўны што да эстэтычнай, паэтыцкай вартасьці нашай народнай песьні.

Аднак далейшы развой гэтай песьні, як і агулам далейшы развой культуры беларускага народу, як ведаем, у пэўным часе спыніўся. Чужыя зайздросныя багі забраліся на беларускі Алімп, прысабечылі сабе беларускія культурныя скарбы, а чаго прысабечыць не ўдалося, — на тое палажылі калдунскія свае пячаці і паставілі свае стражы, каб з гэных скарбаў далей ня можна было карыстацца. Але дарма!

Грэцкі Зэус агулам часта крыўдзіў людзей, а найбольш тым, што зайздросна сьцярог нябеснага агню і не даваў людзям сьвятла й цяпла. Промэтэй ня сьцерпіў гэткай людзкой крыўды і ўкраў ад Зэуса нябеснага агню і надзяліў ім людзей. Пайшло на зямлі жыцьцё — сьветлае, цёплае, радаснае, творчае! А Промэтэя пачаліся цярпеньні. За яго адвагу і любоў да людзей Зэус прыкаваў яго да скалы Каўказу. Штодня прылятаў каршун і выядаў яго печаньні, але гэтыя ўсьцяж адрасталі і Промэтэй цярпеў і нябеснага агню варочаць Зэусу, чаго той дамагаўся, ані думаў. Цяжкія былі цярпеньні, але Промэтэй пацяшаў сябе радасьцямі людзей, а сам усьцяж цярпеў. Але ўрэшце знайшоўся магутны волат — ягоны і людзей староньнік, — які разьбіў Промэтэевы аковы.

Промэтэізм — самаахвярная барацьба за культуру й сьветлае шчасьце беларускага народу—ёсьць у нас зьявішча пэўнае, сьцьверджанае. Пашыраньне і паглыбляньне ідэі Промэтэізму — так-жа факт ясны і канкрэтны. Доказам гэтага прадусім нашы песьняры-паэты. Доказам гэтага так-жа паэт свайго роду: сьпявак-мастак М. Забэйда. На беларускім сьпявачым Алімпе ён першы сапраўды адыграў роль Промэтэя: ён, ня гледзячы на закляцьці даўнейшых і сучасных варожых нам калдуноў і варажбітоў, здабыў ключ да беларускіх народных песьняў, і адчыніў народу да іх доступ, здабыў той сакрэтны агонь, якім умее так асьвяціць і разагрэць народную душу, што яна, калі нават дагэтуль і спала, дык кідае свой сон, будзіцца да глыбейшага, сьведамага жыцьця, бача сваю мінуўшчыну, знаходзіць сябе самую і станавіцца на свой далейшы гістарычны, ужо нацыянальны, творча-культурны шлях.

Лёс Промэтэя тасуецца да М. Забэйды нават і ў дэталях. Праўда, каршун у даслоўным значэньні не выядае яму печаньняў, але за адабраны ад чужых багоў сакрэтны агонь, які дае доступ да беларускай народнай душы і які гэтак магутна накіроўвае гэту душу на яе — прарваны гісторыяй,—сьведамы нацыянальны шлях, як-жа многа беларускі Промэтэй мусіць зносіць рознага роду жыцьцёвых труднасьцяў! Аднак, чуючы прызваньне карыстацць з свайго сакрэтнага доступу да скарбаў беларускай песьні і чуючы прызваньне гэтымі скарбамі, гэным нябесным агнём, які носе ў сваім сэрцы, надзяляць беларускі народ, прызваньне гэта сваё ён спаўняе пагеройску.

У чым жа сутнасьць прызваньня таленту М. Забэйды на высокім беларускім Алімпе? У тым, што ён адчуў і зразумеў у беларускай песьні беларускую народную стыхію і выконваючы яе, як сьпявак-мастак, раскрывае яе арыгінальную красу, узносіць яе на п'едэстал культуры і паказвае яе ўсяму сьвету. З беларускай песьні наш М. З. дабывае праўдзівую народную душу. Тое ўсё, што вякамі накладалася ў душы нашага народу: яго боль, сум, трывога, радасьць, надзейныя лятуценьні, — сьпявак наш памастацку адтварае з дзіўнаю дакладнасьцю і з ня менш дзіўнаю — беларускаю характэрнасьцю. Ён пяе сваім лірычным, шчыра-сардэчным голасам, і пяянае перажывае, а дзеля гэтага ён пяе ня сам, а праз яго казаў-бы пяе народ беларускі. Беларускія сяляне і сялянкі, пачуўшы сваю народную песьню ў выкананьні М. З. з пліткаў патэфону, пачуўшы яе так цудоўна прыгожай, даслоўна плачуць шчыраю сьлязою. Так, хто ўважна й умела паслухае беларускай Забэйдавай песьні, той перажывае з народам яго салодкае і горкае жыцьцё, выражанае ў мастацкай форме У гэтым найбольшая сіла яго таленту і найбольшая заслуга прад народам.

І гэткага роду талент і прызваньне, як у М. Забэйды, гэта на беларускім культурным небасхіле нешта сусім арыгінальнае і новае. Як гэткі, ён першы ў беларускім жыцьці ў Рэчыпаспалітай Польскай і першы ў тым-жа беларускім жыцьці і ў БССР. У гэтай апошняй, у некаторых сьвятлейшых мамэнтах яе існаваньня на грунце беларускай песьні і музыкі зроблена шмат, але савецкія беларускія мастакі, будучы ўсьцяж пад дыктатурай ня толькі палітычнай, але і культурнай марксіцка-матар'ялістычнага догматызму, ніколі ня мелі магчымасьці спрабаваць сваіх сіл у народнай стыхіі беларускай песьні, праняцца гэтай стыхіяй і выявіць яе красу, якая ня мае ніякіх „службовых“ адносінаў да савецкай дыктатуры пралетарыяту. Паход-жа апошнім часам у БССР на беларускую культуру, паход самы рашучы, аканчальна падцінае там крыльлі беларускаму мастацкаму творству агулам і такому-ж творству ў галіне беларускай песьні і музыкі.

Словам, Забэйда ў нас — гэта рэдкая асаблівасьць. Слушна аб ім кажа Р. Шырма:

„Толькі такі мастак-артыст, як Забэйда-Суміцкі, патрапіў вывясьці беларускую народную песьню ў шырокі культурны сьвет. Яму першаму належыць чэсьць і ў перадачы гэтых песень праз грамафонныя пліткі для шырокага карыстаньня ў краі і заграніцай“. *(„Калосьсе“ № 2 (11), 37).*

М. Забэйда — па мойму — павінен такім чынам асаблівую ўвагу зьвярнуць прадусім на беларускую народную песьню. Чаму? а) Сусьветная сьпявачая культура так багатая, што калі для яе выключна не пасьвяціцца М. Забэйда, балючай шкоды ня будзе. b) Новая беларуская сьпявача-музычная культура, якая цяпер толькі *in statu fieri,* у пачаткавай стадыі тварэньня, на Алімпе якой яўнае прызваньне М. Забэйды, калі-б ёй ён не пасьвяціўся больш, як чаму іншаму, мела-б сапраўды вялікую страту. c) М. Забэйда шмат ужо даў, і шмат можа яшчэ даць новай беларускай культуры, а праз яе можа шмат новага і арыгінальнага ўнесьці ў скарбніцу культуры агульна-людзкай.

* * *

На заканчэньне яшчэ некалькі кароткіх уваг. Астаецца пажадаць: a) каб М. З. не пераставаў далей працаваць над беларускай песьняй і пяяў яе пры кожнай магчымай нагодзе, нясучы яе чары ў беларускі народ і на ўвесь сьвет; b) каб прымаў самае блізкае ўчасьце пры гармонізацыі і апрацоўцы беларускай песьні мастакамі-музыкантамі, якія часта ня маюць належнага адчуцьця беларускай стыхіі; c) каб не агранічыўся 10-цю беларускімі песьнямі, якія ён ужо насьпяваў на грамафонныя пліткі, а каб у гэтым кірунку зрабіў яшчэ больш, каб маглі чуць Забэйдавую беларускую песьню як найшырэйшыя сялянскія масы; d) каб студыяваў беларускі народны фальклёр, прадусім у яго галіне песьні, а так-жа каб не закідаў студыяў і агулам аб Беларусі. Асабістая культура М. Забэйды і яго далейшая над сабой праца, чаго ён ніколі не забываецца, памагае яму ў яго мастацкай працы агулам, а глыбейшае пазнаньне беларускага народу і беларускай культуры дасьць яму магчымасьць лягчэй рабіць далейшыя поступы ў галіне беларускай песьні; e) з боку-ж беларускага грамадзянства мастаку нашаму належыцца поўнае прызнаньне і ўсякае магчымае, а прадусім маральнае, падтрыманьне. А гэта ўсё праз увагу на тое культурна-мастацкае багацьце беларускай народнай песьні і на тое, што з яе мастак наш можа выдабыць і даць сучаснай новай нацыянальнай беларускай культуры. Бо вось што кажа аб песьні народнай Вялікі Адам Міцкевіч:

„O wieści gminna! Ty arko przymierza
Między dawnemi i młodszemi laty:
W tobie lud składa broń swego rycerza,
Swych myśli przędzę i swych uczuć kwiaty.

Arko! Tyś żadnym niezłamana ciosem,
Pòki cię własny twój lud nie znieważy;
O pieśni gminna, ty stoisz na straży
Narodowego pamiątek kościoła...

Płomień rozgryzie malowane dzieje,
Skarby mieczowi spustoszą złodzieje:
Pieśń ujdzie cało!...“

# Др. Тамаш Грыб

У другой палавіне студня месяца лётам маланкі абляцела Вільню сумная вестка: у далёкай чужыне, у дымнай Празе, сталіцы братняга нам чэскага народу, памёр беларускі заслужаны грамадзкі і культурны дзеяч, др. Тамаш Грыб. У сіле веку, меў толькі скончаных 42 гады, др. Тамаш Грыб ня вытрымаў цяжкіх камплікацыяў неўшанаванай хваробы грыпы і разстаўся з намі на векі.

У асобе д-ра Грыба Беларускі народ страціў аднаго з лепшых, культурна-грамадзкіх дзеячоў, палкага патрыёту і барацьбіта за лепшую долю народнае справы.

Радзіўся др. Т. Грыб 7.III.1895 г. ў Палянах, каля Нестанішак, Сьвянцянскага павету, у беднай беларускай сялянскай сям'і. Апынуўшыся, будучы яшчэ маладым хлапцом, у Пецярбурзе, дзе вучыўся нікаторы час у псыхо-нэўролёгічным інстытуце,—заразжа пачаў утрымліваць зносіны з беларускай Пецярбурскай калёніяй, жыцьцю якой патронаваў тады, і быў духовым кіраўніком піонэр беларускага адраджэнскага руху, сьветлай памяці прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла († 1934). Аб гэтым прафэсару, прадстаўляючы яго заслугі перад беларускім народам, і праектуючы выданьне зборніка прысьвячанага яго памяці, між іншым др. Грыб піша так: „гэта быў запраўдны духовы правадыр беларускай інтэлігенцыі, падрастаючай моладзі — студэнцтва... Я асабіста ведаю тое, што Браніслаў Эпімах-Шыпіла быў вялікі апостал, прарок беларускага нацыянальнага адраджэньня, які асабістым стыкам, у асабістай размове распаліваў у сэрцах полымя любові да роднага краю“... (Пісьмо з дн. 12.I 1935 г. да інж. А Клімовіча). Бязспрэчна, не бяз уплыву праф. Бр. Эпімаха-Шыпілы фармавалася нацыянальная душа д-ра Грыба, яго гарачы патрыятызм, яго шырокія грамадзкія заінтэрэсаваньні і актыўнае становішча да беларускага публічнага жыцьця. У далейшым жыцьці мы бачым нябожчыка з такімі-ж позытыўнымі якасьцямі характару. — Др. Т. Грыб у 1917 г. зьяўляецца ўчасьнікам,—як дэлегат ад беларускіх жаўнераў з фронту (каля Рыгі),— Усебеларускага Кангрэсу ў Менску, на якім выбіраецца ў выканаўчыя органы Кангрэсу (сяброўства ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі). У студні 1918 г. быў на 3-цім Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў, на якім абгаварывалася пытаньне аб падпісаньні Берасьцейскага міру; др. Т. Грыб, як старшыня фракцыі беларускіх сацыялістаў, выступіў на зьезьдзе з дэклярацыяй, у якой нвостра пратэставаў проці запраектаванага падзелу Беларусі, таксама проці разгону Першага Усебеларускага Зьезду, на якім прагалошана было права Беларускага народу на самаазначэньне і створана першая беларуская народная ўлада (весткі аб прысутнасьці Грыба на 3-цім Усерас. Зьезьдзе Саветаў і яго на ім становішчы—узяў з успомненага пісьма да інж. Клімовіча).

Ад 1922 г. Т. Грыб знаходзіцца ў Празе Чэскай, дзе разгартае ў меру сваіх сіл і магчымасьцяў беларускую грамадзкую і культурную працу, працуе ў Беларускай Радзе, у Беларускім Культурным Т-ве ім. Скарыны, у Аб'еднаньні Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў, ад 1934 г. у Беларускім Загранічным Архіве, як яго кіраўнік (па сьмерці праф. Вяршыніна). Апрача таго, разгартае шырокую прэсавую дзейнасьць — знаходзіцца ў кантакце з краёвым, чэхаславацкім, і загранічным друкам і інфармуе яго аб беларускіх справах; утрымлівае кантакт і супрацоўніцтва з асяродкамі беларускага культурнага і грамадзкага жыцьця, — перадусім-жа з Вільняй, куды лятуцеў пераехаць з Прагі на сталае жыцьцё. Быў і нашым супрацоўнікам „Калосься“.

У Празе, побач з беларускай грамадзкай працай, у няспрыяючых умовах матарыяльнага характару здабываў далейшую асьвету: скончыў філёзофічны факультэт чэскага унівэрсытэту з тытулам доктара філёзофіі.

Усе, хто знаў Нябожчыка, расказваюць аб ім, як аб чалавеку прынцыповым, з вялікімі асабістымі вартасьцямі і грамадзкімі катэгорыямі думаньня, з гарачым патрыятычным беларускім сэрцам і актыўнай паставай да жыцьця. Пахаваны у пражскай крэматорыі 25.I.38.

Чэсьць Яго памяці!

*Мгр. Я. Шутовіч*

---

# Др. Тамаш Грыб у сьвятле сваіх пісьмаў

*(Да характарыстыкі Нябожчыка)*

Узноў новая і вялікая страта для беларускага адраджэнскага руху!.. Памёр у Празе Чэскай адзін з самых шчырых і адданых сыноў Беларускага народу — Тамаш Грыб. Жыў аднэй толькі думкай — працаваць для лепшае будучыны свайго народу. Гэта думка пранізывала ўсё яго жыцьцё, гдзе-б ён ня быў і што-б ён не рабіў, ён ей служыў да самаахвярнасьці і да самага апошняга дня свайго жыцьця.

Я з Тамашом Грыбам спаткаўся толькі адзін раз, у 1922 г., калі ён накіроўваўся ў Прагу Чэскую цераз Рыгу і зайшоў да мяне ў Беларускі Аддзел. І цяпер я ўспамінаю малады твар Нябожчыка, у якім сьвяцілася энэргія, якаясь ветлівасьць злучаная з рашучасьцю; аб ім можна сказаць, што мала пражыў, але многа пережыў і перадумаў. Гэта першае і апошняе маё спатканьне з Тамашом Грыбам. Але ў мяне яшчэ асталося некалькі пі-

сьмаў яго, зьмест якіх дужа цікавы і ў якіх яскрава бачыцца дзейная душа Нябожчыка, яго чулае сэрца, якое кожную хвіліну білася для бацькаўшчыны і за бацькаўшчыну. Гэтыя-ж пісьмы сьведчаць, што можа зрабіць кожны ідэёвы і адданы працаўнік-беларус, нават калі лёсам жыцьця ён адсунуты далёка ад сваей бацькаўшчыны.

Перапіска паміж Т. Грыбам і мною завязалася ў 1928 г., пасьля таго, як ён скончыў у Празе унівэрсытэт і атрымаў ступень дохтара філёзофіі. Нябожчык зьвярнуўся да мяне, як дырэктара Дзьвінскае беларускае гімназіі, з просьбаю прыняць яго на пасаду настаўніка гімназіі, матывуючы яе так: „Жыву на чужыне, як палітычны эмігрант, займаючыся выключна навуковай працай. Арганізаваў Беларускі навуковы кабінэт у Празе, маючы на мэце навуковы досьлед і вывучаньне Беларусі; распачаў шэраг навуковых працаў. Але ў апошні час значна падупала маё здароўе, дахтары радзяць зьмену клімату. З другога боку — любоў да беларускага народу цягне мяне на родныя палеткі"... (пісьмо ад 22.VIII.1928 г.). Жаданьне Т. Грыба ня зьдзейсьнілася, бо прыймо на дзяржаўную службу чужаземцаў у гэты час у Латвіі было немагчымым. У сваім чарговым пісьме ад 7.X.1928 г. паведамляе мяне, на адмову аб пасадзе, што ён не падае духам і больш падрабязна інфармуе мяне аб плянах сваей працы: „А цяпер дазвольце папрасіць Вас, паважаны Сяргей Пятровіч, аб аднэй маленькай інфармацыі: у Вас, здаецца, існуе гурток, ці то таварыства, добра ня ведаю, які займаецца краезнаўствам.*) Справа ў тым, што я тут у Празе, як Вам ужо ведама, заснаваў Беларускі навуковы кабінэт, як прыватную навукова-дасьледчую установу. Галоўная мэта — навуковы досьлед і вывучаньне ўсіх асаблівасьцяў Беларускага народу, як у гістарычнай мінуўшчыне, гэтак і ў цяперашчыне, асаблівую зьвяртаючы ўвагу на тыя прычыны, якія спрыялі ўзьніку тых ці іншых асаблівасьцяў, іх разьвіцьцю або заняпаду. Скажу Вам зусім шчыра: я працую над пытаньнем *нацыянальнае тыпалёгіі,* ці йнакш кажучы — *псыхалёгіі народаў.* Канкрэтна — якая ёсьць псыхалёгія Беларускага народу? Чым характарызуецца ці адрозьніваецца беларус ад паляка, латыша, вялікаруса, ліцьвіна ды інш., у чым выяўляюцца характэрныя асаблівасьці самаістай яго індывідуальнасьці? Гэтак сама: беларус-каталік і беларус-праваслаўны, беларускі селянін і беларускі работнік, інтэлігент,—жыхар вёскі, мястэчка і места. Шэраг іншых пытаньняў. Дык вось, калі ў Вас ёсьць краезнаўчы гурток, які, пэўна-ж, займаецца вывучаньнем асаблівасьцяў Беларускага народу (пераважна мабыць з пункту гледжаньня асаблівасьцяў мовы, казкі, песьні, прыказкі), то ці нельга было-б скласьці супольную праграму і вывучаньне па аднаму акрэсьленаму пляну, каб пасьля сабраны матарыял можна было ў адпаведны навуковы спосаб выкарыстаць для агульнае характарыстыкі асаблівасьцяў Беларускага народу"...

*) Відаць Т. Грыб меў тут на ўвазе вучнёўскі гурток пры гімназіі дзеля збору беларускага фольклёру ў Латгаліі.



Трэба адзначыць, што больш цеснага кантакту ў супрацоўніцтве паводле пляну Т. Грыба нам не ўдалося ўстанавіць, бо мне было цяжка, займаючы адказную пасаду дырэктара, адначасна займацца і чыста навуковай працай. Але ад імя гімназіі яму акуратна пасылаўся выхадзіўшы ў тыя часы пад маім кіраўніцтвам вучнёўскі часапіс „Школьная Праца". І вось на гэта атрымліваю прывітальнае пісьмо з новым годам ад 1.I.1930 г., у якім Т. Грыб у дужа ветлівых словах дае ацэнку вучнёўскага часапісу: „Як міла выглядае рукапісны часапіс Вашае гімназіі! Колькі шчырага пачуцьця і любові да свайго народу! У час магутнага ўздойму тэхнікі, друкаванага слова, і раптам — рукапісны часапіс Дзьвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі, часапіс прысьвячаны народнае творчасьці. Я шмат каму паказваю гэты адзіны часапіс у беларускай мове за апошнія гады. Сабрана шэраг песьняў і казак — навіна ў славянскай этнаграфіі, шэраг асаблівасьцяў беларускае мовы, над чым спыніцца не адзін філёлёг. Ад усей шчырасьці жадаю Вам далейшае працы ў гэтым напрамку, карыснае і вельмі каштоўнае працы! З часам, а гэта мабыць неза доўга, будзеце мець цікавейшы і каштоўнейшы зборнік народнае творчасьці беларусаў Латгаліі, што разам з іншымі нарысамі складзе першую манаграфічную працу аб беларусах у Латвіі. Я веру — Вы гэта зробіце!"

І сапраўды, гэтыя бадзёрыя словы і высокая ацэнка этнаграфічнай працы гімназіі з боку Т. Грыба, як навуковай сілы і як грамадзкага дзеяча, прыдалі больш ахвоты і энэргіі ў свой час і беларускаму вучыцельству і вучням у працы над зьбіраньнем народнай творчасьці Латгальскага беларуса. Асабіста і я па выхадзе сваім на амэрытуру (пэнсію) ў 1932 г. аддаю шмат часу на сыстэматызацыю ўжо сабранага этнаграфічнага матарыялу, а таксама раблю ў летнія часы этнаграфічныя экскурсіі для запісу новых твораў беларускай народнай паэзіі. Цяпер ужо маецца сабраных па Латгаліі 1033 беларускіх народных твораў. У гэтым-жа пісьме Т. Грыб пасылае прывітаньне аўтарцы казкі —сцэнічнага твору „На Полацкім Замчышчы", Вользе Сахаравай, і піша: „Гэты твор уваскрашае мінуўшчыну нашу. Гэта ёсьць першая спроба ў маладой беларускай літаратуры — даць для Бедзіцячага тэатру сцэнічны твор з гістарычнае мінуўшчыны Беларусі, у якім сымболіка так паэтычна пераплятаецца з рэальнасьцю. Няхай толькі на гэтым ня спыняецца, няхай далей працуе!" Так Т. Грыб умеў кожнаму сказаць ласкавае слова, кожнага падахвоціць да працы!

І хоць Нябожчык ня часта пісаў, але падрабязна. „Даўно ўжо я Вам пісаў, проста аж сорамна прызнацца,—піша Т. Грыб у сваім пісьме ад 25.I.1932 г. — А так многа аб чым хацелася-б з Вамі пагутарыць, дзе што абмяркаваць, аб нашых справах беларускіх пасумаваць, бо мала, вельмі-ж мала ёсьць пацяшаюча-

га ў нашых цяжкіх і нават скрутных абставінах. Апошнія два гады я працаваў ў Славянскай бібліятэцы, дзе, побач з аддзеламі іншых славянскіх народаў, арганізаваны і беларускі аддзел. Сабрана значная колькасьць матарыялаў; амаль усе выданьні за апошнія два дзесяцігодзьдзі, якія так або інакш датычаць Беларусі і Беларускага народу. У значнай меры апрацавана і беларуская бібліяграфія: дакладная бібліяграфія ўсіх галін беларусазнаўства. Славянскі інстытут у Празе гэтай справай цікавіцца і можа з часам выдасьць журнал. Мая праца ў славянскай бібліятэцы была працягам папярэдняе працы ў Беларускім навуковым кабінэце. Цяпер працую ў Беларускім Загранічным Архіве. Пэрыводжу ў парадак архіўныя матарыялы і папаўняю сваю бібліяграфію беларусазнаўства".

І ўсё-ж-такі, ня гледзячы на бязупынную працу, Тамаша Грыба вабяць і цягнуць да сябе родныя палеткі... Сумна яму на чужыне... Вось з якім вялікім пачуцьцём любячага сына сваей бацькаўшчыны ён далей піша ў гэтым-жа пісьме: „Разам з тым раблю захады, каб вярнуцца да хаты, на родныя палеткі беларускае зямлі. Вы і ўявіць сабе ня можаце, як цісьне і гняце адарванасьць ад роднага краю, як хочацца пабачыць свае родныя вёскі, свой родны беларускі краявід. Цягне да хаты... Грызе туга... А Вы мабыць ведаеце, што мая родная вёска знаходзіцца ў Віленшчыне, дзе я ня быў ужо ад Каляд 1918 году. Так хутка бяжыць час... Здаецца і нядаўна гэта было, як пасьля доўгіх гадоў разлукі я наведаў сваіх старых бацькоў. Чакаюць яны мяне і цяпер. Жадаюць бачыць мяне хоць раз яшчэ перад нямінучым адыходам у вялікую дарогу вечнасьці... А хіба-ж і я не жадаю бачыцца з сваімі старымі бацькамі?.. Ды ня толькі жадаю, але і адчуваю маральную павіннасьць пабачыць іх, суцешыць іх старыя гады. Вось чаму я рашыў зьвярнуцца ў Польскі кансулят у Празе, каб выдалі мне пашпарт грамадзяніна Польскае дзяржавы. Калі выдадуць, паеду ў Вільню і далей у сваю родную вёску. А там... ня ведаю, што далей будзе. Якбы там ня было, але я ніколі, ні пры якіх абставінах не перастану жыць і працаваць для дабра свайго народу!"

Каля пяці год я не атрымоўваў ад Тамаша Грыба вестак, але заўсёды яму пасылаў, што надрукавана было ў беларускай мове ў Латвіі. Аж урэшце ў апошнім пісьме датаваным 6.IV. 1937 г. Нябожчык паведамляе мяне аб цяжкім стане свайго здароўя: „Занядужэў, моцна занядужэў і ўжо трэці месяц ляжу ў бальніцы. Апошнімі днямі пачынаю ўжо ляпей сябе адчуваць. Спадзяюся, што ў канцы гэтага месяца выйду з бальніцы і можа і ня зусім здаровы — на гэта ўжо ня маю надзеі, — але настолькі ўжо, каб магчы хоць трошачкі рухацца і працаваць"...

Я адразу-ж напісаў яму, прасіў яго хоць адкрыткамі паведамляць мяне аб стане свайго здароўя, але ўжо нічога не атрымаў. Відаць хворасьць моцна ўчапілася за яго, прыкавала яго да ложака, і ў неспадзеўкі да Рыгі дакацілася вестка: Тамаша Грыба няма.

Ня зьдзейсьніліся яго лятуценьні аб пераезьдзе ў сваю родную краіну, не пабачыў ён і сваіх бацькоў, спынілася яго карысная культурная, навуковая і грамадзкая праца, перастала біцца чыстае сэрца аднаго з лепшых беларускіх працаўнікоў і інтэлігентаў! Сумна, дужа сумна стала мне, як і кожнаму, хто хоць крыху ведаў Нябожчыка. Пачаў я перачытываць яго пісьмы да мяне і так шмат знайшоў у іх цікавага, як з боку агульнанацыянальнага, так і для характарыстыкі надзвычайна сьветлай істоты Тамаша Грыба, што рашыў пазнаёміць з імі чытачоў „Калосься".

Хай гэта будзе невялічкім вяночкам на далёкую ад нас магілу-урну Тамаша Грыба, хай яму будзе лёгкай братняя чэская зямелька і хай памятка аб ім вечна жыве сярод беларускага грамадзянства і асабліва сярод беларускай моладзі!

*С. Сахараў*

# Беларускі канцэрт 4.III.1938

## Хору Шырмы і А. Чарняўскай-Орсы

Няма, напэўна, у Вільні нікога, хто любіў-бы музыку і нічога ня чуў аб беларускім Хоры Рыгора Шырмы; няма нікога, хто раз паслухаўшы гэты Хор, не захацеўбы яшчэ і яшчэ слухаць. Што-ж дзіўнага, што ня трэба было вялікай рэклямы, афішаў ці абвестак, каб уся музыкальная Вільня даведалася, што ў нядзелю 4-га сакавіка Хор Шырмы і маладая сьпявачка Аўгеньня Чарняўская-Орса пяюць у унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх. Перадавалі аб гэтым адзін аднаму знаёмыя на вуліцах, студэнты і вучні на лекцыях — і перад канцэртам вялізная заля Сьнядэцкіх была поўнай. Беларуская мова панавала ў залі і карыдорах, але нямала прышло й расейцаў, палякоў, жыдоў. Пераважала моладзь — арганізавалі канцэрт беларускія студэнты,—было аднак і шмат прадстаўнікоў старэйшага грамадзянства, духавенства, праваслаўнага і каталіцкага, прыйшлі паслухаць сваю песьню і сяляне, прыехаўшыя ў Вільню на традыцыйны кірмаш.

Пачаў пяяць Хор. Перад слухачамі адкрывалася ўся магутная глыбіня, незямная прыгожасьць, замкнутая ў простай, прымітыўнай часамі, мэлёдыі беларускай песьні. Шырма зглыбіў, зразумеў вартасьць гэтай песьні і не *памагае,* але *змушае* кожнага адчуць яе хараство.

Хор Шырмы ня сьпіць, ён усьцяж працуе, дасканаліцца, шукае новых песьняў, новых адценкаў іх выкананьня. На апошнім канцэрце, як і на кожным папярэднім, шмат было песьняў новых, няведамых яшчэ шырокай публіцы, сьвежа гарманізаваных такімі мастакамі, як Грэчанінаў, Кошыц, Галкоўскі. Сьведчыць гэта вымоўна аб працавітасьці Хору і яго кіраўніка.

Трудна сказаць, якая песьня падабалася найбольш: усе былі выкананы вельмі добра, усе выклікалі шчырыя воклескі слухачоў.

Хор Шырмы пяе народныя песьні ў мастацкай апрацоўцы розных,—беларускіх, расейскіх, украінскіх—композытараў, але песьні гэтыя ня губляюць свайго народнага, беларускага характару. Заслуга гэта ня толькі композытараў, працуючых над беларускай песьняй, але і рэгента Хору — Р. Шырмы, які беларускую песьню знае, разумее і любіць. Як-жа бліжэйшае духу народнай музыкі выкананьне Хору Шырмы ад выкананьня рознага роду ,,людовых зэсполаў,“ выступаючых часам у радыё! Народная песьня, асабліва беларуская, ня церпіць вульгарнасьці, як ня церпіць яе сапраўднае хараство, сапраўднае мастацтва. Шырма гэта ведае, гэтага трымаецца, таму і Хор яго заўсёды стаіць на мастацкай вышыні.

Маладая сьпявачка Аўгеньня Чарняўская-Орса, няведамая дагэтуль у Вільні, паказала сябе здольнай артысткай. Сьвежы, моцны і мяккі голас варожыць ёй слаўную будучыню.

У першай частцы канцэрту артыстка выканала некалькі арыяў Гэндэля, Вэрдзі, Монюшкі, Бойто. Выкананьне здавалася можа крыху „школьным,“ артыстка не пазваляла сабе выйсьці за рамкі чыстага „bel canto“ нават у найбольш патэтычных мейсцах выконываных твораў. Гэтая аднак „строгасьць“ выкананьня бароніць маладую артыстку перад пакусай танных эфэктаў і фальшывага патосу, памагае ёй заўсёды захоўваць шляхотную прастату і прыгожую павагу музыкальнага выражэньня.

У другой частцы канцэрту А. Чарняўская-Орса пяяла народныя песьні ў апрацоўцы праф. Галкоўскага і, на заканчэньне, „Маладую Беларусь“ таго-ж композытара (на словы Я. Купалы. Народныя песьні ўдаліся артыстцы менш, выкананьне іх не стаяла на той вышыні, якой ад артысткі можна было-б спадзявацца, яна іх пяяць яшчэ не навучылася (у консэрваторыі напэўна гэтага ня вучаць), але знаньне беларускай мовы і ўроджаная музыкальнасьць памогуць ёй і ў гэтай галіне музыкі асягнуць адпаведную вышыню. Чакаем нецярпліва новага канцэрту.

**В. Баргановіч**

---

# „Знахар“

Заціраньне праяў беларускага жыцьця і ўсіх сьлядоў наяўнасьці беларусаў, якое здаўна праводзіцца нікаторымі дзейнікамі, у нашым краі, пад агульным назовам рэгіоналізму, узбагацілася новай пазыцыяй у галіне кінэматографіі. Гэтым новым укладам ёсьць фільм „Знахар“ паводле раману Далэнгі-Мастовіча, з тым-жа самым загалоўкам. Перадаваць зьмест ані раману, ані фільму ў гэтым месцы няварта, ён нас найменш цяпер эмоцыянуе, даволі, што ў рамане Мастовіча шмат акцыі адбываецца ў беларускай абстаноўцы — недзе каля млыну Пракопа Шапеля ў беларускай вёсцы ў Браслаўшчыне.

Трэба запісаць на дабро аўтара, што ён, як на сучаснасьць, чалавек адважны: карыстае із слоў, як „беларусы,“ „беларускі“ і нават скланяе іх — „беларускага,“ „беларускаму,“ „аб беларускім“! — Дае маленечкія няточнасьці, але гэта нічога. Піша ён, што ў беларускай хаце, нармальна бяручы, гавораць дубэльтова: пабеларуску і папольску (староньнік утраквізму). Але гэта яшчэ можна вытрымаць, — як на сярэдняга бэлетрыста ўзровень ненайгоршы. Што-ж датычыць фільму, рэклямаванага, як найвялікшы польскі шлягер, дык тутака спатыкаемся з рэгіоналізмам горшага парадку. Уявіце сабе, што ў беларускай хаце і вёсцы ўсе,

як на заказ, гутараць чысьцюсенькай польскай мовай і з якім яшчэ харошым акцэнтам! Сяляне з Браслаўшчыны так чароўна на экране гавораць папольску, ды яшчэ паміж сабою, што напэўна віленскіх эндэкаў і ім падобных зайздрасьць і сорам за сэрца хапае за іх собскі прононс. (Не пачуеце — „пане Зыгмунце"— не, дзе-ж там!). Проста варшаўскай вымовай захапляюць. Гэта, запраўды, надта вялікі крок наперад у разьвіцьці рэгіональнай думкі ў нашым краі!

Прыпомнім сабе адносна нядаўна дэманстраваны таксама фільм польскай прадукцыі „Што ў Вострай сьвеціш Браме," які адтвараў віленскую вуліцу. Ён, гэты фільм, стаяў яшчэ на ніжэйшай ступені рэгіоналістычнай драбіны.

Тамака мы бачылі і чулі віленскіх Казюкоў і Стасюкоў, гаворачых жаргонам Вінцука Маркотнага. Але чалавечая думка не стаіць на месцы. Яна, як той казаў, усьця-ж эволюцыянуе. Выпладам гэтай эволюцыі і зьяўляецца „Знахар." Цікава, што Мастовіч у сваім рамане адзначае месца акцыі — г. з. браслаўскі павет, рэалізатары-ж фільму ідучы за духам часу выкінулі гэта— толькі ў двух мясцох знаходзім топографічныя ўказаньні. На адным з надпісаў гаворыцца аб блізасьці Вільні, і на палатне бачым сялян, каторыя перад абразамі жагнаюцца праваслаўным спосабам.

Паўстае пытаньне, нашто было гэта пакідаць у фільме? Ці ня лепш было-б перанесьці месца дзейнічаньня ў Мазавецкую пушчу ці на Каспровы Верх?

Не пазбаўлена пікантэрыі рэакцыя г. з. шырокай публікі на вышэйпададзеныя недарэчнасьці. Усё ідзе ў парадку, усе з напружаньнем сочаць за разьвіцьцём падзеяў і гульнёй актораў (Юноша-Стэмпоўскі і Баршчэўская). Раптам селянін, каторага праз цэлы час глядзельнікі прыймалі за „rodaka", бо-ж гаварыў у ўрадавай мове, пачынае жагнацца перад абразом у тры пальцы справа налева. На залі констэрнацыя. Згублена пераглядаюцца.

— A bo to wiecie tam gdzieś koło Wilna. No tak! właśnie.— Сумна глядзець, як людзі самі сябе абдурываюць. І ня маюць нададатак пачуцьця гумару. Сыстэматычна кормяць сябе нейкімі хімэрамі. Ня хочуць зразумець існаваньня беларускага народу і адмахіваюцца рукамі і нагамі ад усяго беларускага. Каў-бой з Арызоны з кольтам у руцэ больш зразумелы для гэтых глядзельнікаў, чым Беларус з Браслаўшчыны. Знахар, чалавек загубіўшы сваю памяць, макабрычна прасоўваецца праз цэлы фільм. І запраўды выдаецца, што знахары ўвіхаюцца навакол беларускай душы!.. Ці не зашкодзяць самі сабе?

*А. Б—скі.*





## „Наша Песьня"

Гэтак называецца новы зборнік беларускіх народных песьняў з рэпэртуару шырока ведамага Беларускага Хору Р. Шырмы. У продажы зьявіўся ў пачатку сакавіка сёл.

У нармальных варунках зьявішча гэта здавалася-б быць так звычайным, што аб ім нечага асобна і ўспамінаць: хапіла-б гэта адзначыць нейдзе на вокладцы, у рубрыцы „прысланыя" і ўсё.

Ня тое ў нас Беларусаў, у Вільні, у 1938 годзе. У нашых варунках выхад у сьвет кожнай найменшай кніжачкі ёсьць здарэньнем вартым увагі з тае простае прычыны, што: 1. няма ў нас заможных людзей, якія самі маглі-б сыстэматычна апекавацца беларускім выдавецтвам, 2. беларускія арганізацыі, якія выдавецтвам гэтым апекаваліся, паўтара году ўжо як зачынены адміністрацыйнымі ўладамі, 3. з Фонду Нацыянальнай Культуры, з якога ўспамагаюцца выдавецтвы польскія, беларускія выдавецтвы нічога не атрымоўваюць... У гэтых варунках, паўтараю, кожная новая беларуская кніжка гэта важнае здарэньне.

З тым большым задаваленьнем трэба сустрэць выдавецтва з галіны беларускага народнага сьпеву: нікому не сакрэт, як вялікія сягоньня выкідаюцца сродкі, каб гэту песьню ад беларусаў „пазычыць" і з якой ахвярнасьцю супроць гэтага самі беларусы працуюць, каб сваю песьню ўтрымаць і пераказаць пакаленьню наступнаму. Гэтай ахвярнасьці трэба быць удзячным і за новы зборнік п. н. „Наша песьня".

Ёсьць гэта зборнік 15-цёх народных беларускіх песьняў у апрацаваньні на 4-галосы машаны хор такімі знаўцамі беларускай песьні, як Грэчанінаў, Галкоўскі, Рагоўскі і інш. Усе песьні сабраны з розных беларусамі заселеных абшараў, як Маладэчаншчына, Ваўкавышчына, Пружаншчына, Постаўшчына й інш. Большасьць гэтых песьняў запісаны самым рэгентам Р. Шырмам і ягоным так-жа стараньням у вялікай меры трэба прыпісаць сам выхад у сьвет гэтага цэннага зборніка.

Вонкавай аздобай зборніка ёсьць вокладка, якую запраектаваў і памастацку выканаў беларускі мастак М. Сяўрук.

Для кожнага, хто цікавіцца багацтвам беларускай народнай песьні, новы зборнік ёсьць вельмі цэнным здабыткам.

*А. Клімовіч*

# Хроніка

— 15.I віленскае гарадзкое стараства спыніла дзейнасьць — на дваццатым годзе існаваньня — Беларускага Нацыянальнага Камітэту, матывуючы сваё рашэньне мамэнтамі „безпечэнства, спокою і пожондку публічнэго“. У сувязі з гэтым, у той-жа дзень адбыліся ў памешканьні К-ту, у рэдакцыях часапісаў: „Хрысьціянская Думка“, „Самапомач“, „Шлях Моладзі“, „Калосьсе“, „Вядомосьці Бялорускe“, „Беларускі Летапіс“ і „Беларуская Борць“, а так-жа ў памешканьні старшыні Бел. Нац. Камітэту інж. А. Клімовіча рэвізія, у выніку якой забраны некаторыя рукапісы, лісты, друкі, а ў інж. А. Клімовіча забрана так-жа прыватная машынка да пісаньня. У нашым часапісе апроч рукапісаў, пераважна літаратурных, падчас рэвізіі забрана больш пяцідзесяці кніжак савецкага, менскага выданьня. Кніжкі ў свайм часе рэдакцыя „Калосься“ для літаратурна-навуковых мэтаў атрымала ад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, які з свайго боку атрымаў іх з Менску на варунках узаемнай вымены ад Беларускай Акадэміі Навук; а некаторыя кніжкі рэдакцыя наша атрымала з Менску беспасрэдна—дарычыла іх нам польская пошта. З забраных матарыялаў нічога нікому дасюль ня вернена. Прэзыдыюм Бел. Нацыянальнага Камітэту ад рашэньня старасты адклікаўся да ваяводзкіх уладаў. Бяз выніку пазытыўнага. Ваяводзкія ўлады пацьвердзілі становішча старасты... Пасьля гэтага, адміністрацыйныя ўлады прыслалі рашэньне, цалком ліквідуючае Беларускі Нацыянальны Камітэт. І ад гэтага рашэньня зложаны рэкурс вышэйшым адміністрацыйным інстанцыям. Такім чынам найстарэйшая ў Вільні беларуская нацыянальная арганізацыя, маючая вялікія заслугі перад Беларускім народам, знаходзіцца ў стадыі ліквідацыі...

— У студні месяцы мінула сто год ад нарадзінаў дыктатара Літвы і Беларусі, ахвярнага барацьбіта за лепшую долю народаў нашага краю, слаўнага Кастуся Каліноўскага, павешанага царскімі ўладамі ў 1864 г. у Вільні на Лукішках. У літаратуры беларускай найбольш поўна і гістарычна правільна прадстаўлена пастаць гэтага слаўнага нашага героя ў працах кс. Адама Станкевіча („Кастусь Каліноўскі, „Мужыцкая Праўда“, і ідэя незалежнасьці Беларусі“).

— Дня 25-га студня адбыліся ў Празе чэскай, у крэматоры, пахараны памёршага прадчасна дня 21.I беларускага культурнага і грамадзкага дзеяча, сьв. п. Дра Тамаша Грыба. Падчас пахаранаў прамаўлялі прадстаўнікі ад Беларусаў, Чэхаў, Расейцаў, Украінцаў, Грузінаў, Калмыкоў і інш. Жалобны цывільны цэрэмоніял закончыўся беларускім нацыянальным гімнам „Не пагаснуць зоркі ў небе“ — адыграным на арганах. Урачыстыя пахараны зарганізаваў беларускі грамадзкі Камітэт, у складзе: В. Захаркі, інж. В. Русака, дра Я. Ермачэнкі, інж. Барткевіча і інж. А. Калошы.

— У пачатку б. году скончыў Акадэмію Мастацтваў у Рызе гр. Пётра Міpановіч, — Беларус з Прыдруйшчыны.

— 6-га лютага сёл. адбыўся штогодні агульны сход сяброў Беларускага Навуковага Т-ва. Сход пачаў ўшанаваньнем памяці памёршага ў справаздачным годзе сябры Т-ва гр. Івана Цеханоўскага, б. дырэктара беларускае гімназіі ў Наваградку. Паводле зробленай на сходзе справаздачы, Урад Т-ва адбыў 7 паседжаньняў. З важнейшых выступленьняў Ураду ў справаздачы адзначаны зварот да старшыні Рады Міністраў — з дамаганьнем, каб з дзяржаўнага фундушу Нацыянальнае Культуры была дадзена дапамога і на беларускую культурную працу. Зварот гэты пазытыўных вынікаў ня даў. — Другая справа, у якой выступіў Урад Т-ва, гэта дамаганьне накіраванае да самаўраду м. Вільні, каб пры пераглядзе назоваў віленскіх вуліц дванаццацём з іх былі дадзены назовы заслужаных сыноў Беларусі (сьпіс імёнаў быў друкаваны ў „Калосьсі“ ў 1937 г.). Вынікі гэтага выступленьня дагэтуль няведамыя.

Галоўная праца Т-ва, як выявілася з справаздачы, вялася ў Музэйнай Радзе і ў сэкцыях: літаратурна-мастацкай, гістарычнай і языкаведнай. (Справаздачы з дзейнасьці сэкцыяў былі ў „Калосьсі“ сваечасова зьмешчаны).

Пасьля справаздачы Ураду і дакладу Рэвізыйнае Камісіі аб праверцы касы і маемасьці Т-ва, сход даў Ураду абсолютарыюм. Далей абгавораны быў плян працы Т-ва на наступны год і выбраны новыя ўлады Т-ва.

— Згодна з справаздачай Музэйнае Рады за 1937 год, у Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча прыбылі гэткія новыя рэчы: манэт — 650, у аддзел этнаграфіі — 88 рэчаў, прэгісторыі — 9, разьбы народнае — 2, абразоў і рысункаў — 13, розных іншых — 22, агулам — 784 рэчы. Апрача таго: калекцыя віленскае цэрамікі (кафляў), рукапісы М. Багдановіча, Ул. Жылкі, К. Каганца, копіі актаў судовага працэсу Якуба Коласа ў Віл. Суд. Палаце, старыя рукапісы ад гр. Б. Брэжгі (з Дзьвінску), багатая карэспандэнцыя ў справах вуніі, шмат фатаграфіяў і інш. Экспонаты атрыманы пераважна, як дар. Сваімі экспонатамі Музэй абслужыў дзьве выстаўкі: выстаўку народнага мастацтва ў Варшаве і выстаўку Марыёлёгічную ў Вільні.— Агледзілі Музэй у працягу 1937 году 4569 асобаў, у тым ліку 110 экскурсіяў.

На пачатку 1938 г. Беларускі Музэй узбагаціўся цэннымі экспонатамі ў галіне іконаў і разьбы - народнае і мастацкае. Мастацкая разьба паходзіць з XVII стагодзьдзя. Адзін з экспонатаў гэтае групы мае подпіс мастака-разьбяра — Казімера Круповіча (1697 году).

Лічба кніг у Бібліятэцы пры Музэі павялічылася за год на 309 тамоў. У бібліятэцы значна пасунулася праца над укладаньнем рачовага каталёгу.

— Віленскі Апэляцыйны Суд 9-га лютага пакараў нашага супрацоўніка Максіма Танка 6-ці месячным вастрогам за сканфіскаваны летась зборнік ягоных твораў „На этапах“. Такой-жа карай суд аблажыў і выдаўца зборніка, гр. Труцьку. Абодва засуджаныя адклікаюцца ў Найвышэйшы Суд, як інстанцыю касацыйную. Танк і Труцька ў першай судовай інстанцыі былі апраўданы.

— Слаўны наш сьпявак Міхал Забэйда-Суміцкі ў лютым месяцы і ў першай палавіне сакавіка аб'ехаў некаторыя гарады нашага краю — Ваўкавыск, Слонім, Баранавічы, Наваградак, Несьвеж, — дзе выступаў з канцэртамі, у праграме якіх былі і беларускія народныя песьні.

— Грам. Пётра Сяргеевіч, ведамы ў краю беларускі мастак, у канцы лютага адбыў падарож у Рым. Пры гэтай нагодзе пабываў у Вэнэцыі, Флёрэнцыі, Вене і ў іншых местах. Мэта падарожы мастацка-турыстычна-навуковая.

— У Варшаве беларуская калёнія ўрэшце зарганізавалася ў Асьветнае Т-ва Беларусаў у Варшаве. Т-ва гэтае ўжо прыступіла да працы. (Адрыс Т-ва: Warszawa Świętokrzyska 9—18).

— 4-га сакавіка адбыўся ў Вільні арганізаваны Беларускім Студэнцкім Саюзам канцэрт беларускай песьні. Рэцэнзію на канцэрт пяра праф. В. Багдановіча зьмяшчаем на іншым месцы. Тут адзначаем яшчэ дужа эфэктоўнае выступленьне, на заканчэньне канцэрту, беларускіх танцораў, на чале з мграм. Я. Хворастам, якія выканалі беларускія народныя танцы „Лявоніху“ і „Чарота“ ў мастацкім афармленьні мгра Я. Хвораста.

---

— Інстытут геолёгіі і гідрагеолёгіі Акадэміі Навук БССР выканаў новыя працы ў галіне вывучэньня геолёгічнай будовы БССР. — У Глускім раёне выкрыта возера горкасалёных водаў. Дзеля іх вывучэньня заложана буровая студня. У Камарынскім раёне знойдзены два мэтэорыты, з якіх адзін важа 288 клг.— У Гарадоцкім раёне выкрыта і вывучана значная магнітная аномалія, каторая цягнецца шырокай паласой на 55 клм., на поўнач ад г. Віцебска. Яна відавочна паказвае на прысутнасьць тут нетраў магнітнай жалезнай руды. Із карысных выкапняў вялікую ўвагу інстытуту звярачываюць вівіяніты — вартасны ма-

тарыял для гнаеньня зямлі. Вывучаныя інстытутам падземныя воды БССР, а так-жа зроблены захады ў справе зарганізаваньня геолёгічнага музэю.

— Выстаўка „БССР за 20 год", якая адбылася ўвосені м. г., выклікала заінтэрэсаваньне да самадзейнага мастацкага творства. — У апошнім часе ў БССР выявілася каля 40 талентных мастакоў — самавукаў, што з удачай працуюць над мастацкімі вырабамі з дрэва (мазаіка, інкрустацыя, разьба),

— У Рэчыцкім раёне БССР вучань сярэдняй школы, пятнаццацігадовы сялянскі хлопчык, Васіль Курыловіч ад раньняга дзяцінства праяўляе здольнасьці да рысаваньня; займаецца ён таксама і скульптурай. Гэты здольны мастак-самавук многа мае нарысаваных абразоў і скульптураў.

— Газэта „Сов. Белоруссія" (№ 37, 15.II.38) сьцьвярджае факт вялікага заінтэрэсаваньня грамадзянства ў Беларусі музэйнай справай, гістарычнымі памятнікамі і матарыялямі. — Толькі за 206 дзён 1937 г. Менскі гістарычны музэй наведала 23.429 чалавек. Газэта падае далей, што гістарычныя музэі ў БССР знаходзяцца ў вельмі кепскіх варунках, дзеля чаго колькасьць іх з году ў год зьмяншаецца. Некалькі год таму было ў БССР 15 музэяў, цяпер асталося толькі сем. Аршанскі, Рэчыцкі, Слуцкі і інш. музэі аканчальна развалены, многія экспонаты прапалі. — За адносна кароткі час закрыты Полацкі, Бабруйскі і Тураўскі музэі. З г. зв. цэнтральных музэяў існуюць яшчэ чатыры: Менскі, Гомельскі, Віцебскі і Магілеўскі, у каторых знаходзіцца многа вельмі вартасных помнікаў старасьведчыны.—У Камісарыяце Асьветы БССР, які кіруе музэямі, паводле газэты, „аб тым, што робіцца нават у гэтых цэнтральных музэях, якія іх багацьці, хто там працуе, — ня знаюць, не інтэрэсуюцца". Напр. Менскі гістарычны музэй, з прычыны нястачы выгоднага памешканьня, з усіх матарыялаў выстаўлены толькі 20 прац., усе іншыя звалены ў сырыя» няпрыгодныя для іх перахаваньня пакоі... Паводле газэты дрэнны стан музэйнай справы выкліканы ня толькі ўспомненымі прычынамі, але так-жа і адсутнасьцю працаўнікоў-спэцыялістаў, якія ня хочаць працаваць у музэях, бо... не забясьпечываюцца адпаведна з матарыяльнай стараны.

— 5-га лютага скончыўся ўсебеларускі (Сав. Беларусь) конкурс на лепшыя музыкальныя творы кампазытараў і пісьменьнікаў БССР. На конкурс прыслана ўсяго 42 творы, з якіх журы прызнала лепшымі і прэміравала: тры маршы для духовага аркестру — кампазытараў Залатарова, Іванова і Рыбкіна, па аднон масавай песьні — Аладава, Чуркіна, Цікоцкага, Любана і Іванова. З пісьменьнікаў прэміраваны за тэксты песень — Хведаровіч.

— Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі выдала сёлета тыражом 8.000 экзэмпляраў зборнік „Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песьні" (бач. 240). У зборніку песьні для харавога і солёвага выкананьня. Кніжка зьмяшчае каля ста мэлёдыяў і тэкстаў. Есьць гэта ня што іншае, як казённая хвальба і гімны Сталіну, Варашылаву і іх саратнікам.

— У пачатку сакавіка адбылася ў Менску надзвычайная сэсія Акадэміі Навук БССР. На сэсіі выбраны звычайным сябрам і прэзыдэнтам Акадэміі Навук — на месца Сурты — Канстанцін Васільлевіч Горев. Нававыбраны прэзыдэнт у 1930 г. скончыў Маскоўскі інстытут каляровых мэталяў, ад 1933 г. — ён дацэнт гэтага інстытуту і кандыдат тэхнічных навук.

Як-ніяк, выбары з такімі кваліфікацыямі „вучонага" на становішча прэзыдэнта Акадэміі Навук — гэтай найвышэйшай савецкай навуковай установы ў Беларусі — ці не зьяўляецца над ёю (Акадэміяй) горкай насьмешкай?! А горш яшчэ — гэты факт сьведчыць аб усіленым тэмпе русыфікатарскай работы Масквы ў Беларусі.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і мгр. Я. Шутовіч.*
*Рэдактар-выдавец: мгр. Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Наша песьня**, зборнік 15-ці беларускіх народн. песьняў, 1938. Вільня.
**Heinrich Anders**, — Das Posener Deutsch im Mittelalter, часьць I. 1938. Вільня.
**Записки** наукового товариства імени Шевченка, т. 155, 1937.
**Włodzimierz Bączkowski**, — Grunwald czy Pilawce.
**M. M.**,—Z. S. S. R. —Rzeczywistość, Варшава 1937.
**Prąd**, IX—X (t. 34) — 1937, I, II (t. 35)—1938, Люблін.
**Oriens**, сшыток 1, 1938. Кракаў.
**Wschód—Orient**, № 4, 1936, № 1—2, 1937. Варшава.
**Рідна Мова**, ч.ч. 1, 2, 3, 1938. Варшава.
**Вістнік**, кн. 1, 2, 3, 4. 1938. Львоў.
**Назустріч**, №№ 1—6, 1938. Львоў.
**Slavia**, сшыток 2. 1938. Прага.
**Katolik**, č.č. 1, 2, 3, 4, 5, 6.—1938. Прага.
**Sygnały**, №№ 37—42,1938. Львоў.
**Polityka**, №№ 1—6. 1938. Варшава.
**Pax**, №№ 1, 2, 3—4, 1938. Вільня.
**Kuźnica**, №№1—4.1938. Катовіцы.
**Sprawy Narodowościowe**, № 4—5, 6. 1937. Варшава.
**Відроджэння**, ч. 3. 1938. Львоў.

## ПАПРАЎКІ ДРУКУ:

1. У кніжцы 4 (13) з 1937 г. „Калосься" у артыкуле Ад. Станкевіча „У аспэкце соцыяльнай справядлівасьці," бяз згоды аўтара, у лік русыцызмаў (бач. 203) карэктар часапісу залічыў слова „зара."

2. У гэтай, № 1 (14), кніжцы „Калосься" праз недагляд надрукавана: на бач. 1-й, — у радку 12 зьнізу — замест „шпораў" — „штораў," у радку 5-тым — замест „у месяца човен"— „у месяцы човен," на бач. 8-й, у радку 5-ым зьверху, — замест: „Я перапрашаю, а зноўбы"... — надрукавана: „Я перапрашаю, я зноўбы"...

«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная кніжка — 50 гр. Заграніцу 3 зл. 20 гр. —
*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*

«KAŁOśSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.

«KALOśSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 2 (15) „Калосься“



(Працяг зьместу на 3 бач. вокладкі)

Вокладку запраектавала і выканала В. Пракаповічанка



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

Кніжка 2 (15) 1938 г. Год IV



МАКСІМ ТАНК

## КАЗКА ПРА МУЗЫКУ

I.

За борам цёмным, вялікім,
дзе зачапіўшыся за сасновы грэбень
калышыцца сіняе неба,
жыў сірата-Музыка.
Ня меў ён ні двара, ні гароду,
сярмяжку толькі старую —
прыкрыцца калі непагодай —
і жалейку жывую.
А іграў ён заўсёды весела,
нат дрэва пачуўшы яго, —
хоцьбы найніжэй чупрыну зьвесіла, —
зашуміць-засьмяецца,
атрасаючы пыл;
закалышыцца вецер
і заскачуць як зайцы на полі снапы.
А што ўжо казаць пра людзей!
Хоць жыцьцё незавідным было,
а з Музыкам хацелася жыць і жыць...
Вось які з яго быў чарадзей!

Далёка, дзе сонца хаваецца,
а мо і яшчэ далей,
жыў Цар у палацы вялікім.
Ён пачуў ад бывалых людзей,
што на сьвеце ёсьць гэткі Музыка. —
Загадаў Музыку таго прывясьці,
у палац, на царскія вочы.
Прывядуць, — усіх азалоціць,
а то — лепш і дамоў ня йсьці...
Ішлі слугі Цара дзень і ноч,

пры сонцы, пры месяцы высокім, —
то лесам, то полем, гарой,
то сухадолам глыбокім.
Аж пачулі: нехта недзе грае,
толькі дзе і хто — ня відзяць,
хоць ідуць на дзіўны голас краем
ужо цэлы тыдзень.
Адзін кажа: можа гэта здань?
Другі: — мо трава сьпявае?
Толькі трэці, прылажыўшы вуха,
кажа: братцы, тут зямля такая!..
Можа лепей пойдзем да ракі,
ды спытаем, што такое?
Бачу я, — пад лесам рыбакі
ловяць сонца ў вадапоі.
Аж глядзяць — насустрач ім ідзе
у лапцёх лазовых хлопчык невялікі.
Вось паслы ў яго пытаюць: дзе
ў вас жыве такі Музыка?
Выняў ён жалейку ды зайграў, —
толькі зазьвінела рэха борам,
разьлілося шумам траў,
высыпалі песьню слухаць зоры...
Тут усе пазналі, хто прад імі.
Вось паслы і кажуць: хоча Цар
адкупіць жалейкі гэтай чар
разам з песьнямі жывымі.
А Музыка кажа: бедны мы,
сам я голы, як калок у плоце.
Можа ваш багаты гаспадар
наша ўсё каменьне пазалоціць,
але я жалейкі не прадам,
ні зашто яму, ніколі.
І пайшоў Музыка ў даль,
ў даль сінеючую, ў поле.

2.

Доўга радзілі паслы
над сваей бядой-няшчасьцем.
Парашылі, што жалейку
трэба ім украсьці.
Скураной дарожнай торбай
з іх патрос адзін:
з торбы выляцела Птушка,
паднялася ў сінь.
А другі на мокры дзёран,
з сьвіткі рукава,



вытрас Цень кудлаты, чорны, —
ні воўк, ні сава, —
аж здаецца пацямнела
неба, зелень траў...
Трэці... Гадзіну з запазухі дастаў.

Вось адзін пасол гавора
Птушцы: — Ты ляці,
дзе лускою серабрыстай
Нёман зіхаціць,
дзе купаецца зялёны
вецер у траве... —
там здаецца гдзесь Музыка
ў тым краю жыве.
Цені кажа:—Пойдзеш полем,
згасіш ясны дзень
і зблытаеш сьцежкі зораў
з сьцежкамі людзей.
Кажа Гадзіне:—Як толькі
край задрэме ўвесь,
да Музыкі па жалейку
ціха папаўзеш.

Над ракою зьвісла жыта
і клён малады.
Сьпіць Музыка пад ракітай,
ня чуе бяды,
што лягла нямая ціша
на палі, лугі;
што над ім блытае Птушка
чорныя кругі;
што апала ноч глухая
і па дзеразе
да яго на скат пясчаны
Гадзіна паўзе.
Сьніцца сон яму, што быццам
ружавее даль,
і пяе і залаціцца
ў Нёмане вада.
Бача дзіва: Цар ў палацы
ў золаце сядзіць,
сьмяючыся на Музыку
весела глядзіць.
Выпіў коўш альховы мёду,
выцер бараду,
і зайграў, ды на жалейцы,
ці-ра-ра... ду-ду...
Скочыў да Цара Музыка.

Зьнік раптоўна сон,
толькі шолах мокрай вікі
і калосься звон,
і ў траве шум чуе нейкі,
там, дзе яру скат...
І... за пазухай жалейкі
не знайшла рука...

3.

На курган рагамі вострымі
апёрся ясны месяц.
Йдзе дарогаю Музыка,
галаву на грудзі зьвесіў.
Ўсіх пытаўся: Можа бачыў,
можа чуў хто пра зладзеяў?!..
Але вечарам апошнім
нават вецер спаў, ня веіў;
камары ў густых чаротах
не снавалі з звону сільля,
нават сломка ціхім лётам
не абмыла сваіх крыльляў,—
толькі сьвечку запаліўшы,
сьветлячок адзін на дзіва
із-за папараці бачыў—
штось паўзло па сонных нівах...
Яшчэ бачыў нешта вожык,
але што? — і сам ня ведаў...
Распытаўся іх Музыка
і пайшоў на захад сьледам.

Доўга йшоў...Аж бача,—ў полі
ходзе па ральлі Араты
і з сяўні шырокай сее
жменяй чорныя зярняты.
Зацікавіўся Музыка
і Аратага пытае:
—Што ты робіш гэта дзядзька?
—Потам, сынку, засяваю...
Ды пытае у Музыкі:
Куды йдзе, з якога краю?
На дарогу даў у торбу
хлеба чорнага акраец.
Цэлы дзень ідзе Музыка.
Ізноў дзіва спатыкае:
Волат горы кіркай зносіць
і з далінамі раўняе.
Прывітаўся з ім Музыка,



пра няшчасьце сваё кажа...
А на гэта яму Волат:
—Што-ж, пайдзём з табою разам.
Пазаву Асілка брата.
На другім канцы разоры
ён сядзіць і днём і ноччу,
ўе пяньковыя аборы, —
каб разьвесіць ўсюды сільля,
і за лета і за восень
зьнішчыць птушак пералётных,
што пустуюць нам калосьсе.
А ён хай пакліча Вяля, —
ён стаіць дзесь за папарам,
разганяе дратаванай
пугай стада сівых хмараў...
У запас набралі лапцяў
і кануліся пад вечар
у далёкую дарогу,
торбы ўськінуўшы на плечы.

Падыйшлі да сіня-мора.
Мора дрэміць, серабрыцца...
Толькі аднаму Музыку
ноччу месячнай ня сьпіцца.
Чуе, на шляху паднебным
гусі дзікія гавораць
пра прапаўшую жалейку,
пра бяду яго і гора, —
што на родных яго нівах
і над Нёмнам яго слаўным
ня чуваць ніякіх песьняў,
не сьмяюцца людзі даўна...
І задумаўся Музыка...
Гусі крумкаюць-гавораць:—
за трохтысячнаю хваляй
востраў ёсьць на сінім моры...
Цар спраўляць задумаў сьвята,
мёд па чарах паліецца,
будуць на зачараванай
расьпяваць, іграць жалейцы...
— І мяне з сабой вазьміце!.. —
Ды ня чулі гусі крыку.
Толькі збуджаная хваля
пенай пырснула ў Музыку.

4.

Яшчэ ноч дрэміць сіне-глуха.
Таварышоў Музыка будзіць

і кажа ім пра тыя весткі,
што ён ад Выраю падслухаў.
Рашылі: трэба секчы сосны,
хутчэй зьбіваць вялікі плыт
і хоцьбы месяцы ці вёсны,
а на далёкі востраў плыць.
Шуміць бор цёмны, уздыхае.
Кіпіць работа, звон ударaў.
Гатова мачта смаляная,
на ей з кашулі белы парус.
І толькі збуджанае сонца
лоб медны падняло над логам —
плыт ціха па гладкой затоцы
крануўся ў дальнюю дарогу.
Вяслуюць ўсе, ды толку мала: —
прачнуўся раньні вецер шэры,
насустрач гоніць вал за валам,
ізноў варочае на бераг.
—Зацяжак плыт, — Асілак кажа,—
хай едзе Вяль адзін, з Музыкам,
каб не зьмяла іх бура часам —
няхай сябе прывяжаць лыкам.
А сам пайшоў на бераг з братам,
ляглі грудзьмі на жоўты ўзгорак,
і проста ў твар вятроў кудлатых
дзьмуць пачалі на сіне-мора.
І мора грозна застагнала,
на сонца плёснула, ўскіпела;
з вясельлем дзікім стада хваляў
плыт панясло на грывах белых...
Мінаюць дні, то ў моры тонуць,
то устаюць агнём зары.
Глядзіць Музыка з Вялем ў тоні,
і на каралі, і на рыб;
на груды пэрлаў і каменьняў,
на вадаростаў сьвет багаты,
і на затопленыя лодкі
купцоў, ваякаў і піратаў.
Над галавой, пад аблакамі,
кружыць арол з ахрыплым клічам.
Мо што згубіў ў баю з вятрамі,
ці ўбачыў сьвежую дабычу?
Ды адлятае без абеду
за вадзяныя горы-хвалі,
і толькі доўга яго сьледам
ўглядаецца Музыка з Вялем.



Гавора Вяль: — Здаецца востраў
я бачу,—а мо гэта сон?—
сьцяной залочанай і вострай
абнесены з усіх старон.
Бліжэй пад'ехалі і бачаць—
зялёны, дзіўны край зямлі.
Куды ня глянь — стаяць палацы,
а ў порце мачты, караблі;
шуміць народ, пяе, сьмяецца;
па цэлым беразе пакатым
вясельле чаркамі ліецца, —
гуляюць: Цар спраўляе сьвята.
Сядзіць сам высака на троне,
міністраў сем трымае бруха,
ў брылянтах, ў янтарох карона
цяжкая зьехала на вуха.
А слугі сьпераду і з-заду
кругом стаяць напагатове,
каб выпаўняць Цара загады.
На белых, на сталох дубовых
з вазёр і мора рыбы сьвежай;
зьвяроў, хлябоў і птушак дзікіх
з Палесься нетраў, з Белавежы...
аж не надзівіцца Музыка!

Гавора Цар: пара ўжо сяньня
гасьцей-бы чым разьвесяліць...
І вось да трону з прывітаньнем
падходзяць царскія паслы.
—Зайграем, кажуць яны, тое,
што самі струны запяюць...
Аж анямеў Музыка з болю,
жалейку ўбачыўшы сваю...
На цэлым беразе зялёным
ўсё змоўкла —цішыня нямая.
Ды ня чуваць чароўных тонаў...
Маўчыць жалейка, ня іграе.
Ўзлаваўся Цар:—эх, вось дык штуку
мне прынясьлі з якогась краю!
Няўжо-ж ніхто ня збудзіць гукаў,
ніхто на ей не заіграе!?
Маўчаць. Спусьцілі ўсе галовы.
І калі Цар другі раз клікаў, —
наперад, у лапцёх ліповых,
з кійком праціснуўся Музыка.
Узяў жалейку і —шчасьлівы —
ацёр палой сярмяжнай з пылу...
На ўсе лады і пералівы

яна ў яго загаварыла: —
то звонам жаваранка ў жыце,
то салаўіным сьвістам чулым,
трывожнай кнігаўкай ў ракіце
і ў лесе шэраю зязюляй;
а посьле доўга жнеі пелі,
чупрыніў вецер з стрэх салому,
сівыя хвалі Нёмну пеніў
і абарваў акордам грому...
А рэха ўсё яшчэ іграла
і змоўкла ў дальніх нетрах бору,
тады, калі Музыка з Вялем
дабеглі ўжо да сіня-мора.
Схапіўся Цар:—Хутчэй вярніце,
пагоню шліце за пагоняй!...
Але, як кагарка ў блакіце,
з кашулі белы парус тоне.

5.

Кажа раз Асілак брату:
—Глянь, дзе хвалі косіць шторм,
ці то грывай вал дзесяты,
ці то зломаным крылом
птушка тонучы махае?
— Не, ня хвалі там іграюць,
ня крылаты ўзмах птушыны,
але парус ў моры сінім!...
Кажа зноў Асілак брату:
—Глянь на сонечны загар,
быццам коней ляціць стада,
з шумам, з навальніцай хмар!
— Эх, ня хмары і ня коні
вадзяныя пенюць горы,
але царская пагоня
паказалася на моры!

Стогне вецер, вые дзіка,
круціць хвалі валам шэрым.
Ужо бача Вяль з Музыкам
бор сасновы — дальні бераг.
Яшчэ вёсламі ударыць.
Мачта хіліцца на бок.
Плыт ўразаецца ў пясок,
зьвесіў крыльля мокры парус,
на ім пены самацьветы...
Вяль Музыку так гавора:
—Мы гасьцей з-за сіне-мора



прывітаем без цябе тут.
Хопе ўсім сталоў—курганаў,
мёдам абнясём ліповым.
Хай даруюць, калі п'яна
з плеч пакоцяцца галовы,
ці у скоках пад нагамі
трэснуць панцыры іх, шлемы...
Ты йдзі польнымі шляхамі,
дзе над Нёмнам вербы дрэмяць,
дзе шумяць прасторы жыта
ў залатым, імглістым цьвеце.
Усё, што бачыў – раскажы ты,
перадай ім на жалейцы.
Разышліся. Вяль з братамі
ловіць мора сіні подых,
а Музыка йдзе шляхамі
і далінамі усходу.
Ўжо ў зялёных травах тоне,
ўжо закрылі яго межы,
толькі ўсё жалейкі тоны
разьліваюцца ў бязьмежжы.

А тымчасам у затоку
плывуць грозна параходы
і на бераг, на шырокі
Цар з дружынаю выходзіць.
Вось ён выступіў наперад.
Кажа: – Гніцеся у пояс!
Сплёў пусты для вас я нерад,
каб цягнуць да вадапою.
Лепей самі аддавайце
і жалейку і Музыку,
а то з вас сабе на лапці
надзяру мяккога лыка!
І хахоча ўся дружына.
Вяль гавора:—Што хваліцца!
Паглядзім, хто у даліне
устаіць ці ляжа ніцам...
—Што, няўжо-ж на вас, на гэткіх,
маей пстрычкі будзе мала? —
Ізноў разам Цар і войска
і паслы зарагаталі.
Посьле раптам змоўклі злосна
і пайшлі ўсе хмарнай сілай...
Вырваў Вяль з карэньнем сосну,
пояс патужыў Асілак,
Волат кірку зьняў з-за плечаў
і... спаткаліся з навалай.

Пачалі мясьці і секчы,
толькі рэха застагнала.
Быццам жнівам на іржышчы —
сноп на сноп — кладзецца сіла.
Цэлы дзень грыміць ігрышча.
Як стагі растуць магілы.
Наступае вечар сіні.
У місцы мора сонца тае.
Цёмна. Волатаў з дружынай
разьдзяліла ноч глухая.
Разышліся. Цар ля мора,
Вяль з братамі за курганы,
каб як згаснуць толькі зоры
заўтра зноў спаткацца рана.
Сьпіць зямля. Смугою ліпкай,
цёплым ценем сон ліецца,
толькі часам ціхай скрыпкай
заіграе польны вецер.

Хоць, нукае Араты,
цягне конь залёгшы шчыра
і сярэбрацца нарогі,
ад пяску сырога жвіру.
Часам сталь скрабне паліцу,
часам пырсьніць іскрай крэмень...
І хаваюцца пад дзёрнам
пікі, панцыры і шлемы,
чарапы галоваў, косьці...
Колькі Вяль з братамі выбіў!
Загулялі ўчора госьці...
Ну, раўней лажыся, сьціба!
Зааром, забаронуем,
ссыпем ядраны насевак
і запенiцца ўраджаі,
закалышуцца напевы

Толькі дзень замятусіўся,
Вяль прачнуўшыся гавора:
—Што за дзіва, дзе ні глянеш, —
ўсё баразны ды разоры!
І на захад і на поўнач
зачарнеліся бяз краю;
ня відаць сьлядоў ўчарашніх,
нават месца не пазнаеш...
Паглядзелі і рашылі
падплясьці, падправіць лапці,
на пакінутыя нівы
у дарогу выбірацца.



Сонца залатой пагодай
дываны жытоў абмыла.
Сеў Музыка каля броду,
пад бярозаю пахілай.
Думу думае маркотны:
—Ці жывы гдзе Вяль з братамі?
Можа хмарай пералётнай
і кудлатымі вятрамі
косьці беляцца на нівах,
сном асмужаных, шырокіх,
дзе ўсе песьні — шум прыліву,
і марскі салёны рокат.
Лятучы з краёў заходніх,
Гругал кружачы гавора:—
Ой, лягло палова войска,
войска царскага з-за мора...
А стары Крумкач над Нёмнам
кінуў вестку хвалям сінім:
—На баразнах ноччу цёмнай
доўга Цар блудзіў з дружынай.
Ўсюды сьцібы, гдзе ня пойдзе, —
ціш і толькі шопат зорны...
На ральлі бязьмежнай, чорнай
няжывы абоз іх знойдзен...
І штосьць ярка ў Нёман кінуў.
Паглядзеў Музыка ў тоні.
Таіць там красою дзіўнай
камень выдзярты з кароны...
І вясёлкамі зазьзялі
воды сінія, здаецца;
самі тоны заігралі
ў зачарованай жалейцы: —
ціхім шопатам крынічным,
шумам трысьнікоў зялёных,
медным коласам пшанічным,
васільковым звонам лёну,
рэхам збуджаным, вясёлым,
казкай даўняй над калыскай...
Ўсё здаецца: нівы, сёлы
нехта гукамі апырскаў...
А кругом красуе лета,
дрэміць вецер ў полі роўным;
сонца сьпелаю ранэтай
наліваецца над Нёмнам.

Вільня, 19.II.38 г.



ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ

# Я прышоў да вас зноў

Абрусом расьцілаецца поле ізноў,
ператканае сонцам і зеленьню.
Доўга, доўга калышыцца скрып званякоў
ў далі цьветам вішнёвым забеленай.
Тыя-ж песьні, што чуў яшчэ хлопцам малым —
і цяпер зьвіняць — недапяныя —
і ў іх жалю ўсё той беларускі палын,
недапіты дзядамі — падданымі.
Як раней, у вячэрні, ймгляны небасхіл
стада стрэх плыве недзе на россашы —
нібы ў просіні той, дзе бярозаў шляхі,
край ніводнай сьлязою нязрошаны.
Я прыйшоў да вас зноў, сонца, вёска, лугі, —
як спаткаеце госьця сягоньня?
Хоць даўно тут ня быў, хоць цяпер я другі, —
мазалі і ў мяне на далонях.
Госьць я ў вас—нечаканы, няпрошаны мо', —
ды з сабою прынёс я вам нешта: —
многа ёсьць у мяне зацьвітаючых слоў
і агнёў — казак роднага места.

* * *

Цяпер у нас засекі поўныя песьняў,
і пеніцца хмель у каўшох — хоць зьнімі. —
Вось так-бы чупрыны нам, хлопцы, тут зьвесіць
на гэтыя песьні, на гэтыя дні...
І глянуўшы ў рань нашых песенных ніваў,
у рунь нашых рыфмаў і словаў запен, —
пайсьці ізноў далей на новае жніва,
да новых, ядроных, нязнаных паэм!
Ня будзем іграць мы на жаласнай дудцы,
калі у нас столькі задору цяпер, —
нам струны ад песьняў навесістых гнуцца,
хай чуе ўвесь сьвет наш магутны канцэрт!
Чакаюць нас ясныя раніцы песьняў,
і далі у сонцы гараць без граніц, —
цяпер-бы чупрыны нам, хлопцы, тут зьвесіць
на буйныя песьні, на буйныя дні.



УЛАДЗІМЕР ЧЭМЕР

# Вялікі скарб нашай старасьвеччыны

*(750 угодкі »Слова аб палку Ігаравым)*

## I.

У канцы мінулага году сьвяткаваліся, праўду кажучы, даволі малагучна, 750-тыя ўгодкі нарадзінаў паэтыцкага твору, які з гонарам можа вытрымаць параўнаньне з найвялікшымі пэрламі сусьветнай мастацкай літаратуры. Мы кажам аб старарускай паэме XII веку, ведамай пад назовам „Слова аб палку Ігаравым."

Угодкі гэныя прайшлі так нягучна таму, што ўсе мы, усходнія славяне, не навучыліся яшчэ цаніць і шанаваць ні сябе, ні свае нацыянальныя скарбы, памяткі сваей слаўнай ці сумнай мінуўшчыны. Таму гэная поўная багацьця мінуўшчына, якая жыве ў гэтых памятках, *ня жыве ў нас саміх,* не ўзбагачывае сваімі скарбамі нашае душы, не ўскрашае ў нашай сьведамасьці гэнай мінуўшчыны, не зьвязывае з ей нашай сучаснасьці ў нейкае *адзінае ў часе і прасторы — вялікае цэлае, у вялікі гмах— „грамаду“* (Купала) *гістарычнага народу, культурнае нацыі.* Мы жывём у сваей большасьці, як нейкія, як кажуць расейцы, „іваны непомнящіе,“ не памятаючы свайго ўчарашняга дня, нават свайго запраўднага імя і прозьвішча... Таму мы й ня маем у сваей душы тае вялікае, трывалае і моцнае апоры, якую дае народу сталая духоўна-органічная сувязь з роднай мінуўшчынай. Таму, жывучы з дня на дзень, *мы ня жывём яшчэ, як народ, жыцьцём культурна-гістарычным, нацыянальнай гісторыяй.* Таму наш беларускі народ ня стаў яшчэ *нанова* тым, як кажуць, *культурна-гістарычным народам, якім ён быў — можа першы з усіх усходніх славянаў — у сваей мінуўшчыне...*

Шмат ёсьць шляхоў для кожнага народу, каб стацца вялікай культурна-гістарычнай нацыяй. Але яны ўсе, гэтыя шляхі, выходзяцца на адным — на шляху *самастойнага творства ў тых ці іншых палетках сусьветнай, агульна-чалавечай культуры.* Але ўсялякае творства наагул магчыма толькі на грунце *нацыянальнай самастойнасьці народу, якая вытвараецца ў яго гісторыі.* Таму — першым шляхом для адраджэньня нашага народу, для адбудаваньня ім гэнае свае ролі каваля свайго ўласнага лёсу, тварца агульна-чалавечых цэннасьцяў, зьяўляецца *навязаньне гэнай парванай у нас сувязі з роднай мінуўшчынай.*

## II.

Дамо-ж цяпер нашым чытачом дакладнае паняцьце аб гэтым творы.

Насамперш — некалькі слоў аб тым, як, дзе і калі знойдзены быў самы гэты памятнік.

У 1795 г. ведамы ў сваім часе расейскі асьветны дзеяч гр. Мусін-Пушкін знайшоў у м. Яраслаўлі рукапісны зборнік, якім паміж іншымі, популярнымі ў свой час, творамі, было і „Слова." Поўны тытул яго гучэў так: „Слово о пълку Игоревѣ Игоря Святославля, внука Ольгова." Ужо з гэтага назову відаць, што твор пісаны быў у мове вельмі блізкай да *царкоўна-славянскай* (стара-баўгарскай), якая ў гэныя часы была, як ведама, мовай літаратурнай на ўсім абшары ўсходняга славянства.

Сьпісак „Слова," знойдзены Мусіным-Пушкіным, напісаны быў так званым „полу-уставом," на падставе чаго, а таксама на падставе цэлага чароду фонэтычных і морфолёгічных асаблівасьцяў яго мовы, знаўцы адносяць рукапіс да XV—XVI в., не раней. На вялікі жаль, мы ня толькі ня маем ранейшых сьпіскаў „Слова," але нават гэны, пазьнейшы, напісаны тры-чатыры вякі пасьля ўлажэньня твору, згарэў у 1812 годзе, у часе вялікага маскоўскага пажару, узьнікшага на спатканьне Наполеона. Захавалася толькі копія, ці адпіс, гэнага сьпіску, зробленая, праўда, найлепшымі, як на тыя часы, знаўцамі палеографіі, але-ж праверыць дакладнасьць іхняга адпісу, паводле вымаганьняў сучаснае навукі, сталася немагчымым. Захавалася і тагачаснае друкаванае выданьне „Слова," з перакладам на расейскую мову, зробленае ў Маскве ў 1800 г.

З гісторыі нашых старадаўніх багаслужэбных кнігаў мы ведаем, як шмат рабілася перапісчыкамі ў іх памылак. Асьвета наагул, нават у манастырох, стаяла на нізкім роўні. Таму незразумелыя ўпоўні рэчы, аб якіх пісалася ў кнігах, да таго-ж *чужая,* хаця ў значнай меры і зразумелая для „асьвечаных людзей" кніжная мова, — усё гэта вельмі спрыяла памылкам пры перапісцы.

Памылкі гэныя, аднак-жа, маюць і нікаторую карысьць для навукі. Справа ў тым, што перапісчык, жыхар таго ці іншага дыялектычнага (моўнага) абшару, мімавольна ўносіў у сваю працу асаблівасьці яго жывое мовы. І вось, калі асаблівасьці *пісьма,* графікі, непамыльна сьведчаць аб *часе* старадаўняга рукапісу, дык з *памылак у мове,* якія зрабіў перапісчык, можна часта зрабіць няменш пераконываючы вывад аб *мейсцы,* абшары, дзе зроблены быў сьпісак. Фонэтычныя асаблівасьці сьпіску „Слова" сьведчаць аб тым, што ён паходзіць з *Пскоўшчыны,* якая, як ведама, зьяўляецца найбліжэйшай „дыялектычнай суседкай" беларускага моўнага абшару, прынамсі з боку вялікарускага.

Такім чынам, пасярэдніцтва сьпіску XV ці XVI в., даючы указаньне на месца паходжаньня *сьпіску,* не дае магчымасьці дакладна судзіць аб абшары, на якім ўложана было самае „Слова." Затое — *зьмест* гэтага памятніку дае на наша пытаньне блізу зусім точны адказ. Да гэтага зьместу яго мы й пяройдзем.



III.

У ваўсіх старадаўніх паэмах быў, як ведама, звычай пачынаць гутарку зваротам да таго ці іншага высокага „патрона" паэзіі — на небе ці на зямлі.

Так і аўтар „Слова" зьвяртаецца напачатку да нейкага „Баяна," свайго слаўнага папярэдніка. Гэны Баян, асабу якога некаторыя дасьледчыкі лічаць легендарнай, жыў, калі верыць аўтару „Слова" дый параўнаваць яго словы з хронолёгіяй летапісаў, гадоў за сто да яго. Характэрна, што аўтар неяк двойча адносіцца да гэнага свайго слаўнага „патрона" і папярэдніка. З аднаго боку, ён выхваляе яго за яго буйную, нястрыманую паэтыцкую сілу, з другога, — яўна іронізуе над яго за лішне ўжо пышнымі, да штучнасьці і недарэчнасьці, аздобамі паэтыцкага стылю, якія, можа, і патрэбны, каб заступіць адсутнасьць паважнага зьместу, але толькі засланяюць гэты зьмест, калі ён ёсьць. Усе гэныя пустагучныя прыборы і штукі ён лічыць зусім недарэчнымі ў сваей паэме, якая мае ў сваей аснове *гістарычную праўду вялізарнай важнасьці усенароднага здарэньня,* а сваей мэтай мае — *вывесьці з гэтага здарэньня вялікай важнасьці „урок" палітычнага розуму для ўсяго народу.*

Параўнаньне расказу „Слова" з суадказным апавяданьнем летапісаў (у Іпатаўскім летапісу — пад 6695 г.) сьведчыць аб тым, як точна аўтар трымаўся гэтай так высака ценімай ім, нават у паэзіі, гістарычнай праўды.

Гістарычнае здарэньне, якое лягло ў аснову „Слова," гэта— паход чатырох князёў *якраз з беларускага пляменнага абшару старадаўняй „Русі"* — проці адвечнага ворага славянскай Русі, пагражаўшага яе жыцьцю, волі і незалежнасьці з усходу і з поўдня, проці нязьлічаных турка-татарскіх ордаў, — качаўнікоў, наплываўшых з бязьмежных стэпаў Азіі. Але-ж, з гэтым самым турка-татарскім „усходам," проці якога трэба было аружжам бараніць самае сваё існаваньне, старадаўняя славянская Русь, апроч вайны, мела ўсьцяж, у мірныя часы, сталыя гандлёвыя зносіны. Мала таго, мірныя гэтыя зносіны закрапляліся ўмовамі і асабістымі, сямейнымі сувязямі паміж павадырамі з абодвух бакоў: рускімі князямі — і ханамі гэтых валацугаў стэповага ўсходу. Адбіцьцё абодвух гэтых істотных мамэнтаў жыцьця народаў — *вайну і мір* — маем мы і ў нашай слаўнай паэме, якая, такім чынам, зьяўляецца якбыццам нашай усходня-славянскай „Іліядай" і »Одыссэяй« адначасна.

На чале злучанага войска стаў пачынальнік усяго паходу, ноўгарад-северскі князь Ігар Сьвятаслававіч. Разам з ім пайшлі— брат яго Ўсевалад, кн. Трубчэўскі, іх пляменьнік Сьвятаслаў Олегавіч, кн. Рыльскі, і сын Ігара—Уладзімер, кн. Пуціўльскі Апроч таго, кн. Чарнігаўскі Яраслаў прыслаў атрад свайго войска ў дапамогу Ігару.

Як бачым, блізу ўсе гэныя княжствы ляжалі на тэрыторыі, якая ахопліваецца *этнографічным абшарам Беларусі* нашых часоў.

Вельмі цікаўна, што ў самым „Слове,“ якое мае выразную палітычную ідэолёгію, пабудаваную на галоўнай ідэі *адзінства Русі*, няменш ясна сьцьвярджаецца, хаця-ж, ясна, і асуджаецца — *існаваньне* супярэчных імкненьняў, імкненьняў да самастойнасьці, да нікаторага „сэпаратызму,“як мы скажам цяпер, да выразнай незалежнасьці ад кіеўскага цэнтру — нават у такіх справах, як вайна і мір, ад якіх залежала бясьпечнасьць усяе тагачаснае Русі. Мала таго,—якраз на гэтай супярэчнасьці, на гэтым сэпаратызьме „малодшых князёў“ вялізарнага, ляжачага на поўнач ад Кіеўшчыны, абшару, з цэнтрам ноўгарад-северскім, пабудавана якраз уся наша вялікая паэма старасьвеччыны. І гэта робіць „Слова“ асабліва цікаўным для нас Беларусаў.

*(д. б.)*

# Песьня аб паходзе Ігара

*(„Слово о пълку Игоровѣ“)*

*Вершаваны пераклад Янкі Купалы*)*

## ЧАСТКА IX

Ўжо бо Сула не цячэ ручаінай
К Пераяслаўлю быстрай, срабранай;
Дзьвіна ўжо балотам цячэ бязупыну
Да Палаўчан, пад воклік паганаў.

Адзін Ізяслаў толькі — сын Васільковы
Сам пазваніў мячамі сваімі
Аб шлёмаў літоўскіх стальныя аковы,
Ускалыхнуўшы днямі былымі.

Свайму пераняў славу дзеду Ўсяславу,
Сам пад чырвоным шчытам пабіты
Мячамі літоўскімі, лёг на крывавай
З Хоцьцем траве. А кажа тады той:

—„Дружыну тваю апранулі, князь, крыльлем
Птахі, а зьверы кроў палізалі!“
Ня быў тут брат Брачыслаў, над кавыльлем,
А ні другі — Усяволад. У жалі

*) Перадрукоўваем із „Збору твораў“ Янкі Купалы, т. IV. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1928. [Рэд.).



Адзін ён жамчужную з храбрага цела
Выпусьціў душу праз ажарэльле.
Заныла гамонка, вясёласьць зьнямела,
Трубы ў Гародні смутна запелі.

Яраславе і ўнукі вы ўсе Усяслава!
Апусьцеце ўжо сьцягі свае,
Пахавайце мячы пашчарбаны, бо слава
Ужо дзедава вас не спаўе!

Вы бо сваркай сваёй напусьцілі
Скрозь паганых па Рускай зямлі—
Па надзеле Ўсяслава, з чаго і насільлі
Ад зямлі Палавецкай пайшлі.

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Ўсяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусьціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня
І скочыў, памчаўся чым-сьвет
Да Кіева—града, да дня.

Кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зьверам лютым
З Белгарада ў поўнач; тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раньнем, узьняўшысь да зор.
Навограду браму лязом —
Сякераю насьцеж адпёр.

Разьбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком.

На Нямізе снапы сьцелюць
Галавамі,
А малоцяць-жа стальнымі
Іх цапамі.
На таку жыцьцё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.
Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;

Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.
А былі яны гусьценька
Ў процьмах вузкіх
Там засеяны касьцямі
Сыноў Рускіх:

Усяслаў князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, сьвету на зьдзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў.

Ён бо з Кіева да пятухоў
Горад Тмутаракань дасьцігаў
І вялікаму Хорсу бяз слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Зафеі сьвятой
Да завутрані, — ён-жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
Ў дзёрскім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасьціпна злажыў:
„Хітры, быстры, ні птах той быстран
Суду Божага не пераЖыў!“

О, стагнаці ўжо Рускай зямлі,
Як успомніць князёў з былых пор!
Уладзімера таго не маглі
Прыкаваці да Кіеўскіх гор.

А цяпер яго сьцягі нішто:
Адны Рурыку славу шумяць,
А другія — Давідавы ўжо...
Але стужкі іх розна вісяць.



*ЕРОНІМАС ЦЫЦЭНАС*

# Аб краіне, якая свабодна жыве

І што я табе, дарагі чытачу, магу сказаць аб Літве і аб Літоўцах?

Вазьмі мапу і кінь вокам на край, што ляжыць між Балтыцкім морам і латвійскай граніцай і дзе плывуць рэкі — Нёман і Вяльля. Гэта край людзей, якіх старадаўная гісторыя балтамі называла.

Вазьмі статыстыку: 56,000 клм². і 2,549,668 насельніцтва.

Адам Міцкевіч, жорсткім лёсам выкінуты на чужыну, тужліва й упорыста паўтараў:

„Litwo, ojczyzno moja!“

„Litwo...“ Так, чытачу, ты гэты край ужо здаўна знаеш. Вазьмі гісторыю:мае й твае прашчуры шмат супольнага мелі.Тваей мовай мае князі ў канцэлярыях пісалі, вялі дыплямацыю, тваей мовай напісаны Літоўскі Статут.

Чытачу! У 1915 г. праз твае палі немец прайшоў у Расею; цяжкіх гарматаў калёсы ў пясок абярнулі нівы, засееныя збожам, на месцы збураных вёсак акопы паўсталі і некальлі гадоў ня хлеб зямля радзіла, а сьлёзы, эпідэмію, здэмаралізаваньне. Ты, выкінуты з бацькаўшчыны, з помстай у сэрцы сьціскаў кулак свой. Ненавідзеў ты немцаў, патомкаў тых, якіх мае й твае прашчуры пад Грунвальдам на доўгія вякі зламалі.

Раманавых сям'я, — малых народаў вораг № 1, — ведамы і табе й мне, і ня ведаю дакладна, але чую, што беларус Кастусь Каліноўскі на захадзе Расейскай імпэрыі падняў сьцяг свабоды для ўсіх паняволеных народаў.

Песьня майго народу ўспамінае, што літовец „не ў фальварку і не ў двары рос, а ў вялікай нядолі“. Нешта падобнае і ў цябе мусіць быць. Дзяды нашы разам несьлі цяжар паншчыны, двαром свой мазоль і пот аддавалі. Паны ў школу нас ня пушчалі, у цемнаце трымалі. Урэшце выйшлі мы з дворнай няволі, але, на жаль, былі мы адпушчаны малазямельнікамі і хутка папалі ў няволю новых часаў, у няволю эканамічную.

Тым самым жалем плакала маці беларуска і маці літоўка, калі сына жандар у рэкруты забіраў.

Твайго народу цар не прызнаваў,рознымі спосабамі спыняючы яго нацыянальнае жыцьцё, і мой так сьціснуў, што ад 1864 аж да 1904 г. забараніў яму палітоўску пісаць, чытаць і друкаваць. Літоўская маці тайком вучыла сваё дзіця роднай мовы, хоць гразілі ёй арышты, ссылка, віселіца, хоць кожны шаг сьлядзіў жандар і сышчык, хоць была, як кажа паэт Майроніс: „ноч бяз раніцы“. Гэткім нелегальным спосабам ішоў літоўскі народ да свабоды. Вось што аб гэтым кажа ў 1895 г. аўтар народнага гімну В. Кудірка: „Ці гэтая маскоўская адміністрацыя такая агід-

ная, ці такая глупая, калі не разумее, што ваеннай камандай нельга супакоіць абуджаны дух народу, што самыя адважныя ротмістры, найсьмялейшыя генаралы, у руках якіх адміністрацыя, не ўспакояць патрэбаў духа і што ў барацьбе з прыродным чалавека пачуцьцём раней ці пазьней прайграюць ротмістры".

Літва ня ўпала прад расейскай імпэрыяй на калені. Напроціў, Літва, хоць і слабенькая, без арганізаванага грамадзянства, малазямельная і батрацкая, аб'явіла двугаловаму арлу вайну, вайну аж да апошняга выніку: жыць або памерці!

Сяньня, гледзячы з пэрспэктывы мінулых гадоў, можна з гордасьцяй запытацца: дзе цары, дзе Мураўёвы, дзе „матушка Россія?" Жыцьцё цьвёрдым кулаком скрышыла гэную „турму народаў". Не жандар літоўцу, а літовец жандару ўбіў у гроб апошні гвозд.

Чытачу! Ты знаеш Літву мінуўшых дзён, з якой ты ў многіх выпадках перажыў сумныя гадзіны.

Я маю намер расказаць табе аб Літве новай, аб Літве, што перажыла 20 гадоў свабоды.

1896 г. літоўскія народныя барацьбіты кінулі кліч незалежнасьці Літвы. Розныя дэфэтысты з гэтай прычыны сьмяяліся з іх. Прайшлі 22 гады і ў міжнародную гісторыю ўпісана Літва, як незалежная і самастойная дзяржава.

Згалелы, зьбеджаны, змучаны літовец 1918 г. 16 лютага з за гор убачыў усходзячае сонца. Было гэта абвешчаньне Незалежнасьці Літвы. Літовец гэтае сонца спаткаў і запрасіў яго ў сваю сялянскую хату.

За 1918-20 г. на фронце памёр 1401 літоўскі жаўнер, паза фронтам — 1066, 2671 — раненых і 154 інваліды. Падчас забароны друку толькі ў 1891—1902 г. аднята ад „кнiганашэльнікаў" 173 тысячы экзэмпляраў літоўскіх кніг, тысячы асоб папалі ў вастрогі, памерлі ад куль пагранічнікаў, пагінулі ў Сібіры.

Але сяньня прыгожае сонца сьвеціць над Літвой. А гэтага сонца імя — Незалежнасьць.

Сяньня ў Літве 6444 вёскі скамасаваны, сяньня (да 1937 г.) за дзяржаўныя грошы мэліорацыя абняла 379.659 га лугоў і балотаў; сяньня „Pienocentras" утрымлівае звыж 300 малачарняў, у якіх перарабляецца звыж 300 міліонаў літраў малака (селянін за малако атрымлівае да 30 міліёнаў літаў, за вывожаныя за граніцу 15 міліёнаў клг. масла); сяньня „Maistas" вывозіць мяса на 42,720,000 літаў; „Lietukis" да 1938 г. толькі за лён атрымаў ад заграніцы да 500 міліёнаў літаў; 2 фабрыкі цукру ўнутраны рынак абслужваюць цукрам да 30 міліёнаў клг. (сяляне за буракі атрымліваюць 8 міліёнаў літаў); 1247 гандлёвых прадпрыемстваў даюць работу 31.684 работнікам; сяньня 1683 коопэратывы вызвалілі селяніна з капцюроў пасрэднікаў; дзяржава пачала працу, маючы толькі 30.000 ост-марак, а сяньня сума дзяржаўнага буджэту — 340 міліёнаў літаў.

Ці-ж гэта ўсё было-б магчымым без незалежнасьці?



1937-38 г. у Літве (без Клайпэдзкага краю) працуюць 2092 чатырохклясавыя і 295 шасьці-клясавых пачатковых школаў (усяго разам: 5107 вучыцялёў і 276,675 вучняў); ёсьць намер увесьці прымусовы курс шасьцігодняй школы; сяньня, апрача гэтага ў Літве ёсьць: 1) 28 рамесьленых школ (307 вучыцялёў і 2651 вучань) і 54 школы профэсыянальныя (1200 вучняў); 2) 89 школ сярэдніх (18.838 вучняў), 3) Унівэрсытэт ім. Вітаўта Вялікага (7 факультэтаў, каля 300 навучаючага пэрсоналу, 3064 студэнты); 4) Земляробская акадэмія ў Датнове (200 слухачоў, для навуковых мэтаў 470 га аромай зямлі і 2500 га лесу); 5) Школа Мастацтва, 6) Музычная Консэрваторыя; 7) Гандлёвы Інстытут у Клайпэдзе, 8) Пэдагогічны Інстытут і 9) Вэтэрынарская Акадэмія.

Гэта ўсё Незалежнасьці заслугі!

Незалежнасьць відацца й тут: 1) Унівэрсытэцкая бібліятэка мае больш 100 тысяч тамоў, 2) Земляробская Акадэмія— 22 тысячы тамоў; 3) Дзяржаўны Цэнтральны Архіў — 150 тысяч тамоў, 4) У бібліятэцы пачатковых школ у 1930 г. зарэгістравана 408,058 тамоў; усяго разам: каля 2000 бібліятэкаў з $1^1/_2$ міліёнамі тамоў.

Толькі ў вольнай краіне праз год вучыцялі могуць наладзіць 56 народных унівэрсытэтаў, у якіх чытаецца 4032 рэфэраты, а іх слухаюць 168.156 слухачоў.

Першая літоўская кніжка выйшла ў 1547 г. Яе разьвіцьцё было гэткае: XVI ст — 24 кнігі, XVII — 46, XVIII — 193, XIX аж да забароны друку — 891 кніга, ад 1895 да 1904 — 3281 кніга, 1904—1914 — 4050 кніг, 1914—1918 — 800 кніг, праз 20 гадоў незалежнасьці да 13 тысяч кніг.

Рост кнігі можна сабе прадставіць, бяручы пад увагу выдавецтва „Spaudos Fondas". Гэта выдавецтва за 1923 г. выдала 2000 экзэмпляраў, 1925 — 36 тысяч экз., 1927 — 74 тыс., 1935 — 185 тыс. экз., 1937 — 300 тыс. экз. Усяго разам — больш двух міліёнаў экзэмпляраў кнігаў. У іх уложана больш як 1,5 міліёнаў літаў. За апошнія 6 гадоў „Spaudos Fondas" прадаў кніг на 3,720 тысяч літаў, толькі гонорару аўтарам выплаціла гэта-ж выдавецтва звыш 500 тысяч літаў.

У мінулым годзе ў кнігарнях усей Літвы праз першыя 7 месяцаў прадана прэм'еваных кніг больш-менш па 2300—3700 экз. у кожнай. А прэміі кожны год вызначае ў граніцах 1000—5000 літаў Міністэрства Асьветы, „Spaudos Fondas", „Sakalas", „Spindulys", „Чырвоны Крыж" і інш.

Першы літоўскі часапіс паказаўся 1832 г. Прад сусьветнай вайной, у Літве, што была пад Расеяй, выходзіла 25 часапісаў. У 1937 г. у Літве выходзіла 157 пэрыёдычных выданьняў (19 штодзеньнікаў, 38 тыднёвікаў, 100 іншых; каля 850 тысяч экз. усяго разам), а аднаго з іх: „Ukininkos Patarejas" расходзіцца па вёсках звыш 80 тысяч экзэмпляраў.

Гэта плады Незалежнасьці!

Незалежнасьці пяюць у Літве песьню 415 арганізаваных хораў (звыш 17 тысяч харыстаў).

Дзякуючы незалежнасьці ў часе 1919—37 г. 38,489 беззямельных атрымалі на ўласнасьць 360,068 га, а 25,924 малазямельных так-жа на ўласнасьць атрымалі 89,628 га; апрача гэтага так-жа атрымалі зямлі: 7,883 бедныя жыхары места, 201 парафіяльны касьцёл, 498 могільнікаў, 57 школ прыватных арганізацыяў, прытулкі і інш. Усяго разам на ўласнасьць атрымалі зямлю 73.052 асобы і арганізацыі, якім дана 455,613 га зямлі.

Чытачу! Гэтак выглядае новая Літва, упісана як дзяржава ў сучаснае жыцьцё сьвету.

Учарашні прыгонны сяньня жыве сваей воляй і свабодна наладжвае сваё жыцьцё. У гэтым жыцьці могуць быць перашкоды, могуць быць скрыўленьні і памылкі, але сама дарога, што вядзе праз свабоду, ёсьць праўдзівай, непахібнай.

Чытачу! Вышэй паданае выясьняць табе і памогуць зразумець — адрывак з працы літоўскага пісьменніка П. Цвіркі і вершы найнавейшых літоўскіх паэтаў. Можа яны ня будуць так дасканальны, як іншых краёў, можа ў іх не спаткаеш думак, як у іншых, але напэўна адчуеш, што гэта пакаленьне тых, якія далёка адкінулі і ярмо паншчыны і палітычнай нявол. Бо-ж гаспадар не прыбірае сваей сьвятліцы, калі сама хата гарыць. Гэтак і з літоўскай паэзіяй. Да здабыцьця незалежнасьці і яшчэ некалькі гадоў незалежнасьці, літаратурнае творства, усім зразумела, служыла справе бясьпечнасьці народу і агулам штодзенным патрэбам.

Чытачу! Калі табе прыдзецца быць у Коўні і бачыць вялізарны будынак Музэю Культуры ім. Вітаўта Вялікага, паглянь на бярозу, што расьце недалёка і на мінуту замоўкні, супакойся... Ціха гойдаюцца галіны дрэва, паважна стаіць будынак культуры, здалёку даносіцца рытмічны шум і ўгары над табой ціхае і раскошнае літоўскае неба — яны табе дапамогуць зразумець жыцьцё доўгавечнага твайго суседа.

Гэтулькі я табе, Браце Беларусе, магу сказаць аб Краіне, што пражыла 20 гадоў свабоды, сказаць тут, у Вільні, пазіраючы праз вакно ў сьцюдзёны траўнёвы вечар, на крыжы сьвятыняў, што ўзносяцца над местам і на тыя горы, што яго акружаюць...

Пераклаў **Ад. Станкевіч**





АНТАНАС МІШКІНІС

## Песьня аб Літве

Сінякрылыя кружаць птушкі;
Да нас вернуцца скора яны.
Па Жамойці, Аўкштоце і Дзуках
Запяюць рэкі, горы, бары.

У задуме там шэрай хаты,
Над гасьцінцам — бярозаў сукі;
Будзе зеленьню пахнуць ральля там,
А Літва зарунее ў душы.

Зааром плугам кожну пядзю.
Бараной скрышым мора-ральлю —
Старой долі сьляды загладзім,
Дзесь у прочкі прагонім бяду.

Самалётамі кінем весьці
У чужыя далёка краі.
Як кахаюць, каб зналі ў сьвеце,
Край ярынаў густых Ліцьвіны.

І нашто, скажым, зерні сыпім,
І за гумнамі сьпелім ляны,
Як пагоніць за лес, за сіні,
Вясна рэкамі сьнег і ляды.

Хай грымяць на'т сабе грымоты —
Калі ў сэрцы Літва зацьвіціць,
На вялікую рушым работу,
Каб усім было лепей тут жыць.

Што было — хай загіне бяз сьледу!
А цяпер—у вялікі паход!
Серабраным вазом паедзім —
Прывязём сабе Новы Год.

Вось пад небам ўжо кружаць птушкі,
Гэта новай вясны там арлы!
Па Жамойці, Аўкштоце і Дзуках
Зазьвіняць нашы горы, лясы!

Пераклаў **А. Г.**

*ЯН КОССУ АЛЕКСАДРАВІЧІУС*

## Пэйзаж

Ніва з прыдарожным крыжам,
Ў далі сіні пояс дрэў,
Аблакоў густыя крыгі,
Сумна звонючы напеў.
І бяроз і ветру гоман
Навяваючы тугу,
Мох зялёны на саломе
І вячэрні ціхі гул.
Далей тонучыя сёлы.
Ўклёнах стройных і густых
Нейкі шэлест ліп вясёлы,
Нейкі сум іх залаты.
Толькі скрып асьвераў льецца,
Шолах песьні у траве. —
Добра жыць тут і памерці,
Гараваць тут у Літве.

Пераклаў **Максім Танк**

*КАЗІС БОРУТА*

## Вобраз

Няраз блізкі твой бачу грозны вобраз
і вочы заімглёныя тугой, —
таму я жалюся на лёс нядобры,
на згасшыя сны шэраю парой.

Калі у віхры сэрца замірае, —
я ведаю — сьвет родзіцца другі,
з імглы ўстаюць дні новыя над краем
і бачу я нядолі берагі.

Тады зазьзяе твар агнём усходу
асыпяць зоры сьлед тваіх дарог.
І сонца мне зайшло не назаўсёды —
яно усходзе у тваіх вачох.

Туга і сум зьнікае, разсяецца
кругом як раніцай сьвятло, агні,
ўчарашні боль такім малым здаецца,
і толькі бачыш казачныя дні.

Прылівам сіл, надзеяй ўсхваляваны,
прашкоды крышучы—далей ідзём,
свабоды сонца устае ў змаганьні,
і новае прыгожае жыцьцё.

Пераклаў **М. Танк**



*ПЯТРАС ЦВІРКА*

## Падзел зямлі*)

Павылазіўшы з паграбоў, пастаўленых на месцы спаленых вайной хатаў, зазялянеўшымі межамі, сьцежкамі беглі сяляне на падзел зямлі паглядзець. За дваром Вышыншчына, у бок альшэўніку, на пустых палёх чарнелі грамадкі мужчын і жанок. На беразе рову сядзелі старыя, частаваліся табакай і прыглядаліся да работы каморнікаў. Навокал круціліся хлопцы й дзяўчаты, гаманілі, сьцёбалі адзін другога дубцамі, вербамі. На ўсіх твары відацца была нейкая вясёласьць, усёроўна як-бы на маёўку былі сабраўшыся.

Сьмялейшыя лезьлі да каморніцкіх прыладаў, прасіліся паглядзець, усюды сулілі памагчы. Сярод шчасьліўцаў, дaступіўшых паўзірацца праз астралябію, быў так-жа і Таруціс. Калі ён адвярнуўся, ахопленыя цікавасьцяй з грамады пыталі:

— Ці бачыў што?

— А як-жа! — усьміхаючыся казаў Таруціс, — граф сядзіць у балоце і ногці грызе. Ідзіце паглядзіце!

— Ну й жартаўнік гэты Юрка!

Сівы, як пухавінка, дзядок, некалькі гадоў пракрактаўшы ў ложку, апіраючыся на вялікі кій, прыклыпаў паглядзець каморнікаў, бо й да яго вушэй, занесеных пяском, заросшых густой шэрсьцяй, прабілася вестка аб замяшаньні каралеўстваў і аб зямлі падзеле.

Глухі быў дзядок, ня ўцяміў, што Таруціс з такой радасьцяй на твары абступіўшым яго выясьняў. То аднаго, то другога, цягнучы да сябе за рукаво, прасіў дзядок, каб сказалі, хто гэта такі, каторы гавора і што тут сталася? Хлапец шалаплут да вушэй дзеда прылажыў вусны:

— Цара забілі, Мікалая. Вайна будзе швэда з апонцам. Акопы капаем.

Па гэтых славах дзіцячыя нябескія вочы дзядулі зацягнуліся тканінай маршчынаў. Хвіліну, нахінуўшы вуха, надслухаваў, яшчэ здаровымі зубамі моцна прыкусіў дзеравяны цыбук люлькі і пры тым пусьціў з роту камы дыму.

— На што яго дражніш? — накінуліся старэйшыя на верхаласа. — Яго волас табе не таварыш.

— Калі ён усёроўна ня чуе. Парцэляцыю ў вушах трэба рабіць!

Навокал дзядулі і дразьнячага яго хлапца яшчэ больш сабралася. Таруціс нахіліўся да дзеда і доўга крычаў:

— Гэтыя землі забяром. Цяпер, дзядуля, самі будзем упраўляцца. Брухачоў зьвядзём. Усе будзем працаваць, і роўныя ўсе

*) З раману: „žemė maitintoja“ — Зямля карміцелька.

будзем. Дзядулю, як найстарэйшага, нашым судзьдзёй паставім. Ці добра будзе?

— Сьмех будзе бацьку нябожчыку і сыну, каторы йшчэ не нарадзіўся. Эх, вы забабоны! — зьбіраючы крошкі думак, дзядуля зьвярнуў у бок свае заглохшыя вушы. І з пад густых валасістых, інеем пакрытых броваў, столетнія вочы бліснулі на каморнікаў, рэжучых графскую зямлю, і ня ведалі, сон ці сапраўднасьць яны бачаць.

Ня ўсіх закранулі сэрца абяцаньні свабоды і зямлі. Просты чалавек, вякамі ашуківаны, вякамі ў дугу гнуты, прывык пірагом панскім ня верыць. І на парцэляцыю большасьць глядзела, як на воўчую яму, якую ім дворныя паны капалі.

Толькі маладзейшыя, хоць і бяз мінуўшчыны, аднак з балючымі досьледамі свайго веку, сьвятлей на ўсё глядзелі. Рагаталі, сьмяяліся, спрачаліся хлопцы, сабраўшыся тут дзеля важных спраў, з рыдлёўкамі, як старога жыцьця далакопы — усе патомкі роду прыгонных, патомкі бізунамі з дубцоў ёмкіх, розгамі і голадам вынішчанага пакаленьня.

І ў Таруціса грудзі ўліваўся нейкі радасны неспакой, тужлівасьць, — слухаючы гутаркі суседзяў, гледзячы на прабудзіўшыяся, неабнятныя палі, на ярка зялёныя раўніны, па якіх бегалі людзі і заганялі калкі. Першы раз так зразумела адазвалася пад нагамі зямля, якую большасьць будучых сялян ногцямі дзёрла і дасьледжвала, згадвала, ці добрая будзе зярняці, ці лёгка падоляе саха.

Юрка хадзіў ад аднэй грамадкі да другой і, ня могучы інакш выліць радасьці, лаіўся:

— О, рапуха, глядзі, якая доўгая вёска будзе!

На руках насіў ён васьмімесячнага артая, паказваў людзям і казаў, што сын так-жа павінен бачыць падзел зямлі, паховіны магутнасьці графоў і паноў і, што ўспамінаючы, як вырасьце, каб мог хваліцца, што быў сьведкам гэткага часу.

Урэшце першая лінія была праведзена, першы капец, аддзяляючы дворнае поле ад зямлі новай вёскі, абкапаны. Памагчы ў гэтай важнай рабоце прыбег, хто толькі меў якое прыладзьдзе, а большасьць магілу графу голымі рукамі насыпала. Капец стаў на стражы сялянскіх іваў. Адзін шалаплут з таўпы, як жывому, махнуў яму сваей зношанай шапкай.

Так мужчыны і жанчыны нага ў нагу, палямі бязіменнай вёскі, за каморнікамі йшлі ў новае жыцьцё. Ніхто ня думаў, хто яго створа, толькі чуў, што Вышыншчына закатлавалася, як паводка веснавая, і хлопат быў-бы цяпер яе спыніць.

Крыху пазьней Таруціс, пазычаючы суседу рыдлёўку, любіў казаць:

— Ня згубі. Ты ня ведаеш, што я хаваю яе ў музэй. Першы капец у Клангісах насыпала.

Хутка насыпалі і іншыя капцы, азначылі лініі, толькі ўжо аддзяляючыя ня дворную зямлю ад новай бацькаўшчыны, але



зямлю Янкі ад Казюка, Тодара ад Юркі. Палі былі парэзаны і так падзелены, што жадаючыя больш атрымалі горшыя нівы, балоцістыя, а ўзяўшыя менш, атрымалі сушэйшыя, вышэйшыя. Юрку, як жаўнеру, бадай першаму было дана права выбіраць. Папаўся нішто палетак, — з лужком, з горкай, з малой, летам высыхаючай, рэчачкай, з уласным паднябесьсем. Апрача яго, як ваеннага, з таго самага падзелу атрымаў адзін старшы ваенны, а астальныя палеткі прыпалі парабком, Юрчыным таварышам— Лінкусу, Гінкусу, Даўбасу, Бяпіршцінісу і некалькім яшчэ незнаёмым, здалёку.

Скончыўшы вызначаньне надзелаў, камісія на месцы пажадала сялянам новага, дастатнага жыцьця. У такую ўрачыстую часіну ня трэба было надта адважным быць, — песьня ці слова мусілі вырвацца з грудзей. Юрка і не пачуў, як, падаўшыся ўперад, прамовіў:

— Паважаныя грамадзяне і паважаная камісія — моцна ўсхваляваўшыся, запінаючыся, не знаходзячы месца для рук, галасьней чым трэба было, пачаў новы гаспадар. — Я хачу сказаць чыстую праўду. Мы людзі, няхай кажуць, што п'яніцы, цёмныя, але ўсёждыкі жывём мы ў гнілых паграбох. Калі мы, гэтыя людзі, ня можам мець навукі, гэта — граматы, дзеля таго мы дурныя, дык усіх перапрашаю! Не, мы ня дурныя і мы ня вінаватыя. Днямі мы працуем і кормім дармаедаў, а начамі сабе стараемся. Гэта ёсьць крыўдным, на маю думку, грамадзяне. Жартаў няма. Цяпер, калі мы адваявалі свабоду і незалежнасьць — інакш зажывём. Гэта зямля — наша. Паважаную камісію прасім прыехаць у госьці па чатырох-пяцёх гадох, калі зазялянеюць нашы палі. Можа й ня так смачна пачастуем, як у двары, але пачастуем ад сэрца.

— *Valio!*)* — закрычалі сяляне, навучыўшыся гэтага клічу на вечах.

Юркі мова падабалася ўсім, не гаворачы аб жонцы, каторая ледзь стрымалася, каб не захліпаць. Монікі такая ўжо была прырода — сырая і сырая, не раўнуючы як падзеленая зямля.

Некаторыя з навасельцаў, пераміргнуўшыся між сабой, із сваіх паслалі ў двор дэлегацыю да каморнікаў, каб не адмовілі ўсёждыкі разам, з імі, абліць зямельку. Перш чым сьлязьмі, — трэба гарэлкай.

Пераклаў **Ад. Станкевіч**

---

*) Няхай жыве, гура!

## Страшныя дні

Прыйшлі дні панура, іржой усё пераядаюць гаручай,
як сталь гартаваная, думкі, закулі, і сэрца
і раны, як погляд апошні нявольніка паўшы, балючы,
пагрозай зямлі небу сьвецяць.

Зьвініце словы галасамі вятроў і трывожных сырэнаў!
Хай дожджам асыпацца зоры, зямля загарыцца агнямі,
Над тымі, што зрылі нам хаты, хай буры крывавыя пеняць,
Яны не ўстаяць перад намі!

Жыць, жыць на прасторах зямлі. Пад нагамі дарогі зьнікаюць.
Апошняя птушка і тая пакінула сёл нашых вехі.
І ветры і ночы хаўтурна ў імгле навяваюць
панурыя хмары на стрэхі.

Скрышыце славы гэты мур,
[што падняўся з граніту, трывожыць,
што боль збудаваў адзяляючы сонца з блакітам.
Я-ж гэту зямлю люблю моцна і пець
[ей хацела-б прыгожа,
ціж толькі ў ей жаль перажыты...

Пераклаў **М. Танк.**

## Не заступіце дарогі...

Не заступіце дарогі вясьне,
калі рэкамі, полем
і гальля гушчарамі
яна йдзе у нашы сялібы...
Бо кожны цьвет і сьвежы пялёстак,
матыль рабакрылы, —
вашы наступы
адаб'е!
Не акаваць вам слоў—у цярпеньнях яны дасьпелі,
ні думкі—яна у грудзёх нашых вырасла...

З дарогі, вы, груганьнё, вы, здані,
што сіняе неба прад намі закрылі!

Вясна ужо ломіцца ў нашы хаты, —
ў душы і на вуснах цярпеньне ня месьціцца...
на шлях шырокі мы выйшлі —
Ня вернемся!
Мы новую долю абвесьцім, створым!

Пераклаў **А. Бярозка**





## Паварот да вершаў

Ня ведаю. Можа ня раз
грашыў я перад музаю маёю.
Але! Ня раз пісаў я вельмі розна.
Я нават лятуцеў, я на'т любіў парою.

Ды калі кліча край гаротны,
Ці можна лятуцець тады? Любіць ці льга?
—Любоў і мроі—мілы сэрцу пошар...
Мілейша песьня грозная краіне у сьлязах.

О родны край, чаму ты гэткі бедны, сумны?
Хто-ж спусташыў цябе, краіна?!
Надарма, надарма шукаўбы адказу: —
Адно ў сутунку хаткі хіляцца. Скавычуць сабакі
адно ля адрынаў.

Цішыня і ноч. Далёка за зорамі
Ў задуме глухая, цяжкая бяскончына.
Гэтак сумна, калі віхры не сякуць паднябесься...

Укруг цішыня. У цішыні скасьцянелі сёлы.
Хаткі. Гаротныя людзі.— Гэта мая радзіма.

Але гэтак ляцець, каб гнятучую ціш перарваці,
Трэба прастору. Паветра вольнага трэба...Няма яго.
Ні віхраў няма ірвучых...
Таму гэтак сумна зьвіняць мае вершы...

Пераклаў **А. Бярозка**

## Мая зямля

(фрагмэнт з паэмы)

У краі, дзе раніцай крык птушыны зьвініць над вазёрамі,
дзе з тварам зьбялелым дні ападаюць на нівы,
хмары вандроўныя росяць сьлязамі зямлю,
разьбітыя вострай маланкай калышацца ў полі бярозы, —
страшныя зоры мігцелі. І гнуліся з скрыпам
шыбеніцы па дварох, на пляцах гарадоў,
на маю зямлю кідаючы цені панура.
Сібір, далёкі Сібір,
яго лёд зямлю маю глуха скаваў.

Шалелі начамі подыхі ветраў,
ветраў паўночных,

калышучы сіверам хаты, бярозы.
Гады хвалявалі. Вірылі гады, як ускручаны ветрам пясок.
Гора кацілася ўніз, як пушчаны камень на дно.
Глядзелі на ўсё, —
выбітыя шыбы вакон, выцьвіўшыя вочы, дарогі ў краю пазьгінаныя:
на шыях гасьцінцам вязень павіс. Зьвінелі кайданы
і кніг забароненых карткі вецер па краі разносіў.

Ведаю гэту зямлю, убітую ботам немца, расейца, француза,
над каторай ветры шумелі аб горкай крыўдзе народнай,
што вырасла над берагамі Нёмну, Вяльлі.
Па ей пракаціліся буры воен, паўстаньняў, прыгону.
Сумная зямля, панурая і неўраджайная,
дзе з нізкіх балот дымілі хваробы і голад.
Зямля з людзьмі, якіх мылі асеньнія слоты і сьлёзы.
Можа стыдзішся, можа баішся ўсяго, што ідзе і мінула?
Пройдзе. Забудзіш. А ўрэшце — ня наш гэта стыд.
Перабаліць яго неба і сьвет запылае
зьвяўшы з вясной лісьцем каштанаў, сьлязамі, касьцьмі, курганамі.
Застанецца Нёман шырокі і быстры. І на яго берагох
чалавек, як Нёман магучы.
Помніш?
Калі раніцы гасьлі ад крыві пралітай,
гнуліся лозы надрэчныя і кулі вецьце зрывалі,
чуліся можа тады мы шчасьлівымі?

Такая ёсьць зямля. Такая мая зямля,
зрошаная сьлязамі, кроўю і потам,
крыўдай людзкой, няволяй, прыгонам,
пакрыта дарогамі, што вечна ідуць пад гару.
Гэтыя сьлёзы і песьні нізінных імшараў
долю прыпомняць табе чалавека нязнанага
і ўбачыш ты новых людзей і падзеі.

Пераклаў **М. Танк**

*ЯН КОССУ АЛЕКСАДРАВІЧІУС*

## Раніца

Высылаеш вочы на пляц, на шырокі,
Дзе сіні, ўсхвалёваны купал сьвеціць.
Там нейчая моладасьць ідзе адзінока,
Усьмешка нейчая—ведаеш: ня ты гэта.

І хтось нясе цяжар зямлі ўзгаранай...
Цябе тут таксі шум захоплівае сьмелы,
З радасьцю сябе пазнаеш ў спатканых
Ідучы той самай вуліцай век цэлы.

Пераклаў **М. Танк**



*ЁЗАС КЕКШТАС*

## Такое жыцьцё

„О страшная, страшная моладасьць! Пустое сэрца!“
ОСКАР МІЛОШ

Прыходзіла, ды зноў варочалася з ветрамі.
Бы ў казцы.
Ды ў казцы такой не маей!
Ня ў сонечнай,
ня сланай рожамі (такой ніколі я ня чуў).
Драты калючыя мне сэрца грызьлі.
Такое жыцьцё

О, гады, гады, замучаныя!
Вясна з прабітым сэрцам!

Ішоў, як валакіта,—
цёмна, сыра у душы было;
сабе нічога не хацеў: сарванага віхурай цьвету
з дарогі не падняў
і смагу напаіць у лужу ня зыходзіў.
Сьмяяліся яны і пальцам тыркалі.

Думалі,
зьгінаючы што сьпіны,
лесьвіцы сабе да сонца ставяць,
сьлізкую што мінаючы дарогу —
з набітым туга брухам —
сабе прыгожы
дом збудуюць —
і ўжо — паны — ўжо іхны сьвет! —
Жабрацтва.

Мне слалася дарога розна.
Няраз я падаў, падымаўся зноў.
Рукамі кошкаў скрэпшымі
пяшчаны дол,
каб тут-жа, тут-жа шчасьце адшукаць!
І не сабе — другім.
Выла кругом ваўкаўё, —
шалелі буры.

Бяздоньняў многа на зямлі.
На лёд
ня ступіць хто —
не пасьлізьнецца.
І карку ён ня скруціць.

І будуць шанаваць цяпер такога (цяпер
толькі, і як ён—толькі такія).
Тых, каторых шлях вядзе
там — дзе буры,
там — дзе ветры,—
бязкрыжыя магілы ледзь
прыждуць.

Мяне чакаюць.
І добра, што чакаюць.
Хаця бяздольны сам, гаротнік, абарваны,
сарваць я сонца сьнежнымі іду палямі,
каму я дам — на твары тых, —
каб радасьці пабачыць сьмех.

Дваццаць і адзін раз прыходзіла і варочалася вясна
[із ветрамі.
Дваццаць і адзін раз уставала сонца мне і ў кры-
[ві ізноў тапілася.
Бы ў казцы.

Ды ў казцы такой не маей!
Ня ў сонечнай, ня сланай рожамі
(такой ніколі я ня чуў).
Драты калючыя мне сэрца грызьлі.
Такое жыцьцё.

Пераклаў **А. Г.**

# Ноччу

У хмарах пахмурных
крумкач
зьвіў гняздо.

Дарма гушчары
месяц пора
рагаты.

Зоры пагасьлі.
Зямля ў цемры клятай.

Вачэй ўжо ня маніць
блакітны прастор.

Зрок ледзяны
б'ецца
ды б'ецца
аб бераг.
А вецер віхурыць.



Скруціў ды адкінуў.
Вада.
Дрожжу праймае.
Няма тут прыпынку.
Зрок пнецца — пнецца —
і падае
зломлены,
шэры.

Сумна павісла вярба над вадою.

Пройдзе зіма,
пройдзе і ноч,
ня сумуй-жа вярбіна.
І твае апусьцелыя сяньня галіны
апранущца ў зелень
вясною.

Пераклаў **С. Х.**

*
* *

*Надрукаваны вышэй літоўскі матарыял — інфармацыйны артыкул пяра маладога віленскага літаратара і публіцыстага Еронімаса Цыцэнаса і пераклады некаторых твораў з мастацкай літаратуры на беларускую мову — гэта пачатак нашага бліжэйшага абзнаямленьня з культурай і агулам з духовым творствам братняга нам Літоўскага Народу. Будзем гэтак рабіць і далей у меру нашай магчымасьці. Будзем у далейшым гэтак рабіць і ў адносінах да іншых народаў — Украінскага, Польскага, Латыскага і іншых, бліжэйшых і далейшых нашых суседзяў. З сваей стараны будзем іх — гэтыя народы — інфармаваць аб творчых дасягненьнях — аб культуры, літаратуры, мастацтве, навуцы — нашага Беларускага Народу. Ня трэба даказываць, якая з гэтага ўзаемная карысьць.*

---

Падаём тут кароткія інфармацыі з біографіі, літаратурнай дзейнасьці і яе характару — літоўскіх літаратараў, прадстаўнікоў мастацкага слова маладога пакаленьня, якіх некаторыя творы, у перакладзе, трэба сказаць вельмі ўдачным, на беларускую мову зьмешчаныя вышэй.

*З ковенскіх літаратараў:*

**Ян Коссу Александравічіус** — радзіўся ў 1904 г., паэт і крытык. Выдаў чатыры зборнікі вершаў і адзін зборнік крытыкі. Лірык. Творчасьць яго з гледзішча мовы адзначаецца высокай культурай. У 1937 г. атрымаў за сваю літаратурную творчасьць дзяржаўную нагароду. Цяпер студыюе на універсытэце ў Францыі.

**Антанас Мішкініс** — паэт, лірык. Выдаў два зборнікі. Творчасьць яго глыбока патрыётычная з нікаторым налётам містыцызму; выражае ў тонах бадзёрых, запальных нязломную веру ў творчыя сілы свайго народу і ў яго добрую будучыню. Сын селяніна. У аўтобіографіі сваей зьмешчанай у „Antrieji

vainikai“ — Naujosios poezijos antologija, spaudai paruošė K. Binkis, Kaunas, 1936 m. — піша, што ягонай першай літаратурнай школай — а гэта адносіцца роўна-ж і да нашых беларускіх літаратараў — была народная песьня, якую сьпявалі сяляне працуючы талакой падчас ачысткі ільну ў гаспадарцы свайго бацькі. Гэтак было перад вайной. А пасьля? Абвешчаньне незалежнасьці Літвы і барацьба за яе ўтрыманьне. Гэта ўсё пхала паэта да творчай працы. Піша ён (там-жа) аб жыцьці ў незалежнай Літве і аб сваім становішчы: „Расло жыцьцё, рос я, расла Літва. Сам бачыў, як Літва ў маіх вачах зьмянялася. І паўстала ў маім розуме Літва сынтэтычная: ціха-вясковая, вольная, вялікіх інтэлектуальных і іншых здабыткаў, імкнучаяся з вялікім імпэтам увысь“...

„Гэта яна, Літва, ніхто другі, сумам пранікнула мае вершы. Але ад дзядоў і прадзедаў успадкаваў любоў да сваей зямлі, веру ў Літву, працоўную і творчую, не сьвятакрадча крычачую (для „gardaus valgio šaukšto”— для лыжкі смачнай стравы, як сказаў адзін лекар — Вінцук Кудзірка, тварэц літоўскага позытывізму, аўтар нацыянальнага літоўскага гімну, выдавец „Varpas” (1889)—Я.Ш.)—гэта ўсё ня мне аднаму дае сіл да жыцьця і шуканьня Літвы ў самай шэрасьці штодзеннага жыцьця“... Паэт пражывае ў Каўнасе.

**Пятрас Цвірка** — прозаік, паэт, крытык. Выдаў зборнік вершаў. Як бэлетрыст, з маладога пакаленьня, у літоўскай апініі лічыцца першым, бесконкурэнцыйным. Піша ў прозаічным жанры — новэлі, аповесьці, раманы. Цікава, што пісьменьнік, пражываючы ў Каўнасе, на падставе прэсавых і іншага друку інфармацыяў напісаў аповесьць „Франк Крук”, у якой з надзвычайнай праўдзівасьцю і рэалізмам прадставіў жыцьцё літоўцаў у Амэрыцы. Выдаў у прозе: „Зямля карміцелька” (раман), „Майстар і яго сыны” (раман) і „Сярэбраныя баранкі” (новэля). Творчасьць прасякнута грамадзкімі матывамі. Дзеля свайго сатырычнага тону, уважаюць пісьменьніка за літоўскага Гогаля. У аснову творчасьці пісьменьнік кладзе літоўскі народны фольклёр. Творчасьць Цвіркі адзначаецца культурай мовы. Пісьменьнік пражывае ў Каўнасе.

**Казіс Борута** — перадавы, вельмі здольны паэт, прозаік, крытык. Радзіўся ў 1905 г. Выдаў чатыры зборнікі паэзіі і два зборнікі навэль. У творчасьці выражаны моцна матывы грамадзкага радыкалізму. Пражывае ў Каўнасе.

*З віленскіх літаратараў:*

**Она Міцюте** — уталентаваная паэтка, пісьменьніца-бэлетрыстка і драматург. Пражывае ў Вільні і тут студыюе на унівэрсытэце (канчае гуманістычны факультэт). Выдала асобны зборнік паэзіі-лірыкі п. н. „Сьвятло ў дрыгве”.

**Альбінас Жукаўскас** — перадавы, уталентаваны паэт — лірык і эпік. У паэтыцкай эпіцы, паводле літоўскай апініі, ня мае сабе роўных сярод літаратараў маладога пакаленьня нават і ў Каўнасе. Піша і прозай, а так-жа займаецца публіцыстыкай. Студыюе цяпер у Варшаве ў школе журналістаў.

**Ёзас Кекштас** — здольны паэт лірык і перакладчык. Творчасьць яго выражае мамэнты грамадзкага радыкалізму. Мае прыгатаваны да выданьня зборнік лірыкі „Такое жыцьцё”.

**Еронімас Цыцэнас** — здольны публіцыст і культурна-грамадзкі дзеяч. Зьбіральнік літоўскага фольклёру. Выдаў у 1934 г. асобнай кніжыцай „Вераваньні з даўгеліскай валасьці” (Daugeliškiniai Burtai). Выдаў так-жа папулярна-навуковы гістарычны нарыс аб паўстаньні і скасаваньні паншчыны ў Літве п. н. „Дні пражортыя дварамі” (Dvaruos praestos dienos).

*Я. Ш.*

---



*ШОТА РУСТАВЕЛІ*

# Віцязь у тыгравай скуры

## Уступ

*(адрыўкі)*

Ты магутнасьцю бязьмернай сьвету даўшы існаваньне,
Ажывіўшы ўсё жывое, на планэце няжывой,
Перадаў Ты людзям землю, ўсю у сонечным убраньні,
Даў прастолы венцаносцам — роўным воблікам з Табой.

Бог адзіны! Творца дзіўны, на зямлі ўсяго жывога,
Заступіся, дай мне сілу, каб я д’ябла перамог.
Захавай да самай сьмерці пал каханьня агнявога,
Адпусьціўшы грэх вялікі, што на сэрца цяжка лёг.

---

Я Тамар услаўлю воблік — уладарны, ясназоры,
І каму з высокіх словаў я сплятаў ужо вянок.
Мне пяро-трысьнік паілі чорных воч яе вазёры —
Хай-жа сэрца працінае песьня вострая — клінок.

Цяжка мне царыцу славіць словам песьні нявымоўнай,
Вейкі апяваць і бровы, палкіх воч яе агонь.
Зубы, што падобны пэрлам, вусны — як рубін цудоўны,
Але дробіць камень молат — з волава хай будзе ён.

Мне патрэбны: сіла слова, сэрца палкае паэта,
І прадбачнасьць, каб паэма загучала, як закон;
Узьвялічым Тарыэля, узьнясём яго над сьветам,
Тром героям вечнай дружбы — будзе спадарожнік ён.

---

Я, Руствелі, пра царыцу я пяю натхненьня поўны, —
Уладарку слаўнай раці — клічу ў прадсьмяротным сьне —
Я зьнямогся, для ўкаханых дзе знайсьці бальзам чароўны?
Дай-жа мне збаўленьне цуда, ці ў зямлі спачынак мне.

Для грузін даўно вядомы сказ далёкага Ірана —
Жэмчуг поўдня, што ільсьніўся на далонях тысяч рук.
Я сабраў і скарб народны аб’яднаў у верш чэканы,
Каб царыцына увага мне зьмягчыла цяжар мук.

---

Дар напеваў — гэта мова мудрай шчырасьці высокай,
Голас слаўны і магутны песьняра ў таёмны час.
Чуламу прыемны вуху рытм пявучага патока,
Думкі шыр ў кароткім вершы — і ўсхвалюе песьня нас.

Выпрабоўваньне для коней — бег на доўгіх перагонах,
Іграку дае пяршынства па мячы удалы ўдар.
Тыж павінен, слова майстар, строфы асадзіць як коней,
Калі ледзь клыпае песьня, верша цягнучы цяжар.

Прыглядзіся да паэта, што сьпявае без натхненьня
І губляе красамоўнасьць і кульгае рыфмаў звон.
Хай ён змоўкне, альбо спрытна завяршыўшы песьняпеньне,
Нібы мяч вядзе чаганам, спраўна к мэце прыдзе ён.

Не паэт, хто дзесьці, неяк верш другі выпадкам скажа,
І уявіць, што славуты — выкліча прызнаньня гул.
Неяк ён радок з радкамі нявыразнай рыфмай зьвяжа
І раве: „Я самы здольны" — ён упарты быццам мул.

Ёсьць другі разрад паэтаў — песьняпеўцаў няумелых,
Словы іх людзкое сэрца ці крануць яшчэ? — Наўрад!
Я-б сказаў: няўдалы лучнік лесам крадзецца нясьмела,
Зьвера ўзяць яшчэ баіцца і пужлівай дзічы рад.

Верш у трэйціх для забаваў, ці прысьвечаных дзяўчатам,
Ці сябрам у час гулянак, для жартоўных іншых мэт.
І такі прыемна слухаць, калі думкі ў ім багата —
Ў мудрым сказе і магутным бачны творца і паэт.

Хто пазнаў жыцьця пакуты, той валодае натхненьнем!
Сэрца хай аддасьць Адзінай, хай прысьвеціць для яе, —
Незраўнанай ў цэлым сьвеце, верша палкае зіхценьне,
І на струнах сэрца песьні пра адну яе пяе.

Сёньнячы я слаўлю тую, чыё імя ў вечнай сфэры,
І пясьнярскі свой учынак ня прынізіў я нічым.
Ўсё жыцьцё маё ў палоне той разьюшанай пантэры,
Вось каго навекі ўславіць вершам думаю сваім.

Я пяю каханьне — з песьняй духаў чыстых ўзьлёт крыляе,
І нявыказаны ў словах іхняй музыкі раскат.
Лёс паэта — лёс шчасьлівы, к сьветлым высям узьнімае,
Але шмат прарочыць гора і суровай крыўды шмат...

Пераклаў **Мікола Хведаровіч**

---



**Малітва Аўтандзіла і патаемны ад'езд**

*(адрывак з XXIII песьні)*

Як зьбіраўся вандраваць ён, то аплакваў сваю долю.
Полаг ночы аравійскай дол і горы атуліў.
Тыя, хто бяду спазналі, няхай неба шчыра моляць.
Аб удачных днях ў мячэці Бога Аўтандзіл маліў.

Ён прасіў: „О, творца неба, вод і земляў неабсяжных,
То дабра, то зла падаўца, як нясталы гаспадар!...
Памажы суняць жаданьні, невядомы, недасяжны,
Над ўладарнымі ўладарны, таямніц людзкіх ключар!

Пад Тваім загадам, Божа, усе нетры, усе высі!
Паліш Ты каханьнем сэрцы, напісаўшы свой закон.
Сьвет прымусіў, каб з дзяўчынай я навекі разлучыўся —
Дык няўжо каханьне з сэрца злосна выкінеш Ты вон?

Божа, Божа, чаша шчасьця! Ты апора мне зямная —
Калі мне, рабу паможаш, буду цэлым і жывым.
Ухілі ад помсты, штормаў, ухілі ад лютай зграі,
Захавай мяне, да неба я ўзьніму ахвярны дым".

Памаліўся і прышпорыў ён свайго каня. Пры браме
Разьвітаўся з шэрмадзінам, каб пакінуць, занядбаць.
Шчокі праў слуга нагцямі, кроў агнём паліла камень,
Як няма патрона дома — хто парадуе раба?

Ён прасіў: „Жыцьця сьвяціла! Засмуціўся дом Твой ценем,—
Пры адходзе ўсходу сонца ты тугу і змрок прынёс.
Я для стрэл, што сэрца раняць, стану вернаю мішэньню,
Замест радасьці і шчасьця буду ліцьрыніцы сьлёз!"

Пераклаў **Алесь Гурло**

---

*Я. ШУТОВІЧ*

# Вялікі грузінскі паэт і яго паэма

*(Да 750 гадаўшчыны нарадзін паэта)*

Сонечная Грузія — старасьвецкая Кольхіда, ведамая з казкі пра Язона і залатое руно, — краіна, — распаложаная над Рыонам і Кураю, з таго боку Каўказу, — выдала на пераломе XII і XIII стагодзьдзяў свайго геніяльнага паэта, Шота Руставелі, якога значэньне далёка пераходзіць тэрыторыяльныя межы Гру-

зіі. Праславіўся ён на ўвесь сьвет сваей эпічнай паэмай *„Вепхіс Ткаопсані,“* пабеларуску „Візяць у тыгравай скуры,“ так, як праславіўся наш беларускі баян—аўтар „Слова аб палку Ігаравым,“ так як праславіўся Дантэ Алігіеры сваею „Боскаю камэдыяй.“

У мінулым годзе прыпадалі 750 угодкі ад дня нарадзін паэта. З гэтай прычыны ладзіліся юбілейныя ўрачыстасьці так у Грузіі, як і ў іншых краінах. Асабліва ўрачыста адзначаны гэтыя ўгодкі у СССР, у склад якога сяньня ўваходзіць і Савецкая Грузія.

Ні помнікі мастацкай літаратуры, ні гістарычныя хронікі да XVI стагодзьдзя не захавалі ніякіх вестак пра асобу Руставелі. Адзінай праўдзівай крыніцай таго, што мы пра яго ведаем, зьяўляецца ягоная паэма.

Напісана паэма ў канцы XII і пачатку XIII стагодзьдзя (прыблізна паміж 1196—1207 гадамі), — у пару цараваньня слаўнай грузінскай царыцы Тамары (1184—1212), калі мастацтва, літаратура і агулам культура Грузіі дайшла да найбольшага расьцьвету (залаты век). Гэтай-жа царыцы і прысьвяціў паэт сваю геніяльную паэму.

Абазнаёмімся коратка бліжэй з ёю: Твор гэты выражае сілу і глыбіню пачуцьцяў, шырыню сьветапогляду і вялікую культуру аўтара, адзначаецца тонкай сюжэтнасьцю і бліскучай формай цудоўнага верша. Твор глыбока нацыянальны па сваім зьмесьце, па мове, па сваей накіраванасьці, а дзякуючы дасканальнасьці формы, філясофскай глыбіні зьместу, высокай ідэйнасьці, сіле і выразнасьці вобразаў і чалавечых пачуцьцяў, выходзіць паза межы нацыянальных рамак і набывае сусьветнае значэньне.

Паэма — адзін з найвялікшых твораў, якія дала літаратура ў сярэднія вякі.

Для Грузіі яна мае асабліўшае значэньне. Яна фармавала нацыянальную душу грузінскага народу даўней, такаяж яе роля і цяпер, падымала гэты народ увысь, да сонца, да зор, да вышыняў культуры і мастацтва. Такое яе значэньне. Аб значэньні і папулярнасьці ў грузінскім народзе паэмы сьведчыць хоцьбы тое, што яна ў некаторай меры сталася фальклёрам. Афарызмы паэмы пераходзяць з вуснаў у вусны грузінаў, шмат трапных выказваньняў сталіся прыказкамі. Асабліваж аб папулярнасьці паэмы і ейным значэньні ў жыцьці нацыянальным Грузіі сьведчыць такі прыгожы, практыкаваны да сяньня звычай: —грузінка выходзячы замуж, прыносіць свайму улюбленаму партнэру, як вяно, у аздобнай аправе, уласнаручна перапісаную паэму свайго вялікага паэта.

Зьместам паэмы зьяўляецца апавяданьне аб маладым амірбару палкім у каханьні, як сам паэт, рыцару у тыгравай скуры Тарыэлю і яго двух пабратымцах — Аўтандзіле і Фіодоне. Кожны з іх мае свой прадмет любові — царыцу, і ўсе разам, перамагаючы перашкоды, асягаюць шчасьце.



Асноўнай ідэяй паэмы — вялікая праўда, што чалавек знаходзіць шчасьце толькі ў паступовай барацьбе, зьберагаючы вернасьць і сталасьць.

Паэт славіць рыцарскасьць, шляхотнасьць, прапаведуе волю індывідуальнасьці, роўнасьць жанчыны з мужчынаю. Праз гэта стаўся Руставелі прадвесьнікам гуманізму, што ахапіў пасьля ўсю Эўропу.

У паэме выражана пятно свайго часу. Паэма іскрыцца ад мамэнтаў, узятых з нацыянальнага жыцьця Грузіі з канца XII стагодзьдзя. Перад намі цэлая галярэя пэрсонажаў грузінскага сьвету таго часу.

Разглядаючы паэму з гледзішча фармальнага, сказаць трэба аб ёй наступнае: паэма дзеліцца на 58 разьдзелаў — песьняў, напісаных катрэнамі—чатырохрадковымі, аб'еднанымі адным рымам, строфамі. Руставелі, такім чынам, стварыў уласны вершаваны разьмер („шаіры“), з адным рымам для кожных чатырох радкоў, які ў далейшым — на працягу вякоў — панаваў у грузінскай паэзіі.

Руставелі — тварэц літаратурнай мовы для свайго народу. Ён, узяўшы за аснову жывую, народную вобразную мову, спрасьціў сучасную яму літаратурную так, як гэта зрабіў Дантэ з італіянскай мовай, Фірдоусі з іранскай, Пушкін з рускай, Катлярэўскі з украінскай, Багушэвіч, Купала і інш. з беларускай мовай. Паэма Руставелева характарызуецца багацьцем лексікі і рознастайнасьці граматычных форм. Уся яна складаецца, прыблізна, з 45.000 слоў, з якіх больш 15.000 зьяўляюцца асноўнымі ў марфолёгічных адносінах.

Дзеля сваіх агульначалавечых культурных вартасьцяў, зацікавіўся Руставелевай паэмай увесь культурны сьвет. Першы пераклад паэмы ў Эўропе паявіўся ў нямецкай мове у 1880 г., у 1885 — у францускай мове, у 1889 г. — у англійскай, пазьней у рускай (Бальмонт), польскай, армянскай. У 1937 г. перакладзена паэма цалком на украінскую мову (Бажан). На беларускую мову ў 1937 г. беларускія савецкія пісьменьнікі — Гурло, Броўка, Хведаровіч, Александровіч, Агняцьвет, Жаўрук, Зарыцкі, Ушакоў — пералажылі паасобныя разьдзелы паэмы. Усяго пераложана ў 1937 г. толькі 25 разьдзелаў. Перакладная праца бел. сав. пісьменьнікаў над паэмай трывае і ў бягучым годзе.

Мы побач друкуем некаторыя фрагмэнты паэмы ў перакладзе на беларускую мову, а так-жа верш нашага народнага паэта Янкі Купалы, прысьвечаны слаўнаму юбіляру, у якім Купала ў мастацкай форме перадае ролю і значэньне Руставелі так для Грузіі, як і ўсяго чалавецтва.

# Сонечнаму Шота Руставелі*)

Грузінка і сонца, і сьнежныя горы,
Віно вінаграднае, месяц і зоры,
Шчасьлівыя сонечна саклі, аулы...
О, колькі прастору для думкі для чулай.

У скалы мёд зносяць руплівыя пчолы,
Чабан грае песьню на зурне вясёлай,
О, слаўная Грузія, Эльбрус герояў,
Як соладка жыці, сьпяваці з табою!

Тут казка і праўда жыве з Руставелім
У кожнае скале, у кожным ушчэльлі,
Арол недасяжны, мядзьведзь неапеты
І барс быстраногі нам сьведчаць аб гэтым.

Народ гераічны скрозь горы, даліны
Стагодзьдзямі з сэрцам радзімай краіны
Да нашага часу...
Данёс руставелевы думы і справы.

Стагодзьдзі мінулі, йсьці будуць стагодзьдзі,
А ў гордым... грузінскім народзе,
Для песень, для шчасьця, хвалюючы грудзі,
Як быў Руставелі, так вечна жыць будзе.

Каўказкія казкі, як ласка дзявоча,
Далёка, прывабна скрозь сонца, скрозь ночы,
Разносяць па сьвеце ў людзкія прысельлі
І думы і казкі, што даў Руставелі.

Грузінка і сонца, і сьнежныя горы,
Віно вінаграднае, месяц і зоры,
Шчасьлівыя сонечна саклі, аулы...
О, колькі прастору для думкі для чулай.

Кіславодск
17.XII.1937.

---

*) Перадрукоўваем з „Літаратуры і Мастацтва," № 69, 24.XII.37 г. (Рэд.)





# Янка Купала ў крывым люстры

У ўкраінскім журнале „Вістник" за красавік 1938 г. зьмешчана стацьця В. Пиліпчука п. н. „Ідэолёг новае Беларусі?", прысьвечаная нашаму нацыянальнаму паэту Янцы Купале. Стацьця гэтая гэтак скажае аблічча і ідэалёгію Купалы, што паэт наш выглядае ў ёй запраўды, як у крывым люстры, і дзеля гэтага немагчыма прайсьці міма яе моўчкі, хоць з увагі на яе нізкі ровень аб ёй можна было-б і не гаварыць. Аб грубай тэндэнцыйнасьці аўтара стацьці дае паняцьце нябывалая, здаецца, дагэтуль у вуснах украінца заява, што *„гаварыць сягодня аб беларускай нацыі — што найменш зарана!"* Дык няхай украінцы—навучае ён сваіх землякоў — ня робяць палітычнае абмылкі: няхай пакінуць спагадаць беларусам, а лепш імкнуцца — як само сабой вынікае з ягоных слоў — праглынуць беларускі народ...

Калі чалавек выступае публічна з падобным заклікам, супярэчным з паглядамі ўсяго ўкраінскага грамадзянства, дык мусіць-жа неяк абаснаваць сваё выступленьне, давясьці правільнасьць яго. І Піліпчук прабуе гэта зрабіць, а як — гэта ўраз пабачым.

Піліпчук выходзіць з таго гледзішча, што вялікія нацыянальныя паэты ў сваіх творах выяўляюць душу і ідэалы сваіх народаў. У беларусаў такім паэтам ёсьць Янка Купала. Значыць, ідэолёгія Купалы, выяўленая ў ягонай паэзіі, ёсьць ідэолёгіяй беларускага народу.

Да гэтага месца ўсё як быццам у парадку. Але-ж, пераходзячы да аналізы Купалавае паэзіі, Піліпчук папросту *фальшуе* ягоную паэзію, вырывае з паасобных вершаў радкі, каторыя самі па сабе ня маюць сэнсу і не выяўляюць думкі песьняровае, і ўкладае ў Купалаву творчасьць такія „ідэалы", якіх ніколі ня меў дый ня мае ані Купала, ані беларускі народ. І вось, паказаўшы гэтак украінскаму грамадзянству ў сваім крывым люстры *сфальшаванага* Купалу, Піліпчук робіць вывад, што беларускі народ мае „бабскую" псыхолёгію і „зрабіўся малым духам", зрабіўся нядзольным да жыцьця і да барацьбы за сваю волю й нацыянальны быт, за сваё нацыянальнае „я".

Вось галоўныя думкі Піліпчука, выказаныя ім аб Купале і ягонай ідэолёгіі.

Перадусім Купала прадстаўляецца Піліпчуку далёкім ад народу інтэлігентам, каторы вырас ня з роднае беларускае глебы, а „нахапаў" жаласьлівых абразоў у чужацкіх паэтаў — расейскіх ды польскіх — і творыць „штучныя абразы" нібы-то беларускага жыцьця, далёкія ад рэальнасьці, дыктаваныя „фантазіяй". Як прыклад гэткага нібы-то непраўдзівага маляваньня абразоў беларускага жыцьця Піліпчук дае *два радкі* з вершу Купалавага „Разьвейся туман!", каторы заканчваецца гэтак:

Нядоля і гора, навокал — магілы,
Вось роднага шчасьця абраз!...

У гэтым першым тэзісе Піліпчука выявілася перадусім ягоная грубая *ігнаранцыя.* Піліпчук ня ведае, што Купала — сын мужыцкае вёскі і апісвае нязвычайна рэальна іменна тое, што запраўды бачыў навакол сябе і перажываў ад малых гадоў; ня ведае і таго, што іменна так, як малюе Купала, запраўды выглядала жыцьцё беларускага селяніна ў тую пару, калі Купала пісаў цытаваны верш — задоўга да выбуху сусьветнае вайны; ня ведае ўрэшце, што апісыванае Купалам жыцьцё роднае краіны глыбака розьнілася ў роўнай меры ад жыцьця расейскага, як і ад польскага. Але — паміма няведаньня — ёсьць у Піліпчука бязспрэчна і элемэнт сьведамага фальшаваньня думак і ідэалаў Купалавых, як гэта пабачым із далейшага.

Зрабіўшы сэнсацыйнае „адкрыцьцё“, што абразы беларускага жыцьця ў Купалы — гэта „штучнасьць“ і „фантазія“, Піліпчук робіць з гэтага і ўсе лёгічныя вывады — роўна ілжывыя, як і самае „адкрыцьцё“. І калі бачыць (бо-ж гэтага нельга ня бачыць!) у нашага паэта матывы народныя, якімі арганічна прасякла ўся творчасьць Купалы, дык гэта „дысанансам рэжа“ ягонае „чулае“ вуха. Галоўны-ж „праступак“ Купалы — тое, што ягоны мужык шануе сваю мазалістую руку! Гэтае рукі з мазалямі ў беларуса Піліпчук чамусьці дараваць Купале ня можа!

Ідучы ўсё тым-жа фальшывым шляхам і бачучы ў асобе Купалы ня сына мужыцкае вёскі, каторы дае нам непадробленыя абразы яе жыцьця, а чалавека, каторы нібы-то падыходзе да вёскі звонку, Піліпчук і з Купалавых апісаньняў прыроды зрабіў такія-ж „мудрыя“ вывады, як з апісаньняў беларускага сялянскага жыцьця. Верна апісаны Купалам факт, што беларускі селянін ад сівое даўніны пераняў страх перад тайніцамі прыроды, для яго незразумелымі, Піліпчук называе страхам *самога Купалы,* а сьцьверджаньне немагчымасьці разгаданьня гэтых тайніц для чалавечага розуму лічыць довадам, што быццам то Купала займаецца прапагандай... „буддыйскага фаталізму“!

Далей Піліпчук пераходзе да ідэалаў Купалы, выказаных у ягоных вершах. Зварот Купалы да Аратага, *каб не паддаваўся злыдням і любіў „сваю ніву, свой край“ ды працай сваей „выараў сабе долю“,* Піліпчук разглядае, як довад беднасьці Купалавых ідэалаў, як жаданьне Купалы... „ператварыць беларуса ў машыну“! Але-ж бойся ты Бога, чалавеча: ніякая „машына“ ня можа нікога любіць, а любоў да Бацькаўшчыны — гэта-ж першы і галоўны канон усяе паэзіі Купалы! — *Пратэсты* Купалы супроць катаржных варункаў працы мужыка, выразнае *асуджэньне* сьлязьлівасьці ды пустога лямантаваньня — замест барацьбы з нягодным лёсам — Піліпчук ізноў-жа перакручавае гэткім чынам, што быццам гэта сам Купала „заліваецца сьлязою з ахвотай“. — Сатырычныя вершыкі Купалы на цёмных, нясьведамых сялян, імкненьні каторых не падыймаюцца вышэй здаваленьня самых эле-



мэнтарных жыцьцёвых патрэбаў, ператвараюцца ў Піліпчука ў цэлую сацыяльную „праграму“ нашага паэта! — Але найярчэй выяўляецца фальсыфікацыя Купалавых ідэалаў, калі чытаем інтэрпрэтацыю Піліпчуком песьні пра Лявона (На папасе). Песьня гэтая — жывая гісторыя прабуджэньня грамадзкае й нацыянальнае сьведамасьці ды барацьбянага духа ў волата Лявона, сымбалізуючага беларускі народ. Ад палажэньня прыгоннае скаціны народ гэты падняўся на агульначалавечую роўню і пачаў барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць, за сваю волю і права на чалавечае існаваньне. Песьня Лявона будзіць масу, уздымае дух і кажа аб неперамажнасьці Лявона: хоць аднаго заб'юць, хоць ён ляжа ў магілу, барацьба будзе трываць далей, бо — „Лявоны ў нас не пазводзяцца!“ І гэту песьню Піліпчук фальшуе: вырваўшы радок аб тым, як нясьведамы йшчэ Лявон першы раз пачуў з розных бакоў крыкі, „што ён дурань, жыве пабыдлячаму“, Піліпчук імпутуе і Купале, і беларусам, што яны... самі сябе лічаць быдлам!—Урэшце сьцьверджаны Купалам *з болем сэрца* факт пакорлівасьці беларусаў, якая давяла іх да *запраўды* жахлівага палажэньня, Піліпчук называе... прадметам „нацыянальнае амбіцыі“ беларускага „führera“ (Піліпчук у гэтым слове вельмі-ж ужо засмакаваў!). А ў выніку ўсяго гэткага фальшу пазваляе сабе зрабіць бязглуздую заяву, што нібы-то ў Купалы „паяўляецца маральнае здаваленьне, калі бачыць свой народ пераможаным і заняпалым“...

Здавалася-б, што пасьля гэтага далей па гэтай дарозе гэтаму асабліваму „крытыку“ нашага нацыянальнага паэта йсьці няма куды. Аднак, ён мае: відаць, за тое, што Купала жыве і працуе ў Савецкай Беларусі, Піліпчук ізноў кідае паэту ілжывы закід, што быццам той „зварочваецца толькі да беларусаў на гэты бок Сьвіслачы, дыплёматычна замоўчваючы, што ёсьць яшчэ „бацькаўшчына“ і на іншы бок“. Але-ж большая частка вершаў Купалы (апрача малога зборнічку „Безназоўнае“, відаць, няведамага Піліпчуку), а перадусім — *усе* тыя вершы, аб якіх Піліпчук успамінае, напісаны да ўтварэньня Савецкага гаспадарства — у тыя часы, калі ўся Беларусь, непадзеленая, была пад уладай Расеі! Дык „стрэл“ Піліпчука ізноў пападае ў пустое месца — таксама, як і ўсе ранейшыя.

Ня будзем тут пераказваць усіх недарэчных разважаньняў аб Купале фальсыфікатара ягоных ідэалаў: гэта заняло-б лішне многа месца. Адзначым толькі, што *запраўдныя* ідэалы, якія Купала выказвае ў сваіх вершах, *дужа добра ведамы Піліпчуку,* але аб іх ён гаворыць роўна ў... 26 радкох, пад той час, як разгляд сфальшаваных ім самым ідэалаў нашага паэта займае ў „Вістніку“ ажно восем старонак. У гэтых 26 радкох успамінае Піліпчук і заклікі Купалавы „наперад па шчасьце!“ (Вялікдзень) і жаданьне, каб ускрэсла Беларусь (Хрыстос уваскрос!), і цэлы рад іншых (Навагоднія жаданьні, Лета, Прарок, Папросту). Сьцьвярджае і тое, што Купала фактычна-тыкі кліча беларуса „кінуць

сьлёзны пагляд", але тут-жа паўтарае сваю выдумку, быццам Купала „перш" заклікаў „заліваацца сьлязою з ахвотай". Урэшце, на падставе *толькі шасьцёх* несфальшаваных вершаў Купалавых мусіць „гэты крытык" *прызнаць веліч ідэолёгіі Купалы:* „На гэткія вышыні — піша Піліпчук — можа падняцца толькі сэрца, якое рвецца ад болю за свае крыўды, але не падымецца ніколі дуплявае; і калі Купала на хвіліну глянуў у чысьцец, дык мы пачулі ня нуднае квіленьне падстрэленага птаха, а лятуценьні волата". Бо-ж Купала, каторага Піліпчук сьпярша так ганебна сфальшаваў дзеля сваіх палітычных мяркаваньняў, ёсьць запраўды волат; — бо ўся ягоная паэзія — гэта бязупыннае кляйменьне ад'емных бакоў беларуса і кліканьне яго да барацьбы за волю, да тварэньня несьмяротных цэннасьцяў нацыянальнае культуры, — кліканьне на сонечныя „арліныя шляхі". Бо тая запраўдная *нацыянальная рэвалюцыя,* якую перажыў беларускі народ ад выбуху палітычнае й сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі, адбылася ў значнай меры іменна дзякуючы *псыхолёгічнай падгатоўцы,* зробленай паміж іншым і творчасьцяй Янкі Купалы! — Дык *злая воля* Піліпчука, які адважыўся сваю руку падняць на нашага песьняра, выяўлена гэтак да канца.

Паганьбіўшы, як мы бачылі, ідэолёгію і Купалы, і беларусаў наагул, Піліпчук процістаўляе нам — украінцаў. Але-ж і ў украінскай паэзіі знойдзем усё тое, за што бічуе ён Купалу! Купала-ж найбліжэй стаіць не да Кальцовых, Некрасавых ці Нікітіных, або іншых расейскіх паэтаў, а якраз да *украінскага* нацыянальнага песьняра *Тараса Шэвчэнкі.* Бо-ж і ў Шэвчэнкі знойдзем мы тыя самыя думкі, якія трапляюцца ў Купалы і выклікаюць нездаваленьне ў Піліпчука:

Як-бы з кім сесьці, хлеба зьесьці,
Прамовіць слоўца, дык тады-б
Хоць-бы сяк-так на гэтым сьвеце
Было магчыма неяк жыць.
(„Кобзар", стар. 225*)).

Піліпчук мусіў-бы з гэтых радкоў, згодна з сваімі „крытычнымі мэтадамі", зрабіць забойчы для Шэвчэнкі вывад... аб поўным здаваленьні „Бацькі Украіны" жахлівым жыцьцём украінскага сялянства ў часы прыгону! — У іншым месцы (Малітвы, стар. 212) Шэвчэнка, як і Купала, гаворыць:

Працоўным рукам,
Працоўным умам
Перапогі гараць.
Думаць, сеяць, ня ждаць —
І засевы зжынаць —
Працоўным рукам...

І тут быў-бы пошар для „Піліпчукоў", калі-б пад гэтымі радкамі стаяў подпіс: Купала.. А ўжо верхам „праступнасьці" з Піліпчуковага гледзішча мусяць быць словы ўпекі, кіненыя Шэвчэнкам сваей, нацыянальнай, украінскай казацкай старшызьне:

---

*) Цытуем паводле львоўскага выданьня „Кобзара" з 1914 году — „Саюзу Вызваленьня Украіны".



Вашы слаўныя Бруты
Рабы, падножкі, гразь Масквы,
Сьмяцьцё варшаўскае...

бо, калі маскоўскія цары руйнавалі Украіну, дык

...мы глядзелі і маўчалі
Ды моўчкі чухалі чубы,
Нямыя, подлыя рабы...
(стар. 17. 18).

А вось Піліпчук „не разумее", чаму гэта „Купала раз багаславіў, а раз кляў свой народ, калі гэты об'ект пераставаў быць вартым спогаду". Відаць, свайго нацыянальнага павадыра Піліпчук гэтак сама „добра" разумее, як і Купалу. Бо-ж горкі дакор Купалы, кінены бязьдзейным і пакорлівым братом сваім:

Вам — пакорным рабам — не вясны
Рукі накрыж зпажыўшы чакаць,
А пад гоман паўночнай зімы
Ямы ў полі сабе будаваць!...

лічыць Піліпчук... „нацыянальным ідэалам" Купалы!

Канцавыя радкі стацьці Піліпчука даюць адказ на пытаньне, чаго-ж у канцы канцоў хоча гэны „крытык" ад беларускага нацыянальнага паэта, каторы, як ведама кожнаму граматнаму беларусу, сваімі вершамі ўсьцяж будзіў — дый збудзіў! — прыспаны дух у нашым народзе, клікаў беларусаў да барацьбы за волю і вялікія ідэалы чалавецтва, зваў „да сонца і да зор", да „красы і свабоды"? Піліпчук хоча таго, каб Купала перастаў быць беларусам-*чалавекам* ды стаўся беларусам-*зьверам!* І беларусы — на ягоны пагляд — толькі тады мо' зробяцца (хоць не напэўна!) нечага вартымі, калі — па „кароткім супрацоўніцтве" з украінскімі прадстаўнікамі зьвярынае ідэолёгіі — свае нацыянальна-людзкія ідэалы заменяць на „здаровыя" прынцыпы барацьбы за існаваньне свайго *гатунку,* — ясна-ж *гатунку зоолёгічнага, зьвярынага.*

Дзіўна крыху, што ўкраінская дэмакратычная прэса дагэтуль на пасквіль Піліпчука аніяк не адгукнулася. А мо' ў вачох украінскага грамадзянства „свае" фашысты прадстаўляюць такое-ж непаважнае зьявішча, як у нас — беларускія фашысты, і на падобныя выпады „Вістника" яно ня лічыць патрэбным звароччаць увагу?

*С. КАЛІНА*

# Літаратура ў вадносінах да жыцьця*)

Літаратура дзякуючы некаторым сваім спэцыфічным асаблівасьцям зьяўляецца больш зьвязанай із рэальным жыцьцём, з яго рознымі праявамі і працэсамі, чымсьці нейкая іншая галіна мастацтва. Канкрэтная запраўднасьць, якая служыць за матарыял-сырэц для кожнага мастацтва, у літаратуры бывае менш здэформаванай і знаходзіць найбольш багатае й беспасярэднае адбіцьцё. Дзееца гэтак перадусім дзеля таго, што літаратура, карыстаючыся найбольш дасканалым спосабам артыстычнага выражэньня —*мовай,*—мае шмат шырэйшыя магчымасьці дзеля перааданьня значэнёвага й эмоцыянальнага зьместу, чымсьці напрыклад музыка, малярства, скульптура і г. д., якія конкрэтызуюцца пры помачы адпаведнай гармоніі гукаў, хварбаў, ценяў, хвормаў і г. п.

Разважаючы аб узаемнай сувязі літаратурнага мастацтва із запраўднасьцю, высоўваюцца перад намі тры асобныя пытаньні: *1. Якія існуюць адносіны паміж запраўднасьцю, узятай беспасярэдна з жыцьця, а яе адбіцьцём у літаратурным творы, 2. Якое становішча займае літаратура адносна рэальнага жыцьця і які можа мець на яго ўплыў і 3. Ці могуць быць крытэрыі артыстычнай ацэны літаратурнага твору з гледзішча ўсяго толькі на яго тэматыку, аснованую на жыцьцёвым матарыяле?* Кожнаму з гэтых надзвычайна цікавых і актуальных сяньня пытаньняў прысьвяцім жменю ўвагаў, выказываючы іх на падставе адпаведных зьявішчаў у беларускай літаратуры.

1.

## Сапраўднасьць а літаратура

Часта маем звычай глядзець на зьявішчы й факты, апісаныя ў літаратурным творы, як на праўдзівы й точны дакумэнт зьявішчаў і фактаў, якія мелі месца ў запраўдным жыцьці. Само сабой зразумела, што не адносіцца гэта да тых твораў, да якіх чытач перакананы, што адмаляваныя ў іх здарэньні зьяўляюцца чыстай выдумкай, плодам творчай фантазіі песьняра. На такія творы глядзіць кожны, як на артыстычную містыфікацыю, якая толькі ў сваіх аснаўных асаблівасьцях мусіць быць згодная з жыцьцёвай лёгікай. Але справа прадстаўляецца заблытанай, калі дадзены літаратурны твор зьяўляецца аснованы на нейкім здарэньні ці факце праўдзівым. А трэба ведаць, што літаратурны кірунак, званы „аўтэнтызмам," які характарызуецца апісываньнем зьявішчаў і фактаў праўдзівых, у той ці іншы спосаб знаных аўтару і ім перажытых, ёсьць сяньня модным і актуальным. Дзякуючы гэтаму, чытач стараецца часта шукаць у літаратурным творы дакладнай копіі фактаў ці здарэньняў, якія адбываліся ў запраўднасьці, а на падставе лірычнае паэзіі адтварае сабе із стопрацэнтнай дакладнасьцю ўласныя думкі, перажываньні й пагляды песьняра, ня могучы яму даравяць, калі часамі адмаляваньне нейкага фрагмэнту жыцьця ўва ўсім і ня ўсюды згаджаецца з праўдай. Такі падыход да твору, зьяўляецца, ясна-ж, фальшывым і асновываецца на неразуменьні істоты літаратурнага мастацтва.

Ужо ўспаміналася, што літаратура, як і кожнае іншае мастацтва, чэрпае матарыял із канкрэтнага жыцьця, адбівае ў сабе, як у люстры, розныя жыцьцёвыя праявы і працэсы, надаючы ім апрычонае артыстычнае выражэньне. Жыцьцёвыя зьявішчы і факты, паказаныя ў літаратурным творы, дзякуючы іх артыстычнаму ператварэньню, ня могуць быць ідэнтыфікаваныя з запраўдным жыцьцём, бо зьяўляюцца заўсёды здэформаванымі паводле мастацкай лёгікі, твораць свайго роду міт альбо артыстычную візію. Ніякі літаратурны твор, хоць-бы ён быў прысьвечаны апісаньню нейкага праўдзівага здарэньня, добра знанага аўтару, ніколі ня зможа яго прадставіць з навуковай точнасьцю і з захаваньнем усіх яго аўтэнтычных асаблівасьцяў. Паэт ці пісьменьнік, апісываючы нейкае праўдзівае здарэньне, адныя яго рысы зусім заціраe, іншыя, часамі нават менш важныя, высоўвае на першы плян, або падае іх у іншых, чымсьці ў запраўднасьці, суадносінах так у прасторы, як і часе, некаторыя з іх зьмяняе ці дапаўняе мамэнтамі выдуманымі, фікцыйнымі. Перайначываючы такім спосабам запраўднасьць, паступае аўтар згодна із сваімі артыстычнымі мэтамі, бо заданьнем ягоным ня ёсьць дакладнае і сыстэматычнае інфармаваньне чытача аб дадзеным выпадку ці здарэньні, але паказаць абраз ці апісаньне з гледзішча на яго чыста артыстычную функцыю ў творы, прадставіць яго ў форме мастацка-скомпанаванай цэласьці. Такім спосабам літаратурны твор прамаўляе да нашае пачуцьцёвасьці і фантазіі, пабуджае выбражэньне, захоплівае сваім хараством, адным словам выклікае *эстэтычныя перажываньні,* а ў ніякім прыпадку ня ёсьць ягоным заданьнем заспакойваньне нашых інтэлектуальных патрэбаў, даючы веду аб фактах.

Пры паўстаньні літаратурнага твору гуляе першую ролю творчая фантазія песьняра, якая, як ведаем, ёсьць у тым, што мы патрапляем на падставе ведамых нам зьявішчаў і фактаў тварыць візію новай запраўднасьці, тады, калі фантазія адтвараючая выклікае ў нашай сьвядомасьці ўсяго толькі зьявішчы

*) У гэтым артыкуле закранаем усяго толькі найважнейшыя пытаньні, якія адносяцца да вельмі шырокай і ў многіх прыпадках спорнай яшчэ квэстыі ўзаемных адносінаў літаратурнага мастацтва й рэальнага жыцьця. Кідаючы гэтыя фрагмэнтарычныя ўвагі, — якія, дзякуючы гэтай-жа „фрагмэнтарычнасьці," не заўсёды арганічна з сабой вяжацца, — мелі мы наўвазе зьвярнуць на іх увагу нашага грамадзянства, якое незаўсёды належна разумее й ацэнівае розныя літаратурныя зьявішчы.

й факты, у той ці іншы спосаб нам знаныя. Фантазія адтвараючая зьўляецца неабходнай кожнаму чалавеку ў ягоным жыцьці, памагае яму прыпамінаць розныя знаныя здарэньні і адтварыць іх з большай ці меншай дакладнасьцю, а фантазія творчая ёсьць спэцыяльным дарам прыроды; ад яе багацьця й глыбіні залежыць у вялікай меры якасьць артыстычнага таленту. Дык і гэтая акалічнасьць выразна гаворыць за тым, што запраўднасьць, адбітая ў літаратурным творы і перетвораная дзякуючы творчай фантазіі артыста ў візію новай запраўднасьці, у ніякім прыпадку ня можа быць ідэнтыфікаванай з яе адказьнікам у рэальным жыцьці.

Дзеля цікавых разважаньняў на гэтую тэму можа даць нам многа матар'ялу *Нарач* Максіма Танка, як твор, асновaны на праўдзівых і сьвежых яшчэ выпадках з жыцьця наднарачанскіх рыбакоў, аб якіх пару год таму назад шырака пісала віленская прэса. Калі-б нават і ня ведаць зусім аб барацьбе наднарачанцаў за права да вазёр, то ўяўляючы сабе, што „Нарач" ёсьць літаратурным творам, прыгэтым творам першай якасьці, можна сьмела цьвердзіць, што не адбівае яна ў сабе дакладнага ўва ўсіх дэталях ходу барацьбы, што, побач із мамэнтамі аўтэнтычнымі, якія зьяўляюцца аснаўным фонам паэмы, многа так-жа знойдзем выдуманых і перайначаных, што іхнае прычыновае павязаньне і суадносіны будуць іншыя, чымсьці было ў запраўднасьці. Ужо той факт, што Танк наднарачанскія падзеі стараўся расшырыць на ўвесь беларускі народ і ў іх сьвятле хацеў паказаць сучаснае палажэньне і змаганьне беларускага народу, вымоўна сьведчыць, што ня мог ён агранічыцца выключна да знаных яму здарэньняў над Нараччу. Апрача гэтага, Танкава паэма прадстаўляе сама ў сабе твор вялікага эпіцкага размаху, творыць багатую і артыстычна закругленую візію барацьбы. Сьведчыць гэта аб буйнай і шырокай творчай фантазіі песьняра, якая, як ужо ведаем, ня лічыцца із запраўднасьцю, але дапаўняе і ўзбагачвае яе.

Навуковае дасьледаваньне элемэнтаў літаратурнага твору, узятых із запраўднасьці — ці гэта будуць падзеі гістарычныя, апісаныя ў творы, ці тыпы знаёмых аўтару людзей, ці фолькльёрыстычныя матывы, або напасьледак апісаньні канкрэтных краявідаў і мясцовасьцяў — прадстаўляюць для літаратуразнаўцы вялікую вартасьць. На гэтай падставе можна з большай дакладнасьцю праступ'яваць сілу й характар творчай фантазіі аўтара, глыбей унікнуць у ягоны талент наагул. Было-б тады карысным, каб нехта парупіўся дакладна апісаць нядаўныя наднарачанскія падзеі дзеля іхняга сконфрантаваньня з Танкавай паэмай, пакуль яны не расплывуцца ў імгле народнае легенды. З гэтаю-ж мэтаю даўно трэба было парупіцца апісаць і сфатаграфаваць наднёманскія абразы ў Стаўпеччыне, гэтак сакавіта адмаляваныя Коласам у *Новай Зямлі.*



З гэтых кароткіх разважаньняў аб адносінах паміж запраўднасьцю, прадстаўленай у літаратурным творы, а яе канкрэтным адказьнікам у жыцьці, маглі-б паўстаць паважныя непаразуменьні, калі-б на гэтым вычарпаць нашую тэму. Калі сьцьвярджаем, што літаратурны твор ніколі не адбівае ў сабе дакладна рэальнай запраўднасьці ўва ўсіх ейных дэталях, алеператварае яе свабодна, згодна з законамі мастацтва, у запраўдасьць фікцыйную, то маглі-б насувацца сумлевы, ці наагул ёсьць патрэбным лічыцца з жыцьцёвую праўдаю ў літаратурным творы і ці не выгадней было-б з неагранічанаю свабодаю паслугоўвацца фактамі й здарэньнямі, узятымі з жыцьця, зусім не аглядаючыся на ступень іхняе праўдзівасьці?

Вось-жа трэба асабліва моцна падчыркнуць, што гэтая свабода, з якой аўтар адносіцца да рэальнага жыцьця, мае свае межы, якіх пераступіць нельга. Гэтак прыкладам у ведамай трагэдыі Шэкспіра *Юлі Цэзар* бачым старасьвецкіх Рымлян, якія ходзяць у капялюшох, чуем, як у хатах рымскіх патрыцыяў б'юць на сьцяне гадзіньнікі, калі ведаем, што ў тыя часы, у якіх разгортваецца акцыя трагэдыі, гадзіньнікі ня былі яшчэ ведамыя і што Рымляне капялюшоў не насілі. Зусім зразумела, што гэтыя анахранізмы ў выдатным шэкспіравым творы, незацемленыя аўтарам, зьяўляюцца артыстычнай заганай. Было-б таксама недарэчным, калі-б напрыклад Колас у *Новай Зямлі,* кідаючы агульны абраз Вільні із Замкавай Гары, перанёс касьцёл сьв. Пятра й Паўла з Антокаля на Лукішскі пляц альбо калі-б Міхась Машара ў паэме аб Кастусю Каліноўскім пакінуў пры жыцьці свайго героя, калі ведаем із гісторыі, што быў ён асуджаны на сьмерць і што прысуд быў выкананы.

Адсюль вынікае, што вернае прадстаўленьне агульназнаных фактаў, прыгэтым фактаў аснаўных, з якімі літаратура мусіць лічыцца, а свабоднае пераствaрэньне запраўднасьці ў літаратурным творы, аб чым была мова вышэй, гэта дзьве зусім розныя рэчы, якіх ідэнтыфікаваць нельга. Пішучы напрыклад аб Каліноўскім, немагчыма яго пакінуць пры жыцьці, бо пярэчыла-б гэта аснаўному гістарычнаму факту, затое ў прадстаўленьні паасобных акалічнасьцяў ягонай сьмерці, як і ў напісаньні некаторых этапаў жыцьця можа сьмела сабе пазволіць аўтар на рознага роду зьмены й дапаўненьні. Немагчыма нават выабразіць сабе, каб мог існаваць нейкі літаратурны твор, які-б складаўся выключна з матываў, аўтэнтычна згодных з іхнімі адказьнікамі ў запраўднасьці. Звычайна-ж матывы аўтэнтычныя, узятыя з жыцьця, прадстаўляюць усяго толькі агульнае рыштаваньне твору, якое трэба выпаўніць матывамі фікцыйнымі і павязаць іх узаемна. Нейкае праўдзівае здарэньне, якое хоча аўтар намаляваць у творы, прадстаўляе заўсёды само ў сабе іншую цэласьць, іншыя суадносіны й парадак паасобных яго мамэнтаў, чымсьці патрэбна гэта артысту дзеля збудаваньня новай артыстычнай цэласьці, якая мусіць быць скомпанаваная й за-

кругленая выключна з гледзішча на яе чыста мастацкую структуру.

Паколькі літаратура не патрабуе лічыцца з жыццёвай праўдай, за выняткам некаторых асаблівых прыпадкаў, успомненых вышэй, патолькі павінна адказываць ейнай праўдападобнасьці. Фабула літаратурнага твору, прадстаўляючая ў сабе фікцыйны абраз людзкога жыцьця, мусіць быць згодная з вымаганьнямі жыцьцёвай лёгікі, мусіць даваць нам уяўленьне такой фікцыі, якая зьяўлялася-б праўдападобнай і магчымай у запраўдным жыцьці. Выняткам ад гэтага могуць быць фантастычныя творы, ці толькі паасобныя фантастычныя ў іх элемэнты, якія пераважна замыкаюць у сабе той ці іншы сымболічны зьмест альбо алегорыю. Аднак-жа і гэтыя апошнія ў сваім прычыновым павязаньні і суадносінах звычайна адказываюць законам, кіруючым рэальным жыцьцём.

Якнайбольшая згода літаратурнага твору із запраўднасьцю і бясспрэчная ягоная праўдападобнасьць — бяз шкоды, зразумела, для яго артыстычнай вартасьці, (бо, як часта гаворыцца, ня ўсё тое, што здараецца ў жыцьці можа быць і ў літаратуры і наадварот) — ёсьць зьявішчам бязумоўна вельмі дадатнім. І зусім зразумелыя для нас, а нават неабходныя будуць выдавацца дакладныя студыі некаторых аўтараў над канкрэтным жыцьцёвым матар'ялам, які маняцца выкарыстаць у сваіх творах. Гэтак аўтар гістарычных твораў стараецца належна пазнаць даўнейшае здарэньне ці выпадак і ўнікнуць у васаблівасьці эпохі дзеля яе больш дакладнага адмалявыньня, іншы аўтар студ'юе тыпы й псыхолёгію дадзенага сацыяльнага асяродзьдзя, стараецца захарбаваць мову сваіх герояў языковымі яго асаблівасьцямі, іншы ўзноў знаёміцца з рознымі палітычна-грамадзкімі доктрынамі маючы наўвеце паказаць іх у літаратурным творы.

Усё гэта зьяўляецца нязвычайна важнай і неабходнай рэчай, бо без дакладнага пазнаньня таго выразку жыцьця, які маніцца аўтар выкарыстаць у сваім творы, проста немагчымым быўбы добры рэзультат усей ягонай працы. Асабліва найнавейшыя кірункі літаратурнага мастацтва стараюцца як найбліжэй трымацца аўтэнтычнасьці таго жыцьця й фактаў, з якіх чэрпаюць творчы матар'ял, і, не агранічваючыся да самай тэматыкі, прабуюць, з добрым пасьпехам, расшырыць гэтую аўтэнтычнасьць на мову і стылістычныя асаблівасьці твору. Але й тутака ня можна ані на часіну забывацца, што як-бы аўтар не стараўся быць верным у артыстычнай перадачы ведамага яму матар'ялу і якбы добра яго не прасту'яваў, літаратурны твор, асновы на гэтым матар'яле, будзе ў аканчальным сваім выніку ня чым іншым, як толькі большай ці меншай мастацкай стылізацыяй пазнанага жыцьця, толькі артыстычнай візіяй запраўднасьці, а не дакладнай яе копіяй. Такі ўжо закон літаратурнага мастацтва, як і мастацтва наагул, які яго выдзяляе спасярод іншых родаў чалавечай духовай творчасьці, як галіну зусім апрычоную і поўнасьцю аўтономічную. (*д. б*).



*МІХАСЬ МАШАРА*

## З ЦЫКЛЮ—Ей—

Твой дзіўны сьпеў
і звон тваей гітары
Трывогай мне напоўнілі душу,
У сэрцы бунт успыхнуў зноў пажарам,
Хоць сам сабе
прызнацца не хачу.

Хачу сябе на міг замкнуць у мрою,
Хоць сэрца ў бунце скача на нажы.
Цьвярджу яму —
нашто табе такое?
Згасі агні...
зьмірысь
і ня тужы,
Пільнуй таго, што выпала на долю.
Навошта бунт?
І ласкі не прасі.
Ужо ізноў шуміць трава у полі,
Нам трэба ў песьнях сонца каласіць.

У нас з табой
ёсьць музыка другая —
Сталёвы рытм жыцьцёвай барацьбы.
Яе пяе уся зямля жывая
Утапіўшы ў шэрых буднях нашы дні.

Зьвіні, зьвіні,
гітары звон чароўны, —

Дзявочы сьпеў,
хвалюй мяне і муч.
Душой згараючы на шляху зорным
Аж да канца
хачу сябе жывым я чуць.

*М. ШКЯЛЁНАК*

# Уступ да студыяў над гісторыяй Беларусі

## I. Тэрыторыя Беларусі і яе дагістарычнае насельніцтва.

Пад тэрыторыяй Беларусі мы разумеем абшар заселены беларускай этнографічнай масай. Граніцы гэтай масы азначыў ужо праф. Карскі*), кіруючыся, як асновай, распаўсюджаньнем

*) Праф. Карскі, Бѣлоруссы, Вильна, 1904 г. Кн. I, бач. 4—19. Паводле Карскага граніцы Беларусі прадстаўляюцца наступна. На **захадзе** ад ст. Корсаўка мяжа зварачвае на паўдз.-усход да р. Сінюхі, скуль ідзе проста на захад, а ад воз. Чарза на паўн.-захад, кіруючыся да межаў б. рэжыцкага павету. Адгэтуль ідзе ламанай лініяй ізноў на паўдз.-усход да граніцы б. трох паветаў: люцынскага, себежскага і дрысенскага. Ад гэтага пункту граніца ідзе на паўдз.-захад па лініі аддзяляўшай б. дрысенскі павет ад люцынскага, рэжыцкага і дзьвінскага ў кірунку Дзьвіны да Прыдруйска (прыблізна). Далей па Дзьвіне граніца ідзе да Дзьвінска, скуль на паўн.-захад да Ілукшты. На гэтай лініі суседзямі беларусаў зьяўляюцца **латышы.**

Ад Ілукшты мяжа ідзе на паўдзён, крыху на захад ад воз. Дрысьвяты да р. Дзісны, перарэзаўшы каторую праходзе ў Сьвянцяншчыне каля літоўскіх валасьцяў Цьверычы, Гадуцішкі, Сьвянцяны і далей на захад ламанай лініяй па мяжы даўнейшага віленскага павету амаль да Кернава, каля якога пераходзе на левы бераг Вяльлі ў паўдзённым кірунку. Ад ст. Рудзішкі ідзе на паўдз.-усход і ўсход да мяжы б. лідзкага павету, скуль пераходзе ў ашмянскі павет, дзе каля Гаранава зварочвае на паўдз.-захад да Бастун і Забалацьця, а пасьля на поўнач да Эйшышак. Ад Эйшышак ламанай лініяй зварачвае на паўдз.-захад і захад да Друзгенік. Суседзямі беларусаў на гэтай лініі зьяўляюцца **літоўцы.**

Каля Друзгенік (па беларускім баку) граніца ідзе ў Сувальшчыну, займаючы частку сэйненскага і аўгустоўскага паветаў, дзе суседзямі беларусаў зьяўляюцца ўжо палякі. У Сувальшчыне граніца ідзе на Копцева да аўгустоўскага каналу, далей каналам і р. Нэтай да Горадзеншчыны. Тут граніца ідзе на паўдзён каля Сухаволі (на захад) на Кнышын, Хорашч, Сураж, да р. Нарвы. Суседзьмі на гэтай лініі зьяўляюцца **палякі.**

За р. Нарвай на паўдзён ідзе ўжо украінская мяжа па р. Нарве праз бельскі павет да Белавескае пушчы і далей па р. Нараўцы да м. Шэрашава, скуль на Пружану (па укр. баку) да Картускае Бярозы. Адгэтуль зьвяртае на паўн.-усход да р. Шчары, пасьля ідзе р. Бобрыкам на паўдз.-усход праз Лунін, Лунінец да р. Прыпяці, а пасьля гэтай ракой да Дняпра, далей па Дняпры да м. Любэча, скуль ідзе на ўсход праз м. Рэпку на Седнева. Ад Седнева граніца паварачвае на поўнач ламанай лініяй. Каля Хрэнаўкі граніца зварачвае на ўсход аж да р. Дзясны, пасьля ідзе гэтай ракой аж да б. Арлоўскае губэрні. Суседзямі беларусаў на гэтай лініі ёсьць **украінцы.**

У Арлоўскай губ. пачынаецца граніца з **расейцамі,** якая ідзе на захад ад Бранску праз Жукаўку, далей на поўнач, адразаючы да Беларусі заход-



чыстай беларускай мовы, без яе пераходных да маскоўшчыны і украіншчыны дыялектаў. Граніцы прынятыя Карскім на захадзе (з латышамі, літоўцамі і палякамі) ня выклікалі засьцярог з боку пазьнейшых дасьледчыкаў. Дыскусыя ўзьнялася толькі над маскоўскай і украінскай межамі. У рэзультаце новых і навейшых досьледаў, маскоўская і украінская межы папраўлены на карысьць беларускай этнографічнай масы*). Далейшыя досьледы могуць прынесьці нязначныя зьмены гэтых межаў у той ці іншы бок, але спадзяваца паважных перамен ня прыходзіцца. Хочучы азначыць у галоўных нарысах этнографічныя межы Беларусі, мы паклічымся тут на А. Смоліча, беларускага географа, вывады якога ня толькі ня ёсьць супярэчнымі з апошнімі досьледамі ў гэтай галіне, але цалком з імі згаджаюцца. А. Смоліч азначае этнографічныя межы Беларусі наступнымі пунктамі. Мяжа беларускага і *польскага* прастораў ідзе ад м. Мельніка па рацэ Буг, Нурцу, Нарве і Бабру на Аўгустоў; мяжа з *літоўцамі* ідзе каля мястэчкаў Друзгенікі, Рудзішкі, Еўе, Янішкі, Сьвянцяны,

нія часткі б. Жыздрынскага і Масальскага паветаў і пераходзіць у Смаленшчыну. У Смаленшчыне граніца ідзе ламанай лініяй па межах даўнейшых паветаў дарагабускага і бельскага. Каля Зубцава ў Цьвершчыне граніца зварачвае на паўн.-захад, ідзе на паўдзён ад Ржэва і падходзе да вытакаў Дзьвіны і Волгі, скуль кіруецца на захад.

*) Над падрабязьнейшым азначэньнем маскоўскай і украінскай межаў працавалі галоўна: **Н. Дурново, Н. Сокалаў** і **Д. Ушакоў** — аўтары „Опыта діалектологической карты русскаго языка в Европѣ съ приложеніемъ очерка русской діалектологіи". Москва, 1915, стр. 132, там-жа мапа; **I. Голанаў:** „Несколько новых данных к вопросу о географическом распространении диссимилиятивнаго акания, —Сборник статей в честь акад. А. I. Соболевскаго. А. Н. С. Ленинград 1928; **П. Растаргуеў:** „Северско-белорусскій говор. Изследования в области диалектологии и истории белорусских говоров", Изд. I.В.К Ленинград 1927, Московская Диалектологическая Коммисія; **П. Бузук:** „Да характарыстыкі паўночна беларускіх дыялектаў. Гутаркі невельскага і вялікага паветаў", Менск, 1926; **В. Ганцаў:** „Диялектолёгична клясыфикация украинськіх говорів, Зап. Ист. Филёлёг. Виддилу У.А.Н.. Кіів. 1924 і іншыя. Апіраючыся на гэтых і іншых досьледах **др. Я. Станкевіч** усьлед за Маск. Дыялект. Камисіяй азначае ўсходнюю граніцу з маскоўшчынай гэтак: пачынаецца на граніцы б. пав. сычоўскага і зубцоўскага, далей ідзе ўздоўж ракі Вазузы, дзелячы сычоўскі павет прыблізна на дзьве роўныя часткі, потым праз вяземскі павет бліжэй да яго заходняе граніцы, далей уздоўж граніцы б. паветаў дарагабускага і юхнаўскага і праз паўн.-усх. частку б. ельнінскага уваходзе ў б. губ. калускую, ідзе тут па р. Балве, наступна ў б. арлоўскай губ. перараазае б. пав. бранскі ў паўднёва-заходнім кірунху і ўваходзе ў б. пав. трубчэўскі, у якім адразае невялікі заходні кут на карысьць чыстае беларушчыны; у б. мглінскім пав у Чарнігаўшчыне адразае невялікі ўсходні кут да пераходных беларускіх дыялектаў; уваходзячы ізноў у б. трубчэўскі павет праходзе ўздоўж яго граніцы з б. мглінскім і старадубскім паветамі і далей па р. Дзясьне. Граніца украінская на аснове тых-жа досьледаў адсоўваецца на паўдзён ад граніцы Карскага і прабягае па старой гістарычнай мяжы прыблізна па даўнейшай адміністрацыйнай граніцы б. губ. мінскай і горадзенскай з б. губ. кіеўскай і валынскай (J. Stankiewicz: Stan badań nad klasyfikacją djalektów języka białoruskiego. Balticoslavica, T.II, б. 122—126. Тут-жа аўтар рачова аналізуе вывады вышэй успомненых і іншых дасьледчыкаў).

Езяросы (б. Нова-Александраўск). Ад Езяросаў пачынаецца мяжа з *латышамі*, якая ідзе каля м. Ілукшты, Вышкаў, Люцына да ст. Корсаўкі. Ад Корсаўкі пачынаецца мяжа з *Расеяй*. Яна ідзе каля м. Апочкі, Вялікіх Лукаў, вярхоў Дзьвіны на Ржэў і Зубцоў, скуль зьвяртае на паўдзён і па верхнім Дняпры ідзе аж да Дарагабужу. Каля яго мяжа паварачвае крыху на ўсход, а пасьля ідзець ізноў у паўдзённым кірунку на Бранск, скуль р. Дзясной да м. Грамяча. Каля Грамяча пачынаецца беларуска-*украінская* мяжа, якая дзелячы Чарнігаўшчыну больш менш папалам кіруецца на Любеч. Ад Любеча граніца ідзе уніз па Дняпры да утокаў Прыпяці і там трапляе на старую беларуска-украінскую гістарычную мяжу, якая лясамі і балотамі на паўдзён ад Прыпяці ідзе больш менш па даўнейшай граніцы менскае і горадзенскае губэрніяў з кіеўскай і валынскай прыблізна да Уладавы, пасьля па рацэ Бугу да Мельніка*).

Гэты прастор займае 300.000 кв. вёрст і цягнецца з усходу на захад каля 700 вёрст і з поўначы на паўдзён каля 550 вёрст**).

Цяперашнія этнографічныя граніцы Беларусі не пагаджаюцца з тымі, якія займаў беларускі народ у працягу гісторыі, паіменна цяперашнія межы ёсьць значна меншымі ад гістырычных. Звужэньне межаў наступіла дзякуючы стратам на ўсходзе, паўдз.-усходзе і поўначы ў землях, занятых даўней беларускімі плямёнамі Вяцічаў, Северанаў і часткава Крывічоў (Пскоўшчына). Страчаныя землі гэта тыя, якія цяпер лінгвісты азначаюць як занятыя пераходнымі беларускімі гаворкамі. Сяньня трэба лічыць ужо даказаным, што гэтыя пераходныя гаворкі паўсталі на беларускай аснове, хоць яшчэ нядаўна некаторыя расейскія філёлёгі (Шахматаў і інш.) бачылі тут расейскую аснову***).

Калі на поўначы, усходзе і паўдні абшар заняты беларускай этнографічнай масай зьменшыўся, на захадзе мяжа з літоўцамі і нават латышамі перасунулася на карысьць беларусаў. Шляхам калянізацыі пушчы, аддзяляўшай балтыцкія плямёны ад беларусаў, або нават асыміляцыі суседніх балтаў, граніцы беларускае мовы пасунуліся тут крыху далей на захад.****) Бясспрэчнай хіба ёсьць рэчай, што гісторыя Беларусі не павінна абмяжавацца толькі да сучаснае яе тэрыторыі, але павінна наўперад прыймаць пад увагу г. зв. гістарычныя межы беларускага народу і выясьніць той гістарычны працэс, шляхам каторага беларусы апынуліся ў цяперашніх этнографічных межах. З гэтага гледзішча гісторыка павінны цікавіць аднолькава побач з бясспрэчнай беларускай тэрыторыяй так-жа тэрыторыі даўнейшае Севершчыны, зямлі Вяцічаў, Пскоўшчыны, бо землі гэтыя былі населены беларускімі плямёнамі, трапіўшымі ў сілу асаблівых умоваў у сфэру палітычнага жыцьця небеларускіх цэнтраў і адыйшоўшымі праз гэта ад агульна-беларускае цэласьці.

*) А. Смоліч. Географія Беларусі, выд. 3. Вільня, Віл. Выд. Клецкіна, б. 145—146.

**) Ibidem, б. 4.

***) Я. Станкевіч, о. с. і ягож „Беларускія плямёны і іхняе разсяленьне". Родная мова, № 1-2 і 3-4, 1930 г. 1930 г. Вільня. У гэтых працах аўтар грунтоўна даказаў беларускую аснову пераходных гаворак. Але апрача філёлёгічных ёсьць і гістарычныя аргумэнты на карысьць беларускае асновы, да чаго мы яшчэ вернемся.

****) Існаваньне пушчы між балтамі і беларусамі, калянізаванай з абыдвух бакоў дапушчае і Лаўмянскі. — H. Łowmianski. Studia nad początkami społeczeństwa'i państwa litewskiego, t. I. б. 50-56 Дапушчэньне гэта ёсьць надта праўдападобным.



Лішнім было-б даказваць, якое вялізарнае значэньне ў жыцьці народу маюць фізыёграфічныя ўмовы краіны, дзе ён жыве. Гэта ёсьць праўда агульна-ведамая і ня мыляючыся можна сказаць, што ня толькі культура матарыяльная, але псыхіка і агулам культура духовая народу ў значнай ступені залежыць ад прыродных умоваў, у якіх ён жыў і жыве. Характэрызуючы коратка фізыёграфічныя ўмовы Беларусі на працягу гісторыі, трэба сказаць, што яны зводзіліся галоўна да трох дзейнікаў, каторымі былі: *лес, вада і балоты.* Ад найдаўнейшых часоў тэрыторыя Беларусі была пакрыта вялізарнымі лясамі-пушчамі, даваўшымі добрую здобыч зьвярыны каляністу і спрыяўшымі разьвіцьцю бортніцтва. Апрача таго лясы ды балоты хавалі насельніцтва ад нападаў ворагаў і перашкаджалі апошнім свабодна рухацца па Беларусі, як гэта было ў краёх бязлесных (прыкладам Украіна). Аднак, побач з гэтым, пры надта прымітыўнай тэхніцы, лес быў вялікай перашкодай для шыбкага разьвіцьця земляробства. Калі для першабытнага асадніцтва лес прадстаўляў хутчэй няпрыязны дзейнік, дык вада для яго была бязумоўна дадатным элемэнтам. Вада мела значэньне камунікацыйнае, была багата рыбай і па яе берагох былі натуральныя лугі, дзе затрымліваліся першыя асаднікі. Гэтыя лугі згулялі ў Беларусі тую-ж ролю, як абшары лёсу ў Сярэдняй Эўропе, паіменна прынялі найстарэйшае асадніцтва, якое пасоўвалася найахватней вадзянымі шляхамі і стабілізавалася ў вадкрытых мясцох, старонячыся няпрыязных пушчаў. Асядаючы над берагамі рэк, на краях спрадвечных лясоў, першыя каляністы паступова углыбляліся ў пушчу, цярэбячы дарогі для земляробаў, каторыя пачалі яе карчаваць. Аднак і земляроб асядаў пачаткава над ракой, дзе меў прыродныя лугі і без вялікага труду мог араць зямлю і павялічваць яе коштам лесу.

Прыродныя ўмовы Беларусі будуць больш зразумелымі, калі мы ўспомнім рэзультаты гэолёгічных досьледаў ейнае тэрыторыі.*)

З гледзішча гэолёгічнага тэрыторыя Беларусі мае сваю цікавую гісторыю. Характэрным ёсьць факт, што ад найдаўнейшай эпохі — *архэйскай* — на тэрыторыі Беларусі ня было значнейшых горатворчых працэсаў, а наглядаліся толькі дужа памальныя падняцьці і апусканьні асобных частак — г. зв. *эпірогэнэ-*

*) Глядзі H. Łowmianski, o.c. б. 50—56.

*тычныя рухі.* Дзякуючы апошнім простор Беларусі некалькі разоў да пасьляледавіковае пары заліваўся морам і аслабаняўся ад яго. Досьледы сьцьверджаюць, што ўжо ў *кэмбрыйскую* пару блізу ўсю Беларусь заліло мора, прыйшоўшае з захаду. Гэта мора трывала праз усю *сылюрскую* эпоху, у канцы якой паверхня Беларусі пачала падымацца з усходу і памалу ўся Беларусь выйшла з пад вады. У другой палавіне чарговай *дэвонскай* эпохі мора ізноў находзе на Беларусь, але гэтым разам з паўночнага усходу (г. зв. Ціманскае мора), залівае паўночна-усходнюю частку Беларусі і трывае там амаль да канца *вуглявой* пары. Толькі ў канцы гэтай пары ўся Беларусь робіцца *сухаземлем*. Сухасьць клімату не дала магчымасьці вытварыцца ў Беларусі значнейшым пластам каменнага вугальля. Праз цэлы шэраг наступных гэолёгічных пораў (пэрмскую, трыяс, юра). Беларусь астаецца сухаземлем. У *крэйдавую* пару мора ізноў залівае Беларусь з захаду і займае паўдзённа-заходнюю частку прыблізна да р. Бярэзіны і Вяльлі і трывае да канца гэтае пары. У гэтым часе асядаюць пласты пішучае крэйды. Паўночна усходняя частка Беларусі астаецца ў гэтую пару сухаземлем. У наступную *нумулітычную* пару (олігоцэн) ўся Беларусь ізноў заліваецца морам, прышоўшым гэтым разам з паўночнага ўсходу, але ўжо ў канцы гэтай пары мора аканчальна аслабаняе тэрыторыю Беларусі. У навейшыя (чацьвёртарадныя) часы ў Беларусі таксама адбываюцца эпірогэнэтычныя рухі, але даволі слабыя і ня змаглі зьмяніць прастораў, занятых сухаземлем і вадой. У рэзультаце гэтых рухаў паўночная Беларусь крыху паднялася, а паўдзённая зьніжылася. Трэба аднак зацеміць, што да падыймаўшыхся прастораў належыць і паўднёвы пояс узгор'яў, што цягнуцца ад Ваўкавыска праз Наваградак за Слуцк.

Сучасную сваю паверхню і яе структуру Беларусь заўдзячвае ледавіку. Шмат тысячаў гадоў назад уся тэрыторыя Беларусі пакрываецца ледавіком, прыпоўзшым сюды з поўначы і прынёсшым з сабой многа каменьняў, пяску і гліны (морэна). Калі ледавік растаяў, усю паўдзённую Беларусь пакрыла вялізарнае возера, г. зв. *Гэродотавае* мора, з якога лішкі вады сьцякалі праз Польшчу і Нямеччыну ў Нямецкае мора. Гэта возера паступова высыхала і сяньня маем толькі малыя яго астачы (возера Князь, Выганоўскае на Палесьсі і інш.). Ледавік пакінуў за сабой пласты, пад якімі ў глыбіні ляжаць іншыя, што сфармаваліся ў ранейшыя поры.*)

Паводле формаў паверхні тэрыторыя Беларусі прадстаўляе фактычна *нізіну*, пакрытую, асабліва на захадзе і паўночным усходзе, шырокімі грамадамі узвышшаў. Тыповымі нізінамі зьяўляюцца *полацкая і палеская*. З узвышшаў на захадзе трэба адцеміць наступныя іхнія грамады: *Вялейскую Падкову Узгор'яў* (у вадазборніку Вяльлі), *Паўднёвы Ланцуг Узгор'яў* (на паўдзён ад Нёмана), *Паўночныя Марэны* (між якімі плыве Дзьвіна) і *Дняпроўскае Узгор'е* (на паўдзён ад верхняга Дняпра і далей на захад). Уздоўж усходняй мяжы Беларусі цягнецца плоскае узвышша — *Вокаўскі Лес**)

Усе важнейшыя рэкі Беларусі стварыліся не раней, як у ледавіковую пару**). Беларусь абыймае верхнія часткі вадазборнікаў *Дняпра, Нёмана і Дзьвіны*. Найвялікшай ракой Беларусі ёсьць Дняпро. Гэта надта важная гістарычная артэрыя Беларусі. Галоўныя яго прытокі на тэрыторыі Беларусі: з правай стараны — *Воп, Хмосьць, Друць, Бярэзіна і Прыпяць*, з левае—*Сож і Дзясна*. Другой ня менш важнай артэрыяй была *Дзьвіна*. Найважнейшымі яе прытокамі ёсьць з правага боку: *Таропа, Усьвят, Вобаль, Палата і Дрыса*, з левага—*Мяжа, Касьпля, Вула, Дзісенка.*

Урэшце Нёман ёсьць трэцяй ракой Беларусі вялікага значэньня. Найважнейшыя яго прытокі: з левага боку — *Шчара, Зельва, Чорная Ганча*, з правага—*Бярэзіна, Марачанка, Вяльля.*

На поўнач ад вадазборніка Дзьвіны праз тэрыторыю Беларусі цякуць верхнімі сваімі часткамі рэкі *Лаваць і Вялікая*. У мінуўшчыне гэтыя рэкі мелі вялізарнае значэньне. Яны належалі да г. зв. вялікага воднага шляху „із Вараг у Грэкі," праходзіўшага далей Дзьвіной і Дняпром праз тэрыторыю Беларусі. Па р. Лаваці ішоў гандаль з Ноўгарадам, а па Вялікай з Псковам, а далей па аднэй і другой — з замор'ем.

Беларускія рэкі ў гісторыі згулялі вялізарнае значэньне. Апрача падчыркненае вышэй іхняй камунікацыйнай ролі пры пашырэньні колёнізацыі, рэкі Беларусі былі вялікімі гандлёвымі шляхамі. Беларусь ляжала на скрыжаваньні двух вялікіх водных шляхоў. Першым з іх быў ужо успомнены „із Вараг у Грэкі," які лучыў поўнач з паўднём і ішоў Дняпром, Касплей, Дзьвіной, Лаваццю або Вялікай. Другі лучыў усход з захадам і праходзіў Дзьвіной, Волгай або Дняпром. На тэрыторыі Беларусі знаходзіліся г. зв. „волакі" — сухаземныя дарогі, па якіх перавозілі тавары ад аднае ракі ў другую, быўшыя істотнай часткай вялікіх шляхоў. Над рэкамі Беларусі ад зараньня гісторыі народу бачым вялікія і сільныя гарады: *Полацак, Смаленск, Віцебск, Пінск, Тураў* і інш. — быўшыя гандлёвымі цэнтрамі Беларусі. Аб вялічыне тагачаснага беларускага гандлю сьведчаць раскопкі, асабліва апошніх часоў. Як даказаў праф. Шчакаціхін, Беларусь нават да пачатку сваей эры была ў надта ажыўленых гандлёвых зносінах з гэткімі краямі, як Пэрсыя, Сырыя, Грэцыя,

*) А. Смоліч. Географія Беларусі, Вільня, 1923 г. выд. 3, бач. 12—20. Глядзі так-жа Siemiradzki. Geologja Ziem Polskich, Wołłosowicz — Litwa i Białoruś.

*) А. Смоліч, о. с. б. 21—40.

**) Ibidem, б. 55.

Скандынавія, Нямеччына, Вугрыя*). Ня трэба падчырківаць, што гэты гандаль ішоў успомненымі шляхамі.

Найвялікшым балотам на тэрыторыі Беларусі ёсьць Палесьсе. Побач з іншымі, яно ледавіковага паходжаньня. Часткава балоты могуць паходзіць ад высыхаючых вазёраў. У мінуўшчыне Палесьсе было натуральнай граніцай на паўдні, труднай да пераходу.

Пазнаёміўшыся з абшарам Беларусі, яе гэолёгічнымі і фізыёгеографічнымі умовамі, паўстае пытаньне, ці тэрыторыю Беларусі можна разглядаць у гісторыі, як нейкую фізычна-гэографічную суцэльнасьць, розную ад суседніх. А. Смоліч з гледзішча будовы паверхні Беларусі, яе расьліннасьці, натуральных межаў, клімату, сеткі рэкаў рашуча выказваецца, што і цяпер Беларусь гэткую суцэльнасьць творыць**). З тым большым правам можна цьвердзіць, што гэткай суцэльнасьцю Беларусь была ў мінуўшчыне, калі ня было чыгункі, параходаў, тэлеграфаў, а ўвесь прастор яе ў значне вялікшай ступені быў пакрыты непраходнымі пушчамі й балотамі. Гэта суцэльнасьць рабіла з Беларусі трудны да здабыцьця край, хоць ён і ня меў выразных натуральных граніц у форме напр. высокіх гораў. Тым ня менш якраз іменна з гледзішча цэласьці гэтых фізыёгеографічных умоў, тэрыторыю Беларусі асабліва ў гісторыі можна лічыць, як маючую натуральныя граніцы. Ужо праф. Карскі зьвярнуў увагу, што межы Беларусі, аддзяляючыя яе з захаду і ўсходу ідуць вялікімі вададзеламі пакрытымі лясамі і маюць характар натуральных межаў.***) У мінуўшчыне гэтыя лясы былі куды большымі і тварылі большую перашкоду для непрыяцеляў. Апрача таго яны былі больш балотнымі, як цяпер. Дык можна лічыць гэтыя лясістыя вадзелы натуральнымі граніцамі.

Аб Палесьсі, як натуральнай граніцы на паўдні, мы сказалі вышэй.

Труднасьць здабыцьця Беларусі, дзякуючы яе асаблівым фізыёгеографічным варункам, была важкім дзейнікам, абясьпячаўшым арганізацыі асобных беларускіх гаспадарстваў, з якіх найвялікшымі былі Полаччына, Смаленшчына і Турава-Піншчына.

---

*) Праф. М. Шчакаціхін. Нарысы з Гісторыі Беларускага Мастацтва, т. I Менск, у розных мясцох.

**) А. Смоліч. Географія Беларусі, Вільня, 1923, б. 113—116.

***) Карскі, о. с. бач. 24—28

(*д. б.*)



# Хведар Іванавіч Шаляпін

12 красавіка гэтага году скончыў сваё жыцьцё на чужыне, у Парыжы, слаўны на ўвесь сьвет расейскі мастак сьпеву і сцэны, Хведар Іванавіч Шаляпін. Правільна адзначыў нехта ў адным з нязьлічаных нэкралёгаў аб вялікім нябожчыку, што пішучы аб Шаляпіне асабліва востра адчуваеш усё бязсільле слова... Називаць вялікім сьпеваком, або нават геніяльным мастаком — усё гэта зусім не аддае запраўднай магутнай велічы, шырыні, глыбіні і яркасьці гэтага нябывала арыгінальнага, зложанага, а разам такога простага і для ўсіх зразумелага, усіх перамагаўшага сваей унутранай і вонкавай красой зьявішча... Шаляпіна трэба было чуць і бачыць. І тады слухач забываў усё на сьвеце, не забываў толькі на ўсё жыцьцё аж да сьмерці таго ўражаньня, тае радасьці мастацтва, якія даваў Шаляпін. За сваю блізу паўвяковую кар'еру мастака, Шаляпін аб'ехаў літаральна цэлы сьвет. Шматлікія мільёны людзей розных краёў, нацыяў і колеру слухалі яго, як „адкравеньне самой мастацкай красы і Божае прыроды", і абраз расейскага мастака жыве ў удзячнай памяці гэных мільёнаў, як узор дасканаласьці, як найдаражэйшы, непаўтарымы ўжо ўспамін дазнанае за жыцьця мастацкае роскашы...

---

Як-жа, аднак, даць паняцьце аб тым, што такое Шаляпін, тым, хто яго ніколі ня чуў і не пачуе. Праўда, голас мастака цяпер, можна сказаць, навука і тэхніка умее „запісаць" і голасна „адчытаць." Мы кажам, ясна-ж, аб *грамафоне.* На грамафонных плітках запісана блізу ўся мастацкая продукцыя Шаляпіна, як і іншых слаўных сьпевакоў сьвету. Але-ж, Шаляпін — ня толькі мастак сьпеву, але і непаўтаральны, геніяльны артыст сцэны. Яго трэба ня толькі чуць, але і бачыць. Гэній яго якраз у гэтай сынтэзе. Нават ня ў грыме, не на сцэне, але на канцэртнай эстрадзе, трэба відзець яго рухі, яго жэст, міміку яго твару, усю яго фігуру, ад якой плыве няпераможнае „обаяніе" генія... Усяго гэтага, ясна-ж, не дае грамафон, ня кажучы ўжо і аб „мэханізацыі" самага голасу і сьпеву. Для тых, што ня чулі Шаляпіна, усё тое, што скажаш аб ім, павінна выдавацца нейкай байкай. І гэта правільна. Бо-ж, запраўды, жыцьцё і кар'ера Шаляпіна ёсьць насамперш байка, цудоўная байка. І гэтую байку трэба перадусім ведаць *народу, сярмяжнаму сялянскаму народу,* ведаць кожнаму селяніну-славяніну, значыць і беларусу, бо-ж *Шаляпін — выйшаў проста і беспасрэдна з нізоў і гушчаў простага народу, з вясковай беднаты...* Вось чаму, цудоўная байка яго жыцьця, яго кар'еры і славы — асабліва і „бязьмерна—радасная" для кожнага шчырага сына народу, асабліва — народу славянскага, ці то будзе расеец, беларус, паляк, ці ўкраінец. Ці-ж запраўды ня цудоўная байка, што просты вясковы хлапчук з-пад Казані, якога яго бедны бацька ледзь здолеў аддаць „у на-

вуку“ да мясцовага шаўца, якога гэты п'яніца-„вучыцель-майстра“ добра што не забіў да сьмерці, толькі сілай свайго прыроднага генія, агнём свайго запалу да ўкаханага над жыцьцё мастацтва, волей і працай над дадзеным яму Богам талентам, стаў блізу на паўвеку на чало ўсіх сусьветных мастакоў сьпеву і сцэны, як іх некаранаваны, але прызнаны ўсім сьветам, кароль, перад якім, як перад запраўдным „монархам Божай міласьцю,“ схілялі галовы наймагутнейшыя валадары і князі „міру сего.“

---

Трэба, аднак-жа, добра зразумець, у чым-жа, уласьціва, сіла Шаляпіна.

Аб тым ясна кажа сам вялікі мастак у сваей, слаўнай няменш яго сьпеву, кніжцы, у якой ён апісаў сваё жыцьцё. *Сіла Шаляпіна ў тым, што ён зьяўляецца найлепшым „зборным тыпам,“ „Божым тварам“ свайго народу.* Сіла Шаляпіна — ў гэтай *органічнай, неразрыўнай, глыбінна-мастацкай сувязі з народам, якога песьнятворчую душу якраз найлепш уцелясьняе вялікі мастак.* Сіла Шаляпіна — у тым, што ён як быццам сабраў у сваю мастацкую індывідуальнасьць усе найлепшыя, сонечныя рысы свайго народу, бязьмерна шырокі размах яго душы, безгранічную шыр палёў, стэпаў, рэк і лясоў яго краю. Рэшты даканала мастацкая школа, вялікая школа Заходу, захаваўшая досьледы тысячалецьцяў культурнага разьвіцьця чалавецтва...

Добрая, запраўдная школа заўсёды вызваляе талент з яго абмежаванасьці, з яго паняволеньня прыродай, робячы яго, наадварот, пакорнай прыладай сьведамай волі артыста, прыладай бязьмежных дасягненьняў мастацтва. І абодва гэтыя мамэнты: стыхійны прыродны талент і найвышэйшая школа, што зрабіла з гэтага шчодрага дару прыроды паслухмяны інструмэнт мастака, былі ў Шаляпіна зьліты ў геніяльнай сынтэзе нячуванай красы і непераможнага „обаянія.“

У Шаляпіна быў *бас* вынятковай сілы, шырыні і пекнасьці. Глыбокі, якбыццам плыўшы з сэрца, знамяніты „аксамітны“ шаляпінскі бас. Гэты інструмэнт ужо сам па сабе чараваў сваім гукам. Але як цудоўна выражаў ён розныя адцені пачуцьця! Як ласкаў, як ажыўляў, як цудатворна сцаляў і ўскрашаў гукамі ласкі, любові, як паліў страсьцю, як чараваў надзеяй, радасьцю, як узрушаў да сьлёз сумам! Яго задзіўляюча-тонкія шпаркія рэчытатывы здольны былі выразіць самую тонкую іронію, дасьціпную ігру французскага „эспри.“ “Вільготная“ мелёдычная стыхія сьпеву чулася, як у сябе на бацькаўшчыне, у галіне „бель канто“ Італіі старых майстроў, якая сталася яго другой бацькаўшчынай. Запраўды-ж, можна дзівіцца, што гэта сялянскі дзяцюк далёкай казаншчыны здолеў — ня то, што так „аб'эўрапэіцца,“ але так ператтварыцца то ў француза, то ў італьянца, то ў немца, пяючы іх арыі і песьні, *пры гэтым астаючыся рускім.*

Сцэнічнае мастацтва—найбольш зложанае, найбольш сынтэтычнае мастацтва з усіх іншых. Ня кажам ужо аб тым, што



для пастаноўкі на сцэне, скажам, опэры, патрэбна супрацоўніцтва — і паэзіі, і музыкі, і мастацтва (дэкарацыі) і танца, і тэхнікі (асьвятленьня і т. д.). Але возьмем толькі самога артыста. І тут акцёр-мастак — і рэцытуе словы паэта, адтвараючы створаны ім тып; далей ён адтварае музыку, створаную кампазытарам, якую трэба зьліць сынтэтычна із словам паэта. Але-ж яшчэ мастак-акцёр павінен даць сам сваей асобай жывы тып таго, каго ён іграе. Мастак сцэнічнай ігры павінен быць і мастаком грыму, характэрыстыкі... І вось, Шаляпін быў *нячуваным мастаком усіх гэтых галінаў мастацтва у дасканалай сынтэзе.*

---

Без канца можна пісаць аб Шаляпіне. Але трэба і скончыць. У канцы, ня можна не паўтарыць, што найвялікшая моц Шаляпіна уяўлялася ў выкананьні ім тады, калі ён *зьвяртаўся да тэй стыхіі-маткі, якая яго спарадзіла: да стыхіі рускай народнай песьні.* Як ні быў расейскі мастак багаты сваей „усечалавечым геніем,“ сваей многатварнасьцяй у выкананьні родных роляй, адтварэньні людзей розных часоў і народаў, але запраўдная, бясспрэчная веліч і краса яго мастацтва адчувалася якраз у галіне роднага сьвету. Тут ён быў непараўнаны, непаўтарымы, непераможны.

Расейскія опэрныя арыі, песьні бурлакоў з-над Волгі, у мастацкай апрацоўцы, паміж іншым, і самога вялікага мастака — вось чым узварушаў Шаляпін найглыбей душу слухача. І гэта, зразумела-ж, таму, што ўсім гэтым блізкім і родным, дый такім балючым, такім бязьмежна-шырокім, магутным, а адначасна такім бязсільна трагічным сьветам найглыбей — найглыбей узварушалася душа самога мастака, неразрыўна, органічна зьвязанага з гэтым расейскім сьветам...

І мы, беларусы, добра разумеем гэта. Асабліва-ж глыбака пачынаем разумець гэта, пачуўшы свайго роднага мастака-сьпевака Міхала Забэйду-Суміцкага. Культурны эўрапэец, „грамадзянін сусьвету“ ў музыцы, ён робіцца чароўным, нянераможным тады, калі пяе родныя беларускія песьні...

**Ул. Чэмер**

*АНАТОЛЬ ІВЭРС*

## Ц І Т О П Е С Ь Н І?...

Ці то песьні ў пазалоце
на аўсянішчы густым?
Ці то вецер гай малоціць,
медзьдзю зьлітыя кусты?

Ці то з шумам адцьвітаньня
сэрца збуджаны парыў
запаліў зарою раньне
да вячэрняе зары?

Ці то ў сонечным прасторы
сокал хмары варушыў?
Ці то радасьць, ці то гора
накіпела на душы?

# Алесь Гурло

Толькі нядаўна атрымалі мы з Савецкай Беларусі сумную вестку — 4-га лютага памёр там адзін із старэйшых беларускіх паэтаў Алесь Кандратавіч Гурло. Нарадзіўся паэт у 1892 г. у м. Капылі, у беднай сялянскай сям'і. Ад дзяцінства пазнаў і пераўжыў шмат гора і бяды, будучы пастушком, парабкам і іншым наймітам. Падросшы, апынуўся ў Петраградзе, гдзе працаваў фабрычным работнікам. У 1909 г. пачаў пісаць вершы, якія вызначаюцца лірычнай пачуцьцёвасьцю і шчыраю беспасярэднасьцю. Друкаваўся да 1915 г. ў „Нашай Ніве,“ „Маладой Беларусі“ (1913 г., сш. 3) і інш. беларускіх часапісах. „У той час, калі большасьць беларускіх паэтаў у сваіх творах ў цёмных фарбах малявалі гаротнае жыцьцё беларускага земляроба, Гурло вызначаўся сваімі вясёлымі сонечнымі мотывамі, якія энэргічна клікалі да волі, да змаганьня з цемрай. Колёрыт яго вершаў — сонечнае неба бяз хмарак, птушка-арол у вышыне, а пад імі ясна - срэбны ручэй, абшар зялёных лугоў, моцны вецер і г. д., гдзе гэткая абстава кліча да радасьці і шчасьця.“ („Бел. жыцьцё,“ № 7, 1920 г.).

Перад вайной, пакліканы ў царскую армію, Гурло служа матросам у балтыцкім флоце на караблі „Забіяка.“ Тут напісаў шмат вершаў, у якіх марыць аб сьветлых днях, аб сіле марака, які пераможа „сустрэчных хваляў рад.“ — Лютаўская рэвалюцыя застае паэта на караблі. Ён прыймае ў ёй актыўнае ўчасьце. У восені, у кастрычніку, між іншым бярэ ўчасьце у захопе Зімняга палацу ў Петраградзе. Цяжка ранены ў грамадзянскай вайне, ён астаецца на ўсё жыцьцё інвалідам.

Найбольш плоднымі для творчасьці паэта 1921, 22, 23 гады, калі ён напісаў шмат вершаў, якія выходзяць у 1924 г. асобным зборнікам п.н. „Барвёнак,“ потым адна па другой выходзяць кніжкі: „Зорнасьць.“ „Сузор'е,“ „Межы“ і інш. У 1937 г. напісаў новы зборнік лірыкі. Апроч лірычных вершаў Гурло напісаў вялікую аўтобіографічную паэму.

Памёр ад сухот і калецтва.

Не памылімся, калі скажамо, што скараціла век песьняра і тая жахлівая маральна-палітычная атмосфэра, той жорсткі сталінскі палітычны рэжым, які існуе пэрманэнтна у Саветах, — у Савецкай Беларусі у больш вострай форме,— і які забраў і забірае многія дзесяткі і сотні беларускіх ахвяраў, у тым ліку і з беларускага літаратурнага Алімпу.

**Я. Шутовіч**

---

# Хроніка

— У Беларускім Навуковым Т-ве. Сярод дакладаў прачытаных за апошні квартал у сэкцыях Бел. Нав. Т-ва, асаблівае зацікаўленьне выклікалі два: у гістарычнай сэкцыі — даклад мгра Мікалая Шкялёнка і ў языкаведнай — д-ра Я. Станкевіча. Даклад мгра Мікалая Шкялёнка аб нарадзінах гаспадарства Міндоўга меў проста рэвэляцыйны характар з увагі на выкрыцьцё і ролю ў гэтым гаспадарстве беларускага элемэнту. Др. Я. Станкевіч даў нязвычайна цікавы філёлёгічны разгляд языка дыплёматычнага пісьма рыскае рады да віцебскага князя Міхаіла ў канцы XIII ст. Язык пісьма мае ў сабе ярка выяўленыя беларускія ўласьцівасьці і паказвае, як добра нямецкія купцы, таргаваўшыя на Беларусі, ведалі беларускую мову. Гэты даклад надрукаваны ў першым сшытку „Запісаў Бел. Нав. Т-ва“.

— У Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча. У пачатку красавіка віленскія музэі абвясьцілі „Тыдзень прапаганды музэяў“. У працягу тыдня адведалі Беларускі Музэй 3.450 асоб, у тым звыш ста экскурсіяў.

Лічба экспонатаў у Музэі ўсьцяж узбагачваецца новымі рэчамі і новымі вітрынамі.

— Новая спроба комасацыі Беларускага Музэю. Два гады таму назад ўлады дзяржаўнае адміністрацыі ў Вільні запрапанавалі кіраўніцтву Беларускага Музэю, каб згадзілася зьліць гэты Музэй з польскім Музэям Т-ва Прыяцеляў Навук. Тыя-ж улады прыпынілі тады невялікую дзяржаўную дапамогу Музэю, каторая йшла перад усім на аплату музэйнае кватэры ў дзяржаўным гмаху. Аднак, ані беларусы, ані польскі Музэй на гэткае зьліцьцё не згадзіліся. Справай зацікавілася Варшава, і стуль было загадана ўзнавіць Музэю дапамогу.

Цяпер-жа новая спроба комасацыі... Віленскае ваяводзтва зьвярнулася да дырэктара Беларускага Музэю гр. Луцкевіча і запрапанавала стварыць з Беларускага Музэю ды з музэйнае зборкі Літоўскага Навуковага Т-ва адзін „Рэгіональны Музэй“, як установу дзяржаўную. Гэтая ўласнасьць беларускага народу мела стацца ўласнасьцяй Польскага Гаспадарства. Гр. Луцкевічу ўлады запрапанавалі „добра платнае“ становішча кіраўніка „Рэгіональнага Музэю“.

Дзеля таго, што Беларускі Музэй ні ў якім выпадку не павінен і ня можа ўтраціць свайго нацыянальна-беларускага аблічча і сваей самастойнасьці, і лічачыся з воляй сьв. п. Івана Луцкевіча, каторы гэты плод працы ўсяго жыцьця свайго аддаў Беларускаму Навуковаму Т-ву з тэй умовай, каб з ягонае зборкі быў створаны музэй **беларускі**, а ня нейкі іншы, — гр. Луцкевіч ад зробленае яму прапазыцыі адмовіўся.

У сувязі з гэтым, як мы даведаліся, улады йзноў спынілі выдаваную дагэтуль на ўтрыманьне Беларускага Музэю дзяржаўную дапамогу.

— Гарманізацыі беларускіх народных песьняў. Слаўны украінскі кампазытар Александар Кошыц прыслаў з Н.-Іорку для Беларускага Хору Р. Шырмы ў Вільні памастацку апрацаваныя беларускія народныя песьні: „Там за садамі“ (калядка), „Ой вышла маці“, „У ва Іордане“ (калядка), „Ой п'яна, п'яненька“, „Гыля, гыля, мае шэры гусі“, „Ой у садзе-вінаградзе“ і „Лугам, лугам зеляненькім“ (валачобная).

Другі ня менш знаны украінскі кампазытар М. Гайворонський, таксама з Н.-Іорку прыслаў свае мастацкія апрацоўкі народных беларускіх песьняў: „Гэй паехаў сын Даніла“, „О-ю-ля-лю!“ і „Замуж пайсьці трэба знаць“.

— 17-га траўня ў Літоўскім Т-ве Літаратуры і Мастацтва адбыўся вечар беларускае літаратуры, у праграму якога ўваходзілі: рэфэрат аб беларускай літаратуры ў Польшчы, прачытаны і апрацаваны др. Тумашам палітоўску, і дэклямацыі вершаў Танка, Машары, Васілька, Арсеньневай, Ільляшэвіча і інш. з ма-

ладзейшых паэтаў, Сваяка, Адважнага — із старэйшых.

— Два чарговыя вялікія канцэрты нашага слаўнага сьпевака Міхала Забэйды-Суміцкага адбыліся 8.V. у Вільні і 24.V. — у Варшаве. Як заўсёды, з вялікай удачай. У праграме іх, апроч песьняў італіянскіх, польскіх і інш., былі і беларускія народныя, горача аклясківаныя аўдыторыяй. У Варшаве арганізавала канцэрт у залі кансэрваторыі мясцовае Асьветнае Т-ве Беларусаў.

— 20.V. звольнены з ізаляцыйнага абозу ў Бярэзе Картускай, пасьля патнаццацімесячнага ў ім прабываньня, беларускі паэт Сяргей Хмара.

— 12-га чэрвеня віленскія Беларусы адзначалі ўрачыста 25-ыя ўгодкі сьвяшчэнства а. Язэпа Гэрмановіча, беларускага паэта і пісьменьніка (псэўдонім Вінцук Адважны) і а. Віктара Шутовіча. Абодва юбіляры маюць вялікія заслугі перад беларускім культурна - рэлігійным і народным адраджэньнем. Многія леты!

— Вышлі з друку кніжкі: „Лекцыі і Эванэліі на нядзелі і сьвяты" ў перакладзе на беларускую мову Кс. А. Станкевіча і „Божае Слова" — таго-ж зьместу плюс прамовы Кс. А. Станкевіча. Таксама вышлі з друку „Запісы Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні", сшыток першы, і новы зборнік вершаў Максіма Танка п. з. „Пад мачтай". Асобны разгляд гэтых кніжак дамо іншым разам.

— Украінскі літаратурны журнал „Назустріч", у нумары 7—8 сёлета, надрукаваў вялікі інфармацыйны артыкул пяра Я. Шутовіча аб сучаснай беларускай літаратуры і пераклады на ўкраінскую мову вершаў беларускіх паэтаў: А. Дудара, Н. Арсеньневай, М. Лужаніна, Купалы, Танка, Машары, Васілька. У гэтым-жа нумары зьмешчаны фотографіі Машары, Танка, Арсеньневай, Васілька.

— У польскім літаратурным часапісе „Камэна", № 8, знаходзім вершы Машары і Танка, пераложаныя дужа хораша на польскую мову рэдактарам часапісу Яворскім.

— У дзяржаўным тэатры опэры і балету ў Менску, у сакавіку месяцы, паказаны ў канцэртным выкананьні першы акт першай беларускай савецкай опэры „Міхась Падгорны" — лібрэтто П. Броўкі, музыка кампазытара Цікоцкага. Опэра ў чатырох актах, шасьці абразох. Цікоцкі напісаў ужо музыку для 5 абразоў. У музыцы шырака выкарыстаны беларускія народныя матывы.

— Пры дзяржаўнай фільгармоніі БССР у Менску год таму назад зарганізаваны мастацкі калектыў — ансамбль беларускай народнай песьні і танцу, у склад якога ўваходзяць здольныя ўчасьнікі мастацкай самадзейнасьці. Перад аўдыторыяй ансамбль выступае з кастрычніка месяца 1937 г. і ад гэтага часу да красавіка месяца сёлета даў ужо 65 канцэртаў.

-- У палавіне траўня два калектывы дзяржаўнай фільгармоніі БССР — ансамбль народнай песьні і танцу і аркестр народных інструмэнтаў — выяжджалі на гастролі ў Маскву, гдзе далі 12 канцэртаў

— Гадунец дзяржаўнай кансэрваторыі ў Менску, малады кампазытар Крышнер, напісаў музыку да першага беларускага балету „Салавей", паводле аднаіменнай аповесьці бел. сав. пісьменьніка Зьмітрука Бядулі. Аўтары лібрэтта З. Бядуля і Ю. Сланімскі. Балет складаецца із 6 абразоў і выражае барацьбу беларускага запрыгоненага сялянства ў пачатку XIX стагодзьдзя із сваімі сацыяльнымі ворагамі. Музыка балету пранітавана беларускімі народнымі мэлёдыямі. Па ходзе акцыі выконываюцца „Лявоніха", „Юрачка", „Мяцеліца" і чарод хараводных танцаў.

— 15 траўня маскоўская радыёстанцыя перадавала „Дзень Савецкай Беларусі". У праграму перадачы ўваходзіў і літаратурна-музычны монтаж. Перадача кончылася вялікім канцэртам беларускай сав. музыкі і песьні.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч і мгр. Я. Шутовіч.*

*Рэдактар-выдавец: мгр. Ян Шутовіч.*





## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Ks. Ad. Stankievič**, Božaje słova na niadzieli i śviaty. Lvoŭ-Vilnia 1938
Lekcyi i Evanelii na niadzieli i śviaty. Lvoŭ-Vilnia 1938
**Максім Танк,** Пад мачтай. Зборнік паэзіі. Вільня, 1938.
**Запісы Беларускага Навуковага Т-ва,** сш. 1. Вільня, 1938.
**Тарас Шевченка,** Т XV. Твори. Варшава-Львоў, 1938.
**Ona Miciute**, Žiburiai pelikese („Сьвятло ў дрыгве"). Зборнік лірыкі. Вільня, 1938.
**Dr. Daniel Fajnsztejn**, Potwory fantastyczne w wierzeniach i mitach. Вільня, 1938.
**Barbara Krysiniel**, Die technik des plautinischen miles gloriosus. Вільня, 1938.
**Orientalia christiana periodica**. Vol. IV. Рым, 1938.
**Беларускі Летапіс**, № 1. Вільня, 1938.
**Złučeńnie**, №№ 1—6. Варшава, 1838.
**Varsnos, Varpos, Vingis** — Вільня, 1937.
**Seja** — Вільня, 1938.
**Богословія**, кн. 1 (т. XVI). Львоў 1938.
**Вістнік**, кн. 5. Львоў, 1938.
**Назустріч**, №№ 7-8, 9, 10. Львоў, 1938.
**Українська Книга**, сш. 4, 5. Львоў 1938.
**Летопис Матице српске**, №№ 1, 2, 3, 4, 5. Новы Сад 1938.
**Hrvatska Revija**, №№ 1, 2, 3, 4, 5. Загрэб 1938.
**Droga pracy**, №№ 3 4. Крэмянец, 1938.
**Kamena**, № 7 (17), №№ 1 (41)—8 (48). Хэлм Люблінскі.
**Kuźnica**, №№ 3—11. Катовіцы, 1938.
**Oriens**, сшыток 2, 3. Кракаў, 1938.

# КАЛОСЬСЕ



«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная кніжка — 50 гр. Заграніцу 3 зл. 20 гр. —
*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*
«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.
«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 3 (16) „Калосься“



**В окладку запраектавала і выканала В. Пракаповічанка**

Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, вул Завальная 1.



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

**Кніжка 3 (16)** **1938 г.** **Год IV**

*ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ*

* * *

Многа песьняў згубілі мы ўжо —
ўсё жыцьцё так складалася неяк —
у наш песенны звонкі дажон
вецер цьвету нямала разьвее.

Што-ж? Радзіліся ў час такі мы,
калі поле сьлязьмі ўскаласіла.
Ня зьлічыць нам у роднай зямлі
неаплаканых песьняў-магілаў.

І няведама, колькі яшчэ
абляціць на шляхох белацьвету...
З кожным шагам цяжэй і цяжэй
і ў імгле ледзь віднеюцца мэты.

Але песьню нясем мы адну
у ўраджайную даль Беларусі, —
песьню яснаму, сьветламу дню,
што прыйсьці да нас некалі мусіць.

Нам ня жаль, што раскінулі ўсе
свае сны ў нетры жудаснай гэтай —
мы яшчэ прапяем у расьсвет
аб цьвітучых садох і палетках.

*МІХАСЬ ВАСІЛЁК*

# Разьвітаньне

## I

Адзін з сваімі думкамі ляжаў ён у невялічкай, прыкульгнуўшай на пярэдні вугал, адрыне. Пахла сьвежым сенам і тухляцінай старой, падзіраўленай саламянай страхі, затканай сеткамі павучыньня. Думаў аб доме, аб сям'і — старэнькай матулі з яе ўнукамі... Але фабрыка, вось гэнае фабрычнае жыцьцё на вёсцы, у якім апынуўся і ён сам, найбольш праймала яго. Вёска, дзе знаходзілася дыхтавая фабрыка, па народнасьці была выключна беларуская. Былі адзінкі між моладзі на't даволі сьвядомыя, былі і несьвядомыя. Бачыў Андрэй, за свой кароткі час побыту на службе, як дужа несправядлівасьцяў, надужыцьцяў, эксплёатацыі адбывалася ў фабрыцы над гэтымі працавітымі, загнанымі дзяцьмі вёскі. Хварэў душой за гэткае ненармальнае зьявішча. Трэба было ўзварушыць, узмацаваць веру ў свае сілы, абудзіць сьвядомасьць, каб маглі ўявіць, адчуць — карысьць арганізацыйнага жыцьця, чаго ня было і з чаго карыстаў фабрыкант. Хацелася памагчы. І ён прыкладаў усю сваю маладую энэргію, сваю шчырую душу. Палюбілі яго хутка ўсе, апрача тугіх да сьведамасьці адзінак, верных, цёмных служкаў фабрыканта.

— „Браты, — гаварыў ён ня раз, сваім прыемным голасам, у якім чулася пэўнасьць і нейкая вабячая да сябе бязспрэчнасьць, — мы ня знаем добра фабрычнага руху, мы далёкія ад таго сьведамага поступу гарадзкіх работнікаў, якія сяньня салідарна могуць кіраваць сваімі прафэсыянальнымі справамі, даючы гэтым знаць сваім працадаўцам, што з вялікай працоўнай сілай трэба лічыцца, што крыўды больш яна не пацерпіць. Чытайма больш газэтаў — вучэмася, пазнавайма, як вядуць барацьбу за свой дабрабыт перадавыя людзі працы, пільна сочым за кожным сваім шагам, папраўляючы памылкі, адзначаючы здабыткі. Мы зьяўляемся адзінай працоўнай сям'ёй, якая даўно вядзе барацьбу за чорны кавалак хлеба, за цьвёрдае, пэўнае месца на зямлі. Не чакайма, браткі, каб хтосьці прыйшоў ды разжаваўшы ўсё сказаў: ежце, калі ласка. Ёсьць паміж нас сьведамейшыя, здальнейшыя, каторых абавязкам — дапамагаць другім, разьвівацца ўсебакова, разьвівацца культурна. За што мы сяньня працуем? Гэта-ж мізэрная зарабковая плата, не змагла-б нас нават пракарміць, каб мы ня йшлі да працы кожны з сваей лустай чорствага хлеба. У цара бацюшкі мы чорныя рабы, да якіх няма літасьці. Мы кладзём маладыя сілы, каб набіць кішэні гэтага гаспадара фабрыкі"...



## II

Замоўклі на вёсцы сьмех і песьні дзяўчат, сьціхлі задорныя пераборы вясковага гармоніка. Месяц паказаўся з-за хмар, каб бліснуўшы сваім голым цеменем — зноў схавацца.

Старому Нупрэю з бярозавай люлькай у зубах здавалася, седзячы пад хатай, што гэта „заскала" — як ён называў месяц, — чагосьці сароміва ўсьміхаецца. Выняў з зубоў люльку, азірнуўся і сплюнуў. Убачыў дзед пад ценьню маладой кучаравай ліпы дзьве постаці — „парачку." — „Бадай вас абнагліла — забарматаў устаючы стары—мне-ж гэта й не да догадзі — цмокае нешта, ды цмокае... Думаў, Янчукоў Хведар сваёй жмудай едзе пасмыкваючы, ажно во... то-ж прыкмеціць з неба гэта лыса морда, скардзіўся дзед на месяц, а я тут пад бокам і... эх старасьць, старасьць"...

За вёскай у балоце моцна закракаў дзікі качур, заглушаючы манатонны жабячы хор. Даядліва зьвягаў тэнарком нечы сабака.

— Ха, ха, ха, — сьціха няслося з пад ліпавай цені.

— Ах, ну з табой, Яначка, заўсёды бяды набярэшся, — казала, — памалей цалуй...

— Нічога, ён таксама быў малады, ды расказваюць, да свае Аўдоцьці ракачка праз падворкі чужыя поўзаў.

— Шкада мне Андрэя, Янка, — выкінуць яго з фабрыкі — задумалі вы гэты, гэты — штрайк...

— Нічога, мы яго пакрыўдзіць не дамо, на зло ён нас ня вучыць, а звольняць яго з фабрыкі, хай звальняюць і нас... Дарагі хлапец. Ты бачыла, як ён сяньня на йгрышчы разьвёў драчуноў? Нейкая, ведаеш, сіла ў яго вачох, у яго натуры, у словах захавана. Здаецца, зайсёды гэткі ціхі, спакойны, а тут раптам калі крыкне: „каго! брат, брата біць — сорам! Бі перш мяне, хай я сваёй кроўю змыю ганьбу"... Задзірака Фомка апусьціў рукі, а яго-ж ніхто яшчэ ня ўнімаў.

— Ведаеш, Янучок, хоць ён і ня зусім прыгожы...

— Вам толькі на першым пляне, каб быў прыгожы — пазнаеш дзявочую натуру...

— Чакай, не перабівай, — хоць ён ня зусім прыгожы, а вабіць нечым да сябе, яму іншыя хлопцы зайздросьцяць. З кожным пажартаваць умее, глупоты ад яго не пачуеш, і што найцікавейшае — ня мае ён ні кала ні двара, як кажуць, а жыве нечым пэўным, моцным, нечым вялікім, непераможным, урачыстым і гэта віддаць для яго найдаражэйшае за ўсё Пытаюся раз: скажы, Андрэйка, чым ты так праняты заўсёды? — Ідэяй — кажа. Пытаюся, — што гэта за ідэя? — Гэта, кажа, найдаражэйшая рэч у сьвеце, гэта, кажа, мілейшая нават за каханую дзяўчыну... Нейкі дзіўны, дальпан...

А ты, Янук, ці прамяняў-бы мяне на гэту „ідэю" — га?

— О, не, — мая ты лябёдачка, ты і ёсьць мая найпрыгажэйшая ідэя... Але даволі жартаў, здаецца западае штораз глы-

бей і мне гэта ідэя ў душу... Яго ідэя — праўда вялікая, яго мэты — дабрабыт усіх людзей працы, людзей пакрыўджаных лёсам і царом. Пажывём далей, пазнаеш і ты яго ідэю...

### III

Чырвонаю падковаю высоўвалася із-за лесу сонца. З пунсовай на твары радасьцяй лічыла спадак-падарунак ночкі — разсыпаныя па зялёнай ксўдры брыльянты. На краю невялічкай вёскі, на пышнай бярозе, з расчэсанай на бакі чупрынай — кукавала зязюля. Абуджала поле, абуджала працу. Абудзілі і Андрэя, толькі не зязюля...

Трасьлі сена, дзе ён спаў, падзёртую вопратку. Прыказалі ісьці. Што здарылася, думаў Андрэй, чаго ім трэба. Зьлез з сена, адчыніў наўсьцяж дзьверы гумна. Іскрамі жыцьця і сьмеху духнула ў твар яму сонца. Засьмяяўся і Андрэй, проста ў вочы гэтаму вялікаму, вабячаму душу цяплінёй сваіх ласк—сьвятлу. Лёгка, бадзёрна ступіў босымі нагамі на траву расістую.

— „Чево сьмеешся"? — запытаўся дзёрскі голас стражніка.

— Не, не зразумець вам — думаў Андрэй, чаго я сьмяюся. Што бачу, што адчуваю я — таго ніколі не адчуць вам.

Раптам сонечны выгляд твару затуманіла хмарай думка. Успомніў старэнькую матулю... Карміў яе сваімі мазалямі. Ужо бачыў яе з раськіданымі ў беспарадку сівымі валасамі, што траплялі пасмамі на разорысты твар. Двое дзетак брата старшага — сіроты жылі разам — карміў усіх ён...

— Андрэйка! куды-ж цябе гэта?

— У госьці, — адказаў жартам. — Бывайце, цётка Ганульа, не спамінайце ліхам, пакуль вярнуся.

Зайшлі ў хату, дзе кватараваўся, каб забраць свае рэчы, якія перш перагледзілі. Вестка аб арышце Андрэя маланкай абляцела вёску. Ля мосту, куды меліся яго вясьці, сабіралася моладзь, каб разьвітацца. Эскорта з двух стражнікаў, а ўперадзе Андрэй, весела ступаючы па жвіраватым пяску босымі нагамі, апускаліся з узгорку да рэчкі. Вінцук Сярмяга выйшаўшы з свае хаты, абапёртай кутом страхі на кучаравую ліпу ды пазіраючай адным вакном як сьляпы жабрак на дарогу, — убачыў Андрэйку, які зачастым заглядаў да яго ў гэту буду на курыных нагах вучыць сына чытаць, што прызнацца яму хутка і добра ўдавалася.

— Андрэйка! — цябе!.. Не дагаварыў, зразумеўшы, куды яго вядуць. Стаяў хвіліну нярухома, толькі відаць было, як мазалістыя, брудныя пальцы, курчава сьціскаліся ў кулакі, пасьля зьняў шапку, ды махнуў ёю ў бок адыходзячага Андрэйкі. На павароце дарогі аглянуўся Андрэй, а ўбачыўшы ўсё яшчэ стырчачага сярод дарогі Вінцуся, застраміўшага вочы ў адну точку,— махнуў весела яму рукой — разумеючы яго думкі.



Ступілі на мост. Моладзь, пераважна фабрычныя хлапцы, штосьці зразу замятусіліся. Чуваць было нейкі дзіўны зглушаны нечы выкрык, пасьля якога, адзін прад другім хлапцы, пакідаючы дзяўчат, выскаквалі наперад, засланяючы дарогу.

Куды гэта цябе, Андрэйка? — пачуўся грубы бас Сёмкі, што лічыўся на фабрыцы пачынальнікам.

— „Што за разгаворы! Ён арыштаваны".

— За што? — што вам дрэннага зрабіў? — абакраў, забіў каго? — пасыпаліся выкрыкі з натоўпу.

— „Не разгаварваць—даць дарогу"! — зароў іншы стражнік, стукнуўшы ў грудзі першага задзіраку Фомку, якога Андрэй здолеў ужо прывучыць захоўвацца ў кампаніі зусім іначай, як гэта было раней.

Але тут раптам здарылася штосьці нязвычайнае — у Фомкі загаварыў ранейшы гарт. Хвілёвая мітусьня. Э-х-гэ! — вырвалася глуха з Фомчыных пукатых грудзей, нібы ён узьнімаў цяжкі мяшок бульбы...

— Бунтаўшчыкі! — Царбацюш...—ня кончыў стражнік імяні.

Ня кончыў, бо моладзь з зьдзіўленьнем толькі ахнула ўбачыўшы, як стражнікавыя ногі ў цяжкіх падкутых ботах, спружынай прыціснуліся да тылку, пакідаючы за сабой парэнчы мосту. Тут-жа раздаўся ўсплёск вады. Другі стражнік схапіўся за стрэльбу, але ў мамэнт быў абезаружаны, пасьля чаго спрытна сеў на брудны памост, хітра зьмяркаваўшы, што ад зямлі адарваць яго „тлустую хвігуру" ня так ужо будзе і лёгка, а лёс, які спаткаў яго таварыша, быў зусім не да смаку.

— Што ты зрабіў, Фомка, навошта гэта!

— Даруй, Андрэйка, — адгукнуўся карчасты, сутулы Фомка, усё яшчэ ня могучы ўстрымаць расхваляваных, расхрыстаных грудзей, — даруй, братка, павер — ня мог адмовіць сабе ў гэткай невялічкай прыемнасьці, пакупаць гэтага гада. І нібы перапрашаючым голасам, трохі злагоджваў віну: я яго хацеў толькі спачатку пастрашыць, пасадзіўшы на парэнчы, а ён... відаць, у акрабатах служыў!

— Ха! ха! ха! — панёсься задорны сьмех, глушачы перарываныя пагрозы вынырнуўшага ўжо з вады стражніка.

— Бач, Іванка, як даў нурца, спрытней хіба на'т за цябе. Га?

— Або дзед яго, або ён, у вадалазах напэўна служыў, — зазначыў заўсёды паважны Іванка пад рогат рэшты моладзі.

— Нагавіцы разшпілі, лягчэй плысьці будзе да берагу,— крыкнуў нехта яшчэ.

— Ну, хлопцы, даволі жартаў, хай перасушваецца. Ды пойдзем, — сказаў паважна Андрэй.

Жарты змоўклі.

— Андрэйка, хіба-ж і ты пойдзеш? — Мы цябе ня пусьцім!

— А як-жа-ж наш штрайк будзе? — пасыпаліся пытаньні. Трэба-ж яго да канца давясьці. Мы-ж дзеля гэтага цябе і таго... хочам ня пусьціць...

— Браткі вы мае, радасьць мяне бярэ, што вы становіцеся на тую дарогу, якая вядзе нас і прывядзе да перамогі. Як вясьці штрайк, я вас вучыў, не адступайце ад маіх парадаў — рэшта, пабачыце, усё пойдзе добра, а я — мушу...

І так тут трохі мы накуралесілі, але як тая прыказка кажа „сем бед адзін атвет“. Я напэўна хутка вярнуся, а калі і не вярнуся, хлопцы, дык нічога,— спадзяюся, што найдзецца на маё месца тысяча гэткіх самых яшчэ і лепшых барацьбітоў за нашу волю, за нашу вялікую праўду... Ну, чаго вы насы павесілі, гэтак мы далёка не заедзем. Бадзярней трэба глядзець жыцьцю ў вочы, быць гатовымі спаткаць заўсёды яго неспадзеўкі.

— Во, во, ужо Марыська і сьлязу пусьціла, — азваўся Андрэй — ну, ну, гэта дык зусім з рук вон, а замуж ідучы, чым будзеш плакаць?

— О, яна за свайго Мітрука із сьмехам ды выдзыгам пойдзе — уваткнуў Сьцяпан.

Жарт Андрэя падняў настрой моладзі.

— Ну, дык дай брат, Андрэйка, тваю руку з мазалямі, — азваўся першы Янка, падыйшоўшы разьвітвацца. — Не запомнім тваіх слоў — клянёмся гэтым родным убогім палеткам, гэтай камяністай зямліцай, з якой мы зрадніліся кроўю і потам, што тваё зярнё, твая навука і прыклады не прападуць намарна!..

— Праўду Янка сказаў — за ўсіх нас брат сказануў. Мы яго пры аказіі ў дэпутаты ўстрэмім — рэч можа махнуць — дадаў жартаўліва Яўгень.

Моладзь павесялела. Падходзілі, ціснулі руку... І чулася цяпліня, глыбокая, нявымоўная лучнась душаў, поўных найлепшых імкненьняў у гэтых маладых істотаў. Усім хацелася ісьці разам з мілым таварышам, ісьці на самыя найгоршыя перашкоды, ня гледзячы на ўсе прыкрасьці, якія маглі-б іх спаткаць.

Дзе наш бас, Сёмка! Песьню давай на разьвітаньне!

— Якую?

— А яго любімую...

Пакаціліся рашучыя, бадзёрныя гукі па зялёнай аксамітнай радзюшцы мурогу:

Разсеялі сон мы, што спалі ад веку
Ўжо знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба навуку здабыць!..

Цалаваліся з зямлёй, лашчылі яе магутнымі ў сваей прастаце словамі...

Яшчэ раз аглянуўся Андрэй: — „Кружок самаадукацыі“, глядзі Рыгор, каб не падкачаў, — сказаў ён перарываючы песьню.
— Вучэмся, мы — пераможам! — былі яго апошнія словы.

---



## *М. ВАСІЛЁК*

* * *

З міскі поўнага сонца праз край
хтось расплёскаў пунсовую гушчу.
Ў гэты майскі якраз цьветабой
з вішняком вецер ладзіў ігрышча.

У гэту саму пару між лазой
салавей клаў пакосамі трэлі.
— Ля крынічкі спаткаўся ён з ёй,
нібы сонца іх вочы гарэлі.

Як узьнятыя хвалі вады,
калыхаліся грудзі дзявочы —
мо' паверыць, хто быў маладым...
Ён шчасьлівы, ёй радасьць прарочыў...

А у восень... пакінуў палі —
— вецер кудры расчэсваў любоўна.
Была глуш — верасы адцьвілі —
парасло неба шэраю воўнай.

І ня бачыць дзяўчыне красе,
сакаліных вачэй не галубіць...
Можа ветрык калі прынясе, —
да крынічкі той з весткай заблудзіць...

З міскі поўнага сонца праз край
хтось расплёскаў пунсовую гушчу.
Ці вярнуўся хлапец?.. — Ня пытай,—
аб ім песьню мо' вецер насьвішча...

---

*С. ХМАРА*

# У горадзе

Стужкай шырокай блішчаць
тратуары
ў пытлі-імжыцы дажджу
мокрыя вецер калыша ліхтарні,
лезе трамваю скульсь жук.

Скачуць па куцінах цені таёмныя,
ў сэрца ўпіваецца жаль —
вырвацца-б недзе за дні нашыя
цёмныя,
ў сінявлакітную даль.

# Капаем

Капаем —
няўпынна зьвініць
аб камень стальная лапата
і зьзяюць у вочах зьнямогі агні,
далоні —
крывавая лата.

Ці ў дождж,
ці ў пагоду
ўсьцяж рухам адным
пасьпешна мы вернем дзярніну,
нам сонца з сарочак выпарвае дым,
шрамоў
плечы поўныя
сініх.

Капаем бяз слова,
бяз гуку
ў цішы —
лёг цень на галодным абліччы,
рве крык прыганятага:
Гэй, пасьпяшы —
бо зноўжа вам робры палічым!

Капаем,
капаем
праз цэлыя дні —
магілу капаем прakляцьцю.
Гэй, прыйдзе вясна к' нам
на сонцы кані!..

— — — — — — — — —

Капайце-ж, лапаты,
капайце! .



*АНАТОЛЬ ІВЭРС*

# Да жніва

Ты, радзімае поле, скажы,
каласістым павевам вясны
хай ня хіліць аж да мяжы
пазалочаны жытні трасьнік.

Можа песьню араты згубіў
на шнурох — на барознах крывых,
а з ей пеніцца вецер між ніў
ў сонца брызгах — чырвонай крывi.

І заціснуўшы туга жывот
дзяцей просіць цярпець... да жніва...
Галаву перакінуў праз плот
пазалоту вачыма зрываць...

Помніць — летась зьвінелі сярпы —
пераборысты шумны акорд...
А ў далі нібы матавы пыл
па балоце туман-малако.

і напеваў жывых пераліў,
што ня знаюць былья і мяжы...
Прыдуць трактары ў полымя ніў,
там, дзе некалі колас тужыў.

* * *

Ізноў ліюцца песьні, песьні...
Узварушы запас крыніц,
што яшчэ схованы пад плесьняй
і ў сэрцы струны закрані.

Дажджэцца лепшае пары
на скамянелым жоўтым твары,
адчуе радасьць і парыў,
можа ня я, а мой таварыш.

Так, чарадою дзён харошых
ня можна долі замяніць.
Дарогай польнаю заросшай
пайшоў-бы ў гушчу камяніц —

у Беласток, або у Вільню
на блеск — прызыўныя агні,
якіх ня зможа вецер пыльны
туманам сінім засланіць.

УЛАДЗІМЕР ЧЭМЕР

# Вялікі скарб нашай старасьвеччыны*)

*(750 угодкі »Слова аб палку Ігаравым«)*

Зьмест паэмы. Як толькі войска ўвайшло ў стэп, пачаліся ў прыродзе розныя зьявы, якія не варожылі нічога добрага палку і паходу Ігараву. Зацьменьне сонца пакрыла раптам у ясны дзень жудаснай цемрай княжскія дружыны. Але і гэтая, добра ведамая народу „злая прыкмета“ ня стрымала Ігара.

„Браты і дружына, сказаў ён, лепш палегчы забітымі, як папасьці ў палон. А таму — сядзем на борздых каней, каб хутчэй паглядзець сіняга Дону“...

Нястрыманае жаданьне „папіць шеломом вады з Дону“, „пераламаць капьё на канцы поля палавецкага“ так „апаліла розум“ Ігару, што ён не зьвярнуў увагі на гэтую перасьцярогу з боку самога Даж-бога, Сонца, якога любімым „сынам“ быў сам... Калі дружына Ігара злучылася з дружынай яго брата Усевалада, „Сонца ізноў заступіла яму шлях цемрай“ — пад ноч паўстала навальніца, падняла зьвягу, крык, гоман, сьвіст уся зьвярына на зямлі, — уся прырода загадвала Ігару паслухаць голасу роднае Зямлі... Але, захоплены гордай думкай аб славе, герой сьмела пайшоў наперад...

І вось, яго войска — ўжо „за курганом“ — у зямлі ворага. І варожыя сілы адразу пачынаюць абступаць з усіх бакоў „сілу рускую“... Прырода тутака ўжо неяк не адстрашывае рускае войска ад паходу, але ўжо рыхтуецца да яго хаўтуроў... Ваўкі „рыхтуюць бяду па пячурах; арлы склікаюць зьвярыну на блізкі ўжо банкет на пабоішчы; лісіцы брэшуць на чырвоныя шчыты дружыньнікаў... Але русічы ідуць усьцяж, ідуць наперад, „шукаючы сабе чэсьці, а князём славы“...

Першае спатканьне з полаўцамі кончылася для русічаў бліскучаю перамогаю. Так заўсёды бывае, калі лёс хоча паўней і страшней падрыхтаваць канчальнае паражэньне... Патапталі яны паганыя палкі палавецкія, набралі ўсялякага багацьця — і дзявок прыгожых, і золата, і тканін дарагіх... І столькі было гэтага багацьця-здабычы, што ўсім гэтым „пачалі масты масьціць“, кідаючы золата-тканыя вопраткі на гразкія шляхі, каб па суху лягчэй было ісьці войску...

І вось, ізноў пачаліся грозныя зьявы нябесныя: чорныя хмары з мора бягуць — „хочуць прыкрыць чатыры сонцы“ (4 князёў рускіх), а ў хмарах сінія маланкі, як літарамі, пішуць жудасны прысуд палку Ігараву. Быць грымоце вялікай, ісьці дождж у з Дону вялікага... Там на Каяле — рацэ шмат коп'яў пераломіцца, шмат шабляў пакрушыцца аб шаломы палавецкія — на Каяле—рацэ блізка Дону вялікага... Бо-ж тут ужо ня відаць Рускае Зямлі, але скрозь — чужына варожая... І вось, пачалі спаўняцца ўсе гэтыя перасьцярогі й прароцтвы прыроды і „дзіваў“ славянскае зямлі: з усіх бакоў ідуць полаўцы-ворагі — і ад Дону і ад мора. Аб набліжэньні хмараў-ворагаў гавора ўся прырода: зямля дрыжыць, угінаецца; рэкі пацяклі мутнай вадой; пыл пакрыў усю зямлю; ветры нясуць стрэламі ўсю гэтую навальніцу людзей і стыхіяў на войска Ігара...

Далей у паэме ідзе нязвычайна сільнае і яркае апісаньне бою, якое можа вытрымаць параўнаньне з найлепшымі месцамі гомэравай Іліяды.

У захопленьні бою забываліся князі-герої і аб сваім жыцьці, і аб родным залатым месьце-сталіцы, і аб мілых сэрцу ласках жонак-красунь, пакіненых дома...

Каб ярчэй адзначыць нябывалую веліч гэтай бітвы, аўтар дае кароткі агляд папярэдніх цяжкіх здарэньняў на Рускай Зямлі, выкліканых, пераважна, сваркамі паміж князямі, якія „самі почаху воевати на ся“. Шмат пацярпела Руская Зямля, з прычыны гэных сварак паміж князямі — ад вонкавых ворагаў. Былі часы, калі на ей рэдка пераклікаліся паміж сабой земляробы, але шмат часьцей — вораны ды груганы, дзелячы паміж сабою людзкія трупы... Але-ж такога бою, ды паражэньня, як на Каяле-рацэ, дык яшчэ ня бывала.

„Чорная глеба пад капытамі каней засеена была касьцьмі ды паліта крывёй... Дый жахам-жальбою ўзыйшло гэта насеньне па Рускай Зямлі“...

З двух братоў, Усевалад палёг, а Ігар папаў у палон палавецкі...

„Тут і разлучыліся, на беразе ракі-Каялы, абодва браты...<br>
Тут крывавага віна не хапіла...<br>
Таму і скончылі пір адважныя русічы —<br>
Сватоў (полаўцаў...) напаілі дый самі палеглі —<br>
За Зямлю Рускую...<br>
Хіліцца удол трава з жалю,<br>
А дрэва ад кручыны сагнулася да зямлі...“

Так канчаецца гэты абраз бою, якому папросту няма роўнага па сконцэнтраванай сіле і яркасьці малюнку і па ўзрушаючым нас, ня гледзячы блізу на 8 вякоў гістарычнай адлежнасьці, уладнай сіле сардэчнага жалю...

* * *

Наступны разьдзел паэмы пераносіць нас на Рускую зямлю, няменш сільна і ярка малюючы тое, зьмяшанае з жалем і жахам, абурэньне, якое ахапіла ўсе яе плямёны і княжствы, калі прыйшла вестка аб тым, як „палавецкая пустыня пакрыла (пахавала) рускую сілу“... Заплакалі „хоті“ (жонкі), што ніколі

*) Глядзі пачатак артыкулу ў кн. 2(15) „Калосься“.

ўжо ні вачыма ні ў мысьлі ня ўбачаць сваіх „мілых ладаў“ (мужаў), ні абяцанага імі золата і серабра — ваеннай здабычы. Застагнаў ад кручыны Кіеў, а Чарнігаў — ад гора. Туга разьлілася па ўсей Русі. Бо-ж — у выніку паражэньня палку Ігарава— полаўцы кінуліся навалай у адчыненую на ўсходзе Рускую Зямлю дый пачалі паліць ды рабаваць адно места па адным, накладаючы на іх дані — „па белцы ад двара“...

І зразумелі тады ўсе на Русі, як страшэнна прыслужыліся ей неразумныя князі, ня гледзячы на ўсю іх асабістую гераічную адвагу і добрую волю—здабыць сабе чэсьць і славу. І ўспомнілі тады, як пераможна адбыўся толькі два гады назад паход проці гэтых самых полаўцаў, арганізаваны самым вял. князем Кіеўскім.

Але — ня толькі ўся Руская зямля адчула паражэньне Рускае сілы на Далёкім Усходзе, на „канцы стэпу палавецкага“, *як сваю бяду ды жалобу,* але, як кажа далей „Слова“, *і ўся тагачасная Эўропа была глыбака ўсхвалявана гэным здарэньнем, адчуўшы, відаць, яго, як грознае і для сябе...* Раўнуючы абодва паходы Сьвятаслава Кіеўскага і Ігара Северскага,

„І немцы, і венедцы (зах. і паўдзен. славяне),
„І грэкі і моравы пяюць славу Сьвятаславу,
„Хаюць князя Ігара“...

Вельмі важная адзнака, якая паказывае на тыя жывыя і пастаянныя адносіны, якія існавалі ўжо ў той час паміж Русьсю ды Заходняй Эўропай.

---

Далей ідзе, можна сказаць, цэнтральная *ідэолёгічная* частка паэмы. Пясьняр пераносіць нас у палац самога вял. кн. кіеўскага Сьвятаслава. Бацьку Ігара сьніцца вешчы сон жудаснага зьместу. Быццам ляжыць ён на сваім ложку, а яго пояць нейкім сінім вінам, зьмяшаным з баявым потам (трудам) дый сыплюць яму на грудзі з пустых палавецкіх калчанаў буйныя і цяжкія пэрлы... І чуе князь, як пачаў з даху заваліваца яго залатаверхні княжскі палац... І навакол усю ноч каркалі груганы...

На двары вялікага князя ня ведалі аб лёсе яго двух сыноў. Але баяры растлумачылі князю яго сон: гэта знак, што нейкая бяда здарылася з яго „двумя сакаламі“... Іх войска, мабыць, пасечана паганымі, а самі яны ўвязаны ў жалезныя путы... На вялікую бяду паказывалі і жудасныя знакі на небе. І вось, тады князь Кіеўскі *„выраніў залатое слова, з сьлязьмі зьмяшанае“.* У гэтым „залатым слове“ *другога, старэйшага векам, ды старшага становішчам і розумам, героя паэмы,* аўтар яе і выражае галоўную ідэю свайго твору.

„Мае сыны („сыновча“ — точна: „пляменьнікі“, а агульней: „сыны“, як малодшыя), залішне сьпешна пачалі вы варушыць мячамі зямлю палавецкую шукаючы сабе славы, але не падрыхтаваўшы, як сьлед, паходу. Дык і выйшла, што ўся вашая асабістая адвага прапала дарма, — толькі на гора ды бяду ўсяе Зямлі дый на ганьбу маей сівой галаве“... Але-ж — не такі быў



гэны, можа, запраўдны герой усяе паэмы, каб абмежыцца толькі дакорамі пацярпеўшым бяду ды сьмерць „сыном“. Зараз-жа зьвяртаецца вялікі князь Кіеўскі з магутным заклікам да ўсіх тагачасных валадароў „Зямлі Рускай — ад Суздаля над Волгай да далёкай на захад Галіччыны, — каб ішлі разам з ім ратаваць усю Рускую Зямлю; разьбіць дарэшты яе ворага, адамсьціцца

„За сьвежую крыўду Рускай Зямлі,
За раны Ігара, адважнага сына Сьвятаслава“.

Аўтар пералічае ўсіх гэтых перадавых валадароў, даючы ім вельмі яркія характэрыстыкі, усхваляючы іх сілу, багацьце, баявую адвагу і патрыятызм — ясна-ж, каб мацней заахвоціць іх да новага паходу. На гэтую адзнаку: *актуальнасьць гэнага закліку* трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо-ж яна дапамагае нам азначыць час напісаньня самае паэмы.

---

Два вялікія адрыўкі паэмы прысьвечаны Полаччыне, — каб высьвятліць тое, чаму ў шырокім закліку кіеўскага вял. кн. Сьвятаслава да ўсіх князёў Рускае Зямлі ён абмінуў магутных валадароў Полаччыны. Напомнім, на падставе летапісу, Іпатаўскага і інш., аб гістарычных здарэньнях тагачаснага мамэнту, папярэдзіўшых паход Ігара, — у гэнай частцы Рускае Зямлі. Якраз на працягу 10—15 гадоў перад паходам Ігара ішла паміж князямі „Рускае Зямлі“ зацятая крывавая барацьба за кіеўскі пасад. У 1174 годзе Полацкія князі, а з імі разам і князі Смаленскія і князі Тураўскія, і Пінскія і Горадзенскія — пад націскам і павадырствам князя Суздальскага Андрэя — ідуць вялікаю „ратью“ проці сеўшых на кіеўскі пасад Расьціславічаў, каб аддаць яго аднаму з „ольгавічаў“ — Сьвятаславу Усеваладавічу, таму самаму, які іграе такую вялікую ролю ў „Слове.“ Але праз некалькі гадоў — у 1180 г., у барацьбе гэтага вял. кн. кіеўскага з Усеваладам Суздальскім — полацкія князі прымаюць старану Сьвятаслава. „Прыйшлі, кажа Іпат. летапіс, Полацкія князі ў дапамогу Сьвятаславу — і Брачыслаў з Віцебску і брат яго Усеслаў з палачанамі, а з імі былі і ліьбь і літва.“ Кн. Ізяслаў Васількавіч, аб якім, побач з Усеславам і Брачыславам, кажа тутака „Слова,“ быў хіба-ж таксама князем Полацкім, можа, трэйцім братам абодвух апошніх. Усе гэтыя Полацкія „Усеславічы“—патомкі першага, амаль не легендарнага Усеслава, які ў „Слове“ рысуецца такім чарадзеям, „лютым зьверам“ і валадаром усяе Рускае Зямлі, які з сваей дружынай аблятаў блізка ўсю яе з канца ў канец, усюды прыносячы з сабою жах, кроў, бяду і спусташэньне. Ужо з гэтага ўсяго відаць, што Полаччына стаяла неяк асобна, здалёка ад рэшты Рускае Зямлі. Гэтая асобнасьць павялічвалася яшчэ і тым, што ўжо ў гэныя часы полацкая зямля з княжствамі Горадзенскім, Менскім, Тураўскім, Пінскім і інш. мелі з захаду сваіх ворагаў— саюзьнікаў літоўцаў, і гэтыя, уласныя клапоты ў вельмі значнай меры адрывалі гэных «заходнерускіх,“ ці беларускіх князёў ад супольнага жыцьця з рэштай

Рускае Зямлі. Ведама з летапісу, прыкладам, страшэннае паражэньне нанесенае горадзенскім Усеславічам літоўцамі у 1107 г. А гэта таму, што і тутака, на захадзе, нягорш, як на ўсім далейшым на ўсход славянскім абшары, панавалі міжусобныя войны. Абодва адрыўкі „Слова," датычачыя князёў полацкай зямлі, ярка рысуюць вынікі гэткай хатняй вайны і братняй барацьбы для іх бацькаўшчыны. Гэтыя нязвычайна яркія адрыўкі з паэмы дадзены ў папярэднім нумары „Калосься" у перакладзе Купалы.

І вось, як раз у той мамэнт, калі здарылася гэная страшэнная бяда над князямі чарнігаўскай зямлі, князі полацкай зямлі, „унукі усеслававы," далёка „скакнулі ад дзедаўскай славы," а часткай паляглі ў зямлю, «прышлёпаныя літоўскімі мячамі"... Але-ж і „слава дзеда Усеслава" была нейкая сумліўная. Аб гэтым кажа хаця-б знамянітае мейсца ў паэме аб лёсе Меншчыны, да якой гэны слаўны дзед Усеслаў „скакнуў ваўком"... Характэрна, як двойча ацэньвае гэнага найвыдатнейшага князя беларускага абшару старадаўняй Русі аўтар „Слова." Ён падчырківае, што гэны ведамы Усеслаў, слаўны ваеннай адвагай і талентам, усюды прыносіў з сабою кроў і сьмерць, паўтараючы „прыпеўку вешчага Баяна," сучасьніка Ўсеслава, аб тым, што— „як ні быў той хітры і горазды, але ўсё-ж за гэта суда Божага і ён ня мінуе"...

З гэтага ўсяго відаць, што ўжо ў тыя часы вельмі рэзка зарысаваліся розьніцы і супярэчнасьці паміж цэлымі вялікімі абшарамі, цэлымі групамі „земляў" Зямлі Рускай, адзінства якой існавала хіба-ж толькі, як ідэя, як ідэолёгія, успадкаваная ад былага адзінства першае княжскае дружыны, якая захапіла ўладу над славянскімі плямёнамі дый якая насіла імя „Русь."

---

Наступны разьдзел паэмы—найбольш знамянітае ў ёй мейсца, так званы „плач Яраслаўны," які і цяпер яшчэ рве сэрца чытача сваім надзвычайна сільным і шчырым лірызмам.

Канчальны разьдзел паэмы дае апісаньне уцёкаў князя Ігара з палону палавецкага. Ізноў магутны талент песьняра блішчыць тут усімі фарбамі сваей багатае палітры, арганічна зьвязаннай з адвечным сьветапаглядам і жыцьця - адчуваньнем славянскай Русі, супольнымі блізу цалком усім яе магутным народным галінам. Увесь абраз уцёкаў Ігара і безнадзейнай пагоні за ім двух ханаў палавецкіх, Гзака і Канчака, напісаны характэрнымі для мастацкай манеры аўтара кароткімі, сільнымі, яркімі „мазкамі," робіць вельмі моцнае ўражаньне.

Паслухайце самі:

„Прыснула мора к палуначы...
Ідуць сьмерчы туманамі —
Сам Бог указывае Ігару шлях
На Бацькаўшчыну...
Пагасьлі зоры вячэрнія.
Ігар быццам сьпіць,



Але-ж ён ня сьпіць,
Але думкай мерыць поле
Ад вялікага Дону —
Да Бацькаўшчыны...
У паўночы стаў конь перад Ігарам.
За ракою сьвіснуў прыяцель...
Стукнула зямля, зашумела трава,
Заварушыліся калёсы палавецкія

дый — паскакаў Ігар з палону здабываць сабе волю...

І тутака, як нідзе больш, выявілася асаблівая прыхільнасьць аўтара да любімага свайго героя: столькі шчырага жару сэрца ўкладае ён у сваё апісаньне, як быццам ад яго сілы і яркасьці залежаў сам ратунак яго героя. Дзеля таго пясьняр, робіць цудоўнай самую асобу апошняга. Уцякаючы ад гонячых яго палаўцаў, кн. Ігар перамяняецца ці то ў горнастая, каб перабегчы праз чарот над ракой, ці то ў гогаля, каб пераплыць раку; паезьдзіўшы на борздым кані, ён саскаківае з яго шэрым ваўком, каб хаваючыся ў траве перабегчы праз луг уздоўж Данца, а над ім паляцець сакалом... І рака-Данец радуецца, што можа дапамагчы рускаму князю вызваліцца з палону — на „радасьць Рускае Зямлі," а князь у цёплых і харошых словах дзякуе жывой рацэ за помач і мілую ласку. Усьлед за князем рускім ляцяць абодва ханы палавецкія, але з іх пагоні нічога ня вышла. Характэрна, аднак-жа, гутарка іх паміж сабой. Гзак прапануе Канчаку, каб за пабег „сакала" з палону забіць стрэламі „саколіча," гэта значыць — Ігарава сына, Уладзімера, які разам з бацькам папаў у палон. Канчак на гэта адказывае, што лепш, выпусьціўшы з рук сакала, саколіча, „спутаць ды прывязаць дзяўчынаю." Мы казалі вышэй, што з ворагамі-полаўцамі князі вялі ня толькі войны, але і мірныя зносіны, ладзячы сувязі гандлёвыя і сямейныя. Князь Уладзімер Ігаравіч быў яшчэ раней, да паходу, сасватаны з дачкой Канчака. Таму Канчак і не хацеў губіць свайго прышлага зяця. Як мы ведаем з летапісу, Уладзімер запраўды ажаніўся з дачкой Канчака, але хутка уцёк з палону, пакінуўшы сваю „хотю" за Донам... Гэтыя факты маюць вельмі важнае значэньне дзеля ўстанаўленьня даты напісаньня самага твору.

Канчаецца паэма кароткім зваротам, яшчэ раз, да слаўнага папярэдніка-песьняра, Баяна, дый—яркім абразом, як засьвяцілася сонца на Русі, як запялі дзяўчаты, калі засьвяціліся на яе зямлі ясныя вочы вярнуўшагася князя Ігара. Месты і вёскі павесялелі, а сам Ігар першым чынам паехаў злажыць падзяку сьвятой Багародзіцы Пірагошчай.

Звычаем усіх падобных героічных паэмаў — «Слова" канчаецца „славай," — славай сьпярша старэйшым князём, пасьля малодшым, а пасьля і ўсей дружыне, славай, не зважаючы на ўсе памылкі іх, — за тое, што яны, князі і дружыньнікі, ішлі вайной за хрысьціян ды проці паганых...

Гэтая рыса — успамінаньне аб Божай Мацеры дый аб хрысьціянах, наагул рэдкае ў „Слове,“ паказывае на ўплывы Царквы. Але, як відаць з усей паэмы, уплывы гэтыя яшчэ былі даволі слабыя. Усё ў паэме дышыць, хутчэй, дахрысьціянскай стыхіяй старадаўняй Русі, уся яна перапоўнена жывымі абразамі народна-паганскага эпосу, багамі і бажкамі адвечнай славянскай натуральнай рэлігіі. Сынамі ці ўнукамі галоўнага бога яе — Дажбога, бога Сонца, называе ў сваей паэме аўтар найслаўнейшых князёў Рускай Зямлі.

---

Такі гэты цудоўны абломак нашай старадаўняй мінуўшчыны, ацалеўшы запраўды-ж нейкім цудам, каб сьведчыць нам аб тым, якое буйнае жыцьцё кіпела ўжо тады на Русі, як высака стаяла тады культура паэтыцкага слова, якія моцныя і яркія таленты закоўвалі ў гэтае слова бягучае дый уцякаючае ў мінуўшчыну жыцьцё, каб уся яго сіла і краса захавалася навек у гэтым слове на радасьць і навуку патомкам. Трэба, паўтараем, толькі пазнаць і пакахаць гэную сваю мінуўшчыну, каб стаць дастойнымі лепшай, а мо, — слаўнай, роўнай ей — будучыны.

---

# Песьня аб паходзе Ігара*)

## („Слово о пълку Игоровѣ“)

*Вершаваны пераклад ЯНКІ КУПАЛЫ*

### Плач Яраслаўны

Пяюць дзіды на Дунаі,
А ў Пуціўлі Яраслаўна
Бязуцешнаю зязюляй
Наракае раным-рана:
„Паляту я ў даль зязюляй
Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ-Каяле
Рукавок я свой бабровы.
І зьляту да князя ў полі,
Дзе у зялёнай лёг пасьцелі,
Ды крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе“.
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

*) Перадрукоўваем із „Збору твораў“ Янкі Купалы, т. IV. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1928. (Рэд.).



„О, вецер, вятрыска!
Чаму, ўладар, лётам
Сваім гэтак вееш
У вочы сіротам?
„Чаму ты на крыльлях —
І вольны і сьмелы —
На мужніх ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы?
Ці-ж веяці мала
Табе пад аблокі —
У гары, ў паднябесьсі
Шырокім, далёкім?
„Або ў сінім моры
Лялеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?
„Чаму ты, ўладару,
Мне радасьць асіліў, —
Вясёласьць разьвеяў
Па дзікім кавыльлі?“
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
„О, Днепра славуціч!
Ты ў каменных горах
Праз Полаўцаў землі
Дол высек у мора.
„Кабякаву войску
Чаўны Сьвятаслава
Сабой ты лялееў,
Акрылены славай.
„О, мне прылялей-жа,
Ўладару, ў харомы
Саколіка — мужа
З зямлі незнаёмай!
„Каб сьлёзаў я рана
Ў тузе нябывалай
К яму цераз поле
На мора ня слала!“
Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сьцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:
„О, сьветлае сонца!
Трысьветлае! Ўсюды
Цяплом і красою
Ясьнееш, як цуды.

„Чаму-ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанесла, ня ждучы?
„На полі бязводным
Ты смагай пагнула
Ім лукі, а тугай
Заткала утулы?!“

---

С. КАЛІНА

# На раздарожжы

Першы зборнік Танкавых твораў *На этапах*, хаця й вызначаўся няштодзеннымі мастацкімі вартасьцямі і выразна выдзяляў аўтара спасярод цэлага раду сучасных яму паэтаў, як індывідуальнасьць значна багатшую й здальнейшую, — не прадстаўляў яшчэ здэцыдаванага й выразна азначанага кірунку. Аўтар, агранічваючыся да матываў работніцка-пралетарскіх, перадусім вастрожных, як сьвежага й незацёртага яшчэ ўспаміну асабістых перажываньняў за жалезнымі кратамі, ня мог яшчэ абняць і глыбака пераняцца тымі выразкамі жыцьця, якія найлепш адказывалі-б характару ягонага таленту. Гэтак сама стыль і мова ягоных пачатковых твораў, прадстаўляючыя даволі выдатныя мастацкія асягненьні, вызначаліся ўсё-ж такі аднастайнасьцю і, сказаў-бы нават, свайго роду ўбогасьцю спосабаў артыстычнага выражэньня; роўналежна із затоеным у іх агнём, які толькі сямтам прабіваўся на верх, веіла нейкай панурасьцю і холадам.

Паэт аднак, усьведаміўшы сваю творчую сілу, доўга не задзержываўся на адным і тым самым месцы і ў хуткім адносна часе выплыў на шырокі і найбольш адказуючы характару свайго таленту шлях паэтыцкай творчасьці. Гэтым шляхам была *беларуская сялянская стыхія* ў найшырэйшым значэньні гэтага слова.

Творы, зьмешчаныя ў зборніку *Журавінавы цьвет* і паэма *Нарач* былі ўжо ў вадносінах да зборніка „На этапах“ аграмадным крокам наперад і прадстаўлялі ў вялікай меры новы паэтыцкі сьвет, гэтак у галіне тэматыкі сваей, як і з гледзішча асаблівасьцяў артызму, зусім іншы за папярэдні. Поўнымі прыгоршчамі чэрпае паэт творчы матар'ял із народных нетраў,ператвараючы яго ў высокамастацкія паэтыцкія сымболі, чула й глыбака адклікаецца на розныя праявы народнага жыцьця, захопліваецца із шчырым інтузыязмам, далёкім ад штучнага сэнтымэнталізму і зманерызаваньня, хараством беларускае прыроды. Будуючы сваю творчасьць на сялянскім падкладзе, часта густа зьвяртаецца паэт да народных крыніцаў, чэрпаючы зь іх нятолькі матывы, але й слоўнікавы і стылістычны матар'ял, зь якога патрапляе выткаць нязвычайна містэрныя і чароўна прыгожыя стылёвыя арнамэнты. Асабліва вялікую ўвагу зьвяртае паэт на вобразнасьць і плястычнасьць сваей творчасьці, якія асягівае пры помачы сьмелай і сконкрэтызаванай мэтафорычнасьці паэтыцкага языка. У сувязі з гэтым творы ягоныя прамаўляюць да чытача перадусім сакавітымі й пукатымі абразамі, моцна насычанымі шчырым і глыбокім лірызмам. Пачуцьці ў гэтых творах прабіваюцца выбухова, беспасярэдна із магутнай стыхійнай сілай, альбо выплываюць арганічна із намаляваных абразоў і сытуацыяў.

Гэтае блізкае зрадненьне із сялянскай стыхіяй давала аўтару вялікі запас творчых магчымасьцяў, улівала ў ягоную паэзію многа сьвежасьці й шчырасьці, напасьледак надавала ей арыгінальны беларускі характар. А ўсё гэта вымоўна пераконывала, што Танкавая творчасьць разьвіваецца ў найбольш пажаданым кірунку і што пясьняр, знайшоўшы напасьледак самога сябе, нятолькі ня сойдзе із выбранага шляху, але ў меру дасьпяваньня свайго таленту будзе яшчэ глыбей запушчаць карані ў беларускую сялянскую глебу, ведаючы, што тамака запас творчага матар'ялу зьяўляецца для беларускага паэта нявычарпаны. Нажаль сталася іначай...

У новым зборніку Танкавых твораў *Пад мачтай*, які нідаўна вышаў з друку, сялянскасьць захавалася ўжо ўсяго толькі дзе ня дзе, як прыпадковы рэфлекс нядаўных яшчэ зацікаўленьняў паэта, а на першы плян высоўваюцца *матывы чыста інтэлігенцкія.* Мушу засьцерагчыся, што адносіцца гэта перадусім да часткі лірычнай зборніка, так як лірыка зьяўляецца дасюль асноўным жанрам Танка. Трэба падчыркнуць, што інтэлігенцкасьць новых лірычных вершаў Танка праявілася ня так выразна ў галіне іх тэматыкі, — хаця і тут відзім значныя зьмены, — як у паэтыцкіх адносінах да яе аўтара і ў характары і якасьці некаторых мастацкіх прыёмаў. Страта ад гэтага ў зборніку відавочная. Талент песьняра выразна расшчэпліваецца і калі ў некаторых творах ясьнее пышным блескам, то ў другіх значна мутнее, траціць сваю сьвежасьць і дасюлешні размах. Перад тым аднак, як задзержымся шырэй над гэтым зьявішчам, зьвернем належную ўвагу на тыя творы ў зборніку, якія ані чуць ня ўступаюць папярэднім, а нават у некаторых галінах прыносяць многа новых, няпрыкмечаных яшчэ дасюль мастацкіх вартасьцяў.

У вартыкуле *На парозе новае эпохі ў беларускай літаратуры**) я зацеміў, што Танк у сваім творчым разьвіцьці ніколі не задаволіваецца асягнутымі рэзультатамі, хоць-бы былі яны й вельмі

*) „Калосьсе“, 1938, № 1—14.

добрыя, але ўсьцяж шукае новых творчых шляхоў, з поўнаю сьведамасьцю працуе над далейшым дасканаленьнем свайго таленту. Гэтая асаблівасьць Танка зазначылася ў новым зборніку ў цэлай паўніні і ў некаторых прыпадках дала паважныя вынікі, нягледзячы нават на ўспомненую ўжо зьмену паэтыцкае мэтоды. Найлепшым гэтага доказам могуць служыць такія пэрлы Танкавай лірыкі, як *Выраі, За шэрым схіляным парканам, Паслухайце, вясна ідзе, Ёсьць варажбітныя травы* і некаторыя іншыя. Ад згушчанай мэтафорычнасьці і плястыкі абразоў бачым тутака даволі шчаслівы пераход да больш простай і яснай, але ня менш прэцызыйнай архітэктонікі верша; заместа ўсхваляванай і бурлівай пачуцьцёвасьці, выкрасае эмоцыі больш мяккія і лагодныя, але ня менш шчырыя й глыбокія. Пачуцьцёвая зраўнаважанасьць і мяккасьць тонаў зьяўляюцца так характэрнымі й неспадзяванымі, што ў цэлым зборніку знаходзім усяго адзін адным верш *З паднятай галавой,* які бурлівай дынамікай пачуцьцяў лучыцца з папярэднімі творамі паэта. Гэтаксама і мова гэтых вершаў выдаецца на першы пагляд зусім простай і звычайнай, але калі ўслухацца ў яе дзіўную музыку і прыгледзіцца да яе пачуцьцёвай насычанасьці, то зацемім, з якой стараннасьцю і вычуцьцём дабірае паэт паасобныя словы й выражэньні, зь якой містэрнасьцю й прэцызыяй будуе зь іх паэтыцкія сказы, каб выдабыць зь іх найбольш чару і хараства. Такая мэтода тварэньня шмат у чым прыпамінае творы Багдановіча, які гэтак сама клаў вялікі націск на паэтыцкую вартасьць слова, ужытага ў вершы, за што беларуская крытыка згодна назвала яго „песьняром чыстае красы“.

У зборніку знаходзім некалькі іншых вершаў, у якіх прасьціня артызму яшчэ ярчэй кідаецца ў вочы, але роўналежна з гэтым зьяўляюцца яны аднымі із лепшых дзякуючы першаякаснай тэхніцы, сьвежасьці і плястычнасьці прыёмаў і глыбокай жыцьцёвай праўдзе, шчыра выказанай у іх. На першым месцы трэба паставіць верш *Над калыскай,* аснаваны на вельмі спапулярызаваным ува ўсіх літаратурах матыве, які выводзіцца із народных калыханак. У беларускай літаратуры матыў маці над калыскай спатыкаецца даволі часта, запачаткаваны *Калыханкай* Багушэвіча, аднак-жа Танк патрапіў яго так удала адсьвяжыць і ўпаэтызаваць, так блізка яго зьвязаў з актуальным сяньняшнім жыцьцём, што верш ягоны назаўсёды астанецца дасканалым узорам гэтае катэгорыі твораў. Гэтак сама простымі, але глыбокімі сваім актуальным зьместам, зьяўляюцца вершы *Плывуць стругі, плыты, плыты* і *Гудкі і калёс перазвон.* Не адходзяць ад агульнай лініі, хаця зьяўляюцца больш складанымі ў сваей структуры і стылёвай кампазыцыі наступныя вершы: *Павязьлі цягнікі, Межы, дзе глянеш ўсё межы, Над курганамі, Памёр стары лірнік, У апалены ветрам марозным асіньнік* і некалькі іншых. Ярка выдзяляецца на фоне цэлага зборніка



чароўна-прыгожы твор, вельмі памыслова скампанаваны й захварбаваны лёгкім гумарам *Дзед і шчупак.*

Усе ўспомненыя вершы прадстаўляюць, побач із іншымі вартасьцямі, высокую ступень паэтыцкай тэхнікі і паказуюць, што пясьняр з гэтага гледзішча ўжо поўнасьцю дасьпеў. Характэрна, што сучасны верш Танка прамаўляе да нас перадусім сваей суцэльнасьцю, а не паасобнымі яго часткамі. Калі ў папярэдніх творах некаторыя абразы існавалі часта самі для сябе, дык цяпер усе элемэнты твораць між сабой суладную гармонію, патрэбную выключна для заакцэнтаваньня галоўнае думкі ці абраза, намаляванага ў вершы. Зьмест твору зарысоўваецца ясна й пуката і ня губляецца ў гушчарніку пабочных абразоў і стылёвых арнамэнтаў.

Усё вышэйсказанае адносіцца толькі, як ужо ўспаміналася, да часткі вершаў, на чале із пералічанымі, а ў ніякім прыпадку ня можа абняць цэлага зборніка. Многа вершаў зьяўляецца поўным ці частковым запярэчаньнем усіх тых мастацкіх асягненьняў, заўважаных у разгляданых ужо творах. Такія вось вершы, як *Такая белая зіма, За пацалункі і за вочы, Раніцы сьцежка, Яшчэ ў гушчарах сасновых, Таму часамі ціхі смутак, Я гляджу на дываны, Зноў у аркестру скрыпачоў, Абапал лес, Пад вечар пацяркі густыя* і некаторыя іншыя ў ніякім прыпадку не зьяўляюцца ўжо плодам шчырага натхненьня, але толькі звычайным, хаця й беззаганным з гледзішча тэхнічнага й не пазбаўленага паэтыцкай культуры рамяслом. Дарма ў іх шукаць уласьцівай Танку чароўнай музыкі словаў, багацьця й выразнасьці абразоў, глыбіні і сьвежасьці пачуцьцяў, якія ў іншых творах проста зачароўваюць чытача. Паэтыцкія візіі і ідэі, якія перад гэтым зарысоўваліся заўсёды выразна й пуката, тутака мутнеюць і расплываюцца ў няясных і часта абстракцыйных сымболях. Гэтыя бясспрэчныя заганы на фоне сучаснай паэтыцкай творчасьці яшчэ не дыскваліфікуюць зусім успомненых вершаў Танка, але моцна іх дэградуюць і ў ніякім прыпадку не даюць аўтару права так злосна й часамі беспадстаўна высьмейваць усіх іншых сучасных беларускіх паэтаў, як гэта ён часта робіць у сваіх сатырычных вершах. З гэтым трэба лёяльна згадзіцца!

Вяртаючыся ўзноў да тэмы, трэба зацеміць, што нават такія творы, як *Руёй, З вырваных картак, Раніца, стук малатка, Гавораць, кат памёр, Шумяць калёсы, ноч і зоры,* хаця і зьмяшчаюць у сабе многа ўдалых і высокамастацкіх асаблівасьцяў, не зьяўляюцца аднак належна выдзержанымі ў сваей кампазыцыі ані апрацаваныя артыстычна, як ранейшыя вершы.

У аглядзе Танкавага зборніка, зьмешчаным у *Беларускім Летапісе* (1938, № 2), Атос гаворыць, што быццам толькі цяпер узышоў пясьняр „на ўласны шлях“ (!) — такі і назоў і яго рэцэнзіі — бо, паводле рэцэнзэнта, „замест навеенага чужацкімі ўплывамі парасту драбязовых мэтафораў і віхрыстасьці выяўленчых спосабаў, паэт прыхіляецца ўсё больш выразна да шля-

хотнага супакою — сьвядомага й арганізаванага“. Рэцэнзэнт нажаль забыўся, што гэтая, быццам навееная чужацкімі ўплывамі, „драбязовая“ мэтафорычнасьць зьяўлялася найбольш *арыгінальнай* азнакай Танкавай паэзіі, асновывалася яна на беларускім сялянскім і фольклёрыстычным матар'яле і, будучы аўтарам із вялікім накладам артызму самастойна й сьвядома апрацаваная і функцыянальна зьвязаная із цэласьцю твору, надавала ягонай паэзіі зусім апрычоны й незалежны характар. Якраз у ранейшых творах часта можна было зацеміць большы ці меншы ўплыў народнае творчасьці так у структуры верша, як і ў паасобных стылістычных фігурах, а ў вершах цяперашніх няма яе й сьледу, хаця Атос чамусьці стараецца бачыць у іх набліжэньне да народнае песьні, яе „простай структуры“ і „нутранай гармоніі“. Цьверджаньне-ж, што ў прыраўнаньні да папярэдніх твораў толькі цяпер паэт узышоў „на ўласны шлях“, магло зрадзіцца адно толькі на падставе тых вершаў Танка, якія мы выдзялілі вышэй у першую частку, тады калі другую частку рэцэнзэнт чамусьці памінуў.

Тымчасам гэтая першая частка вершаў, будучая незалежна ад другой нязвычайна высокім і цікавым артыстычным асягненьнем, не ратуе яшчэ сытуацыі, калі ходзіць аб цэласьць зборніка. Спатыкаемся тут не з паасобнымі заганамі ані з прыпадковымі і незалежнымі ад сябе экспэрымэнтамі, якія ў тэй ці іншай галіне аўтару не ўдаліся, але із зьявішчам сымптоматычным; вершы гэтыя твораць сабой суцэльную групу, вызначаючы гэтым самым апрычоны паэтыцкі кірунак, які, як было гаворана, разьмінаецца з асаблівасьцямі таленту песьняра. З усяго гэтага атрымліваецца ўражаньне, што пясьняр, адарваўшыся ад родных сялянскіх каранёў, пачаў паволі губляць грунт пад нагамі. Ці такое зьявішча зьяўляецца вельмі грозным для будучыні Танкавага таленту, адказаць ня цяжка. Такія індывідуальнасьці, як Танк, абдораныя цьвярозым змыслам самакрытыкі, часамі губляюцца ў лябірынце розных літаратурных зьявішчаў і кірункаў, але, хутка пераканаўшыся аб сваей памылцы, тым цьвярдзей становяцца на ўзноў знойдзеным шляху.

Апрача лірычных вершаў, зьмяшчае ў сабе зборнік невялічкую эпіцкую паэму *Каліноўскі* і вельмі прыгожыя стылізацыі народных казак. Постаць Каліноўскага паяўлялася ўжо даволі часта ў нашай літаратуры. Не бяручы пад увагу дробных вершаў, прысьвечаных беларускаму герою, літаратура нашая мае адну драму Міровіча *Кастусь Каліноўскі* і тры паэмы—А. Вольнага *Кастусь Каліноўскі,* М. Машары *Сьмерць Кастуся Каліноўскага* і напасьледак паэму Танка. З боку мастацкага апрацаваньня і гістарычнай праўды гэтая апошняя стаіць найвышэй.

*Каліноўскі* Танка выдзяляецца асабліва дадатна на фоне дасюлешняй эпіцкай творчасьці паэта з гледзішча добра абдуманай і беззаганнай кампазыцыі. Увесь твор складаецца з васьмі кароткіх частак, зь якіх першая ёсьць лірычным уступам, а апошняя многагаворачым і шырака дапаўняючым акцыю паэмы эпілёгам. Такім спосабам вялікі і багаты прасьцяг гістарычных падзеяў, зьвязаных з постацьцю Каліноўскага, замкнуў аўтар у шасьцёх невялічкіх частках, але зрабіў гэта так, што ўсе гэтыя часткі, абыймаючыя зусім адасобленыя, вырваныя із цэласьці, але рэпрэзэнтатыўныя для гэтай апошняй факты і здарэньні, даюць у выніку поўнасьцю закончаную й закругленую паэтыцкую візію нашай мінуўшчыны. Затое ў галіне мастацкага апрацаваньня паасобных дэталяў *Каліноўскі* ня выдзержывае прыраўнаньня ані з *Нарачу*, ані з *Журавінавым цьветам,* ані напасьледак із *Сказам пра Вяля.* Калі гэтыя апошнія былі паэтыцкімі, як у сваей суцэльнасьці, так і ў паасобных частках і фрагмэнтах, то ў *Каліноўскім*, побач із мясцамі, належна апрацаванымі артыстычна, знаходзім і звычайную, зрымаваную толькі прозу, якая зьяўляецца неабходнай усяго толькі дзеля павязаньня паасобных эпізодаў апавяданьня, але сама ў сабе не прадстаўляе нічога паэтыцкага. Лепшыя й больш мастацкія месцы паэмы часта губляюцца ў вартыстычна неўпарадкаваным матар'яле, верш залішне ломіцца і шурпацее дзякуючы частым і незаўсёды патрэбным рытмічным „узрывам“, так што ўвесь *Каліноўскі* робіць уражаньне скарэй за ўсё толькі агульных і сырых начыркаў паэмы, а ня поўнасьцю ўва ўсіх дэталях закончанага з мастацкага боку твору.

Пры гэтым варта высунуць і некаторыя дробныя тэхнічныя заганы, якія адносяцца ў роўнай меры да разгляданай паэмы, як і цэлага зборніка. Перадусім будзе гэта вельмі частае і непажаданае асабліва для Танка, як буйнага й поўнасьцю дасьпелага таленту, надужываньне *„ў“* (нескладовага), г. зн. ужываньне яго ў тых прыпадках, дзе згодна зь беларускай вымовай быць яно ня можа. Хаця Танк закідае ў вадным сваім вершы, што быццам беларуская літаратурная крытыка займаецца лічэньнем пунктаў ды „ахаў“ у творах нашых паэтаў, але калі-б палічыць успомненыя прыпадкі з *„ў“* у Танка, то праца напэўна ня была-б дарэмная! Гэтак сама няпрыемным дысанансам гучаць нярэдкія ў Танкавай мове русыцызмы, як *водцепель, гладзь, мяцель, ніпачом, шастая* гадзіна, маладым *гадам, сьлязам* і некаторыя іншыя.

На асаблівую заслугоўвае ўвагу песьня аб Каліноўскім, стылізаваная на матыў народны. Мо' яшчэ ніколі не ўдалося Танку так добра вычуць характва народнае песьні і з такой фольклёрыстычнай прасьцінёй і аўтэнтызмам, а адначасна і вельмі артыстычна перадаць яе тыповыя асаблівасьці. Зьяўляецца яна бясспрэчна найлепшай часткай усяе паэмы.

Зборнік заканчываецца аддзелам *Казак,* аб якіх без энтузыязму гаварыць немагчыма. У беларускай літаратуры было ўжо многа спробаў паэтыцкага апрацаваньня народнае паэзіі і некаторыя паэты, як Багдановіч, Бядуля, Ясакар, Трус, Арсеньнева і іншыя асягнулі ў гэтай галіне даволі паважныя рэ-

зультаты. Танк аднак астаўся незраўнаным. Матывы народных казак і песьняў, якія паэт уплятае ў свае творы, тыповыя казачныя выражэньні і наагул форма народнае творчасьці атрымліваюць у ягоным паэтыцкім перастварэньні нейкую асаблівую выразнасьць і дзіўную красу, захоўваючы адначасна свой народны характар. Танкавыя *Казкі,* а таксама блізкі да іх *Сказ пра Вяля* — гэта поўнасьцю арыгінальныя творы, бо з народнае крыніцы бярэ ён толькі паасобныя, часта зусім незалежныя ад сябе матывы і з асаблівым вычуцьцём смаку і меры пераплятае іх з сваімі ўласнымі помысламі. Вынікам такой мэтоды і агульных тэндэнцыяў Танкавай паэзіі мы атрымліваем нятолькі артыстычны твор высокай якасьці, будучы так у сваей фабуле, як і багатай стылёвай арнамэнтыцы прыгожай стылізацыяй народнае творчасьці, але так-жа мастацкі твор арганічна зьвязаны з актуальным жыцьцём.

Чароўнай пэрлай зьяўляецца кароткі ўступ да Казак: *Гэта даўна было.* Сваей паэтыцкасьцю і сьвежым лірызмам перавышае ён падобны ўступ Пушкіна, дададзены да паэмы *Руслан і Людміла,* які пачынаецца ад слоў: *У лукоморья дуб зеленый...* Дзьве першыя казкі *Мухамор* і *Казка пра мядзьведзя,* якія аўтар спэцыяльна прысьвяціў для дзяцей, вызначаюцца асаблівай яснасьцю й прасьцінёй, але разам з гэтым зьяўляюцца далёкімі ад прымітывізму. Затое *Казка пра Музыку* мае даволі разьвітую фабулу, якая лучыць у сябе многа фольклёрыстычных і арыгінальных матываў і зьмяшчае глыбокія народныя сымболі, што можа быць пастаўленай побач із *Сказам пра Вяля.* Усе мастацкія асаблівасьці апрацаваньня народнага матар'ялу ў Танка, аб якіх была мова вышэй, выступаюць у гэтай казцы ў цэлай паўніні. Асабліва цікавым і нявымоўна прыгожым ёсьць тутака паэтыцкае перададзеньне пры пасярэдніцтве канкрэтных сымболяў ігры на зачараванай жалейцы. Ды і наагул артыстычнае апрацаваньне цэлага твору, асабліва дзіўная мілагучнасьць мовы, плястычнасьць і канкрэтнасьць стылю, узбагачанага тыповымі казачнымі выражэньнямі, асягіваюць тут нязвычайна высокую ступень. Усё гэта сьведчыць, што ў гэтай галіне — у галіне артыстычнага апрацаваньня народнае творчасьці шмат чаго можым яшчэ спадзявацца ад Танка.



МІХАСЬ МАШАРА

# Сум васеньні

На кудрах дня,
у далях сініх
ляжыць туга аж да зары;
аб нейкіх стратах і прычынах
у сэрцы сум загутарыў.

У сонцы выцьвіцелі травы
і адшумелі каласы;
бярозкам стройным для забавы
цярэбіць вецер валасы.

Ні якай зелені,
ні красак, —
ёсьць хварбы шэрыя
і медзь;
і ня шукай прыгожых казак —
вучыся верыць
і цярпець.

Сусьвет плыве дарогай млечнай,
я кожны час цьвярджу сабе;
і будні шэрыя ня вечны
і сум васеньні праміне.

Дзікава, 25.VIII 1938 г.

*ХВЁДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ*

## Расшумеліся ветры...

Расшумеліся ветры на прасторы у полі,
На прасторы у полі, ў цёмным лесе-бары.
Разрываюцца хмары ў безьбярэжжы — прывольлі,
Ў гэтай далі — бязьмежжы балатоў, азярын.
На ўскалошаным полі, на прасторы шырокім
Упаду на зямлю я, упаду проста ніц, —
Паплыву ў хвалях шуму з пад палёў беластоцкіх
Да дняпроўскіх лугоў, аж да слуцкіх пшаніц.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Рассыпаў нехта сьлёзы і у змрок галасіў.
Мне так часта здаецца у жаўцеючы вечар,
Што каменьне на полі — гэта жнеі бяз сіл.
Распляліся іх косы і апалі прыгожа,
Вецер з рук абамлелых не разьвеяў ім сны,
І яшчэ замірае сьпеў працяжны на пожні
З тых гадоў, калі ў жыце упалі яны.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Беларуская доля зацьвітала няраз,
Як адлівам пажараў над аўсамі, над грэчкай
Цёмнай ноччу займалася, палымнела зара.
Расшумеліся ветры на прасторы у полі,
На прасторы у полі, ў цёмным лесе-бары.
Зацьвітала няраз беларуская доля
Ў гэтай далі бязьмежнай балатоў, азярын.
Столькі раніцаў мглістых, столькі восеняў шэрых,
Ў нашых песьнях іржавіць жоўталісьцем сухім.
Галасамі вясёлымі з берагу ў бераг
Скалыхнем аж да сіні веснавой небасхіл.
Трэба ў ветру парывах настроіць нам гусьлі,
У жытох яго буйную волю скасіць.
З над палёў, дзе дым сьцелюць Беласток і Супрасьль,
Аж да слуцкіх пшаніцаў калосьсе шуміць.

13.VIII 1938 г.



## Прыяцелю

Так раставацца, мой дружа,
Не раставаўся на сьвеце ніхто!
Прыязьні вытканы кужаль
Не падзёр паравозны сьвісток.
Помніцца вечар той сіні...
Вецер вясеньні нам словы размыў —
Ў вулках маленечкіх Вільні
Гаварылі да поўначы мы.
Места, дзе сны адцьвілі нам,
Мачыхай злоснай здалося тады
Хутка так ніклі хвіліны,
Як на станцыі ўсхмараны дым.
Ў хвалях кіпучага сьвету
Ты на чужыне, няведамы, зьнік.
Вольныя, буйныя ветры
Разьвяваюць цяпер мае дні.
Ды і ў далёкіх прасторах —
Як і тады у вакне цягніка —
Прыязьні нашай задорам
Перапоўнена так-жа рука.

## Дзень павіс шэрай хусткай

Дзень павіс шэрай хусткай на плоце —
ой, у полі мгляно, мгляно —
ў вёсцы нават ніхто не малоціць —
дождж імжой шалясьціць у вакно.

Дзе ні глянь — адно возера белі,
быццам недзе мой край патануў...
Цяжка так неадрыўна кудзеліць —
выглядаць у тумане вясну.

Можа, хлопцы, ня гэтак вам сумна
у няскошанай мерці глушы —
часам певень ці конь каля гумнаў
вас, буянаў, да сьлёз рассьмяшыць.

Але мне не да сьмеху сягоньня —
гэты дзень мне ўсё нешта чаўпе —
у барку, у прыборку зялёным
восень тчэ свае кросны цяпер.

Навучыцца-б у вас, мае братцы,
замяніць ды у панцыр кажух!
Толькі сэрца ня хоча суняцца,
а чаму? — я і сам не скажу.

АНАТОЛЬ ІВЕРС

# Над Шчарай

Заігралі ветры ў полі,
заігралі пераліўна —
і калышуцца таполі
ў небе ласкавым і дзіўным.

І вясёлкай серабрыцца,
паясом ў даліне Шчара,
а з-пад вёслаў—пэрлы быццам
пырснулі із казкі чараў.

Між далінаў і між гораў
лезе лодка плаўкім клінам.
На узьмежку нібы мора
шумам пеніцца каліна.

І кацілася з аддальля
песьня — сонца пазалота
і зьлівалася на хвалях
ў гібкім гомане чаротаў.

Берагі: шумяць калосьсяў
схваляваныя палотны,
ў шыр кладзецца зыб пакосаў
асакі й сіты балотнай...

Ў даль па зрэбных каляінах
распаўзьліся дні і ночы —
іх зьбярэ мая Краіна
у вясёлкавы вяночак!

Дзе ні глянь—ўсё сэрцу блізка:
вёска, лес, вузкі палетак —
Пэўна маці над калыскай
напяяла мне пра гэта

С. ХМАРА

* * *

Сэрца чароўна пяе самагудамі.
Ой, ап'янелы вачыма я восеньню.
З месяцам лаюсь:
Сабака руды ты!
Вылез па што?!
Як цябе мы ня просімо...
Нізка вярбіны над намі схіліліся...
Не! —
Не напіцца мне воч тваіх просіньню.
З плеч быццам дзесяць гадоў адвалілася...
Ой ап'янеў! —
па вясноваму —
восеньню...



С. КАЛІНА

# Літаратура ў вадносінах да жыцьця

(Глядзі кн. 2(15) „Калосься“).

2.

## Літаратура і рэальнае жыцьцё

У папярэднім разьдзеле дайшлі мы да вываду, што літаратура ў найшырэйшым разуменьні зьяўляецца заўсёды адбіцьцём ці візіяй праўдзівага жыцьця, паказанага ў тым ці іншым артыстычным аспэкце. Незалежна ад таго, ці фабула літаратурнага твору ёсьць чыстай выдумкай, ці аснована на праўдзівым выпадку, твор гэты заўсёды адбівае ў сабе нейкі фрагмэнт жыцьця, фізычнага ці псыхічнага, можа разьвіваць у сабе нейкую праблему альбо праводзіць тую ці іншую ідэю, цесна зьвязаную з рэальным жыцьцём, ды напасьледак нават матар'ял для стылістычных асаблівасьцяў і літаратурных сымболяў чэрпае беспасярэдна з акружаючага жыцьця. Такім спосабам літаратурнае мастацтва вырастае беспасярэдна з жыцьця, корміцца ягонымі сокамі, узалежняе кірункі свайго разьвіцьця і свой аснаўны характар ад жыцьцёвых акалічнасьцяў і вымаганьняў.

У сувязі з гэтым заўсёды паўставала і паўстае пытаньне, якое становішча павінна займаць літаратура адносна актуальных патрэбаў жыцьця: ці яе заданьнем ёсьць уплываць на ход жыцьця і надаваць яму той ці іншы кірунак, ці наадварот — мусіць яна поўнасьцю адгарадзіцца ад жыцьцёвых патрэбаў, творачы замкнуты ў сабе мастацкі сьвет? Спасярод розных становішчаў адносна гэтага пытаньня, два зь іх зьяўляюцца сяньня асабліва актуальнымі. Адно зь іх адкідае аўтанамізм літаратуры, дамагаючыся, каб была яна заўсёды на службе жыцьцёвых і грамадзкіх праблемаў і сьцісла падпарадкавалася гэтым апошнім, а другое — ваюе за літаратуру незалежную, „чыстую“, якая мусіць разьвівацца згодна з прынцыпам „мастацтва для мастацтва“. Такім спосабам заданьнем літаратуры паводле першага кірунку зьяўляецца ня толькі заспакайваньне эстэтычных патрэбаў чытача, якія, як ведаем, зьяўляюцца неабходнымі ў духовым жыцьці кожнага чалавека, ад прымітыўнага яго стану аж да высокага культурнага роўня, але так-жа, а нават перадусім — разьвіцьцё і ўзбагачваньне ягоных вартасьцяў маральных, грамадзкіх, этычных і г. д., накіданьне і прышчэпліваньне яму тых альбо іншых жыцьцёвых перакананьняў. Затое апошні кірунак задзержываецца ўсяго толькі на першых вартасьцях, як аснаўных і выключных для кожнага мастацтва, адступаючы другія для іншых галінаў людзкой творчасьці.

Падыходзячы да справы з гледзішча самой істоты літаратурнай творчасьці, якая, як было гаворана, зьяўляецца артыстычнай візіяй запраўднага жыцьця ў цэлай ягонай шырыні, рэч ясная, што аніводная з гэтых спробаў разьвязаньня пастаўленнага пытаньня ані чуць ня можа нас задаволіць.

Наўперад трэба засьцерагчыся, што крытыкуючы першае становішча, якое хоча ўважаць літаратуру за аружжа ў грамадзкім жыцьці, не ідэнтыфікуем яго ў ніякім прыпадку з тым станам, які самаўладна пануе сяньня ў Саветах, часткава так-жа ў дзяржавах фашыстаўскіх (Нямеччына, Італія). Літаратурнае мастацтва, будучае тамака точна падпарадкаванае дырэктывам палітычна-партыйным і рэгуляванае паліцыйнымі органамі, зьяўляецца патрактаванае ў спосаб найбольш вульгарны і цынічны, які выключае ўсякую рачовую дыскусію на гэтую тэму. Ведаем добра на прыкладзе тых-жа самых сяньняшніх Саветаў, якія рэзультаты прыносіць такая мэтода: літаратурная творчасьць, замест таго, каб вольна й свабодна выражаць творчыя парывы чалавечае думкі, каб тварыць што раз новыя абсалютныя мастацкія цэннасьці, зьніжылася там да ролі актуальнае „агіткі", непрызваітых пашквіляў на розных непажаданых сяньня людзей, або напасьледак — панэгірыкаў і пахвальных гімнаў на чэсьць Сталіна.

Але нават не бяручы пад увагу стану, пануючага ў Саветах, трэба сьцьвердзіць, што імкненьне да падпарадкаваньня літаратуры актуальным жыцьцёвым патрэбам не разьвязвае сытуацыі, калі ўявім сабе, што літаратура, будучая мастацкім выяўленьнем і адбіцьцём жыцьця, мусіць мець усе магчымасьці, каб з жыцьцёвай запраўднасьці чэрпаць свабодна і выбіраць тое, што найбольш адказуе артыстычным мэтам песьняра. З гэтага самага гледзішча ня выдзержуе так-жа крытыкі і другое становішча, якое, высоўваючы прынцып „мастацтва для мастацтва", стараецца поўнасьцю адсэпаравацца ад жыцьцёвых актуальных праблемаў, хочучы, каб літаратура была глухая на ідэі і настроі масы. Паколькі ў жыцьці дадзенага народу ці грамадзянства разьвіваюцца і дасьпяваюць тыя альбо іншыя ідэі і праблемы, гэтым самым могуць яны знаходзіць месца ў літаратуры. Абодвы гэтыя становішчы на наш пагляд вельмі ўпрошчываюць даволі скамплікаванае й багатае пытаньне адносінаў літаратуры да жыцьця, тады, калі шукаючы разьвязкі ягонай мусім узяць пад увагу цэлы рад аснаўных асаблівасьцяў літаратурнага мастацтва.

Ужо з гледзішча на тое, што літаратура зьяўляецца артыстычным выражэньнем запраўднасьці, былі мы змушаныя адкінуць абодвы вышэй пададзеныя становішчы, якія ненатуральна звужалі-б літаратурнае мастацтва і агранічвалі-б яго творчыя магчымасьці. Але ня менш важную ролю гуляюць тутака і індывідуальныя зацікаўленьні і творчыя асаблівасьці аўтара, якія адносяцца ня толькі да спосабу артыстычнага апрацаваньня матар'ялу, але ў нянешай меры і да выбару яго: адныя тэмы могуць адказваць прыродным творчым магчымасьцям аўтара, другія — не. Гэтую цікавую асаблівасьць пастараемся паказаць на прыкладзе творчасьці Янкі Купалы й Максіма Багдановіча.



Усю аграмадную Купалаўскую творчасьць з гледзішча на ейную тэматыку можым падзяліць на дзьве часьці: адна — гэта творы з выразным ідэолёгічным зьместам, у якіх натхнёны песьняр кідае гарачыя прызывы народу, вешчым голасам заклікае яго прачнуцца і будаваць свой собскі нацыянальны быт, прарочыць яму сонечную будучыню і г. д., другая часьць — гэта лірыка рэфлексыйна-апісальная, прысьвечаная асабістым перажываньням і ўражаньням, праблемам жыцьцёвым, апісаньню беларускае прыроды, любоўным пачуцьцям і г. д. І вось, калі гэтыя апошнія творы, якіх аграмадная большасьць не зьяўляецца з гледзішча артыстычнай іх вышыні нечым нязвычайным на фоне сучаснай літаратурнай творчасьці, а некаторыя зь іх зусім ня розьняцца ад творчасьці іншых „нашаніўскіх" паэтаў і прадстаўляюць сяньня адно толькі вартасьць гістарычную, патолькі творы першае групы зьяўляюцца незраўнанымі з гледзішча іх мастацкага апрацаваньня і сілы сугэстыі, іх артыстычная вартасьць непрамінаючая. Дзеля лепшага ўяўленьня гэтае розьніцы возьмем хоць-бы „Шляхам Жыцьця", зборнік найбольш рэпрэзэнтатыўны побач із „Спадчынай". Не бяручы пад увагу перакладаў, на дзьвесьця тры вершы і дробныя паэмкі, зьмешчаныя ў гэтым зборніку, вызначаюцца няштодзенным мастацкім апрацаваньнем і замыкаюць у сабе вялікую сугэстыўную сілу больш менш толькі наступныя творы: *1. Песьня мая, 2. Маладая Беларусь, 3. Песьня байка, 4. Песьня сонцу, 5. Выйдзі, 6. Песьня званара, 7. Ня ўздыхай, 8. Яшчэ прыдзе вясна, 9. За праўду, 10. Мая думка, 11. Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, 12. Зваяваным, 13. Забраны край, 14. Над Нёманам, 15. Ужо днее, 16. Роднае слова, 17. Чужым, 18. Прарок, 19. Не пагаснуць зоркі ў небе, 20. Лірнік вясковы, 21. Песьняру Беларусу, 22. Наша песьня, 23. На Куцьцю, 24. Курган, 25. На папасе*).*

Творы гэтыя, якія прадстаўляюць толькі восьмую частку ўсяго зборніка, — а падобныя колькасныя адносіны зацемім і ў іншых зборніках Купалы — зьяўляюцца найбольш улюбленымі і найшырэй знанымі ягонымі творамі, іх заўсёды дэклямуюць на розных імпрэзах, перадрукоўваюць у хрэстаматыях і іншых зборных выданьнях. Пералічаныя вершы й паэмкі, якія, дзякуючы высокай мастацкасьці, магутным і глыбокім пачуцьцям, урачыстаму паднятаму настрою, ня маюць сабе роўных у нашай літаратуры і высоўваюць Купалу на найвялікшага беларускага песьняра, зьяўляюцца якраз аснаванымі выключна на грамадзкім

*) Прапаную кожнаму зрабіць на ўласную руку падобную клясыфікацыю Купалавых твораў з гледзішча на сілу і характар выкліканых імі перажываньняў. Хаця могуць быць некаторыя розьніцы ў прыраўнаньні з маім падзелам, які, ясна-ж, зьяўляецца суб'ектыўны і зроблены адрыўча, аднак у вагульных рысах мусяць яны згаджацца.

матар'яле і вызначаюцца багатым ідэолёгічным зьместам. Усё-ж іншыя творы, калі і прадстаўляюць некаторыя няштодзенныя вартасьці, то аднак далёка не дараўноўваюць пералічаным, а ладная іх частка наагул слабая.

Такім спосабам уся Купалаўская творчасьць вымоўна сьведчыць, што ня ўсякія тэмы могуць удавацца аднаму й таму самаму аўтару і што дзеля гэтага мусіць быць адпаведны іх выбар у залежнасьці ад творчых асаблівасьцяў артысты. А што гэты выбар не заўсёды можа пакрывацца з тэмамі найбольш важнымі і актуальнымі для канкрэтных жыцьцёвых патрэбаў, ня менш вымоўна сьведчыць характар творчасьці М. Багдановіча. На падставе біографічных дадзеных ведаем, што Багдановіч быў ня меншым патрыётам за Купалу, ведаем так-жа, што пісаў ён якраз у тым часе, калі апяваньне нацыянальных і соцыяльных ідэалаў было свайго роду маральным абавязкам кожнага паэта й пісьменьніка, аднак сярод адносна багатай ягонай літаратурнай спадчыны знаходзім усяго некалькі вершыкаў, якія прысьвяціў беларускім грамадзкім пытаньням. Пры гэтым вершы гэтыя не належаць да найлепшых, а ўвесь чар і краса Багдановічавай паэзіі выступае ў творах, нячулых на жыцьцёвыя патрэбы: у творах прыродаапісальных, у лірыцы суб'ектыўна — псыхолёгічнай, вершах рэфлексыйных.

Прыклады з Багдановіча й Купалы вымоўна пацьвярджаюць, што індывідуальная артыстычная структура песьняра і аснаўны характар і кірункі ягоных творчых зацікаўленьняў зьяўляюцца дэцыдуючымі ў літэратурнай творчасьці, у дадзеным прыпадку— у выбары і прасьцягу тэматыкі твору. Дык калі-б напрыклад з поўнай срогасьцю дамагацца, што літаратура мусіць быць точна падпарадкаваная жыцьцёвым патрэбам і верна служыць ім, то консэквэнтна трэба было-б адкінуць усю творчасьць Багдановіча. І наадварот — ня мог-бы паявіцца ў беларускай літаратуры геній Купалы, калі-б бяскрытычна стаць на становішчы, што літаратурны твор, згодна з прынцыпам „чыстага" мастацтва ці „мастацтва для мастацтва", павінен быць глухі на праявы і працэсы актуальнага жыцьця. Дык ясна выплывае з усяго гэтага, што адзінай правільнай дарогай песьняра ёсьць заўсёды йсьці за голасам свайго артыстычнага сумленьня, не аглядаючыся на розныя спакусы і не разьменіваючыся сярод цэлага камплексу зьявішчаў, не заўсёды адказуючых ягоным магчымасьцям, бо ўсё гэта можна вельмі лёгка зьвіхнуць нават вялікі творчы талент. Блага таму аўтару, які, адарваўшыся ад свайго прыроднага караня, пачне ўсяго толькі экспэрымэнтаваць у кірунку, супярэчным з характарам сваей творчасьці, альбо, гонячыся за папулярнасьцю, стараецца ненатуральна і аднастаронна зьніжацца да роўні ўсіх чытачоў, замест падцягнуць гэтых апошніх да вышыні свайго таленту.

(д. б.)



*М. ШКЯЛЁНАК*

# Тэрыторыя Беларусі і яе дагістарычнае насельніцтва

(Працяг, глядзі № 2 (15) „Калосься")

Яшчэ нядаўна спорным было пытаньне, калі зьявіўся чалавек на тэрыторыі Беларусі. Лічылася агульна прынятай думка, што сьляды чалавека ў Беларусі даходзяць толькі да пазьнейшае пары каменнага пэрыяду — *нэоліту**). І хоць раскопкі на тэрыторыі Беларусі выкрылі шмат месцаў з астачамі жывёлы ледавіковае пары (косьці мамантa, паўночнага аленя і інш.), што наводзіла на думку існаваньня і чалавека ў гэтую пару, а ўжо Сементкоўскі казаў, што ў зьбіральнікаў і аматараў старыны Віцебшчыны ён бачыў прылады „бяз ніякіх азнак шліхоўкі",**) праф. А. Сьпіцын на першым зьезьдзе дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі ў Менску (17—18. І. 1926 г.) усё-ж заявіў, што існаваньне чалавека на тэрыторыі Беларусі ў пару палеоліту астаецца загадкай. ***)

Але пасьле гэтай аўторытатыўнае заявы яшчэ ўлетку таго-ж 1926 г. пытаньне гэтае атрымала неспадзеўкі новае асьвятленьне. Сябра гістарычна-археолёгічнае камісіі б. Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску К. Палікарповіч натрапіў каля вёскі *Бердыж*, чачэрскага раёну, гомельскае акругі, на стаянку палеолітычнага

*) Каменны пэрыяд у жыцьці чалавецтва характарызуецца ужываньнем прыладаў з камяня, рагоў, касьцей і дрэва. Каменнага пэрыяду, як унівэрсальнай на зямлі эпохі з азначаным пачаткам і агульным канцом, не існавала. Розныя плямёны і народы перажывалі ў розную пару гэтую культуру, а яшчэ і сяньня ёсьць народы на гэтай ступені разьвіцьця. Каменны пэрыяд дзеліцца на больш старэйшую пару — палеоліту, калі чалавек выробляў сабе прылады з крэмня, яшмы і іншых цьвёрдыхародаў, бяз ніякае іх шліхоўкі, і пазьнейшую — нэоліту, — калі прылады выробляліся з мякчэйшых пародаў і шліхаваліся з помаччу вады і пяску. Найбольш ужыванымі прыладамі шліхаванымі былі тапары і малаткі (шмат гэткіх знаходкаў на тэрыторыі Беларусі можна бачыць у Беларускім Музэі ў Вільні). Між гэтымі порамі была пара мэзоліту, калі побач із шліхаванымі ужываліся нешліхаваныя прылады.

**) Сементковскій. Бѣлорусскія древности в. I. б. 85.

***) У існаваньні чалавека ў Беларусі у пару палеоліту апрача вышэй успомненых дадзеных, праф. А. Сьпіцына не пераканалі і знаходкі Е. Раманава, якія ён залічыў да палеоліту. Дачка Раманава прыслала ў Акадэмію Навук СССР дзьве пляншэты з гэтымі знаходкамі. Знаходкі апісаны Е. Раманавым у працы „Матеріялы по исторической топографіі Витебской губ. 1898 г.", б. 18—23.

чалавека. К. Палікарповіч знайшоў у ваколіцы гэтае вёскі сярод касьцей маманта некалькі зробленых чалавекам адшчэпкаў крамня і дзьве ножападобныя прылады, на якіх былі сьляды дробнай штучнай адбіўкі (г. зв. „рэтуш“). „Гэтая апрацоўка крэмняў, сувязь іх з пэўным гэолёгічным пластом (марэнны суглінак), сьляды вагню, прысутнасьць костак розных выкапальных жывёлаў, непарушанасьць усіх пластоў, не выклікае—кажа Палікарповіч—ніякага сумліву, што тут маем астачы палеолітычнае культуры часу вялікага зьледзяненьня“. *) Хутка, бо ў 1929 г., была знойдзена другая палеолітычная стаянка у в. *Юравічы* на Прыпяці каля Мозыра, а потым *нова-бабовіцкая.* Трэба лічыць, што і стаянка ў в. *Гамкаве,* смаленскае акругі, ёсьць палеолітычнай. **)

Гэтыя стаянкі маюць вялікую навуковую вартасьць. У сэнсе тэрыторыяльным (прынамся ў гістарычных межах) беларускімі трэба лічыць дзьве раней ад вышменаваных знойдзеныя палеолітычныя стаянкі, паіменна *супонеўскую* каля Бранску і *мезінскую* на Дзясьне, на паўдзён ад г. Ноўгарад-Северскага. Аднак з факту, што на межах Беларусі былі палеолітычныя стаянкі, яшчэ ня можна было рабіць выснаваў аб існаваньні ледавіковага чалавека на тэрыторыі Беларусі. Апісаныя знаходкі выясьняюць гэтае пытаньне і дазваляюць з усей пэўнасьцю адсунуць пачатак каменнай культуры насельнікаў Беларусі даледавіковай пары.

Палеоліт зьмяніла наступная пара — *нэолітычная,* або шліхаванага камяня. Факт існаваньня чалавека ў Беларусі ў гэтую пару выплывае з папярэдняга і сьцьвярджаецца ўжо шматлікімі знаходкамі гэтай пары. Каменных прыладаў нэоліту знойдзена шмат на тэрыторыі ўсяе Беларусі. Параўнальна дагэтуль найбольш іх аказалася ў *Віцебшчыне, Віленшчыне, Меншчыне, Магілёўшчыне і Полаччыне,* найменш — у *Горадзеншчыне, Слонімшчыне, Ваўкавышчыне, Беласточчыне, Смаленшчыне.* ***) Апрача

*) Даклад К. Палікарповіча ў гістарычна-археолёгічнай Камісіі Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску (глядзі Гістарычна-археолёгічны зборнік № 1 Інст. Белар. Культуры, Менск, 1927, б. 358—360, апрацаваньне З. Даўгялы).

**) Вывучэньнем гэтых стаянак займаліся беларускія археолёгі Г. Мірчынк, В. Громаў, С. Замятнін, К. Палікарповіч, А. Ляўданскі (глядзі „Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, кн. II. Працы Археолёгічнае Камісіі, том II. Бел. Акад. Нав. Менск, 1930, дзе зьмешчаны іхнія працы).

***) З гэтага відаць, што нэолітычны чалавек гусьцей жыў на ўсходзе Беларусі. Пярэчыў-бы гэтаму факт, што нэолітычных знаходак адносна мала адкрыта ў Смаленшчыне. Трэба аднак узяць пад увагу, што досьледы Смаленшчыны з гэтага гледзішча пачаліся толькі ў 1924 г. беларускімі археолёгамі. Гэтак А. Ляўданскі ў 1924 г. знайшоў першую нэоліт. стаянку ў 20 клм. ад Смаленска каля ст. Катынь, а другую ў 1925 г. 24 клм. ад Смаленска недалёка ад вёскі Ніжніх Нямыкараў. У гэтым-жа 1925 г. Н. Савін знайшоў нэоліт. стаянкі ў дарагабужскім павеце, каля Дарагабужу і ўніз па Дняпры ў в. Хатычкі, Бізюкова, Аляксейкава, Бабаедава і на р. Угры пры ўтоку ў яе р. Вароны. Ёсьць сьляды нэолітычных стаянак і каля в.в. Ліцьвінава і Стара-Меншыкава, вяземскага пав. Магчыма дзеля гэтага, што адносная рэдкасьць нэоліт. знаходак у Смаленшчыне аб'ясьняецца спозьненымі досьле-



маладых беларускіх археолёгаў, нэолітычныя стаянкі ў Беларусі знайшлі, або іх студыявалі, галоўна да вайны, расейскія і польскія археолёгі, як *А. Сементкоўскі,* графы *Уваравы,* графы *Тышкевічы, Ф. Дабранскі, Татур, Н. Авэнарыус, М. Кусьцінскі, Е. Раманаў, В. Шукевіч, А. Сьпіцын,* і іншыя *). Былі гэта пераважна археолёгі-аматары, каторыя займаліся галоўна раскопкамі курганоў і ў гэтых працах траплялі на астачы нэолітычных стаянак у Беларусі. З боку адпаведных археолёгічных расейскіх ці польскіх устаноў ня было наладжана сыстэматычных і пляновых досьледаў. Археолёгі-аматары абшар досьледаў выбіралі прыпадкова. Дзе гэтых аматараў ня было, там агулам і ніякае археолёгічнае працы не вялося, хіба якімсь адумыслова прыехаўшым з „цэнтру“ археолёгам і зь якойсь спэцыяльнай мэтай. **)

Нешматлікія знаходкі не даюць яшчэ магчымасьці пазнаньня жыцьця палеолітычнага чалавека ў Беларусі. Затое адносна

дамі, як дапушчае і А. Ляўданскі, але ня выключаецца думка, што нэолітычны чалавек жыў тут радзей. Тады трэба было-б лічыць, што гэты чалавек найгусьцей жыў у сярэдняй Беларусі (глядзі А. Ляўданскі. Нэолітычныя стаянкі ў Смаленскай губ. Гістарычна-археолёгічны зборнік Інстытуту Беларускае Культуры № 1. Выданьне І.Б.К. Менск, 1927 г., б. 177—179).

*) Падамо тут найгалаўнейшыя працы гэтых дасьледчыкаў, у якіх можна знайсьці дадзеныя аб нэолітычных знаходках у Беларусі. А. Сементковскій. Бѣлорусскія древности в. I. Спб. 1890 г. А. Уваровъ. Археологія Россіи т. II. Москва 1891 г., б. 39—46, 51—53, 137—138. E. Tyszkiecz. Badania archeologiczne, Wilno, 1850 г. Ф. Добрянскій. Каталогъ предметовъ Музея Древностей, состоящаго при Виленской Публичной Библиотекѣ, Вильна, 1879 г. Татуръ. Очеркъ археологическихъ памятниковъ на пространствѣ Минской губерніи. K. Tyszkiewicz. O kurhanach na Litwie i Rusi Zachodniej, Berlin, 1868 г. Н. Авенаріусъ. Замѣтка о раскопкахъ въ Минской губерніи въ 1889 и 1890 годахъ (Труды Виленскаго Оддѣленія Моск. Предвар. Комитета по устройству въ Вильнѣ IX Археологическаго Съѣзда. Вильна, 1893). М. Кустинскій. Докладъ о раскопкахъ въ области Кривичей (Древности, т. IV. Москва. 1874 г.). Е. Романовъ. О раскопкахъ въ Могилевской губерніи (Древности, т. XII. Москва, 1888 г.). Яго-ж. Раскопки въ Могилевской губ., въ 1888 г. (Древности т. XIII. в. I. Москва, 1889 г.), Яго-ж. Археологическія развѣдки въ Могилевской губ., Вильна, 1912 г. Яго-ж. Матеріялы по исторической топографіи Витебской губ., Могилевъ, 1898 г. Яго-ж. Археологическій очеркъ Гомельскаго уѣзда, Вильна, 1910 г. П. Лерхъ. Орудія каменнаго і бронзоваго вѣковъ въ Европѣ (въ Изв. Имп. Арх. Общ. т. IV. Спб. 1863 г.). Глядзі так-жа: Каталогъ Собранія древностей гр. А. С. Уварова, Москва, 1887 г., б. 21 і Каталогъ предметовъ выставки VIII археологическаго съѣзда, Москва, 1890 г.

**) Праўда, у 1869 г. у Вільні паўстаў г. зв. „Сѣверо-Западный Отдѣлъ Импер. Русскаго Географ. Общества“, пры якім была створана сэкцыя археолёгіі, якая магла-б заняцца сыстэматызаваньнем археолёгічных досьледаў і іх вывучэньнем. Аднак да 1910 г. увесь аддзел разам з сэкцыяй існаваў толькі на паперы. У 1910 г. ён быў узноўлены. Аддзел зьмясьціў некалькі прац археолёгаў-аматараў, пераважна з курганнай пары, у сваіх „Записках“ і плянаваў сыстэматычнае вывучэньне краю з гледзішча яго археолёгіі, аднак гэтаму перашкодзіла вайна (глядзі „Записки“ Сѣв.-зап. отдѣл. Имп. Рус. Геогр. Общ. за 1911—1913 г., выдадзеныя ў Вільні). З гледзішча археолёгічнага мелі сваё значэньне ладжаныя ў розных гарадох Імпер. Археол. Об-ствам у Маскве штогоднія археолёгічныя зьезды, на якія прыгатаўляліся даклады аб археолёгічных здабытках у розных краінах б. Расеі і між іншым у Беларусі.

нэолітычнае пары вучоныя робяць на аснове ўжо дасюлешніх знаходкаў выснавы аб жыцьці чалавека ў гэтую пару, прычым некаторыя з іх можна лічыць цьвёрда устаноўленымі навукова. Дасьледчыкі кажуць, што нэолітычны чалавек у Беларусі жыў пераважна на берагох рэк і надта рэдка на берагох вазёр. *) Жыльлём для гэтага чалавека былі зямлянкі, але ня выключана, што ён будаваў адумысныя для гэтага шалашы.

Гэта асабліва пацьвяржаецца знаходкамі беларускіх архэолёгаў за апошняе дзесяцігодзьдзе. Сьцены гэткага шалаша рабіліся з гальля, абмазанага глінай, а магчыма і са скуры зьвяроў. Падлога рабілася з бітай гліны, а пасярод яе знаходзілася вогнішча наўперад дзеля прыгатаваньня ежы. Астачы глінянае пасуды паказваюць, што чалавек ёю карыстаўся і ўмеў вырабляць. Пасуда ляпілася з гліны чырвонае, або шэрай, дрэнна апаленай, з дамешкаю пяску або жарствы. Форма пасуды была розная, орнамэнт просты і даволі аднастайны. **) Асядаючы па берагох рэк і вазёр нэолітычны чалавек здабываў у іх для сябе яду — рыбу і асобную ракавіну, г. зв. unio pictorum. Па берагох-жа рэк ён знаходзіў для сябе ў вялікай колькасьці крэмень, служыўшы для вырабу каменных прыладаў. ***) У лясох чалавек паляваў на зьвярыну. *Рыбалоўства* і *паляваньне* былі найгалаўнейшымі заняткамі нэолітычнага чалавека ў Беларусі. Хоць насельніцтва каменнага пэрыяду ў Беларусі групавалася па берагох рэк і вазёр, аднак, паводле некаторых дасьледчыкаў, яно не вяло аднолькавага спосабу жыцьця. Гэтыя дасьледчыкі, апіраючыся на тым, што каменныя прылады на поўначы Беларусі спатыкаюцца малымі групамі, а на поўдні вялікімі, робяць выснаў, што насельнікі паўночнай Беларусі вялі *вандроўнае* жыцьцё, тады, як на поўдні (ад Дзьвіны) жыло *аселае* насельніцтва. *) Сементкоўскі дапушчае нават, што ўжо ў гэтую пару насельнікі Беларусі вялі гандаль з суседзямі, бо часам трапляюцца прылады з гэткіх пародаў камяня, каторыя не спатыкаюцца ў дадзенай мясцовасьці. **) Нешматлікія знаходкі паказваюць, што каменны чалавек сваіх нябошчыкаў хаваў розна, часам іх паліў, часам закапываў у зямлю, пры гэтым разам з рэчамі нябошчыка. ***)

Праф. М. Шчакаціхін кажа, што ўжо ў гэтую пару назіраецца хоць і прымітыўнае, але усё-ж імкненьне да мастацкага апрацаваньня каменных сякераў і вырабаў керамікі. Орнамэнтыка сякераў азначаецца вельмі простымі лінейнымі ўзорамі і ёсьць больш рознастайнай у кераміцы. Тут найпрасьцейшым рысункам ёсьць дзьве раўналежныя лініі па берагу пасудзіны. У далейшым разьвіцьцю гэтыя лініі ламаюцца на кавалкі ды зварочваюцца да сябе наўскос або стоць, творачы вуглы, крыжыкі і г. п. Надта характэрна, што ўжо ў гэтым часе спатыкаецца рысунак „капыцікаў", якія захаваліся яшчэ і цяпер на сучасных вясковых беларускіх паясох. З часам орнамэнтыка робіцца ўсё больш складанай: зьяўляюцца просталінейныя геомэтрычныя фігуры (трыкутнікі, ромбы, прастакутнікі) і рысункі крывалінейныя (хвалявыя лініі, кольцы, сярпы, паўмесяцы і г. д.)****)

Нэолітычную пару зьмяніла *пара мэталяў*, калі жыхар Беларусі навучыўся ўжываць прылады з мэталяў. Населенасьць Беларусі і ў гэтую пару выплывае ня толькі, як выснаў з папя-

---

*) На стаянкі на берагох вазёр натрапілі В. Шукевіч у Лідчыне, вазёры Дуба, Мачулы і інш., Е. Раманаў у б. себескім пав. (Глыбочанскае воз.). К. Палікарповіч у б. клінцоўскім пав. (Кажаноўскае воз.). К. Палікарповіч у 1926 г. знайшоў нэолітычную стаянку каля балота Печанеж, касьцюковіцкага раёну ў вадазборы р. Бесядзі (прыток Сажа). Гэты факт пярэчыў-бы ўспомненым выснавам, але Палікарповіч тлумачыць, што балота Печанеж у нэолітычную пару было возерам, а з часам замянілася на балота. Апошняя знаходка Палікарповіча (каля балота Печанеж) мае вялікую вагу. Як вядома, у археолёгіі пануе адносная хронолёгія. Няма магчымасьці устанавіць абсалютныя даты трываньня нэоліту ў Беларусі. Знаходкі каля Печанежа паводле Палікарповіча могуць спрычыніцца да ўстанаўленьня абсалютнае хронолёгіі, а гэта шляхам дасьледваньня часу паўстаньня тарфяністага балота на месцы возера на аснове арганічных астачаў у тарфянішчах (глядзі К. Палікарповіч—Нэолітычная стаянка каля балота Печанеж на Калініншчыне, Гіст.-арх. зборнік І.Б.К. № 1, Менск 1927 г., бач. 235—240). Тады магчыма было-б азначыць час, калі панаваў нэолітычны пэрыяд у культуры насельнікаў Беларусі. Дагэтуль нэолітычную пару ў Беларусі прыблізна азначаюць не пазьней, як на 1000 гадоў да Нар. Хр. (Аб гэтым глядзі Л. Нідэрле. Человѣчество въ доисторическіе времена, переводъ Волкова, Спб. 1898 г., бач. 174, А. Спицинъ. Обозрѣніе нѣкоторыхъ губерній и областей Россіі въ археологическом отношеніи, у розных месцах, Карскі, Бѣлоруссы кн. І. бач. 30 — 32, які паўтарае прыпушчэньне першых двух). Ёсьць гэта аднак пакуль што толькі гіпотэза.

**) Аб шалашы, як жыльлі чалавека ў пару нэоліту, глядзі працу А. Ляўданскага. Нэолітычныя стаянкі ў Смаленскай губ. (Гіст.-археолёг. Зборнік І.Б.К. № 1, 1927, Менск). Выснавы свае аўтар апірае на аснове знаходак стаянкі ў в. Ніжнія-Нямыкары ў Смаленшчыне. З гэтага гледзішча знаходкі ў Ніжніх-Нямыкарах надта вартасныя.

***) Уваровъ о. с. бач. 39 — 41, Сементковскій, о. с. бач. 80, Лерхъ, о. с. бач. 168 і наст. Татуръ, о. с. бач. 58.

*) Сементковскій о. с. бач. 80, Уваровъ, о. с. бач. 39. Гэтай-жа думкі трымаецца і В. Даниилевичъ. Очеркъ исторіи Полоцкой земли до конца XIV столѣтія, Кіевъ, 1896 г., бач. 40—41.

**) Сементковскій о. с. б. 81 — 82. Думку гэтую можа пацьвердзіць іншая спасьцярога, паіменна, што напр. у Полаччыне знойдзены месцы з мноствам нясканчаных каменных прыладаў, што, паводле некаторых дасьледчыкаў, дае асновы дапушчаць выраб гэтых прыладаў у мэтах гандлю (Глядзі Уваровъ, о. с. бач. 41, Лерхъ, о. с. бач. 168 і наст., Татуръ. о. с. бач. 58). Думку гэту паўтарае і В. Данілевіч, о. с. бач. 41.

***) Знаходкі, зь якіх можна было-б рабіць выснавы аб хаўтуровых звычаях нэолітычнага чалавека трапляюцца вельмі рэдка. Заслугоўвае на ўвагу знаходка ў в. Зыкаве, б. менскага пав. Тут знайшлі паіменна магілку, складзеную з каменных пліт у форме невялікае скрынкі, а пры нябошчыку аказаліся крамнёвы клін і чатыры гліняных начыньні. Каменныя могілкі знойдзены і ў іншых мясцовасьцях (глядзі В. Данілевіч о. с. б. 41—42).

****) М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. I. Выд. Інст. Белар. Культуры Менск, 1928 г.; глядзі так-жа часапіс „Нёман" 1932 г., № 3, Вільня. На аснове падобнасьці орнамэнтыкі нэолітычнае пары ў Беларусі з орнамэнтыкай Скандынавіі і Фінляндыі праф. Шчакаціхін робіць вывад, што ўжо ў гэтую пару існавалі сувязі між Скандынавіяй і Беларусьсю.

рэдняга, але пацьвярджаецца і іншымі дадзенымі. Карскі гаворыць, што ў гэтую пару ішоў ажыўлены гандаль па Нёмну і Дняпру янтаром („жывой смалой“), прычым, паводле сьвядоцтва Плінія, гандаль адбываўся гэткім спосабам, што плямёны жыўшыя на берагох Балтыцкага мора перадавалі тавар суседзям, а тыя далей аж да паўдзённых мароў. Народы, што займаліся гэтым гандлям, ужо зналі мэталы. Пацьвярджаецца гэта шматлікімі знаходкамі па Дзьвіне даўнарымскіх, сыракускіх, афінскіх, македонскіх, фазоскіх і др. грошаў. Прадметаў бронзавага веку знойдзена, аднак, у Беларусі мала (медныя сярпы, кліны, тапары знойдзены, прыкладам, у Меншчыне).*)

Першыя пісьменныя сьвядоцтвы, каторыя гісторыкі адносяць да жыхароў Беларусі, паходзяць ад бацькі гісторыі—Гэродота, жыўшага ў V стаг. да нашай эры. Гэродот, апісваючы насельнікаў Скіфіі, на якой падарожнічаў, кажа, што на поўнач у лясох, дзе ляжыць вялікае возера, жыве вандроўнае племя *Будзінаў*. Ведамыя чэскія гісторыкі Шафарык і Нідэрле лічаць, што Будзіны Гэродота жылі па Прыпяці і верхнім Дняпры. Думку гэтую падтрымліваў і праф. Карскі, які бачыць у Будзінах аўтахтонаў мясцовасьці па Прыпяці, верхнім Дняпры і Бярэзіне. **) Гэткае зьлёкалізаваньне Будзінаў выдаецца правільным, бо возера, каля якога зьмяшчае іх Гэродот, гэта, бязумоўна, цяперашняе палескае балота, быўшае возерам у часы Гэродота.

Гаворачы аб Будзінах, Гэродот кажа, што за адно пакаленьне перад наступам Дарыя *Нэўры*, народ жыўшы на паўн.-захад ад вытокаў Бугу і Днестру за скіфскай мяжой, з прычыны размнажэньня зьмеяў у іхняй зямлі, пакінулі свае сялібы і перайшлі ў зямлю Будзінаў. Браун уважае, што гэтыя нэўры

*) Карскі, о. с. б. 35. Знаходкі чужых грошы гісторыкі тлумачаць гандлёвымі зносінамі з адпаведнымі краямі. Адменнай думкі трымаецца, між іншым, ведамы дасьледчык беларускае Севершчыны Д. Самаквасаў. Ён, апіраючыся на сьвядоцтвах Юлія Цэзара і Тацыта, пярэчыць магчымасьці гандлю з Рымам у разгляданую пару. Скарбы рымскіх грошы, што знаходзяць у славянскіх землях, а ў тым ліку і Беларусі, тлумачыць тым, што Славяне, выйшаўшы із сваей дунайскай прарадзімы, прынясьлі з сабой у новыя сялібы нажытыя ў гандлі з Рымам грошы (Д. Самоквасовъ. Сѣверянская земля и Сѣверяне по городищамъ и могиламъ. Москва, 1908 г., бач. 88—91). Думка гэта ёсьць, аднак, мала праўдападобнай. Славяне маглі прынясьці ў новыя сялібы рымскія скарбы, што сьведчыла-б, што яны зналі грошы і іх цанілі. Але чым вытлумачыць тады знаходкі іншых, апрача рымскіх, грошы, як ня гандлям з адпаведнымі краямі? Прарадзіма-ж Славянаў была адна. Ды і Самаквасаў, замыкаючы час высяленьня Славянаў з дунайскай прарадзімы між панаваньнем рымскіх імпэратараў Траяна і Сэптымія Сэвэра нічога не гаворыць, як выясьніць знаходкі ў славянскіх землях рымскіх грошаў ад Сэптымія Сэвэра да ўпадку Рымскае імпэрыі (V ст. па Н. Х.). Тут адзіна магчымым тлумачэньнем будзе дапушчэньне існаваньня гандлёвых зносінаў, усё роўна безпасярэдных ці пасярэдных.

**) Гл. Шафарикъ. Славянскія древности, переводъ Бодянскаго, I т. кн. II, бач. 10—24. L. Niderle. Starověki, б. 112, Карскі, о. с. б. 37—38.



пасяліліся над Прыпяцьцю і Нёманам. *) Карскі думае, што Нэўры спачатку жылі на захад ад цяперашняй тэрыторыі Беларусі, скуль іх выціснулі праўдападобна германскія плямёны (іхнім сымболям была зьмяя). Нэўры падаліся на ўсход і занялі заходнія абшары па верхнему Нёману і часткава па Прыпяці. **)

Трэба зацеміць, што Будзінаў Гэродота ведаюць і іншыя клясычныя пісьменьнікі, як Юры Ганоры, Марцэлін, Этык, Пліні, Мэля. Карскі гавора, што і гэтыя пісьменьнікі зьмяшчаюць Будзінаў над Прыпяцьцю і Дняпром (верхнім). Думку Лаппо-Данілеўскага, што з прычыны супярэчных дадзеных клясычных пісьменьнікаў аб Будзінах немагчыма сказаць аб іх штосьць канкрэтнае, Карскі лічыць лішне рашучай і неабаснаванай. ***) Апрача Гэродота, крыху сьвятла на першае насельніцтва Беларусі кінуў *Пталамэй* у сваей Геаграфіі. Ён успамінае аб *Ставанах*, жыўшых у вярхох Бярэзіны (Borystenes'а), каторыя мелі свае гарады, што дае асновы дапушчаць аселасьць гэтага племені.

Вось і ўсе весткі клясычных пісьменьнікаў, што з большай ці меншай праўдападобнасьцю можна аднесьці да жыхароў Беларусі. Наагул трэба зацеміць, што да Гэродота тэрыторыя Беларусі была няведамай грэцкім і рымскім пісьменьнікам, як і ўсе абшары паўночныя (ад Чорнага мора); аб гэтых абшарах існавалі толькі фантастычныя апавяданьні, ня маючыя ніякага навуковага значэньня ****). Толькі Гэродот і Пталамэй пралілі крыху сьвятла на беларускую краіну.

Кім былі гэтыя першабытныя насельнікі Беларусі да зьяўленьня сюды беларускіх плямёнаў і ці магчымай навукова была-б гіпотэза, што беларускія плямёны — гэта аўтохтоны свайго краю? Гісторыкі, каторыя разважалі гэта пытаньне, даюць розныя супярэчныя адказы. Іх можна падзяліць на дзьве групы. Большасьць гісторыкаў выказвае думку, што беларускія плямёны ня былі аўтохтонамі тэй тэрыторыі, на якой засьпеў іх кіеўскі летапісец, што яны прыйшлі ў Беларусь із агульнай славянскай прарадзімы і знайшлі тут чужыя сабе народы. Ізноў-жа частка гісторыкаў скланяецца да думкі, што тэрыторыю Беларусі і сучаснай Літвы ад пачатку займалі нейкія супольныя продкі Славянаў і Балтаў, з якіх пасьля выдзяліліся Славяне — продкі беларускіх плямёнаў — і Балты — продкі цяперашніх літоўцаў, латышоў, прусаў. Разгледзім гэтыя пагляды.

*) Браун. Разысканія въ облости готославянскихъ отношеній. Спб. 1899 г., бач. 82—84.

**) Карскі, о. с. бач. 39—40.

***) А. Лаппо-Данилевскій. Скифскія древности. Замѣтки Отд. русск. и слав. арх. И.Р.А. Общ. т. IV. бач. 354, Карскі, о. с. бач. 37.

****) Гэтак Сапуноў, спыняючыся над гэтымі апавяданьнямі, цалком правільна гатоў бачыць і ў Беларусі „край Кіммэрыянаў, апісываны чорнымі хварбамі ў Адысэі Гомэра і шчасьлівы „край Гіпэрборэйцаў“, што жылі ў поўным дастатку колькі ім хацелася, а калі жыцьцё надаядала, кідаліся з высокіх скалістых гораў і ўміралі (Сапуновъ. Рѣка Западная Двина, бач. 1—40).

Гісторыкі першае групы, адказваючы на пытаньне, кім былі насельнікі Беларусі да прыходу сюды беларускіх плямёнаў, не пагаджаюцца з сабой. Погляды іх дзеляцца на дзьве аснаўныя тэорыі (маючыя ў некаторых гісторыкаў свае нязначныя адхілы): *фінскую і балтыцкую.*

Прадстаўнікі *фінскае* тэорыі кажуць, што да прыходу беларусхіх плямёнаў тэрыторыю Беларусі займалі фінскія народы мангольскага паходжаньня. Гэтыя фіны жылі ня толькі ў Беларусі (даходзячы да балтыцкага ўзьбярэжжа), але займалі вялізарныя абшары Эўрапэйскай і Азіяцкай Расеі. Будучы значна нішшымі культурна і слабшымі палітычна ад Славянаў, фінскія плямёны пад напорам апошніх адступалі на поўнач, або лёгка асымілявaліся. Прадстаўнікі гэтай тэорыі лічаць фінамі і Будзінаў Гэродота.*)

Тэорыя фінізму апіраецца на дадзеных археолёгіі і на дайшоўшай да нас номэнклятуры рэк, вазёр, мясцовасьцяў. Праф. Галубоўскі, адзін з выдатных прадстаўнікоў гэтай тэорыі, абасноўвае яе наступным спосабам. Дадзеныя археолёгіі паказваюць, што Усходнія Славяне, а ў іх ліку і беларускія плямёны, пры насыпцы курганоў-могілак над сваімі нябошчыкамі апрача зямлі не карысталіся з ніякага іншага матарыялу. На аснове гэтага праф. Галубоўскі кажа, што ўсе могілкі з камянямі, што трапляюцца ў Беларусі, павінны быць аднесены да якога іншага чужога племені, бо яны неславянскія а значыцца і не беларускія. Адказваючы, чые гэта могілкі, Галубоўскі параўноўвае каменныя могілкі ў Беларусі і знойдзеныя ў іх чарапы з ведамымі люцынскімі могілкамі, а апошнія з ашэраданскімі, што знаходзяцца ў зямлі Ліваў — народу фінскага паходжаньня. На аснове знойдзенай між могілкамі і чарапамі падобнасьці праф. Галубоўскі і дапушчае, што першымі насельнікамі Беларусі былі фінскія плямёны. Назовы некаторых рэк і вазёр, асабліва што канчаюцца на *ва, га, за, ла, ма, ра, са, ша, энга, анга* ёсьць фінскага паходжаньня і маюць пацьвярджаць правільнасьць вывадаў гэтай тэорыі.**).

У некаторых гісторыкаў тэорыя фінізму мае адхілы. Яны выказваюць пагляд, што тэрыторыя Беларусі была заселена ня толькі фінамі, але часткова вугорскімі плямёнамі.***)

Тэорыя фінізму ці вугра-фінізму лічыцца ўжо перастарэлай і наагул слаба абаснаванай навукова. Закідаюць ёй прыпісваньне дужа вялікай ролі фінскаму элемэнту ў дагістарычную пару, якой ён ня згуляў, бо ў сапраўднасьці гэта быў элемэнт слабы і не натолькі шматлікі, каб мог займаць гэткія вялізарныя абшары. Археолёгічныя аргумэнты фіністаў слабыя, бо могілкі з камянямі ў Беларусі ня ёсьць ідэнтычнымі з люцынскімі і тым больш ашэраданскімі, а толькі падобныя. Аб значэньні номэнклятуры, як аргумэнту, скажам крыху ніжэй.

*) Глядзі Tomaschek. Kritik der ältesten Nachrichten über den Skythischen Norden, Sitzungsberichte d. K. Akademie d. W. Phil.-Hist. K. B. 117, 3 — 5, Браунъ, о. с. бач. 84.

**) Голубовскій. Исторія Смоленской земли, б. 22—25. В. Данилевичъ, Очеркъ исторіи Полоцкой земли, б. 40 — 42, цалком падтрымлівае аргумэнтацыю Галубоўскага.

***) Европеусъ. Об Угорскомъ народѣ. Тут аўтар паказвае на Выграў, як насельнікаў Беларусі побач з фінамі. Блізка стаіць да гэтай тэорыі і Н. Надеждинъ. Опытъ исторической географіі русскаго міра, б. 50 — 54. Крытыкуе пагляд Европеуса што да Вуграў В. Данилевичъ, о. с. б. 45.



Прадстаўнікі другой—*балтыцкай*—тэорыі кажуць, што першабытнымі насельнікамі Беларусі былі балты, а фактычна тая іх галіна, з якой паўсталі літоўскія і латыскія плямёны. Паводле гэтай тэорыі балты займалі дарэччы Дняпра і Прыпяці, скуль іх адсунулі на поўнач беларускія плямёны, рушыўшыя із сваей праславянскай радзімы. К. Буга дае малюнак руху балтаў, што распачаўся пад напорам беларускіх славянаў. Паводле Бугі літоўскія плямёны, уступаючы перад беларускімі, пацiснулі братніх латышоў, сядзеўшых над Балтыцкім морам між Нёманам і Дзьвіной (у цяперашняй Літве) і занялі іхнія сялібы. Ізноў-жа латышы падаліся на поўнач і пацiснулі сядзеўшыя на балтыцкім узьбярэжжы фінскія плямёны — кураў, ліваў.*)

На карысьць гэтай тэорыі перш-на-перш паклікаюцца на назовы рэк, вазёр, мясцовасьцяў у Беларусі. Вядома, што ўва ўсей Беларусі ёсьць шмат назоваў небеларускага а балтыцкага паходжаньня. Як можна начай вытлумачыць гэты факт, як не прабываньнем тут балтыцкіх плямёнаў — кажуць прыхільнікі разгляданай тэорыі. Другім аргумэнтам ёсьць дадзеныя ярхэолёгіі з курганнай пары. Праф. А. Сьпіцын дапушчае нават, што балты пакінулі ў Беларусі свой асобны пэрыяд курганнай культуры. Астачай гэтага пэрыяду праф. Сьпіцын лічыць і ведамыя курганы каля в. Гнёздава ў Смаленшчыне. Трэцім аргумэнтам ёсьць гістарычныя весткі. З летапісу ведама напр., што каля Смаленску жыло літоўскае племя Голядзь і што яшчэ ў XIII стаг. латышы не займалі цалком цяперашняй сваей тэрыторыі, што мае пацьвярджаць правільнасьць вывадаў К. Бугі адносна пададзенага ім руху балтаў пад напорам беларускіх плямёнаў, а значыцца і правільнасьць балтыцкае тэорыі наагул. Між рэпрэзэнтантамі гэтай тэорыі ёсьць толькі нязгоднасьць адносна часу, калі балты адыйшлі з Беларусі, што адназначна з вырашэньнем пытаньня, калі беларускія плямёны занялі тыя абшары, на якіх іх засьпеў кіеўскі летапісец. Праф. А. Сьпіцын падае як дату гэтага зруху VIII стаг. па Н. Х., а К. Буга дапушчае, што зрух балтаў распачаўся ўжо ў IV стаг. па Н. Х.

Балтыцкая тэорыя выдаецца лепш абаснаванай ад фінскае, аднак і проці яе высоўваюць шмат закідаў.

Найважнейшы аргумэнт гэтай тэорыі — балтыцкія назовы— толькі тады быў-бы моцны—кажа Карскі,—калі-б існавала пэў-

*) K. Buga. Die Vorgeschichte der aestischen (baltischen) Stämme im Lichte der Ortsnamenforschung, Leipzig, 1924, b. 22—35.

насьць, што гэтыя назовы далі самі балты, тут жыўшыя. Магло, аднак, быць і так, што плямёны, асеўшыя на дадзенай тэрыторыі, прынясьлі з сабой чужыя назовы з раней займанага краю, нічога супольнага з яго языком ня маючыя і назвалі адпаведна рэкі і вазёры ў новым краю. Магло, ізноўжа, здарыцца так, што прыйшоўшыя плямёны мірна зжываліся з аўтахтонамі і пераналі ад іх назовы, каторыя аўтахтоны атрымалі ад ранейшых жыхароў, або прынесьлі так-жа з чужыны. Усё гэта стварае няпэўнасьць і камплікацыі здавалася-б у яснай квэстыі, што трэба мець на ўвазе, ня кажучы ўжо аб неабходнасьці высьцерагацца надужываньня назоваў, падганяючы іх пад тэорыю прынятую аўтарам. Кожны назоў трэба лічыць асобным фактам. *) Архэолёгічныя дадзеныя яшчэ менш ад назоваў могуць быць аргумэнтам балтыстаў, бо тое, што лічыцца балтыцкім, амаль ня розьніцца ад славянскага. Напасьледак, аргумэнты гістарычныя так-жа не зьяўляюцца пераконваючымі, бо аб племені Голядзі нічога канкрэтна ня ведама і яно ёсьць дагэтуль загадковым. Трудна нават сказаць, ці яно было па паходжаньні балтыцкім, бо назоў яшчэ гэтага не даказвае (прыкладам беларускае племя Северанаў мела неславянскі назоў). Яшчэ менш ёсьць пераконваючым аргумэнт, што латышы нават у XIII стаг. не займалі цяперашніх сялібаў, у чым К. Буга дагледаецца пацьверджаньня правільнасьці азначанага ім зруху балтаў з тэрыторыі Беларусі.

Усе гэтыя засьцярогі трэба мець на ўвазе пры разглядзе балтыцкае тэорыі.

Гісторыкі другой групы кажуць, што беларускія плямёны былі аўтохтонамі сваей тэрыторыі, на якой іх засьпела гісторыя. Гэту тэорыю можна было-б назваць *славяна-беларускай*. Прадстаўніком гэтай тэорыі зьяўляецца ведамы праф. Карскі, а сутнасьць яе паводле Карскага зьмяшчаецца ў наступным. Даўгагаловыя чарапы, паходзячыя яшчэ з нэолітычнае пары, прамаўляюць за тым, што ў Беларусі жыло племя, каторае было прототыпам славян і балтаў. У сучаснасьці даўгагаловасьць нагледаецца із славян найбольш у беларусаў. Гэткім парадкам можна дапусьціць, што насельнікі Беларусі ў нэолітычную пару належалі да індаэўропэйскага племені, магчыма да тэй яго галіны, каторая лягла ў васнову славян, найбольш чыстымі прадстаўнікамі каторых зьяўляюцца беларусы. **) На аснове падобнасьці ў сэнсе антраполёгічным беларусаў і літоўцаў, зь якіх апошнія здаўна (паводле праф. Баццэнбергэра ад 5000 г.) жывуць на

*) **К а р с к і**, о. с. б. 40—44. Калі на тэрыторыі Беларусі спатыкаецца шмат назоваў балтыцкага паходжаньня, дык гэта ня можа азначаць, што там, дзе гэтыя назовы ёсьць, жылі балты. Магло здарыцца, што беларускія плямёны зжыўшыся з чужымі назовамі і выходзячы ў новыя мясьціны давалі там балтыцкія назовы рэкам і вазёрам, прынесеныя з сабой. Магчыма гэтым тлумачыцца факт, што шмат рэк і вазёр у Беларусі ў розных куткох яе маюць аднолькавыя назовы.

**) **К а р с к і**, о. с. бач. 32—34, Нідэрле, Человѣчество, бач. 597.



цяперашняй сваей тэрыторы, Карскі дапушчае, што і ў нэолітычную пару яны жылі па суседству з беларусамі, г. ё. прыблізна ў цяперашніх межах, прычым магчыма, што пасяленьні балтаў спускаліся далей на паўдз.-усход уразаючыся ў тэрыторыю Беларусі. *) Дзеля адсутнасьці прычын да вялікіх initial пeратасовак народаў, Карскі дапушчае, што і ў пару мэталяў у Беларусі жылі тыя-ж насельнікі, толькі значна пасунуўшыя наперад сваю культуру. Дадзеныя языка дазваляюць яшчэ больш бачыць у гэтых насельніках славянаў. Ідучы за Шафарыкам і Нідэрле, Карскі рашуча цьвердзіць, што Будзіны і Нэўры Гэродота былі славянамі і толькі не рашаецца прызнаць славянамі Ставанаў Пталамэя. **) На аснове гэтых дадзеных і аналізуючы геаграфічныя назовы рэк, вазёр, мясцовасьцяў у Беларусі, Карскі цьвердзіць, што беларускія плямёны былі аўтохтонамі сваей тэрыторыі і толькі на захадзе і паўн.-захадзе частку яе займалі ў перамежку балты, ды на поўначы дзе-ні-дзе на правых даплывах Дзьвіны жылі некаторыя фінскія плямёны. ***)

Тэорыя славяна-балтыцкая выдаецца найбольш праўдападобнай. Пацьвярджаюць яе і досьледы праф. Шчакаціхіна над беларускім мастацтвам. Разглядаючы беларускае мастацтва, Шчакаціхін ужо ад нэолітычнай пары дагледаецца адзінства формаў матэрыяльнае культуры жыхароў Беларусі, яе асобнай сынтэтычнае суцэльнасьці і кансэквэнтнае эволюцыі. ****) Гэтыя-ж вывады могуць утрымацца на наш пагляд толькі пры дапушчэньні культурнай эвалюцыі аднаго і таго самага насельніцтва пачынаючы ад нэоліту. Бо калі-б дапусьціць магчымасьць вялікшых рухаў рознародных плёменаў на тэрыторыі Беларусі, дык цяжка было-б гаварыць аб вывадах, да якіх дайшоў Шчакаціхін. Пры вялікшых пeратасоўках насельніцтва наглядаліся-б і пераскокі ў яго культуры, якая-б не тварыла эвалюцыйнай цэласьці.

Рэасумуючы нашы разважаньні, напрашваецца выснаў, што *толькі на захадзе і поўначы дагістарычнымі насельнікамі Беларусі былі балты і фіны, што беларускія плямёны і іх продкі былі аўтохтонамі вялікшай часткі сваей тэрыторыі, асабліва паўдзённа-ўсходняе.* Разумеецца, што гэты выснаў зьяўляецца ня больш, як гіпотэзай, бо ані лінгвістыка ані архэолёгія, прынамся ў сучасным сваім стане, не даюць магчымасьці замяніць гэтую гіпотэзу на навуковую праўду.

*) Ibidem, бач. 34.

**) **К а р с к і**, о. с. бач. 35—38.

***) Ibidem, бач. 47.

****) М. **Ш ч а к а ц і х і н**, Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. I, Менск, 1928 г.

*АД. СТАНКЕВІЧ*

# З літуанізмаў у беларускай мове

Ведама кожнаму, якую аграмадную, пераважна рашучую, іграе ролю ў адраджэньні і культурным разьвіцьці кожнага народу яго родная мова. Дзеля гэтага праца над чысьцінёй мовы якога народу зьяўляецца працай вялікага значэньня.

Розныя народы, жывучы ў суседстве, адны ад адных часта запазычаюць як паасобныя словы, так і граматычныя звароты. Прычыны гэткіх узаемных уплываў пераважна бываюць: палітычныя, эканамічныя, культурныя і інш.

Беларускі народ ужо аддаўна для сваей мовы рабіў „пазыкі“ з мовы літоўскай, польскай, расейскай. З гэтых двух апошніх запазычае ён і сяньня. Ад літоўцаў сяньня ўжо не пазычае, але даўнейшай языковай пазыкі, зробленай у іх даўней, трымаецца і цяпер, пераважна ўважаючы ўжо яе за сваю ўласнасьць.

Часта ў нас на языковай ніве можна спаткаць наступнае цікавае зьявішча: у Усходняй Беларусі дужа часта беларусы, якія ня знаюць мовы польскай, карыстаюцца польскімі славамі і, затым, што яны выразна розьняцца ад мовы расейскай, прысабечваюць іх на беларускую ўласнасьць. Узноў-жа па гэты бок рыскай граніцы, многія беларусы, якія ня знаюць мовы расейскай, за беларускія прымаюць многія расейскія і словы і нават граматычныя звароты, затым што яны рэзка розьняцца ад мовы польскай. Ясна, што патрэбна тут навуковая праца над ачысткай беларускай мовы і ад русыцызмаў і ад полёнізмаў. У абодвых гэтых кірунках шмат папрацавала ўжо маладая беларуская навука на нашым Усходзе ў першым дзесятку існаваньня БССР. Сяньня-ж, калі там пануе догматычна-дыктатарскі кірунак культуры: нацыянальнай формай і камуністычнай зьместам, праца гэта зьмяніла сваю напружанасьць і свой характар. Сяньня ў БССР, праўда, праца над чысьцінёй беларускай мовы ад полёнізмаў адбываецца, але ад русыцызмаў гэта мова ня толькі не ачышчаецца, але сьведама прыбліжаецца да расейскай мовы, як слоўнікам, так і будовай.

На гэтым баку рыскай граніцы часта можна так-жа пачуць гаворачых беларусаў, якія карыстаюцца літуанізмамі і ў добрай веры уважаюць іх за свае, а свае родныя словы закідваюць, выракаюцца і забываюцца. Навуковай-жа працы над чысьцінёй беларускай мовы на гэтай беларуска-літоўскай ніве бадай ня відаца сусім. Прычынай гэтага — надта нямногая колькасьць беларусаў, знаючых літоўскую мову.

Вось-жа ў гэтай працы маю на мэце ў меру сваіх сіл крыху папоўніць гэту нястачу ў беларускім мовазнаўстве, падаючы цэлы рад літуанізмаў, якія знайшлі сабе ўжо ў даволі шырокіх гушчах беларускага народу права грамадзянства. Праўда, многіх літуанізмаў ужо не заменім славамі беларускімі, але што можна, тое трэба замяніць. Ведама, гэта мая скромная праца ня вычарпае ўсяго прадмету, а толькі яго частку. Пададзеныя тут літуанізмы спатканы мною пераважна ў Ашмянскім павеце, ў валасьцях: Крэўскай, Куцявіцкай, Гальшанскай, Смаргоньскай. Кажу пераважна, бо будуць тут такжа літуанізмы і з іншых мясцоў, а да таго толькі тыя з іх, якія мне такімі выдаваліся.

Апрача назоваў агульных, падаю тут так-жа некаторыя і назовы ўласныя: мест, сёлаў і інш. Але з гэтых падаю сапраўды толькі некаторыя, бо гэтыя патрабавалі-б бадай асобнай монографіі, чаму магла-б служыць кніжка: „Крестьянское землевладѣніе. Виленская губернія“ (Вильна, 1908 г.), у якой вылічаны ўсе вёскі і пасёлкі ўсей быўшай Віленскай губерні.

Агранічыўся я тут такім чынам толькі літуанізмамі слоўнікавымі, не чапаючы такіх-жа ў сынтаксісе, зрабіць чаго, ня будучы моваведам — адумыслоўцам, а толькі аматарам, ня чуюся на сілах.

Надта магчыма, што знойдуцца ў гэтай працы „літуанізмы“, якія такімі ня будуць. Дужа прашу чытачоў, у такіх ці ў сумніўных выпадках, мяне папраўляць і прысылаць свае ўвагі. Зборнік літуанізмаў можа некалі прыдацца пры ўкладаньні сучаснага навуковага слоўніка беларускай мовы. Не забывайма так-жа, што знаньне літуанізмаў можа быць так-жа карысным для знаньня гісторыі Беларусі і Літвы, для знаньня гісторыі беларускай мовы і культуры.

Для гэтых-жа мэтаў добра так-жа было-б прасьлядзіць беларусызмы ў літоўскай мове, якіх, праўда, даўней там было даволі многа, а цяпер дужа мала.

На жаль друкарня ня мае знакаў-акцэнтаў для літоўскіх слоў, дзеля гэтага згары можна спадзявацца, што многія будуць літуанізмы гэныя чытаць няправільна.

Дзеля эканоміі часу літары літуанізмаў, апрача першай, размешчаны бяз увагі на альфабэтычны парадак, трэба ўрэшце памятаць, што ў літоўскіх словах **ė=я** і **é=е**, І перад галоснай цьвёрдай **(a, o, u,)** чытаецца як **л**.

Е. Карскій—Бѣлоруссы I (бач. 25—137), вылічаючы літуанізмы ў беларускай мове, робіць выснаў, што іх (разам з латышызмамі) ёсьць да 36 шырока распаўсюджаных і да 54 рэдкіх, ведамых толькі ў некаторых мясцох. Ніжэй убачым, што літуанізмаў у нашай мове ёсьць куды больш.

* * *

Карыстаўся я, апрацоўваючы і правяраючы гэтыя літуанізмы, між іншым, наступнымі крыніцамі:

Владимир Даль — Толковый Словарь живого великорусскаго языка, I—IV т. — Спб.—Москва, III изданіе 1903—1909.

В. Д. Гринченко — Словарь Украинскаго языка, I—IV т. Кіев, 1907—1909.

I. Karkowicz — Słownik Języka Polskiego, I—VII t. Warszawa, 1900—1919.

A. Юшкевичъ — Литовскiй словарь, I — III т. СПБ 1897—1922 (толькі да К. уключна).

И. Носович — Словарь бѣлорускаго нарѣчія. СПБ 1870.

А. Киркор — Этнографическiй взглядъ на Виленскую губ. (Этнографическiй Сборнік, Выпускъ III, СПБ, 1858 г., бач. 193 і наступныя).

В. Добровольскiй — Смоленскiй Этнографическiй Сборникъ, т. IV (слоўнік), Москва, 1903.

Е. Карскiй — Бѣлоруссы, т. I. Вильна, 1904.

S. Sereiskis — Lietuviškai-rusiškas žodynas. Kaunas, 1933.

## А.

**Атарыца** — палетак; літ. **atarti** — адараць, перааарaць, **ataras** — баразна. Атарыца—кусок зямлі, каторы чалавек мае права ўрабляць, але права ўласнасьці на яго ня мае. Слова гэта ўжываецца ў в. Шутавічах, Смаргоньскай воласьці.

**Аруд** — засек, клець; літ.: **aruadas**.

**Ашкіра** — слова, якім гамоняць на авец, калі іх куды гоняць; літ.: **atskirti** аддзяліць, адлучыць.

**Андарак** — нявыразнага крою адзежына, балахон; літ.: **andarokas** — спадніца, ужываецца рэдка.

**Атожыла** — расток, гучок, пасынак; літ. **atžala**.

**Акмінеі** — сяліба пад Ашмяной, літ.: **akmuo** — камень; **akmeninis** — каменны.

**Ашмяна** — літ.: **ašmens (ašmenys)** — вастрыё, лязо.

**Авін** — прозьвішча ў Крэве; літ.: **avinas** — баран.

**Адулаваты** — трухлявы, спарахнелы, адулаваты чалавек: слабы, нездаровы; літ.: **dulis** — клубок дыму, пылу; **dulinti** — чуць валачыся, чуцьісьці; абкурываць што парахном; **dulas** — тленны — **dulėti** — тлець.

## Б.

**Бастуны** — чыгуначная станцыя ў Лідзкім пав.; літ.: **basty-ti** — падарожнічаць.

**Біценяты** — сяло ў Крэўскай воласьці; літ.: **bitė** — пчала; **bitinas** — **bitinelis** — пчаліная матка.

**Біюцішкі** — сяло і двор недалёка ад Барун, Ашмянскага пав.; літ.: **bijotis** — баяцца; **bijus** — страх, баязьнь.

**Бартэліха** — сяло і лугі ў Валожынскім пав.; літ.: **bartis**— вадзіцца, спрачацца, лаяцца; **bartinas** — годны наганы; **barte, barti** — сільна каго прабіраць, лаяць.

**Брындацца** — балтацца; апоркі, ніткі ў адзежы брындаюцца, балтаюцца; забрындацца — замачыць ніжнія канцы верхняй адзежы, калошы парток; па расе хадзіў і начыста забрындаўся; літ.: **brindos** — значэньне тое-ж, што і ў беларусаў.



**Бацьвіньне** — бурачная націва, лісты, з якіх вараць страву таго-ж самага назваваньня; літ.: **batvinis**, **batviniai** — тое-ж самае значэньне.

**Брунта** — ворчык; літ.: **bruntas, branktas** — палена, якое прывязваюць напр. сьвіні на шыю, каб яна ня бегала і не магла ўлезьці ў шкоду. Валак у коннай вупражы, брусок, на канцы каторага зачапляюцца пастронкі.

---

*Др. Я. СТАНКЕВІЧ*

# Кажны ці кожны?

Зь невялікімі выняткамі ў беларускім друку ўжываецца цяпер менаванае ў назове артыкулу займя ў хорме *кожны* (з *о*). Ніхто дагэтуль публічна ня выступаў проці хормы з *о* гэтага займені. Дзеля таго здавалася-б, што тут усё ўпарадку. Але ў старой літаратуры беларускай, як і наагул беларускіх памяткаx языковых, звычайнай ё хорма *кажны* (з *а* і *н*), рэдка *кажды* (з *а* і *д*) і надта рэдка *кожды* й *кожны* (з *о*). Пісаны ў мове народнай (а ня літаратурнай) „Аль кітаб“ XVI стаг. звычайна мае хорму *кажны* рэдка *кажды* і ані ня мае хормы *кожны* або *кожды*.

Затое апошняя хорма звычайнай бывае ў памятках, адбіваючых языковыя асаблівасьці ўкраінскія і, значыцца, напісаных Украінцамі. Дык вось памяткі беларускія XIII — XVIII стаг. прынукаюць праверыць хорму *кожны* ў цяперашняй беларускай мове літаратурнай. Дзеля гэтага трэба разгледзіць, як стаіць справа з асобнымі хормамі менаванага займені ў беларускай мове народнай. З гэтай мэтаю я зьвярнуўся да IV тому збораў М. Фэдэроўскага, што выйшаў пад агульным назовам „Lud białoruski“. У ім надрукаваны на 487 бач. прыказкі і іншыя дробныя творы зь вялізарнай бальшыні заходне-беларускіх земляў. Вось як прадстаўляюцца там разгляданыя гэтта хормы:

*Сакольскі павет:* а) хорма *кажны, кажан* сустрэлася пад нумарамі 1458 і 9502; *кажды:* 4765, 7972, 9728 і 9739. Хорма *кожны* й *кожды* ў Сакольскім павеце ня стрэлася.

*Горадзенскі пав: кажны:* 4162 (двойчы). Іншыя хормы гэтага займені ў творах із павету Горадзенскага ня стрэліся.

*Ваўкавыскі пав.:* а) *кажны:* 412, 414, 516, 1349, 1376, 1605, 2193, 2273, 2364, 2365, 2502, 2581, 2709, 2850, 2870, 2991, 3185, 3191, 3585, 3856, 4009 (двойчы), 4153, 4190, 4590, 4984, 5001, 5021, 5335, 5404, 5495, 5630, 5733, 9882, 6371, 6460 (двойчы), 6461, 6539, 13071, 6696, 6921, 7090, 7129, 7559, 7654, 7788, 7789, 7847, 7870, 7872, 7965, 7972, 7996, 8129, 8284, 8440, 8550, 8591, 8763 (двойчы), 9011, 9318, 9441, 9502, 9662, усяго з Ваўкавыскага пав. хорма

*кажны* лучыла 66 разоў; b) *кажды:* 825, 965, 1685, 2871, 5289, 5447, 5918, 6156, 6561, 6582, 6619, 6922, 6923, 13190, 9727, — усяго 15 разоў; c) *кожны:* 1184, 1311, 1458, 1523, 1524, 1962, 3105, 4075, 4136, 5918, 12856, 9727, 9789 — 13 разоў. *Слонімскі пав.:* a) *кажны:* 516 і 4118 — 2 разы. *Наваградзкі пав.: кажды:* 2086 і 7707. *Лідзкі пав.: кажны*: 2 й 516. *Сьвянцянскі пав.: кажны:* 3426. *Ашмянскі пав.. кожны:* 12791.

Значыцца найменей лучыла прыкладаў хормы *кожны,* крыху болей *кажды* і надта шмат *кажны.*

Як даведаваемся з перадмовы рэдакцыі да IV тому Фэдэроўскага, часьць запісаў зроблена была не самым Фэдэроўскім, але іншымі. І вось „правапіс" гэны не беспасярэдне ад Фэдэроўскага паходзячых запісаў рэдакцыя зьмяніла, тарнуючы да „правапісу" беларускай мовы літаратурнай. Вельмі магчыма, што адно дзякуючы гэнай папраўцы маем у выданым томе хорму *кожны.*

Апрача таго паміж сваімі знаёмымі ў Вільні я распытываў, дзе якую хорму менаванага займені кажуць. І вось, што аказалася:

1. *кажны, кажан* і пад. (з *а* і *н*) кажуць: ля Мозыра (ад дыр. Анцукевіча), у Кацёлках ля Пружаны (ад Я. Хвораста), у Шакунох, Пружанскага пав. й вол. побач із *кожны* (ад Жэдзіка), у Падлесьсі ля Ляхавічаў, Баранавіцкага пав., у Друі, Браслаўскага пав. (ад Аўг. Аніські), у Цяцерках, Ёдзкае вол., таго-ж пав. (ад М. Пяцюкевіча), у Пятроўшчыне, Новапагосцкае вол., Брасл. пав., у Дзеравенскай вол., Стаўпецкага пав. (ад Ул. Паўлюкоўскага), ля Волмы, Валожынск. пав., у Дзьвінскім пав., побач із *кажды,* у Ямонтах, Беліцкае вол., Лідзкага пав.

2. *кажды:* Сыботнікі, Лідзкага пав., Буда, Вялейск. пав., Слабодка, Брасл. пав., Юшкі, Тургельскае вол., Віленск. пав., Арляняты й Жупраны, Ашмянск. пав., Ініца, Мірскае вол., Стаўп. пав., Шчорсы, Навагр пав., Мядзьведзічы, Баранав. пав.

3. *кожны:* Вялікае Сяло, Пружанскага пав.

У цэнтральнай і ўсходняй Беларусі звычайнай ё хорма *кажны.* Як відаць із адказаў на апытаньнік да зьбіраньня асаблівасьцеў беларускае мовы, хорма *кажны* там ё звычайнай. Яна кажацца паміж іншым у пав. Віцебскім, Аршанскім, Быхаўскім, Ігуменскім і ў шмат якіх іншых.

З вышпрыведзеных прыкладаў відаць, што з аднаго боку стаяць хормы *кажны, кажды,* а з другога *кожны, кожды.* У згодзе з гэтым будзе маё цьверджаньне, што самагукі *а* й *о* спачатныя, праславянскія, бо ня можна знайсьці прычыны іх пазьнейшае зьмены. Затое выясьніць паўстаньне хормаў *кажны* й *кожны* вельмі лёгка: з *кажды* й *кожды* пад уплывам прыметаў з *н,* як *роўны, посны* і пад., паўстала *каждны, кождны,* з каторых *д* потым шчэзла (як *д* і *т* ў *позны* й *посны* з *поздны* й *постны*).

З вышменаванага такжа відаць, што чыста беларускай і найболей пашыранай хормаю ё *кажны.* Хорма *кожны* ё провінцыяльнай ды вельмі абмежанай, а *кажды* архаізмам провінцыяльным, а можа яшчэ быць у вадным месцу полёнізмам, у другім— русыцызмам.

Затое хорма *кажны* не магла зьявіцца пад якім чужым уплывам, бо яе няма ў ніякай суседняй мове. Ясна, што ў беларускай літаратурнай мове павінна ўжывацца хорма *кажны, кажан, кажыны* (з *а* і *н*).

Хорма *кожны* ё ў нашай літаратурнай мове украінізмам. Хтось яе пусьціў, а дзеля таго, што яна розьніцца ад хормы расейскай і польскай, а мовы ўкраінскай у нас ня знаюць, дык сталі яе лічыць арыгінальна-беларускай. Гэтак яна абмыльна ўведзена ў нашую мову. Дык цяпер мусіць быць выкінена й заменена хормаю сваёй — *кажны.*

---

*М. ВАСІЛЁК*

# Выйдзем

Ахінула злая восень
шэрай воўнай неба просінь
і сьцяжыны залацістым
усьцілае
лістам
лістам.
Пахіліўшысь над ракою
шэпча лозьнік з асакою —
аб галінку трэць галінай —
шкода песьні салаўінай,
шкода згубленай надзеі;
вецер дзёрзскім ліхадзеем
нішчыць, цешыцца, рагоча,
слотай, зольлю б'е у вочы...

Прытуліўшыся да тына
плача чырваньню рабіна,
і палетак пусткай голай
прызадумаўся над доляй.
Ды нястоптана надзея —
рунь на ніўках зеляне;
вось зарука нам жывая —
яшчэ сонца гімн заграе,
мы вясну яшчэ увідзім;
што яшчэ мы шчыльна выйдзем
з новай песьняй, верай, сілай;
засяваць шнурок свой мілы
выйдзем з крыўдай набалелай,
выйдзем горда, выйдзем сьмела!

А. БУЖАНСКІ

# У абліччы расейскага тэрмідору

Аб пачатку савецкага тэрмідору крычала расейская і сусьветная рэакцыя прыблізна ў тыдзень пасьля кастрычнікавага перавароту. З гледзішча контр-рэвалюцыі замах Фані Каплан на Леніна прыпадаў на разгар тэрмідору, а ціхая сьмерць кандыдата ў маршала Фрунзэ сыгналізавала аб заканчэньні тэрмідорыянскага пэрыяду. Праз доўгія гады, у кожнай дробязі, расейская эміграцыя угледжвала сымптомы самаліквідацыі рэвалюцыі і самапажыраньня яе дзеячоў. „Сіяцельныя" шофэры і кельнэры з парыскіх мюзік-холаў, паміж сабой ужываўшыя звароту „Ваше превосходительство" і „во вверенной Вам губерніі", пакавалі валізы. Але, на жаль, тэрмідор не надходзіў. Крыху пазьней наступіла эміграцыя Троцкага, паўсталі масавыя чысткі ў партыі, каяньні, працэсы і разстрэлы. Найбліжэйшыя супрацоўнікі Леніна, галоўным чынам староньнікі інтэрнацыянальнага камунізму, былі выкрыты і зьліквідаваныя. Адначасна пайшоў разгром нацыянальных рэспублік. Расейскае вялікадзяржаўніцтва адбірае ад гэтых рэспублік рэшткі культурнай аўтаноміі. Расейская рэакцыя ў партыі падымае галаву і нішчыць у гэтых рэспубліках усё, што прэтэндуе на нацыянальную самабытнасьць. Гэты працэс у Беларусі адбываецца праз даўжэйшы час. Усе прававерныя камуністы, 100%-ыя ленінцы, меўшыя адвагу ў галіне культуры аставацца пры прынцыпе беларускай апрычонасьці, аказаліся „ворагамі народу", „дывэрсантамі" і „шпіёнамі". Сьвядоцтвам рэвалюцыйнай прававернасьці сталася не адданасьць тэорыі Маркса-Энгельса і заветам Ільліча, а рабская чалабітнасьць Пушкіну, Рымскаму-Корсакову і розным князём зьбіральнікам „зямлі рускай". Самагубства Алеся Чарвякова было апошнім, найбольш яскравым сыгналам С.О.С., да ўсіх думаючых беларусаў аб расейскім гвалце. Тэрмідор прыбраў рэальныя формы.

---

Сягоньняшні прасьлед беларускай культурнай працы ў Б.С.С.Р. ня ёсьць неспадзеўкай, гэта зусім зразумелая рэч і дзівіцца няма чаго. Гэнае адношаньне да беларускага народу і ягонае культуры мае свае карэньні ў мінулым.

Цэнтральная і Заходняя Беларусь лучыла ў рамкі расейскай імпэрыі: першая ў 1773 г., другая ў 1793 і 1795 гадох.

У гэтую пару, вельмі спрыяючую для Расеі, беларускі народ апынуўся агалочаным ад асьвечаных слаёў. Сапегі, Хадкевічы і tutti quanti былі ўжо тады палякамі (нават ня ў першым пакаленьні). Масква сустрэлася з дэзарыентаваным беларускім селянінам у прыгоне. Прыляпілі яму, калі ён быў праваслаўным ці ўніятам, этыкетку „рускага мужыка", што да каталікоў — дык наагул ня ведалі, як іх закваліфікаваць — ну і справу палічылі за зьліквідаваную. Захапіўшы беларускія землі, Масква павінна была заняць нейкае становішча адносна насельніцтва. І тут даецца заўважыць поўная адсутнасьць творчае думкі, консэквэнцыі, знаёмства краю і якіх-колечы прынцыпаў. У ігнаранцкім адношаньні да беларускага краю з боку расейцаў нельга знайсьці найменшых элемэнтаў прадуманасьці. Ня маючы паняцьця аб беларускім народзе, ані ў галіне ягонай гісторыі, ані этнографіі, ані якой-небудзь іншай, Масква аднэй рукою рабіла спробы нівэляцыі краю ў кірунку русыфікацыі, другой-жа рукою падтрымлівала польскі стан уладаньня. Гэткая была сутнасьць г. зв. расейскай палітыкі ў адношаньні да беларусаў да эпохі панаваньня Александра 1-га.

Калі праглядаем дакумэнты і матар'ялы з эпохі беларуска-літоўскай гаспадарсьцьвеннасьці, г. зн. Вялікага Княства Літоўскага, дык мусім зьвярнуць увагу на надта цікавае зьявішча, а імена—на назовы нашых гарадоў. Гэтыя гістарычныя назовы—зусім ідэнтычныя з сучаснымі, напр. Менск называецца Менскам, Наваградак — Наваградкам і г. д. Расейцы ўзяўшы пад сваю „высокую" руку Беларусь былі ласкавыя ўстанавіць афіцыяльныя назовы гарадоў паводле *польскае номэнклятуры* і гэтак паўсталі Мінск, Новогрудок і іншыя! Расейцы, бязумоўна, гэтым назовам надалі павагу „акадэмічнасьці" і „навуковасьці" і цяпер шмат хто з рускіх людзей з пачуцьцём вышшасьці (а як-жа!) патрапіць насьмяхацца з беларускага назову, хацяж-бы вышменаваных местаў. Гэта адна толькі рыска, адзін гістарычны эпізод, а колькі ёсьць яшчэ іншых няменш вымоўных, характарызуючых маскоўскае трактаваньне беларушчыны ў мінулым.

У пару Александра I расейцы, сконстатаваўшы поўную немагчымасьць разабрацца ў адносінах у нашым краі, даюць палякам (Чарторыйскі) магчымасьць полёнізаваць Беларусь; іншая рэч, што гэта пасрэдна прысьпешыла (Віленскі ўнівэрсытэт) справу нашага адраджэньня, але факт астаецца фактам і бэзсэнсоўныя зігзагі расейскай палітыкі не выклікаюць ніякага сумніву.

Расткі беларускага Risorgimento зарунеўшыя ў 19 стагодзьдзі адбіліся ад зоркага вока ўдумлівага расейскага дасьледчыка, як гарох ад сьценкі. Ён гэтага зьявішча не дагледзіў. Зусім зразумела, што сьведама ці праз ігнаранцыю, сфальшаваўшы нашую гісторыю, прысвоіўшы сабе яе лепшыя старонкі, расейская інтэлігенцыя ня здолела зразумець і беларускага адраджэнскага руху сучаснае пары. Пачынаючы ад Ілавайскага, канчаючы паважнымі сьветачамі навукі, пашыралася несянетніца аб адналітасьці „рускай гісторыі", аб трох галінах „рускага народу" з цэнтрам у Маскве і г. д. Гэтак трывала да самай расейскай рэвалюцыі.

---

Ані Мілюкоў, ані Керэнскі не адыйшлі ад стэрэотыповай палітыкі да нашага народу. Бальшавікі пад уплывам Усебеларускага Кангрэсу і Слуцкага паўстаньня пайшлі на компроміс

з беларускім Адраджэньнем. Стварылі нікаторыя варункі дзеля будаўніцтва беларускай культуры ў рамках савецкай гаспадарсьцьвеннасьці. Трывала гэта, аднак, вельмі кароткі час. Паварот у адношаньні да беларускага народу і яго культуры даканала сталінаўская мафія па інэрцыі. Чым болей адходзілі ад рэвалюцыйных залажэньняў, тым болей станавіліся пад уплыў адвечнага маскоўскага імпэрыялізму, тым больш прымушаны былі разьбіваць усе заваёвы інародцаў. Паход расейскай чорнай сотні проціў беларускага народу трэба думаць хутка ня спыніцца. Усё сьведчыць аб тым, што „лепшыя людзі саюзу паводле ўказаньняў генія чалавецтва“ нанясуць беларусам яшчэ не адзін удар. Кола маскоўскага вялікадзяржаўніцтва разагналася.

„Правда“ ад 11.V с. г. у перадавіцы аб шкодніцтве ў навуцы, зьмяшчаючы шмат хвальбы аб расейскіх навукоўцах у мінулым, Мендэлееву, Лобачэўскім і вынаходцу радіо Папову (чамусьці „гнілой Запад“ патэнту за ім ня прызнаў, а палічыў гэта за заслугу Марконі! А. Б.), мімаходам зазначыла аб засьмечаньні беларускае мовы полёнізмамі і абяцала, што савецкая навука гэтай справай займецца. Можам сабе выабразіць, у якім кірунку пойдзе навуковая помач братняга народу!—Стары шчыры расейскі шовінізм аблудна зьмяніў толькі фразэолёгію. Аказваецца, што „квітнеючая Беларусь“ дастала „шчасьлівае жыцьцё“ выключна дзякуючы братняй дапамозе вялікага расейскага народу. Ужо не пралітарыяту, а проста вялікага расейскага народу! Усё, што беларускі народ здабыў у Б.С.С.Р. — гэта заслуга „павадыра народаў“. А павадыр—гэта сымболь велічы расейскага народу.

Ня праца беларускіх адраджэнцаў прычынілася да тых ці іншых здабыткаў у галіне беларускай культуры ў Саветах, а выключна мудрая палітыка крэмлёўскага апаша Іосіфа Вісарыёнавіча. Тое, што беларуская моладзь вучыцца ў сваёй школе — таксама дзякуючы ўказаньням друга і настаўніка (ён там на восьмым ці дванаццатым зьезьдзе ўказваў аб патрэбах нацыянальнай палітыкі). Культура беларуская — літаратура, мастацтва і г. д.,—таксама пачатак свой бяруць ня ў сівой мінуўшчыне, як думаюць „нацдэмаўскія агенты фашызму“, але ад нейкага там дакладу павадыра на пленуме Р.К.П.Б. Самаістнасьць беларускай культуры — гэта вылазка нацыяналістаў, падасланых германскай гестапо ці іншымі разьведкамі. Ізноў-жа ўсё расейскае ў Беларусі ёсьць сьвятое і нятыкальнае. Няма ўжо барацьбы з вялікадзяржаўным нацыяналізмам, вядзецца яна толькі з мясцовым нацыяналізмам.

Гэтак кончылася легенда аб будаваньні беларускага дому на Усходзе. Адабраць усё адразу і адкрыта ад інародцаў Маскве ня зусім зручна, калі ўзяць пад увагу, што маладое пакаленьне ў Беларусі вырасла ў нацыянальнай школе, прывыкла да тэатру, газэты і кніжкі ў роднай мове, — яна адбірае ўсе здабычы под-



ступам і агіднымі мэтодамі. Інэрцыя расейскага захопніцтва спыніцца на паўдарозе ня можа; пасьля перадышкі маскоўскі імпэрыялізм ня хоча сьцярпець беларускай апрычонасьці, ён мусіць беларуса перарабіць на расейскі лад, падстрыгчы пад скобку а la ізвозчык.

Маскоўская палітыка, ідучы на ўступкі пасьля спробы будаваньня незалежнасьці Беларусі Усебеларускім Кангрэсам, актам 25.III. 1918 г., і пасьля слуцкага паўстаньня, не прадбачыла дынамізму беларускай стыхіі — гэта з аднаго боку, а з другога — ў разгары рэвалюцыйнага змаганьня вялікарускі нацыяналізм быў значна аслаблены інтэрнацыянальнымі прынцыпамі марксызму. У Крэмлі думалі, што з беларусамі ня будзе вялікага клопату, дазволяць ім папяяць часам беларускую песьню, на сцэне выступіць у нацыянальнай вопратцы—і на гэтым скончыцца. Але беларускае адраджэньне, прайшоўшы свой галоўны этап разьвіцьця яшчэ да ўтварэньня Б. С. С. Р. і змусіўшы Расею да ўступак, на гэтым спыніцца не магло. Шматмільённы народ, расселены на караванным шляху Эўропы, пачаўшы з нетраў сваіх выдабываць сілы, ня мог згадзіцца з роляй дадатковага кола ў гіганцкай расейскай машыне. Сам захацеў стацца гігантам, пачуў у сабе волю да магутнасьці. Расейскім ліквідатарам рэвалюцыі, стануўшым на шлях вялікадзяржаўніцтва, неабходна было павясьці з гэтым барацьбу. І павялі яе з чатырох канцоў. Першы адрэзак фронту — гэта ўпадабленьне беларускай мовы да расейскай, заціраньне ўсіх яе асаблівасьцяў у фонэтыцы і морфолёгіі і падцягваньне ўсяго да вымогаў расейскай граматыкі. Другі адрэзак—гэта выключэньне значнай часьці беларускіх зямель ад сфэры ўплываў Менску, стварэньне заходняй вобласьці, на каторую-б беларусізацыя не магла пашырыцца, трэці — гэта русыфікацыя пры дапамозе беларускага слова і друку, уліваньне расейскага зьместу ў беларускую форму, урэшце чацьвертым — будзе ўзмацненьне расейшчыны ў Б.С.С.Р. — расейскіх школаў, друку і г. д.

Упадабленьне нашай мовы да расейскай вядзецца здаўна і на гэтым не канец, трэба чакаць новых рэформаў, на што паказуе артыкул у маскоўскай „Правде“, аб каторым ужо была гутарка. Адносна беларускіх абшараў, не ўвайшоўшых у склад Б. С. С. Р., дык усё паказвае на шчырыя намеры Масквы адгарадзіць іх ад рэшты Беларусі назаўсёды і дашчэнту зрусыфікаваць. У траўні сёлета менскае радыё падаючы аб гастролях дзяржаўнага жыдоўскага тэатру падчыркнула, што гэты тэатр спаткаўся з вельмі прыхільным прыймом нават у такіх „аддаленых“ ад Беларусі асяродках, як Смаленск! У канкрэтным выпадку менскі спікер, бязумоўна паводле ўказаньняў (тамака без „указаньняў“ нішто не адбываецца), сугэруе слухачом, што беларускі Смаленск знаходзіцца амаль што ня ў цэнтры Расеі! Іншых прыкладаў у дадзеным прадмеце можна прывесьці шмат.

Што да русыфікацыі пры дапамозе беларускага слова, можна сьмела сказаць, што лёзунг — нацыянальная формай, сацыялістычная зьместам — у практыцы ёсьць роўназначным з прынцыпам: беларуская формаю — расейская зьместам.

Трэба помніць, што Б. С. С. Р., цалком ізоляваная ад пранікапьня ўсякіх флюідаў з Заходу, аддана на ласку Масквы, каторая корміць яе выключна прадуктамі сваей культуры. Пісьменьнікі найлепшыя якія? — расейскія; музыка найбольш здаровая — бязсумліўна расейская; лепшага тэатру за расейскі таксама нямашака, ну і ўся сучасная навука ёсьць вытварам расейскага духу. Пушкін — гэта шэф культуры ў Беларусі. Нават павязалі яго неяк з беларушчынай, далібог! Падчас апошніх пушкінаўскіх урачыстасьцяў савецкія беларускія паэты прымушаны былі тварыць вершы, на актуальныя тэмы. У адным з гэткіх вершаў, нажаль цяпер не прыпамінаю якога аўторамэнту, гаварылася, што едучы ў ссылку праз Беларусь Пушкін меў нейкі кантакт з беларускімі дзяўчатамі, здаецца, даволі фрывольнага характару, і гэта мела вялізарны ўплыў на ягоную любоў да нашага краю!

На гэтым, аднак, не канец. Пашыраецца сетка школаў расейскіх, засяг расейскай прэсы, тэатру. Узмацняецца пазыцыя расейскай (зрусыфікаванай) інтэлігенцыі. Зрусыфікаваныя беларусы залічаны да расейскага народу і квэстыянаваць іх нацыянальнай прыналежнасьці немагчыма. Гэта фашызм. Усім ведама, што шмат зрусыфікаванай беларускай інтэлігенцыі, тымчасам, адраджэнскага руху не зразумела, была лішне адарваная ад народных гушчаў і атручана ядам расейскай цывілізацыі. Яд бязмежнай разухабістай маскоўшчыны як lues закараніўся ў крыві гэтых тоже — бѣлоруссов, зрабіўшы іх варожымі да справы адраджэньня свайго народу. Тамы Талстога і Дастаеўскага таўшчынёй сваіх пераплётаў, з паліцаў бібліятэк, як зьмяінымі вачыма ўраклі гэтых людзей. Натуральная рэч, што доступ да беларускай літаратуры і знаёмства з беларускай гісторыяй зрабілі-б магчымым для гэтых уроеных маскоўцаў паварот да свайго народу. Нажаль, об'ектыўныя варункі ў Б.С.С.Р. гэтаму працэсу ня спрыяюць. Замест царскага Ілавайскага, праф. Шастакоў тэрорызуе беларускую думку. Паводле савецкай навукі беларусы зьяўляюцца нейкім надзвычайным дадаткам, тады, як запраўды гістарычным народам былі, ёсьць і будуць толькі расейцы. Літоўскі пэрыяд беларускай гісторыі савецкая навука пераварачвае дагары нагамі, тушуючы ягоны блеск. Савецкая навука маўчыць аб буйным росквіце і домінуючым становішчы беларускай культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім, аб эпохатворчых памятніках беларускага права — ў тую пару, калі ў Расеі юрыдычныя ўзаемаадносіны паміж царом і тагачаснаю элітай-баярствам былі ўнармаваны формулай: „Худой пёс Васька ноги твои Государевы лижет!"

---

Цікава, што чым далей Саветы ўглыбляюцца ў стадыю тэрмідору, тым болей расейшчына паказвае беларусам свае ашчыраныя зубы. Разгром у Б.С.С.Р. акадэміі навук, літаратуры і беларускіх элемэнтаў у партыі завяршае апошні этап расейска-беларускіх узаемаадносін. Білянс ня цікавы для беларусаў, і думаем, што ня вельмі карысны для стараны расейскай. Найгоршым у камплексе гэтых адносін ёсьць немагчымасьць дыскусыі. Савецкая Расея на подступах да тэрмідору псыхічна да якой-колечы коляборацыі з беларусамі не падрыхтавана. Тыя, што прыйдуць пасьля тэрмідору, — яшчэ менш. Сучасная расейская эміграцыя, каторая ніякай ролі, на наш пагляд, у Расеі не адыграе, сваім адношаньнем да Беларусі істотна ад бальшавікоў не адрозьніваецца. За малымі выняткамі. Выняткам гэтым быў нябошчык Савінкаў і із сучасных дзеячоў Віктар Чарноў. Болей нікога няма. Нават эўразійцы, каторыя нешта зразумелі, — зразумелі, што галоўная місія Расеі ў Азіі, — да зразуменьня неабходнасьці супрацоўніцтва з беларусамі на прынцыпе прызнаньня беларускай культурнай самаістнасьці і палітычнай незалежнасьці не дарасьлі.

Думаем, што пасьля тэрмідору Расея перажыве вельмі цяжкую фазу свайго гістарычнага разьвіцьця. Сустрэча расейскага імпэрыялізму з імкненьнямі нацыянальных рэспублік і труднасьці на Далёкім Усходзе могуць аказацца для Масквы болей як прыкрымі. З расейскага боку могуць узьнікнуць спробы ў кірунку расейска-беларускага збліжэньня. Ці для беларусаў будзе гэта тады актуальным, трудна згадаць. Глянуўшы на карту — адно толькі кідаецца ў вочы, што Расея можа быць магутнай дзяржавай з цэнтрам цяжасьці ў Азіі, пры забясьпячэньні спакойных адносінаў на Захадзе, альбо можаператварыцца ў вялікае княства Маскоўскае! Беларускі-ж народ пойдзе наперад, натуральным шляхам адраджаючайся нацыі, наперад да перамогі.

---

# Язэп Драздовіч

*(Да 50-годзьдзя нарадзін мастака)*

Сёлета мінула 50 год ад нарадзін беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Адзначаючы гэты юбілей, падамо тут кароткія весткі з жыцьця і дзейнасьці на народнай ніве гэтага прадстаўніка нашага старэйшага пакаленьня.

Радзіўся наш юбіляр 1-га кастрычніка 1888 г. у засьценку Пунькі, Дзісьненскага пав. Астаўшыся па сьмерці бацькі Нарцыза двухлетнім сіратой, маленькі Язэп гадаваўся пад апекай маткі і чатырох старэйшых братоў—у гаспадарцы, спачатку на ўласнай зямлі, пазьней — на арэндах у розных мясцох Дзісьненшчыны (засьц. Стадолішча, Стануліва, Кміты, Чаронка, двор Александрыя).

Матка мастака—Юзэфа—была сьведамай беларускай. Надзвычайна любіла беларускую народную творчасьць, умела напамяць многа беларускіх казак, баек, легэнд і нязьлічаную колькасьць народных прыказак. Ведала сапраўднае імя роднага краю і народу яшчэ перад 1906 г. Ад яе атрымалі дзеці, у тым ліку і Язэп, беларускую нацыянальную сьведамасьць. І калі ў 1906 г. апынуўся Язэп у Вільні і спаткаўся з прадаўцом газэты „Беларуская Доля“, то адразу купіў яе і быў вельмі рад, што пабачыў беларускі друк.

Ад дзяцінства адчуваў Язэп ахвоту да рысункаў. Ужо 5-летнім мальцам аднаму з братоў папсуў шавецкую бяросту, наколываючы ды выціскаючы на ёй шылам розныя рысункі, тое-самае рабіў і на лучыне, на растучых маладзенькіх бярозках.

Ад 1906 да 1910 г. вучыцца Язэп у віленскай школе мастацтва праф. Трутнёва і мастака Рыбакова. У гэтым часе ён знаходзіцца ў кантакце з беларусамі і памагае ў іхняй культурнай працы; між іншым, памагаў ён арганізаваць першую беларускую вечарыну ў Вільні (люты 1910 г.) і зрабіў для яе кіоск для прадажы праграмак — „Грыб мухамор“ — ягоная першая для беларусаў дэкоратыўная праца, а для Беларускага календара на 1910 г. выканаў вокладку — першы ягоны рысунак у беларускім друку.

У 1910 — 1912 г. г. знаходзіцца Драздовіч у Саратаве, у мэдыцынскай фэльчэрскай школе, а ад 1912 г. да 1914 г. у горадзе Вольску (на Волзе, Саратаўскай губ.), як ваенна-мэдыцынскі фэльчар; адгэтуль выслаў на адрас рэдакцыі „Нашай Нівы“ ў Вільню на выстаўку калекцыю сымбалічных абразоў, якія няведама, гдзе падзеліся. Падчас вайны (1914—1917 г.г.) знаходзіцца ў характары ваенна-мэдыцынскага фэльчэра ў арміі (Пятроўск, Дзісна, Віцебск, Гарадок і інш.), а ў 1917—1919 г. г.—гаспадара на арэндзе ў роднай Дзісьненшчыне (Гэрманавічы); побач з гэтым арганізуе тут і зьяўляецца кіраўніком вялікае коопэратывы „Беларус“, пры якой адначасна вядзе культурна-асьветную беларускую дзейнасьць (бібліотэка, аматарскі тэатр і г. д.); коопэратыва, з увагі на ваенныя падзеі, праіснавала толькі тры гады. У 1919 -1920 г. г. працуе ў Менску, як мастак і настаўнік: у беларускай коэдукацыйнай гімназіі і жаночай прогімназіі — настаўнікам рысунку, у літаратурных выдавецтвах — ілюстратарам, у Т-ве Беларускага мастацтва — мастаком дэкоратарам. Ад 1920 да 1924 г. г., апынуўся ізноў у Дзісьненшчыне на гаспадарцы, а ў 1924—1925 г. г. працуе настаўнікам рысунку ў Глыбокім у польскай пачаткавай школе. Ад Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні ў 1926 г. дастае Драздовіч камандзіроўку і едзе на Палесьсе, гдзе зьбірае этнографічны матарыял і дае яго зарысоўкі, у рэзультаце чаго Беларускі музэй атрымлівае ад яго многа альбомаў. У 1926 — 1927 г. г., знаходзячыся то ў Вільні, то ў Радашкавічах закладае пры мясцовых беларускіх гімназіях мастацкія майстроўні і арганізуе тры мастацкія выстаўкі:



у Радашкавічах, у Вільні і ў Наваградку. Ад 1927 да 1930 г. г. працуе настаўнікам у Наваградзкай Беларускай Гімназіі і зьбірае памяткі беларускай старасьвеччыны; у гэтым часе выяжджае ў Трокі, Меднікі, Крэва, Гальшаны, Ліду і выконвае там з натуры рысункі замчышчаў (Гедыміна, Кейстута); таксама ў гэтым часе ўтрымлівае культурную сувязь і корэспондэнцыйны кантакт з прафэсарам Браніславам Эпімах-Шыпілам і Беларускай Акадэміяй Навук у Менску (у Менск высылае матарыялы—слоўнікавыя, з дзераўлянае архітэктуры, народнай вопраткі і г. д.). Ад 1930 г. Драздовіч праз некалькі год астаецца безработным, і ад 1935 г. працуе ў Дзісьненшчыне, як вандроўны народны мастак, зарабляючы сабе на кусок хлеба.

Язэп Драздовіч, апроч мастацкай і пэдагогічнай, працаваў і на літаратурнай ніве

Замілаваны ў беларускай старасьвеччыне, добры патрыёт, шчыры і ахвярны працаўнік на ніве адраджэньня роднай культуры, заўсёды дасьціпны і ў гумары, чалавек з добрымі асабістымі якасьцямі, скончыў наш мастак 50 год свайго працавітага жыцьця. — Радасна вітаем яго з гэтымі ўгодкамі. Многія леты!

*Я. Ш.*

---

Язэп Драздовіч — вэтэран беларускага сучаснага мастацтва ў нашым краю. Ён будучы сьведамым беларусам заклікаў моладзь, працуючую ў галіне малярства, каб ня чуралася свайго народу, сваей вёскі, і ў працы сваей каб брала тэмы з нашага народнага жыцьця. І бязумоўна меў на моладзь уплыў.

Найбольш мастак працаваў у графіцы. Вялікую мастацкую вартасьць маюць ягоныя рысункі, выкананыя тушам, пераважна з натуры.

Графіка Драздовіча мае таксама вялікую вартасьць этнографічную. Як-жа сумленна зарысоўваў ён вясковую хату з яе старасьвецкай, дзераўлянай архітэктурай, старасьвецкія званіцы, панадворкі, вароты, прыдарожныя крыжы, нашыя сьвятыні, каторых што год то менш на нашай зямлі—гінуць яны ад старасьці і ад пажараў. А колькі зарысаваў ён замчышчаў, авеяных легэндарным чарам глыбокай старыны. Шмат зроблена мастаком зарысовак гаспадарчых і хатніх прыладаў, як сохі, бароны, пасуда, народная вопратка і г. д. Нічога ня мінула вока мастака, што мела вартасьць мастацкую і этнографічную.

Драздовіч сабраў багаты матарыял для працаў над гісторыяй нашага будаўніцтва.

Ня чужая галіна яму і разьба: працаваў у дрэве, як плоскаразьба партрэтаў, так і ў разьбе дэкоратыўнай — аздобныя кіі, гэрбы, скрынкі, папяросьніцы і г. д.

Драздовіч запалены зьбіральнік забыткаў у галіне археолёгіі. Шмат сабраў па замчышчах старых прадметаў, у постаці печных кахляў, старой пасуды і мэталёвых рэчаў. Калекцыю з гэ-

тай галіны ягонай працы можна аглядаць у Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. Там-жа знаходзяцца і багатыя альбомы графікі мастака.

Драздовіч нараніцы свайго жыцьця студ'яваў малярства, але ня выявіў сябе канкрэтна ў гэтай галіне. Колер і форма не скрысталізаваліся ў мастака; яго цікавіла сымболіка, як тэма, але ня сымфонія хварб.

Адраджэнскі рух выдаў нам Драздовіча. Мастак наш побач з нашымі паэтамі будзіў у беларускім народзе пачуцьцё эстэтыкі і любові да роднага краю, да беларускай старасьвеччыны.

Паміма цяжкіх і неадпаведных абставін жыцьця нашага народу, сям'я працуючых у галіне мастацтва памнажаецца. Як-жа вялікая заслуга ў гэтым Язэпа Драздовіча, нашага першага сейбіта ў галіне новага беларускага мастацтва.

*П. Сергіевіч*

---

# Кнігапіс

*Ks. Ad. Stankievič.* **BOŽAJE SŁOVA na niadzieli i śviaty.** Львоў — Вільня, 1938 г., фармат 8⁰ Бач. 372+2 нлб. **LEKCYI i EVANELII na niadzieli i śviaty.** Львоў — Вільня, 1938 г., фармат 8⁰. Бачын 195+1 нлб.

Хоць Кс. Адам Станкевіч, шырока ведамы і заслужаны для свайго народу беларускі культурны і грамадзка-палітычны дзеяч, напісаў і выдаў нямала прац з гісторыі беларускае культуры і беларускае палітычна-грамадзкае думкі, а так-жа хоць працуе на беларускай душпастырскай ніве ў самой толькі Вільні каля 20-ці гадоў, аднак толькі сёлета паказаліся ў сьвет ягоныя працы з галіны пастаральнай. Улетку выданыя ім з гэтай галіны дзьве кніжкі „Božaje Słova“ і „Lekcyi i Evanelii“ ў білянсе творчай дзейнасьці аўтара бязспрэчна займаюць найбольш паважныя пазыцыі і зьяўляюцца ў сваім родзе адзінымі сярод навачаснага беларускага рэлігійнага друку, як паводле свайго абыйма, так і спосабу і якасьці апрацоўкі.

Першая кніжка, апроч адносных лекцыяў і эванэліяў на нядзелі і сьвяты, зьмяшчае цэнны прадукт арыгінальнай працы аўтара-красамоўцы — кароценькія, але глыбокія і зьмястоўныя прамовы. Кніжка мае два разьдзелы: І. *нядзеляшняе* і ІІ. *сьвяточнае*, пры гэтым уложана так, што ў першым з іх на 50 нядзель кожная мае па аднэй лекцыі, эванэліі і прамове, а ў другім—на 44 сьвяточныя дні кожны мае таксама па аднэй лекцыі, эванэліі і прамове.

Лекцыі і эванэліі ў харошым перакладзе на беларускую мову, а прамовы, як сказана вышэй, зьяўляюцца арыгінальнымі—ёсьць пладом ягонай творчае думкі, красамоўства і эрудыцыі. Іменна дзякуючы гэтым прамовам, кніжка зьяўляецца такой вартаснай. Аўтар, будучы далёкім ад „сухога“ камэнтаваньня хрысьціянскага вучэньня, бяручы яго за падставу і ў аспэкце гэтага вучэньня, навязываючы да практычнага жыцьця, разважае розныя праблемы рэлігійна-этычнага, часта філёзофічнага і соцыолёгічнага характару. Прамовы гэтыя зьяўляюцца свайго роду хрысьціянскай соцыолёгіяй узгадаваньня, у якой заакцэнтаваныя інтарэсы і патрэбы беларускае душы.

Віленскія Беларусы — учасьнікі набажэнстваў у касьцеле сьв. Мікалая — знаюць дасканальную форму, глыбіню і актуальнасьць зьместу прамоваў, сказаных Кс. Адамам Станкевічам у гэнай сьвятыні. Кароценькія прамовы—навукі, — надрукаваныя ў кніжцы, — такія-ж у сваім фармальным і сэнсавым выглядзе, іменна ясныя, простыя, глыбокія, жывыя, красамоўныя, цікавыя і часта непазбаўленыя тэмпэрамэнту; даюць яны агульныя асновы хрысьціянскага вучэньня.

У разьдзеле „Сьвяточнае“, нікаторыя прамовы прысьвечаны і сьвятым, што жылі і працавалі ў Беларусі. Знаходзім тут і прамову, прысьвечаную беларускай сьвятой — унучцы слаўнага беларускага полацкага князя Усеслава Чарадзея — Апостальцы і Прасьветніцы Беларусі, Сьвятой Афрасіньні (Прузыне) Полацкай.

Другая кніжка — „Lekcyi i Evanelii“ — гэта асобнае выданьне кніжкі першай без прамоваў.

Абедзьве кніжкі спраўляюць гонар, як для самога аўтара, так і для беларускага друкаванага слова. Надрукаваны кніжкі лацінкай і прызначаны для каталікоў Беларусаў, хоць і для Беларусаў праваслаўных зьяўляюцца яны карысныя, як з гледзішча пазнаньня асноў хрысьціянства, яго інстытутаў, так і з гледзішча ўзгадаваньня сябе ў духу хрысьціянскай рэлігіі.

Кніжкі выданы хараша, чыста, на добрай паперы. Адна уемнасьць: з прычыны карэктарскага недагляду асталося ў іх нямала друкарскіх памылак, пры гэтым нікаторыя з іх вельмі ўжо відавочныя.

Кніжкі павінны знайсьціся ў бібліотэцы кожнага беларуса, як дзеля пазнаньня асноў хрысьціянскага сьветапагляду, практычнага — публічнага і хатняга ўжытку, — так дзеля рэпрэзэнтатыўнае іх ролі, як беларускага друку.

*Я. Ш.*

*Józef Mackiewicz.* **БУНТ РОЙСТАЎ.** Вільня, 1938 г., фармат 8⁰ бач. XVI+215+3 нлб.

Гэты рэпортаж з экскурсыі па нашым краі дае цэлы сьцяг трафных спасьцярогаў. Кніжка мае, здаецца, сваей задачай зьвярнуць увагу на рознастайныя аномаліі ў краіне ройстаў (ройсты — балота, дрыгва паросшая лесам) і гэтым запабегчы іх шкодным наступствам.

Аўтар — чалавек з тэмпэрамэнтам, ён умее алярмаваць. І вось ён алярмуе аб пашырэньні сэктаў, аб паўпэрызацыі бе-

ларускай вёскі, аб „спэцыфічных“ адносінах да аўтохтоннага насельніцтва... і г. д. без канца.

У сваёй кнізе зварачвае ўвагу на „радасную творчасьць“, на гучныя блефы, як напр. на справу будаваньня порту ў Друі, праз каторы меўся быць накіраваны па Дзьвіне экспорт лесу з нашага краю.

У яркіх штрыхах падчырківае палажэньне мясцовага элемэнту і верхаводзячую ролю прыбыўшага. Гэта ён робіць так сакавіта ў разьдзеле пад назовам *Мястэчка*, што цяжка сабе адмовіць у прыемнасьці прывесьці ўрывак у беларускім перакладзе:

„....... 6-ы, 7-ы, 8-ы і 9-ы гэта паны з выдатна нерэгіянальнымі прозьвішчамі. Асаднік, сакратар воласьці, войт і камандант паліцыі.—Яны гэта, гэныя людзі, гэныя ўрадаўцы на марных пэнсыях, заваленыя работай заўсёды, аднак, гатовы пакінуць і пастарунак паліцыі і службовыя гадзіны на пошце і незадаволіць сялян, якія лезуць з дурнымі прашэньнямі ў воласьць, яны заўсёды ахвяруюць свой дарагі час ўрадаваньня дзеля дабра Польшчы, калі трэба дамагацца калёніяў, выслаць тэлеграму ў Лігу Народаў, паказаць кулак у кірунку Гданска, калі трэба прыняць ваяводу, ці даць дастойную Вазёраў (назоў мястэчка А. Б.) адправу чэхам на Шлёнску. Аб усім думаюць, аб усім памятаюць, трымаючы руку на пульсе актуальных заданьняў. Яны стануць на дэфілядзе, яны ўтвораць шпалеры, іх нагародзяць ордэнам, бо-ж яны адказваюць за грамадзкасьць ня толькі 3-х тысяч жыхароў мястэчка, але таксама многіх тысяч з ваколічных вёсак. Бо што-ж тыя могуць думаць і адчуваць? Дурныя хамы. І таму П.А.Т., калі паўстане патрэба, падасьць вестку аб настроях насельніцтва, іх жаданьнях і мэтах паводле сьветлых указаньняў усьвядомленых палякоў — войта, сакратара, пшодовніка і асадніка.........“

Вельмі маляўнічы ўрывак! Падобных кавалкаў, характарызуючых „радасную творчасьць“ у краіне ройстаў ёсьць шмат і таму кніжка Я. Мацкевіча, як дакумэнт часу, зьяўляецца вельмі цэннай. Кнігу ўпрыгожвае вокладка з малюнкам беларускага селяніна ў даволі цікавай пазыцыі: нізка схіліўшы галаву, босы, у падзёртай сярмязе, цярэбячы ў руках шапку стаіць перад кімсьці... Погляд упёрты ў зямлю.

Мільгаюць у вачох абразкі з перачытыванай некалі „Хаты Дзядзькі Тома“, толькі тамака на тварах неграў адбівалася нейкае пачуцьцё жыцьця і надзея...

Які-б ня браць разьдзел кнігі, усюды ў аўтара спатыкаецца сэнтымэнт да краіны „ройстаў“ (рэпортаж тэрыторыяльна ахапляе прастор ад Дзьвіны да Палесься ўключна), душа ягоная баліць ад усяго, што ён бачыў і чуў.

На жаль, пішучы аб кнізе п. Мацкевіча, нельга ня спыніцца над тым, аб чым ён прамаўчаў (ці-ж бы тэндэнцыйна?). Ні разу не заікнуўся нават п. Мацкевіч аб праявах беларускага нацыянальнага жыцьця. Гэтага ён не дагледзіў. Ці-ж-бы ліквідацыя



амаль усіх беларускіх арганізацыяў адняла ў яго ахвоту да шырэйшых спасьцярогаў і выснаваў? Пры ягонай пільнасьці і здольнасьці да обсэрвацыі, дзіўным выдаецца падобная кароткаўзрочнасьць.

Мала таго, не заўважыўшы беларускай праблемы ў нашым краі, ён у разьдзеле „Рынышток і школа ў Валожыне“ падчырківае наяўнасьць нейкай расейскай эгзотыкі; выцягвае з архіву астаткі расейшчыны, ахінае іх нават аўрэолам і маніцца падмяніць гэтым пякучую беларускую квэстыю. Ці гэта тлумачыцца клясавай прыналежнасьцю аўтара, ці якімі іншымі мамэнтамі, судзіць ня будзем. Даволі таго, што знаходзіцца ён у кругу перажыткаў і опэруе катэгорыямі мінулага веку. Аб беларускім адраджэньні ён, здаецца, ня чуў, тым болей аб сучаснай беларускай літаратуры — іначай, пішучы аб бунце Нарачы не закончыў-бы пытаньнем: „ці легенда рыбацкіх пакаленьняў не ўвянчае яго ляўрам эпасу“; лёгка было-б яму, прэтэндуючаму на эрудыта і прысьвячаючаму кнігу „дачцэ Галюне дзеля пазнаньня роднага краю“, даведацца, што эпос аб нарачанскіх падзеях ужо паўстаў і аўтарам яго зьяўляецца перадавы беларускі паэт М. Танк.

Шкода, што абшарніцкія конвэнансы перашкодзілі пану Я. Мацкевічу даць шырэйшае насьвятленьне Еунту Ройстаў; яны да нікаторай меры абнізіўшы вартасьць кнігі паставілі яе на роўні рэпортажаў з заморскіх краінаў (думаем, што гэта не ляжала ў інтэнцыі аўтара) тыпу Фідлера *Рыбы сьпяваюць у Укагалі*.

А. Б—скі.

---

# Хроніка

— 950-лецьце хрысьціянства ў Беларусі. Сёлета прыпадаюць 950-ыя ўгодкі прыняцьця хрысьціянства ў Беларусі. У чэсьць гэтага юбілею, 2-га кастрычніка, у касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні адбылося ўрачыстае багаслужэньне, адпраўленае ў усходнім абрадзе маладым беларускім сьвяшчэньнікам а. Міхасём Маскалікам.

Аб значэньні хрысьціянства для Беларусі, для культуры і поступу чалавецтва гаварыў у сваей глыбока прадуманай пропаведзі ведамы красамоўца і беларускі культурнік а. Адам Станкевіч. Канчаючы прыгожую пропаведзь, прамоўца зьвярнуўся да а. Маскаліка—сёлета пасьвячанага ў Мюнхене — і адзначыў цяжар, ахвярнасьць, патрэбу і значэньне ягонай сьвятарскай працы для свайго беларускага народу.

Па багаслужэньні сказаў кароценькую прамову а. М. Маскалік, заклікаючы прысутных беларусаў да культурнай, на асновах хрысьціянскіх, працы для свайго народу.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага рэлігійнага гімну „Божа, што калісь народы наасобкі падзяліў”.

Заўважваем, што пропаведзь а. А. Станкевіча надрукавана асобнай брашурай.

— У сувязі з высяленьнем беларускіх айцоў Марыянаў з Друі, у летку пакінуў Вільню беларускі паэт і пісьменьнік Вінцук Адважны (марыянін а. Я. Гэрмановіч). Прабывае ён цяпер у Белянах пад Варшавай.

— Утрыманьне Беларускага Му-

зэю ў Вільні, пасьля адмовы дзяржаўных уладаў даваць на гэтую мэту субсыдыі, ад некалькі месяцаў сталася справай ахвярнасьці беларускага грамадзянства. Некалькі дзесяткаў Беларусаў, пераважна з Вільні, ападаткаваліся і даюць (перасылаюць) Музэю месячныя складкі. Заклікаем усё беларускае грамадзянства аднесьціся да справы Беларускага Музэю ў Вільні пазытыўна — і падтрымаць яго матарыяльна і маральна. Складкі можна перасылаць праз рэдакцыі беларускіх часапісаў у Вільні, у тым ліку і нашага часапісу, з азначэньнем: „на Музэй“, а так-жа на адрас: Chrześcjański Bank Spółdzielczy na Antokolu, — Wilno, ul. Mickiewicza 1. (На купоне адзначыць: na rachunek Białoruskiego T-wa Naukowego).

— Ад пачатку году да канца месяца кастрычніка адведала Беларускі Музэй да 5 тысяч асоб. Зацікаўленьне Музэям усьцяж узрастае.

— У Беларускім Навуковым Т-ве адбыліся цікавыя рэфэраты: 12-га жніўня маладога ўкраінскага гісторыка праф. Т. Каструбы — на тэму „Аб паходжаньні беларускага народу“, а 16-га кастрычніка д-ра Янкі Станкевіча—на тэму „Гісторыя беларускага языка“.

— Рэгент Беларускага Хору ў Вільні, гр. Рыгор Шырма, будучы падчас мінулых канікулаў на паўдні Пружанскага пав. (беларуска-украінскі этнографічны рубеж) запісаў больш 40 беларускіх народных мэлёдыяў і тэкстаў, у тым ліку каля 10 калядак і шчадровак. Некаторыя песьні выражаюць асаблівасьці беларускай паганскай старасьвеччыны.

— Гарманізацыі беларускіх народных песень. У папярэднім нумары „Калосься“ мы падалі беларускія народныя песьні, згарманізаваныя слаўнымі ўкраінскімі кампазытарамі Аляксандрам Кошыцам і М. Гайворонськім і прысланыя імі з Н.-Іорку, месца прабываньня кампазытараў, Беларускаму Хору грам. Р. Шырмы ў Вільні. Нядаўна грам. Р. Шырма атрымаў ад гэтых кампазытараў новыя песьні: ад кампазытара М. О. Гайворонськага пяць: „Лявоніха“, „Ой гукнула сыраежка“ (жніво), „Ой, у полі дзьве птушачкі“ (ракруцкая), „Як пайшоў Мікола“ (валачобная), „Ой, ляцелі ды два галубочкі“ (валачобная), ад кампазытара А. Кошыца дзьве песьні: „Прасьвятая Марыя“ (народная калядка) і „Прыляцелі гусі“.

Віленскі кампазытар праф. К. Галкоўскі згарманізаваў наступныя бел. народн. песьні: „А ў полі дуб, дуб“, „Мур, мураваны“, „Беларускую польку“ і песьню—арыю „Ой плылі гусёлкі“.

— Міхал Забэйда-Суміцкі, слаўны беларускі сьпявак, даволі часта выступае ў варшаўскім радыёфоне. У верасьні месяцы выступаў 15-га, 17-га і 21-га. Першыя дзьве аўдыцыі трансьляваліся на Амэрыку. 17-га і 21-га сьпяваў так-жа дзьве беларускія народныя песьні: „Купалёнка“ і „Кукавала Зязюлька“. Цяпер сьпявак адбывае артыстычнае турнэ па гарадох у Польшчы.

— Дырэктар адзінай беларускае сярэдняе школы — беларускае філіі польскае дзяржаўнае гімназіі ім. Міцкевіча ў Вільні — гр. Мікалай Анцукевіч у пачатку верасьня пазбаўлены становішча і перанесены ў Ломжу на становішча вучыцеля ў польскай гімназіі.

Гэтую зьмену беларускае грамадзянства спаткала з вялікім жалем, бо дырэктар Анцукевіч быў на сваім месцы і шчыра працаваў для дабра школы.

— Максім Танк піша новую вялікую эпічную паэму. Ужо некалькі частак напісаў. Фрагмэнты сваей новай паэмы чытаў аўтар на „Інаугурацыйным вечары“ Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні 22-га кастрычніка.

— Літоўскі літаратурна - мастацкі часапіс „Piuvis“ („Перакрой“) выданы ўлетку сёлета, амаль цалком прысьвечаны справам беларускага літаратурнага і выяўленчага мастацтва. Зьмешчаны ў ім інфармацыйны артыкул беларуса В. Тумаша аб беларускай літаратуры ў Польшчы, пераклады на літоўскую мову вершаў Танка, Машары, Васілька, Ільляшэвіча, Арсеньневай, фатаграфіі Арсеньневай, Машары, Танка, Васілька, дзьве рэпродукцыі беларускага мастака П. Сергіевіча, кароткі артыкул аб беларускім выяўленчым мастацтве пяра літоўскага мастака Дрэмы і інш., інфармацыйныя, матарыялы. Пераклады на літоўскую мову беларускіх паэтаў зрабілі віленскія літоўскія літаратары—Ганна Міцюте, Язэп Кекштас, Альбін Жукаўскас і інш.

— Асьветнае Т-ва Беларусаў у Варшаве па летніх канікулах ажывіла дзейнасьць. Амаль кожную суботу арганізуе тварыскія вечарыны з рэфэратамі, дэклямацыямі, скокамі (пад гукі беларускіх цымбалаў і гармоніка).

---

— З дзейнасьці Беларускага Цэнтру ў Літве. Ад кіраўнікоў аднэй з беларускіх арганізацыяў у Літве — Беларускага Цэнтру,—якога сядзіба знаходзіцца ў Каўнасе, атрымалі мы кароткія інфармацыі аб дзейнасьці гэтай арганізацыі.

Дзейнасьць Беларускага Цэнтру ў Літве за сьнежань месяц 1937 г. і першае паўгодзьдзе 1938 г. прадстаўляецца наступна:

9.XII. 1937 г. Цэнтр наладзіў публічны даклад на тэму „Рэлігійнае пытаньне ў прадваеннай Расеі на тэрыторыі Беларусі“. Даклад чытаў гр. М. Дзяміпаў.

30.XII. 1937 г. адбыўся агульны сход сяброў Цэнтру для перавыбараў яго ўраду. У новы Урад Цэнтру на 1938 г. выбраны: інж. К. Душэўскі—старшыня, В. Барысовіч — сэкрэтар, І. Сіротка — скарбнік, М Спірыдовіч і Я. Ясінскі – сябры. Сходам пастаноўлена памагчымасьці часьцей рабіць публічныя выступленьні Цэнтру ў форме лекцый, канцэртаў, спэктакляў, вечарын і гэтак далей.

16.II. 1938 г. у памешканьні Цэнтру ў Каўнасе, прасп. Вітаўта № 8, адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 20-х угодкаў незалежнасьці Літоўскай рэспублікі. Інж. К. Душэўскі прачытаў даклад на тэму „Сучасная Літва“. Другая часьць праграмы сьвяткаваньня складалася з дэклямацыі і сьпеваў. Гр. гр. Б. Мотуз і З. Лівшыц артыстычна дэклямавалі творы літоўскіх і беларускіх паэтаў, а хор прыгожа выканаў некалькі беларускіх народных песень. Асаблівага адабрэньня заслугоўваюць солёвыя выступленьні гр. А. Матачовай і гр. А. Вуса.

Цэнтр наладзіў урачыстую акадэмію з нагоды 130-х угодкаў ад дня нарадзін беларускага пісьменьніка—В. Д. Марцінкевіча. Праграма складалася з двух дакладаў: інж. К. Душэўскага ў літоўскай мове на тэму „Жыцьцё і творчасьць В. Д. Марцінкевіча“ і вучыцеля М. Дзямідава ў беларускай мове — на тэму „Значэньне Д. Марцінкевіча ў беларускім нацыянальным адраджэньні“. У другой часьці праграмы салістка Альшэўская выканала „Ave Maria“ і „Малітву“, артыст З. Лівшыц прадэклямаваў выбр. мейсцы з „Гапона“ і салісты гр. А. Матачова і гр. А. Кароль выканалі дуэт з „Пінскае шляхты“.

Акадэмія сабрала поўную залю паважнай публікі. Праграма выканана ўрачыста і прыгожа.

25.III. 1938 г. у памешканьні Цэнтру адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 20-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Інж. К. Душэўскі прачытаў даклад на тэму „Роля беларускай інтэлігенцыі ў асяганьні незалежнасьці свайго народу“. Пасьля дакладу выкананы хорам і солё беларускія народныя песьні і прадэклямаваны вершы вызваленчага зьместу. Акадэмія была закончана беларускім вызваленчым гімнам. Затым адбылася сяброўская вячэра ўчасьнікаў сьвяткаваньня.

5.V. 1938 г. Цэнтр наладзіў спэктакль у чэсьць 55 угодкаў жыцьця беларускага пісьменьніка, драматурга і артыста Фр. Аляхновіча. Перад спэктаклям інж. К. Душэўскі сваім уступным словам схарактарызаваў жыцьцё і творчасьць юбіляра. Была прадстаўлена камэдыя юбіляра „Шчасьлівы муж“. У п'есе прынялі ўчасьце найлепшыя ў Літве беларускія сцэнічныя сілы: Е. Душэўская, А. Матачова, В. Радзюкова, К. Тамкевічанка, Сакольская, Я. Ямант, З. Лівшыц, Флек, Б Мотуз і А. Плескачэўскі. Рэжысура Я. Ямантa. П'еса адыграна дужа добра.

Спэктакль быў надта многалюдны. Апроч беларусаў, многа было літоўцаў.

Ад імя Цэнтру чытаюцца лекцыі ў Дзяржаўным Радыёфоне і ладзяцца даклады ў літоўскіх арганізацыях.

Цэнтр ніякімі субсыдыямі ад Літоўскага Ураду не карыстаецца і вядзе працу выключна коштам са

маахвярнасьці сваіх сяброў і прыяцеляў.

Цэнтр зарганізаваў новы беларускі народны ўнівэрсытэт.

Цэнтр мае свой ілюстраваны часапіс „Асяродак“, якога вышлі ўжо 2 нумары.

— Беларускія паэты Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, М. Клімковіч пераклалі на беларускую мову збор выдатных твораў слаўнага ўкраінскага паэта Тараса Шэўчэнкі—„К а б з а р“. Янка Купала пераклаў паэмы „Тапо-ля“, „Тарасава ноч“, „Кацярына“, „Заварожаныя“, „Каўказ“, „Гайдамакі“, камэдыю „Сон“ і інш.; Якуб Колас — шаснаццаць твораў, з якіх найбольш буйныя — „Мар'яна чараўніца“, „Утопленка“, „Фамілія“, „Сава“, „Гэрэтык“, „Нявольнік“ і інш.; Пятрусь Броўка— паэмы „Маскалева крыніца“, „Пятрусь“, „Юрадзівы“, і інш.; З. Бядуля — паэму „Асіна“ і чарод дробных вершаў. Чарод твораў пераклалі П. Глебка, А. Куляшоў, М. Клімковіч.

У наступным годзе прыпадаюць 125 угодкі ад дня нарадзін Шэўчэнкі. Вось-жа да гэтага юбілею перакладзеныя творы вялікага ўкраінскага паэта маюць быць надрукаваны. Апроч успомненага „Кабзара“, маюць выйсьці надрукаваныя паасобныя творы Шэўчэнкі.

— Дом народнай творчасьці БССР арганізуе другую ўсебеларускую выстаўку народнай творчасьці. Ужо сабрана для выстаўкі больш 500 экспонатаў — вышыўкі, ткацтва, разьбы на дрэве, малюнкаў, жывапісі, скульптуры. Сярод экспонатаў найбольш работ лепшых ткачых і вышывальніц Б.С.С.Р.

— Беларускі сав. кампазытар Чуркін закончыў сюіту на беларускія тэмы для сымфанічнага аркестру. Ім-жа зроблена аркестроўка опэры Буглая „Радзіма кліча“ для аркестра мастацкай самадзейнасьці. Кампазытар цяпер працуе над опэрай самадзейнасьці „Коксагыз“ паводле лібрэта белар. сав. маладых паэтаў Жаўрука і Ушакова.

— Дзяржаўная фільгармонія БССР ад самага пачатку арганізацыі ня мае свайго ўласнага памешканьня. З гэтай прычыны ня можа яна нармальна працаваць, а сёлета ў нармальным часе пачаць канцэртнага сэзону на 1938-39 г.

— У Менску налічваецца каля 50 драматычных гурткоў. Але бяда ў тым, што дзейнасьць іх тармозіць амаль поўная адсутнасьць адпаведнага рэпэртуару, няма напр. зусім п'ес аднаактовых, скетчаў, інсцэніровак, літаратурных мантажаў; таксама тармозіць яе дзейнасьць нястача рэквізытаў, у першую чаргу касьцюмаў — нацыянальных і інш.

— 17-га кастрычніка Беларускі Дзяржаўны Тэатр опэры і балету опэрай Рымскага Карсакова „Царская нявеста“ пачаў свой асеньне-зімовы сэзон.

У бліжэйшым часе тэатрам будуць паказаны: балет „Лебядзінае возера“ кампазытара Чайкоўскага і опэры: „Русалка“ Даргамыжскага, „Чыо-чыо-сан“ і „Тоска“ Пучыні, „Рыгалето“ Вэрдзі і „Марная прасьцярога“ Гертэля.

— Бабруйскі заатэхнікум сёлета скончылі 58 чалавек. Усе яны накіраваны камісарыятам Соўгасаў СССР на работу ў саўгасы на Сібіры, Паволжы, Украіны і ў Сярэдняй Азіі. Як-бы ў Беларусі для іх ня было месца!

— У Віцебскім Дзяржаўным Тэатры нядаўна ставілася навейшая п'еса Якуба Коласа „Вайна“. Савецкая крытыка спаткала спэктакль розна: адны з крытыкаў яго зганілі, першым чынам бачучы ў п'есе ідэйна-мастацкія недахопы, іншыя далі добрую ацэну і сьцвердзілі, што выйшаў „паэтычны, хвалюючы“





## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш. друкі

**Ateneum Wileńskie**, XIII, сшыток 1. Вільня 1938
**Józef Mackiewicz**, Bunt Rojstów. Вільня 1938.
**Juozas Kėkštas**, Toks gyvenimas. Вільня 1938.
**R. Mackevičius**, Dvidešimt metu, 1918—1938. Вільня 1938.
**Беларускі Летапіс**, № № 2-3, Вільня 1938.
**Złučeńnie** № № 7-8, 9, 10. Варшава 1938.
**Vienkartinis**, Вільня 1938.
**Lietuviškas Baras**, № № 7, 9. Вільня 1938.
**Рідна мова**, ч. ч. 4—10. Варшава 1938.
**Богословія**, кн. 2 — 3. Львоў 1938.
**Українська книга**, VI—VII. Львоў 1938.
**Летопис Матице** српска, № 6. Новы сад 1938.
**Hrvatska Revija**, № № 6—10. Загрэб 1938.
**Prąd**, IX (t. 36). Люблін 1938.
**Sprawy narodowościowe**, № 1—2. Варшава 1938.
**Sygnały**, № № 43—55. Львоў 1938.
**Kamena**, № 9—10 (49—50). Хэлм Люблінскі 1938.
**Oriens**, № № 4, 5. Варшава 1938.
**Wschód-orient**, XI, № 2. Варшава 1938.
**Polityka**, № № 7— 25. Варшава 1938.
**Kuźnica**, № № 12—20. Катовіцы 1938.
**Droga pracy**, № № 5—7. Крэмянец 1938.
**Pax**, № № 5, 6, 7, 8. Вільня 1938.
**Slavia**, XV, № № 3, 4. Прага 1938.
**Katolik**, č. č. 7—13. Прага 1938
**Der Christliche Orient**, № 2. Мюнхен 1839.

## Ад Рэдакцыі:

Працяг паэмы „Кастусь Каліноўскі“ Максіма Танка (глядзі пачатак яе ў № 1(14) „Калосься“) ў „Калосьсі“ друкавацца ня будзе, дзеля таго, што цалком паэма надрукавана ў зборніку Максіма Танка „*Пад Мачтай*“, які выйшаў з друку ўлетку сёлета.

«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная кніжка — 50 гр. Заграніцу 3 зл. 20 гр.. —

*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*

«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.

«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 4 (17) „Калосься“



Вокладку запраектавала і выканала В. Пракаповічанка

Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

Кніжка 4 (17) 1938 г. Год IV

*МІХАСЬ МАШАРА*

*З цыклю —*

## Ваколіца сініх балот

* * *

У сініх балот ёсьць крыніца,
там семдзесят восем вазёр.
Там пробуе ноч утапіцца
дажджом ападаючых зор.

І слухае сьпеў лебядзіны
хварбуючы воды зара,
калі над ваколіцай сіняй
сны сеяць
прыходзіць пара.

Зьвязалі вазёры пратокі
містэрным узорам адным,
а з ветрам сіта і асокі
гутораць, як з хлопцам жывым.

Адзін толькі месяц у чоўне
плыве тут па плёсе вады,
з затокі ў затоку з прасоньня,
як невад спусьціў павады.

Няма тут ні сьцежак ні тропаў
таптаных людзкою нагой,
а неба апёрлася стропам
над краем балот і вадой.

* * *

Прасторы, прасторы, прасторы, —
дзьмі вецер, гарцуй і скачы!
Вароты усе на запоры, —
заціхла усё у начы.

Вандроўныя вольны дарогі,
ў прасторах ня зблудзіш нідзе,
над сьветам, як хмара, трывога
і нейкая немач брыдзе.

Спускаючы з прывязі слова
(бяз песьні ніяк не магу),
з нядоляй і доляй гатовы
спаткацца на кожным шагу.

Так сэрца прастору прасіла,
як птушку падкінь — паляціць.
Чаму-ж у ваколіцы сіняй
вясёлая песьнь ня зьвініць?

* * *

Дзяўчаты,
сялянкі,
сяляне,
чаму ў вёсках сяньнека ціш?
Мо' гора якое над вамі? —
Выносьце у поле на крыж.

Прастор ваш мо' спуталі межы,
мо' плён несабраны з палёў,
мо' чуеце з зорнае вежы
нябачныя звоны званоў?

Мо' кінуў на вас нагаворы
праходзячы міма чужы? —
Страсіце усё у прасторы,
хай з ветрам у далі бяжыць.

Чаго вашы сумныя вочы
шукаюць па голых палёх?
Мо' вецер штось вам напрарочыў
і смуткам на твары залёг?

* * *

Я ня знаю, пашто
і адкуль ты прышоў,
гэты сяньняшні, сумны, нярадасны дзень.
Восень лісьця і травы хварбуе у кроў,
на вясёлыя песьні паклаў нехта цень.



У гары —
там, пад сонцам, крычаць журавы,
заглядзеўся сасьняк у вазёрную сінь.
Сэрца сьціхні...
ня рвіся кудысь без пары,
мы — бяз крыл —
мы за імі у даль не ляцім.

Там у сініх балот верасы адцьвілі,
а на мху восень жоўты заткала узор.
Мы застанемся тут —
на заціхшай зямлі —
лічыць будні
і сум ападаючых зор.

Адляцяць журавы і ў сівых туманох
ападзе на зямлю жоўталісьце усё, —
толькі будні адны
будуць мець на вачох
і нямую зямлю
і людзкое жыцьцё.

* * *

Сіні туман закурыў над балотам,
нечым варожыць у даль плывучы.
Што нас спаткае за першым зваротам:
радасьці сонца,
ці сумы начы?

Радасьць прыходзіць, як смутак і гора...
Часам на іх не чакаеш ані.
Грэхам ёсьць быць без патрэбы пакорным,
грэх ёсьць тушыць
без патрэбы агні.

Мы цяпер верыць старому — ня верым,
іншы затканы на кроснах узор.
Жыць калі хочыш,
то мусіш быць сьмелым,
сьмелыя сяньня
займаюць прастор.

Людзі усходзяць на іншыя сьцежкі...
Сэрцу ня трэба
ні кволасьць, ні дрож.
Шчырае праўды ня збрудзіш насьмешкай,
шчырая праўда
ня зьгіне усё-ж!

Дзікава. Восень 1938 г.

ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ

# Цымбалы

Тады — я памятаю — ў вуліцах аквечаных
ішлі ў сярмягах вы, ў сьвяточны дзень якраз.
Ніхто не згатаваў вам гучнае сустрэчы,
ніхто ня кінуў нават кветкаю у вас.
І з пальцаў вашых анясьмеленых
цымбалаў ураджайных хмель
і скрыпак сок рабінавы ня ўсьпеніўся вясельлем,
і ня буяніў брук, як хлопцы у сяле.
Віно вясковае у струнах зачарованых
вы панясьлі назад, пад крык хрыплівых труб,
у беларускія, шумлівыя дубровы,
дзе разьлівае рэха вашых струн тугу.
Зарана вы прыйшлі.— Над роднымі загонамі
ня ссыпаўся яшчэ нядолі жоўты ліст,
яшчэ ўсё сумным тонам ў лесе, у сасновым
хтось плача, як калісь...
Зарана вы прыйшлі.

Як пойдзем з тварамі сур'ёзнымі
ў расплаўленую песьняй звонкай даль —
разьвесім сонца мы над кожнаю бярозай,
раззвонім струны аж да сьнежных Альп.
Ўрачыста панясём цымбалы многазвонныя,
затопім жудзь вякоў у пене струн,
і будуць слухаць з падпёртай галавою
усе народы нашую ігру.

Я памятаю, як цяпер, — у вуліцах аквечаных
ніхто вас не спаткаў, ня кінуў кветку на'т...
Віно вясковае на пахудалых плечах
ў напеўныя дубровы вы нясьлі назад.



МАКСІМ ТАНК

# З рубяжоў

*прысьвячаю Таварышам Літоўцам*

Гэта песьня прайшла праз гады і муры,
павуціньне парваўшы калючых дратоў.
Гэта песьня гарэла ў начы і гарыць —
і таму на цымбалы кладу яе зноў,
і таму — што сплываюць дні шумам з бяроз
на этапаў шляхі засыпаючы сьлед,
там, дзе месячным вецер зьвініць серабром
у разьвеенай раньняй імгле.
Сяньня пеніцца — бродзе рабінавы хмель
у грудзёх і у жылах мазолістых рук.
Толькі ўскінеш чупрыну — вішнёвая бель
ападае на
звонкае
полымя струн.

Засьцілайце сталы — валатоўкі зарой!
Дайце месца паганскім напевам сівым!
Мы за край апаясаны Нёмнам-ракой,
за вясну,
што на крыльлях
нясуць журавы
і за моладасьць даўніх баянаў-пяўцоў,
і за моладасьць нашу,
за дружбу і шыр
небасхілу, за даль неапетых шляхоў —
падымаем з гарачаю брагай каўшы!..

А за тых, каго вырай збудзіць не магла
з пад заломаных сумам
дарожных бяроз,
без пары чыя моладасьць перацьвіла,
чые вецер галосячы думы разьнёс, —
рана пойдзем нарогі стальныя вастрыць,
і па хвалях ральлі сеяць зоры зярнят,
каб напоўніць каўшы пенай жытняй зары
і над новым жыцьцём, і над сонцам падняць!

Толькі ў гэткія дні, трэба ў струнаў лады,
перастроіўшы, ўліць волі сталь, тонаў медзь, —
каб ад цьвету вачэй
і ад шчасьця яны
ня рвучыся маглі зіхацець і грымець.
Бо ўжо з нашых апошніх жыцьця рубяжоў
сокал межаў ня ўбача, гусьляр і ратай,
толькі стэп на усходзе ў агні каласоў,
а на захадзе —
мора сінеючы край.

Вільня, 11.XI.38.

---

*М. ВАСІЛЁК*

* * *

Я сяньня вызначыў спатканьне сонцу,
яго гарачы твар хачу расцалаваць!
На заклік твой, краіна, наша маці,
я сяньня вызначыў спатканьне сонцу...

З дзіцячай радасьцю і зыркасьцю арлінай
сачу я кажды міг, лічу шагоў удары —
ты, сонца, не марудзь—расплаў старыя дні нам!
Уквецім прышласьць мы... мінулае — з пажарам...

---



*УЛАДЗІМЕР ЧЭМЕР*

# Вялікі скарб нашай старасьвеччыны*)

*(750 угодкі «Слова аб палку Ігаравым»).*

Цудоўная паэма, захапляючая сваей красой мільёны чытачоў, даваўшая натхненьне найлепшым мастаком паэзіі, высоўвае адначасна цэлы рад цікаўных і важных *навуковых* праблем і загадак, якія імкнецца вырашыць гісторыка-літаратурная крытыка. Тут пытаньні і аб аўтары паэмы, аб месьце, асяродзьдзі і часе яе паўстаньня; аб яе вусна-народных і літаратурных, родных і замежных, крыніцах, урэшце, — як гэта ня дзіўна гучыць, — аб яе аўтэнтычнасьці... Наколькі ўсе гэтыя пытаньні складаюць зложаную важную і навуковую праблему, відаць з таго, што навокал яе спарадзілася цэлая вялізарная дасьледчая літаратура, якая ўсьцяж расьце. Даволі сказаць, што ў зьвязку з юбілеем „Слова" слаўны францускі вучоны-славіст, праф. Андрэ Мазон, распачаў у канцы мін. году ў Парыжы цэлы спэцыяльны курс, прысьвечаны паэме, якога ня скончыў яшчэ да бягучых дзён. Праф. Мазон якраз належыць да вельмі ўжо рэдкік у нашыя часы прадстаўнікоў так званай „сцэптычнай школы", якая, каратка кажучы, не прызнае „Слова" памяткай XII веку, але ўважае паэму, так ці йнакш, „падробленай" ці мат пазьней—на падставе цэлага раду іншых памятак, краёвых і замежных.

Ня маем тутака магчымасьці спыняцца на ўсіх гэтых, вельмі скамплікаваных, пытаньнях. У гэтай юбілейнай стацьці разгледзім з іх толькі адно, якое хіба-ж найбольш зацікавіць шырокія кругі нашых чытачоў-беларусаў, пытаньне — *аб месьце і асяродзьдзі паходжаньня паэмы.* Адказ на гэтае пытаньне адкажа нам аднача сна і на пытаньне аб тым, *да каго належыць гэтая паэма, які народ у нашыя часы можа з найбольшым правам залічыць да скарбніцы сваей літаратуры гэты непараўнанай красы і цэннасьці твор.*

---

Трэба ведаць, што свае правы і прэтэнсіі на паэму, як на выключную ўласнасьць сваей культуры і паэзіі, заяўляюць, таксама, як мы, беларусы, — і расейцы і украінцы; заяўлялі ня так даўна нават — палякі ды чэхі.

„Найпрасьцей" вырашаюць гэты „спор славян между собою" расейцы. Паэма, кажуць яны, паўстала бясспрэчна — або на Чарнігаўскай зямлі, або на Кіеўскай. Але-ж Кіеў, як пісаў яшчэ летапісец, — „мать городов русских"; Чарнігаў — малодшы брат Кіева. Абодва ляжаць на „адзінай Рускай Зямлі", аб якой усьцяж кажа сам аўтар „Слова", а якая належыць цяпер

*) Глядзі № 2 (15)—3 (16) „Калосься".

да Расеі. Дык — ясна-ж, як сонца: „Слова“ — уласнасьць Расеі, расейскай нацыі, гісторыі яе літаратуры і культуры, як і ўсё іншае, што спарадзілася на яе шырокіх прасторах.

Можа ўсё гэта было запраўды вельмі „ясна і проста“, пакуль „адзіную Рускую Зямлю“ пакрывала таксама адзіная і аднолькавая афіцыяльная расейская дзяржаўнасьць, культура і літаратура, — *пакуль не адрадзілася да новага жыцьця асобная нацыянальная сьведамасьць беларускага ды украінскага народаў, якая ставіць сабе задачай адбудову ды далейшую разбудову свайго ўласнага культурна-нацыянальнага дый дзяржаўнага сьвету.* Таму расейскія навукоўцы, зрабіўшы нямала для навуковага вывучэньня паэмы, не паглыблялі „залішне“ гэтае праблемы. У нашыя часы цікавячае нас пытаньне разраслося ў цэлую вялікую і зложаную праблему, над высьвятленьнем якой працуе навуковая думка — ўжо ня толькі расейцаў ды чужынцаў, але і беларусаў і ўкраінцаў. У глыбіні сваей адроджанай нацыянальнай душы, зьвязанай з найдалейшай гісторыяй сваіх родных зямель, з душою іх старадаўнага жыхарства, украінскія і беларускія дасьледчыкі знайшлі новыя жаролы інтуіцыі, новыя сугуччы паміж роднай сучаснасьцю і роднай мінуўшчынай — для высьвятленьня і вытлумачэньня тых фактаў, міма якіх праходзіла думка расейскіх і замежных навукоўцаў, не зварочваючы на іх належнай увагі.

Расейскія дасьледчыкі, задавольваліся, так сказаць, „палітычнай лёкалізацыяй“ паэмы — у межах „адзінае Рускае Зямлі“, адзінага „рускага народу“. Беларускія і ўкраінскія — зірнулі глыбей. Яны, першым чынам зьнялі, так сказаць, праблему з гэтага грунту — *неіснаваўшага ў тыя часы „адзінага рускага народу“*,— ды й перанесьлі яе — больш навукова — *на грунт рэальна існаваўшых тады плямёнаў і іх яшчэ вельмі слабых палітычных адʼеднаньняў.* Такім чынам — *на першы плян выплывае пытаньне аб тых плямёнах, з якіх зложылася тая ці іншая група „ўсходніх славян“:* расейская, украінская і беларуская, — якія ў нашыя часы *ўсе* дасьпелі ўжо да сьведамасьці і становішча *народу-нацыі.*

Калі мы так падойдзем да праблемы, паставіўшы пытаньне, *на абшары якіх плямёнаў спарадзілася наша паэма, дык акажыцца, што спрэчка аб правы ўласнасьці абмежыцца ўжо толькі двума прэтэндэнтамі — украінцамі ды беларусамі.*

У апошнія часы асабліва разьвілася так званая „філёлёгічная мэтода“ досьледаў у галіне гісторыі. Гэтая мэтода і аказалася ў руках беларускіх дасьледчыкаў тэй непамыльнай прыладай, якая бясспрэчна вырашае наша спрэчнае пытаньне на карысьць беларусаў. Чытачы нашага часапісу, пэўне-ж, памятаюць зьмешчаную ў яго першай кніжцы (1935—№ 1) стацьцю д-ра Я. Станкевіча пад наз. „Северане — беларускае племя“. Адсылаючы чытача да гэнага артыкулу нашага філёлёга, напомнім тутака коратка, што ён, апіраючыся галоўным чынам на ве-



дамай працы праф. Растаргуева аб беларускім дыялекце Чарнігаўшчыны і Трубчэўшчыны,*) высьвятліў, можна сказаць, з канчальнай яснасьцю, сваю тэзу — *аб беларускім характары племя Северан.*

„Значэньне належнасьці Северан да беларускага народу вельмі вялікае, кажа аўтар у заключэньні,— дзякуючы гэтаму, гісторыя беларускага народу і гісторыя яго культуры ладне багатшая й размавітшая. Прыкладам, *найслаўнейшы ў усей Славяншчыне ў сярэднявечу эпічны твор „Слова аб палку Ігаравым“ паўстаў у Северскай зямлі. Гэта паэма — аб паходзе Северскіх князёў на Полаўцаў. Ведаючы, што Северане — беларусы, нельга сумлявацца, што „Слова“ — твор беларускі“.*

Інакш даходзіць да таго-ж самага канчальнага вываду ранейшы беларускі дасьледчык, ведамы гісторык культуры, В. Ластоўскі.

„Адкінуўшы ўсякія меркацыі, навеянымі фальшыва-патрыётычнымі пабудкамі, піша ён, „Слова аб палку Ігара“ не зьяўляецца творам народным“...,але„тыповай песьняй князёўскага трубадура, які і ў нас, як і на Захадзе, ішоў разам з князям на вайну, прыглядаўся да ўсяго, і сьпісываў вершам пахвалу свайму князю“. „Князі-русы былі патомкамі Норманаў і яны ў сваіх паступках стараліся ўва ўсім патвараць заходня-эўрапэйскаму рыцарству“.**)

Найбольшую цікавасьць для нашага пытаньня становіць у паэме тое, што яна шмат месца і ўвагі прысьвячае беларускім князём, землям, местам і справам. Аўтар дасканала ведае палітычны стан і падзеі Кіеўшчыны і Чарнігаўшчыны, а таксама паасобных княстваў, князёў-учасьнікаў паходу, што зусім ня дзіва, бо-ж ён і сам — учасьнік і пясьняр паходу гэных князёў, блізкіх крэўнякоў кіеўскага вялікага князя. Але — важнейшае, для нас, беларусаў, тое, што пясьняр *ноўгарад-северскага князя дасканала ведае гісторыю і тагачасны стан рэчаў Полаччыны, Меншчыны, Горадзеншчыны, аб беларускім пляменным характары* якіх не паўставала ніколі ніякіх паважных сумліваў і спрэчак. Цэлых *шэсьць* абзацаў, некаторыя з іх нават й вельмі значныя, прысьвячае аўтар „Слова“ князём і справам гэтых беларускіх зямель, укладаючы ў апавяданьне аб гэных сумных падзеях— і на Дзьвіне і на Нямізе — рацэ—няменш сардэчнага жалю, як і ў слаўны на ўвесь сьвет „плач“ сваей Яраслаўны з Пуціўля.

А гэта-ж, тым больш паказальна і важна для нашай беларускай тэзы, што Полаччына, Меншчына і Горадзеншчына ня былі зусім зьвязаны з Кіеўскім цэнтрам, як была Чарнігаўская зямля, якая ахоплівала абшары князёў, прыймаўшых учасьце

*) „Северско-белорусский говор“. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров. Ленинград. 1927 г.

**) В. Ластоўскі — „Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі“. Коўна 1926 г., бач. 48.

ў паходзе Ігара. Тры гэныя абшары даўно стварылі свой уласны палітычны цэнтр у Полацку, жылі самастойным жыцьцём і, як відаць нават з самога „Слова“, вельмі варожа адносіліся да Кіеўскага цэнтру ды рэшты „Рускае Зямлі“. Уяўленая ў „Слове“ спроба князёў сярэдняга паміж Кіевам і Полацкам абшару,— аднак таксама бясспрэчна беларускага племяннага характару— *спроба выламацца з-пад гегемоніі кіеўскага цэнтру* набывае, у зьвязку з усім, што сказана вышэй, асабліва цікаўнага для нас сэнсу і значэньня.

Зусім правільна дзеля гэтага В. Ластоўскі паклікаецца ў заключэньні на словы ведамага зьбіральніка і дасьледчыка народных беларускіх песьняў, Безсонава, што — „тварэц „Слова аб палку Ігара“ — ураджэнец, выхадзец, або нават жыхар Беларускага краю“. „Бо толькі выхадзец або жыхар краю, — дадае В. Ластоўскі ад сябе, — мог так горача апяваць мясцовых герояў, хоцьбы і па былінах старых часоў, і так добра быць пасьвячоным у мясцовыя падзеі і інтэрэсы. Гэткім чынам, „Слова аб палку Ігара“, — канчае ён, — будучы помнікам не народнай, а дружыннай паэзіі, дзякуючы яго паўстаньню на нашай тэрыторыі і апяваньню ў ім падзей з нашай гісторыі, павінна быць залічана да помнікаў крыўскай (беларускай) пісьменнасьці“.*)

---

Трэба, аднак, як нам здаецца, узяць справу яшчэ крыху глыбей, а адначасна — шырэй. Аналітычна паглыбіць, а адначасна — сынтэтычна пашырыць агульныя вывады. Дазволім сабе, наколькі здолеем, зрабіць гэтую спробу.

Племянна - тэрыторыяльнае паходжаньне паэмы—блізу бясспрэчна. Зямля, краёвы грунт, племянны „субстрат“ пад гэтай, хай сабе — „не народнай“, але „рускай“, гэта значыла тады: *княжска-дружыннай* паэмы — таксама блізу бясспрэчна — беларускія. Даведзена навукова — бясспрэчна (Растаргуеў, Станкевіч і інш.), што Северане — беларускае племя, як беларускім племянным зьяўляецца і блізу ўвесь абшар князёў-удзельнікаў паходу. Але-ж гэта далёка *ня тлумачыць усяго ў нашай паэме.* Спароджаная на беларускім абшары, тэрыторыяльным і племянным, *паэма выходзіць далёка па-за межы гэтага абшару.* Ня менш, калі ня больш, важны ў ёй якраз яе *княжска-дружынны, ці, як вязалі тады з гэтым, — „агульна рускі сэнс“*, які выразна вядзе аўтара і яго твор — з Северскай, ці Чарнігаўскай зямлі — *да кіеўскага цэнтру...* І якраз на гэтым шляху, ці на гэтым скрыжаваньні шляхоў, і трэба шукаць — *ідэю ўсяго твору, шукаць яго запраўднага зьместу і сэнсу.*

Найбліжэйшы *да сэрца* аўтара герой яго паэмы—бясспрэчна — северскі князь Ігар. Яго імя носіць уся паэма. З ім жыве, яго кахае, з ім нанова ў паэме перажывае сугучна ўсе яго ра-

---

*) В. Ластоўскі, ibidem, бач. 50.



дасьці і трыумфы, як роўна беды і жахі, яго баявы таварыш, яго пясьняр — аўтар паэмы. Ігар —запраўдны герой гэтага беларускага абшару, з яго цэнтрам у Ноўгарад-Северску, зьвязаны з роднай Зямлёй-Прыродай. Таму — за яго так моцна стаіць уся Зямля-Прырода — і неба, і зямля, і вецер, і рэкі, і зьвярына і птушкі... Ігара кахае ня толькі яго дружына, але і ўвесь народ. „Сумна Рускай Зямлі бяз Ігара“... „Весела краі і месты“, калі Ігар вяртаецца з палону жывы дамоў. Дружыньнік-пясьняр захапляецца *асабістай адвагай* свайго князя, рызыкай яго паходу, яго імкненьнем здабыць, на свой страх, славу сабе, сваім падручным князём і сваей дружыне... Ува ўсім гэтым відаць жывую душу — мясцовага, северскага, удзельнага, бунтуючага, разам із сваім фэодальным князям, — проці кіеўскага сюзэрэна (гаспадара) — дружыньніка-патрыёта. Жывая душа песьняра разумее і высока цэніць гэтую буйную волю, свайго князя, хоча верыць у яго, як кажуць „шчасьлівую зорку“.

Але-ж ня ў гэтым усім запраўдны сэнс паэмы. І тут выступае, так сказаць, „другая душа“, ці „другая палавіна“ душы аўтара.

Запраўды-ж, як Гётэ, у ведамым сваім вершы, і наш аўтар мог-бы сказаць, што ў ім жывуць дзьве душы, адрываючыся балюча адна ад аднэй...

Тады, як адна душа песьняра Ігарава кахае свайго героя, другая душа, ці, скажам, „дух“ яго — *строга судзіць яго за яго кардынальныя грахі і памылкі...*

Адносіны аўтара да свайго героя ламаюцца.. Сваей *неразважнай адвагай* герой паэмы нарабіў шмат вялізарных бедаў — і сваей зямлі і ўсей „Зямлі Рускай“... Гэта — герой трагічны, і яго „трагічную віну“ добра разумее аўтар паэмы. І тут набірае сілы тое, што трэба назваць *„кіеўскай орыентацыяй“* аўтара „Слова“, разумеючы пад „Кіевам“ *палітычны, а мо' вярней „ідэолёгічны“ цэнтр усяе тагачаснае княжскае сыстэмы аб'ядняньня „Зямлі Рускай“,* номінальнае адзінства якой, як ведама, усьцяж крывава нарушалася спрэчкамі ды войнамі „аднакроўных“ князёў.

Як бачым, гэнае „адзінства“, як *палітычная ідэя,* знаходзілася ў пастаяннай вострай супярэчнасьці з *жывой палітычнай рэальнасьцю* тадышніх часоў, як аб гэтым сьведчыць хацяжбы самае „Слова“.

Але-ж ня можна пярэчыць таму, што і сама ідэя адзінства, ці аб'еднаньня мела ў сабе вялікую сілу пераконаньня і дзейнасьці.

Як мы казалі, палітычны, ці ідэолёгічны цэнтр „адзінае Русі“ аўтар бачыць у Кіеве. Кіеўскі вялікі князь таму зьяўляецца ў яго вачох высокім, законным носьбітам гэтай ідэі. А стуль вынікае, што — побач з найбліжэйшым *да сэрца,* да *кахаючай* палавіны яго душы, першым яго героям, Ігарам, — вырастае за ім, а нават *і над ім — другі герой паэмы, вялікі князь кіеў-*

*скі Сьвятаслаў.* „Другая палавіна душы“ аўтара падвойна захопліваецца гэтым сваім героем і веліччу яго пасаду і яго асабістай развагай і павагай. Вял. кн. Сьвятаслаў зьвяртаецца з заклікам да валадароў усяе „зямлі рускай“ — ад (Суздальскага) князя Усевалада, які „можа Волгу веслямі раскрапіць, а Дон шаломамі выліць“, да Галіцкага князя Яраслава Осмомысла, які „падпёр горы Угарскія сваімі жалезнымі палкамі“ дый мае ў сваіх руках ключ ад брамы дунайскай. Зьвяртаецца, як маючы на гэта і права і абавязак...Характэрны і важны, для агульнага зразуменьня паэмы, той жудасны сум, з якім аўтар, як быццам праз вусны вял. кн. кіеўскага, сьцьвярджае, што, нажаль, гэтаму носьбіту ідэі „адзінства Русі“ *няма да каго зьвярнуцца ў Полацкай зямлі*... Жудасны абраз таго стану разрухі і спусташэньня, да якога давялі Полаччыну — „Яраслаў і ўсе ўнукі Усеслававы“, належыць да найлепшых па гістарычнай праўдзе, па мастацкаму характву і па сіле ўражаньня — абразоў паэмы. У дужках адзначым ізноў, што так сумаваць, кахаючы, можна толькі над роднай, а прынамсі над вельмі блізкай зямлёю...

Як і Ігара, і Сьвятаслава кіеўскага аўтар надзяляе надпрыроднай магічнай сілай. Ён — блізу вяшчун, яму сьніцца „вешчы сон“. За ім — гістарычная слава грознага пераможцы паганых полаўцаў.

Калі Ігар ноўгарад-северскі выступае ў паэме, як „трагічны герой“, якога дадатнія староны і заганы якраз і ствараюць завязку і ўсю драматычную *дынаміку* паэмы, Сьвятаслаў кіеўскі выступае, як носьбіт нікаторага *статычнага* мамэнту, — закону, нормы, ідэі. *Таму — праз вусны гэтага другога героя — аўтар выказывае ідэю ўсяе паэмы,* аб гэтым і кажа знамянітае „залатое слова“ Сьвятаслава, „зьмяшанае са сьлязамі“... Яно прызнае і адвагу малодшых князёў, — „сыноўцаў“ вялікага князя, і іх права „шукаць сабе славы“... Але трэбуе, каб усё гэта рабілася *„чэсна“*... Каб, шукаючы сабе славы, яны не нарабілі бяды Зямлі Рускай, ні ганьбы павазе („сярэбранай сівіні“) вялікага князя кіеўскага... Трагічная памылка Ігара і яго таварышоў — у тым, што яны захацелі *„похітіті“* сабе славу, гэта значыць — незаконна, *„ня чэсна“*, як кажа „залатое слова“ Сьвятаслава, ухапіць яе для сябе, каб пасьля „падзяліцца“ гэтай славай з іншымі князямі... Памылка Ігара і яго таварышоў была ў тым, што яны асобна, ад іншых князёў Зямлі Рускай, а галоўна — цішком ад адказнага прадстаўніка яе адзінства — наладзілі паход на полаўцаў, які скончыўся — *бо-ж павінен быў, па думцы аўтара, у зьвязку з ідэйнай канцэпцыяй яго паэмы, скончыцца — катастрофай*... Адтуль і „сьлёзы“ гэтага „залатога слова“ Сьвятаслава.

---

Ясна, што ў гэтай сваей агульнай ідэі паэма мае бясспрэчна „кіеўскую орыентацыю“. І толькі ў такім сэнсе можна прызнаць прэтэнсіі на яе з боку ўкраінцаў. Пры такой разьмяжоўцы, здаецца, даволі лёгка было-б пагадзіцца нам з нашымі паўдзённымі братамі. Бо-ж — ані на кіеўскае „праваدырства“, ані на „адзінства Рускае Зямлі“ беларусы наагул ня маюць ніякае прэтэнсіі.

„Дух“ паэмы — кіеўскі, ці ўкраінскі, але яе „душа“, яе сэрца, як яе месца нарадзінаў, яе пляменны грунт, блізу ўся „яе эпічная тэматыка, увесь яе дынамічны драматызм—бясспрэчна беларускія.

---

Родная аўтару Севершчына ляжала якраз паміж дзьвумя найвялікшымі, *а галоўнае — найбольш рознымі асяродкамі даўнейшай,* у сьведамасьці аўтара „Слова“ — *„адзінай Русі“*. Полацкі цэнтр меў з *заходу,* ад сваіх літоўцаў блізу зусім такія-ж клапоты, як кіеўскі — з *усходу*, ад полаўцаў. Першы цэнтр, з усімі „цягнуўшымі“ да яго абшарамі, быў выразна беларускім, як другі — у большасьці — украінскім. Полацкая Зямля, у шырокім сэнсе слова, жыла зусім асобным жыцьцём. І гэта вельмі ярка адбіваецца і ў самай паэме. Полаччына, як відаць і з летапісаў, блізу ня была зьвязанай з „Кіеўскай Русьсю“. Чаму-ж гэта ў нашым „Слове“ яго аўтар — ня толькі ведае і апавядае з задзіўляючай дакладнасьцю ўсе падзеі Полацкага абшару, але яшчэ і з роўным сардэчным жарам і жахам сумуе над лёсам Полаччыны, быццам над лёсад роднай Маткі-Айчыны?.. Вось гэты бясспрэчны факт, як нам здаецца, спараджае наймацнейшыя сумлівы адносна тэзы аб „украінскай вылучнасьці“ паэмы. Родная аўтару Севершчына, лежачы паміж гэнымі пляменна і палітычна рознымі абшарамі і цэнтрамі — Кіеўшчынай і Полаччынай—і *душою нейк разрывалася паміж імі.* З гэтуль павінна была выплываць, з неабходнасьцю, і тая супярэчнасьць паміж „дзьвюмя палавінамі душы“ аўтара паэмы, якую мы сьцьвердзілі на падставе аналізы зьместу яго паэмы. Але, як і ў вершы Гётэ, „абедзьве душы“ аўтара — адначасна — і жывуць у ім і імкнуцца адарвацца адна ад аднэй. „Кіеўская“ душа аўтара, душа княжскага дружыньніка-песьняра, хоча ахапіць усю Рускую Зямлю ў адзінае цэлае; северская душа яго выяўляе сэпаратныя імкненьні свайго абшару і яго князёў. На гэтай *антытэзе* — ідэолёгічнага, палітычнага адзінства „Рускай Зямлі“ (выплываўшага сьпярша — з адзінства варажскага пануючага слою) і сэпаратызмаў паасобных яе земляў, розных і пляменна і „гео-палітычна, — і пабудавана ўся ўнутраная дынаміка паэмы. У гэтым, як бачым, глыбака ляжачым у прыродзе рэчаў гістарычным канфлікце — увесь драматычны „патос“ паэмы. Норма адзінства — статычная ідэя паэмы—рэзка супярэчыць факту—жывьцёвай дынаміцы тагачасных падзей. У гэтым жывая гістарычная праўда паэмы.

---

Нам астаецца толькі паказаць, як усё гэта адбілася — з неабходнасьцю — на тым, што можна назваць, у шырокім сэнсе

слова — *„стылям“* паэмы. Дасьледчык паэмы Добрынін („Полымя Рэвалюцыі“, 1937 — XI) кажа, што яе аўтар, як у агульнай будове паэмы, таксама ў яе жывой тканіне, шырака карыстаецца *„фігурай антытэзы“*. Запраўды-ж, антытэза зьяўляецца як быццам галоўнай стылістычнай мэтодай паэтыкі аўтара „Слова“. Ведамы афорызм Бюффона кажа: „стыль, гэта—чалавек“. Такім чынам, ідучы ад твору к тварцу, мы ізноў прыходзім да разгледжанай вышэй супярэчнасьці абедзьвюх душаў аўтара: северскай і кіеўскай.

Верны свайму князю, ён — яшчэ больш верны сваей ідэі палітычнага адзінства Русі. Нарушэньне князям Ігарам закону гэтага адзінства, паміма фатальных рэзультатаў яго палажэньня, адкрывае ў душы аўтара „драматычную пэрыпэтыю“, якая разрывае на палавіны яго душу. З гэтага раздваеньня і выплывае ўся драматычная *антытэтычнасьць* паэмы, якая якраз і састаўляе ўсё жыцьцё, усё дынамічнае адзінства паэмы, яе рух, патос.

Антытэза — фігура, якая выражае, ці адбівае — спрэчку, канфлікт, барацьбу. Барацьбу паміж супярэчнымі зьявамі, ідэямі, паняцьцямі, абразамі, якія, аднак, нейкай сілай і сувязяй злучаны паміж сабой... Ясна, якую сілу павінна здабыць гэтая фігура ў стылі паэмы, якая ня толькі вонкавым зьместам сваім мае вайну, але па сваёй унутранай сутнасьці, па самай сваей „рацыі быту“ —драматычную сутычнасьць цэлага раду такіх супярэчных, але адначасна зьвязаных у „пары“ паняцьцяў: адзінства і частковасьць, мір і вайна, самаволя і дысцыпліна, норма і факт адвага і развага, сэрца і розум, князі і ханы, перамога і паражэньне, паход і ўцёкі, палон і воля і г. д. Такіх „параў“ можна ў паэме налічыць без канца... І іх унутраны дынамізм з задзіўляючай сілай, з непараўнаным паэтычным мастацтвам, з бліскучай яркасьцю стылістычнаю — контрастнага эфэкту — умее выкарыстаць геніяльны мастак стылю — няведамы аўтар „Слова“. І гэта, зразумела, таму, што гэты драматычны кантраст, гэтая прынцыповая антытэза — найглыбейшая аснова ня толькі ўсей паэмы, ня толькі ключ да жывой, але падзеленай на дзьве супярэчныя палавіны душы аўтара, але—у найглыбейшым сваім корані — рэальная гістарычная аснова, палітычна пляменная антытэтычная падстава тых падзей, якія аўтар узяў тэмай для сваей паэмы.



СЯРГЕЙ ХМАРА

# Палесьсе

Спавітае сінім туманом, дрэмле залітае люстранымі бязьмежжамі вод таёмнае, маўклівае Палесьсе.

Вырвецца раптам з балот, быццам стогн з набалеўшых грудзёў, палешуцкая песьня:

Ой кувала зязюленька,
кувала, кувала,
як паншчына-дарэмшчына
ішла, варачала —

і ізноў мёрлая цішыня... Толькі ў сініх, туманных далях плача песеннае рэха...

Палесьсе!

Шмат гаворыцца аб Палесьсі. Шмат аб ім пішацца. А якжа! Ведаюць аб ім і турыстычныя праваднікі розных турыстычных арганізацыяў. Ведаюць аб ім ня толькі Варшавякі. Ведаюць і лёрды з далёкае Англіі і Амэрыканцы.

Палесьсе.

Край цудоўнай экзотыкі. Край паляўнічых раскошаў.—Алені, лосі, нат мядзьведзі. Хмары воднага птацтва, калёніі баброў.

Рай для каякоўцаў.

Азалёвыя палі пад Давід-Гарадком. Вадзяны гарэх у вазёрах Піншчыны... Шляхта „Загродова“. Выгаптаваныя сарочкі на расовых заходнягаліцыйскіх абліччах „паляшукоў“ на палескіх таргох.

І Палеская песьня з Баранавіцкай радыёстанцыі: „Umarł Maciek, umarł...“

Палесьсе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А там, у шэрай бяздоннай нэндзы, у балючых скрутах роспачы, у безпрасьвецьці зьвярынага нідзеньня, сярод непраходных балот расьселася другое Палесьсе: —

Раздольле галоднага тыфусу, гішпанкі, каўтуна, непадзельнае панаваньне трасцы-мухлі і шмат іншых „экзотыкаў“!

63 тысячы карлаватых сялянскіх гаспадарак.

На 800 тысяч сялян — 1,317 тысячаў гактараў зямлі, — балот і пяску.

І на 500 абшарнікаў — 1,700 тысячаў гактараў.

Давід-Гарадоцкае Радзівілаўскае каралеўства, Скірмунтаўскія лімузыны і сялянскія чаўны-душагубкі.

Экзотыка!

Гэй ты доля, наша доля,
дзе ты заляцела,
чы ў балоце затанула
чы ў агні згарэла—

сьпявае паляшук выглядаючы лепшай долі.

А долі няма. —

І так, як тысача год таму, падымае зробленай з саснова-га карча сахой свае худыя палеткі. Бо плуг — мрыя!

Так, як і тысяча год таму назад папулярная патрава каплун, гатаваная вада, цыбуля, шчопці солі...

Гэта Палесьсе. Палесьсе — краіна сівых тумаоў і мільёна шэрых поўзадушаных вечнаю бяздоліцай сялян.

## Ўюны

Махвей уварваўся ў хату разам з клубамі сівое пары і яшчэ ад парогу крыкнуў голасам вібруючым ад радасьці:

Нашоў! Заўтра выбіраемся па ўюны! На Чорным заводзе*) і ў Бабровай бухце аж кішаць. Лёд пераціяў пярэсмыкі ад ракі і яны душацца без паветра.

Калі пашанцуе, будзе што есьці, і на соль хопіць! — заціраючы зьмёрзлыя рукі, аброшшы цэлы шэранью, гаварыў Махвей сям'і і сабраўшымся суседзям.

Нават стары дзед зьлез з халадзеючай ужо печы.

— Кажаш, —відаць, —запытаў ён.

— Відаць пад самы лёд падыйшлі і хочуць у адным месцы аддушыну працерці, кішма-кішаць. Цераз лёд відна. Але лёд грубы!

— Вось, дзякаваць Богу,— мароз памог!

Дзеці плешчучы ў далоні скакалі па хаце, выкрыкваючы на ўсе лады:

Ўюны... ўюны... ўюны...

Бо-ж такім прысмакам будзе для іх мяса ўюна па вечнай няшчымнай бульбе і каплуну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца ўсходзіла распаленай зялезнай коткаю. Дваццацігра-дусны мароз патрэскваў вугламі хаты. Дзень запавядаўся на славу.

Сівая кабылка выцягнула з варот сані напоўненыя знарадзьдзямі лоўлі ўюноў. Мужчыны беглі каля саняў у сваіх лазовых выкладзеных сенам і саломаю пасталох і ў кароткіх кажушках з нацягнутымі на іх сівымі сардакамі.

За поясам у кожнага тырчэла сякера. Здалёк паказалася лядовае люстра Бабровай бухты.

Вось і яна.

Мароз схапіў яе ў свае сталёвыя абыймы, прахватваючы плыткую бухту аж да дна. У глыбейшых мясцох—ямах пад прасьвечваючым лёдам чарнеўся ўюні вір. Яшчэ раньняю восеньню спрытныя паляшукі забясьпечыліся ад будучых спробаў уцяканьня ў раку ўюноў і закідалі плыткі перадзел з наноснага пяску аддзяляючы бухту ад цёку ракі ламатою высечанага лазьняка

*) Завод—затока.



у тых мяйсцох ласьне пры першых моцных марозах перапыніў лядовы аж да дна мур дарогу ўюнам да ратунку. Вады і паветра ў бухце рабілася што раз менш, што раз душней рабілася ўюнам і яны зьбіліся ў глыбшых ямах.

— Ну, а цяпер пам'ай Бу'*) — плюнуўшы ў далоні крэкнуў Махвей і схапіўшы плюшню**) пачаў даўбці ёю палонку, другія памагалі сакерамі.

Лёд быў прарубаны. Але ў палонцы ня было вады. Там была нейкая чорная гатуючая жывая каша. — Гэта ўюны. Пазбаўленыя так доўга сьветлага паветра раскашаваліся ім, ня ведаючы, што разам з ім прышоў іхны канец.

Калыска з лазы, у каторай Махвеева жонка яшчэ ўчора калыхала дзіця, лазовыя кошыкі — вось рыбацкія знарадзьдзя на ўюноў.

Чарпальнікі працавалі без перарыву вывальваючы здабычу з кошыкаў на лёд. На лёдзе распоўзваючыся ўва ўсе бакі паволі застыгала пад цяцьцем марозу чорная жывая гушча.

Палонка была пустая. Скасьцянелых крышачыхся пад рукамі ўюноў запакавалі ў мяшок.

І зноў пачала ахаць плюшня прабіваючы чарговую палонку.

Мароз прыцінаў.

На Чорным заводзе было глыбей... Ад вірыўшай пры заломе вады прабіліся апарыны — журла, тут ўюн меў чым дыхаць, ня лез сам у палонку.

Але нашто ў Махвея быў прыпасены на санёх гаршчок з гатаваным гарохам.

Падае ў ваду залатымі зёрнамі — гарох. Сыпнула на смачную ежу галодная ўюніна братва.

А тут ужо лазовы венцер***) на шнурох са дна падымаецца.

Смачны гарох. Лёгкі ўваход у венцер. Але цяжка з яго выйсьці!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Весела бягуць паляшукі каля саней расьціраючы касьцянеючыя рукі. Аблядзела вопратка. Мароз лютуе. — Ня чуюць.

Радасьць расьпірае сэрцы. Вось уюноў! Пашанцавала! Чатыры мяхі ўюноў! Запэўнена зіма і галодная вясна! — нат' і на махорку будзе!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыехалі.

У хаце суседзкая жаночая сустань.****) Сустаньню лавілі — сустаньню і дзяліць будуць. Кожны атрымае сваю дзель-бонду.

Зьмёрзлыя, крышачыся пад рукамі ўюны пачынаюць у цяпліні хаты ў мяшкох ажываць і ціха папіскваючы вылазіць

*) Пам'ай Бу' — палескі дыялект=памагай Бог.

**) Плюшня — дубовы кол, лом з абабітым жалезным гострым канцом.

***) Венцер — лазовы мяшок. рыбацкая прылада.

****) Сустань — рыбацкая арцель, супалка па Палесьсі.

з мерак-кошыкаў. Але ратунку няма. Прабівае дзеравяная ігла з ніткаю пад жабры, расьце нізанка. — Гэта ў печ на сушэньне. Пойдзе потым на продаж у горад — па $^1/_2$ гроша, па грошу штука — на соль, на махорку, на падаткі, а рэшта — жывыя — ў бочку, саліць.

Пішчаць — страхліва пішчаць — пасоленыя жывымі. —

А потым на стале зьявяцца чаркі, задыміць патэльня, поўная смажаных ўюноў на закуску, і пачнецца рыбацкі, убогі баль на чэсьць уюна,—гэтага хлеба і мяса палескае беднае вёскі. —

АНАТОЛЬ ІВЕРС

## Залацілася раніца

Залацілася раніца ападаючым шэлестам,
вецер лістам іржавым дарогі прыслаў,
і ня бачылі мы, як зара загарэлась там —
восень дробную ймглу на палёх растрасла.

А ў далі патухала рабінавым полымям
нашых бедных палёў набалеўшая сінь, —
гэтак ніклі у цьму дні жыцьця — невясёлыя
паміж соснаў зялёных і голых асін...

Мо' прыдзецца яшчэ зімаваць недагрэтымі —
хмары воўкам кудлатым паўзуць з-за Карпат..
Але песьню сваю дапяём недапетую
сярод ніў залатых, пад напевы сярпа.

## На бруку

Штось закралася ў душу — ня знаю, —
мо' трывога за лёс нашых сёл.
Шэрай восеньню з песьняй па краю
я паеду аддаць ёй усё..

Беларусь .. Не! ня будзеш ніколі
паза межамі з торбай хадзіць!
Сёньня ў даль з-за густых частаколаў
на сінеючу даль паглядзі.

Гэта зоры разсеены густа,
каб прарэзаць туманаў плыты,
каб калосьсе зары з нашых пустак
зашумела ў вагнёх залатых.

Ці ня радасьць прыдзе пасьля суму,
ці ня ўдараць ў званы пасьля сну?...
Ня нам думу горкую думаць
спатыкаючы нашу вясну!...



С. ХМАРА

## Калыхала зыбку маці

Калыхала зыбку маці,
калыхала.
Ой, бяды ня будзеш знаці, —
мне пяяла.

Будзеш сонцу усьміхацца
залатому,
сэрца цешыць, любавацца
грошаў звонам.

Будзеш ты вялікім панам
над панамі,
у палацы жыць цагляным
са слугамі.

Ой, пяяла, ракавала,
ня мылілась.
У палацах жыву стала,
з слугаў сілай.
Табе й дзьверы адчыняюць,
есьці носяць,
абмываюць, адзяваюць,
ў спацыр просяць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Ды аднога не ўганула
мая маці:
няма сонка залатога
усьміхацісь,
і ня цешу сэрца звонам
купай грошаў —
звоняць іншым, ў дзень і ў ночы
сон палошаць.

1935 г.

Я. КРЫГА

## Шый, ды шый...

Млеюць рукі й ногі пры рабоце —
шый, ды шый, ды шый!
Ломіць сьпіну боль і сьлепіць вочы
гнісь, працуй, маўчы!
Трэбаж, ой, як многа трэба!
дзецям і сабе —
на аптэку, на падаткі, трэба —
ні канца бядзе.
Шый, ды шый, ды шый, шчэ трэба многа!
Ноч вяліка, гэй!
Высьпішся ў другім жыцьці, нябога, —
сон гані з вачэй!
Шый, ды шый... ах! укалола йголка,
паказалась кроў,
разыгралася ў вачох вясёлка...
Ах! — ўкалола йзноў...
Кроў!... Ці сон яно, ці ява?
Кроў во ручаём —
залівае стол, машыну, лаву
і усё, ўвесь дом...
Выбіць шыбу, крыкнуць — мо пачуюць...
Гэй!!... Ах, што за мара — сон!
Цёмна. Лямпа згасла. Вецер дуе,
вые за вакном...

С. ГРЫНКЕВІЧ

# „Учора" і „сяньня"

Спрэчкі філёзофаў і лёгікаў, ці ёсьць абсалютная праўда (ня толькі ў плошчы рэлігійнае праблемы) былі і будуць заўсёды жывымі. Ці пагодзяцца рэлятывісты з прыхільнікамі пагляду, што ўчарашняя праўда на заўсёды астанецца праўдаю такою самаю для ўсіх, якою была ўчора, — няма ведама.

Калі-б праўда існавала, пасколькі яе ўяўляла-б адзінка, дык была-б яна надта хісткаю. Адзінкаю ўладаюць сэнтымэнты розныя, настроі. Ад настрояў і сэнтымэнтаў ды ад розных практычных мяркаваньняў залежала-б тады і праўда!...

Даволі красамоўна бачым адлюстраваньне рэлятывізму праўды ў аднэй з апошніх кніжак ведамае польскае пісьменьніцы Налкоўскае. Назоў кніжкі *„Благая любоў"* *). Чаму гутарка аб гэнай кніжцы якга на бачынах беларускага часапісу? Дзеля таго — ў першую чаргу, — што пісьменьніца некалькі разоў закранае беларушчыну, беларускага мужыка. Не разглядае плянова нічога асобна беларускага, а спыняецца над гэным пытаньнем пастолькі, пакольні ёй трэба паказаць на перамены ў польскім грамадзянстве даваенным і сучасным. Беларушчына выступае, як асноведзь, на якой лягчэй, больш пуката можна пабачыць гэнья перамены.

Зьмест „Благое любові" ня важны дзеля нас. У аповесьці ёсьць некалькі аснаўных ніцяў раману, ніцяў мясцамі вельмі заблытаных, паміж тымі самымі і празнымі людзьмі. Акцыя праводзіцца ў адным з „крэсавых" мястэчак, якое пасьля вайны вырасла на сталіцу ваяводзтва. На арэне выступаюць урадоўцы (як прыватныя адзінкі), абшарнікі, грамадзкія дзеячы, даволі вялікі сьцяг дамаў і панячак, найчасьцей прадстаўнічак пасьляваеннага ўжо пакаленьня. Гэная рыса — проблематыка душы жанчын, аналіза нутранога іхняга жыцьця — вельмі характэрная дзеля творства Налкоўскае агулам.

Бацька аднае з дамаў, доля загнала якую ў ролі жонкі ўрадоўца ў гэнае глухое мястэчка, чалавек з вялікага сьвету. Гэта адзін з дзеячоў перадваенных, чалавек блізкі да тых, што давялі да незалежнасьці Польскае дзяржавы. Гэны Валевіч глядзіць быццам об'ектыўна на тое, што робіцца ў канкрэтных умовах жыцьцёвых, і наскольні можа падсумоўвае перамену ад учора да сяньня нікаторых лёзунгаў і сам дзівіцца, што сапраўды робіцца з людзьмі і ідэямі. Ці людзі мяняюцца, ці ідэі — гэта пусты толькі гук, ці мо' толькі ўчарашняя праўда ў сяньняшнім аспэкце мае іншы воблік?....,

Глядзіць ён на людзей кіруючых гэным куском зямлі і рознакія рэфлексыі лезуць плоймамі яму ў галаву. — „Вось прыкладам Валевіч думаў калісь, як аб нечым надта простым і бязсумліўным, што кожны народ павінен мець сваю зямлю і свае граніцы, хаця-б народ быў найменшым. У сапраўднасьці гэта ня было ані простае ані бязсумліўнае. Вось сьвет здрыгануўся, задрыжаў на сваіх фундамэнтах і гэныя словы, гэная простая праўда азначала ўжо цяпер зусім нешта іншае.

Калісь гэныя словы — свая зямля і свае граніцы — гэта была Польшча, гэта была ейная незалежнасьць і магутнасьць. Сяньня гэта азначала-б абнядужаньне Польшчы і меншыя ейныя граніцы".

Як працяг гэных думак, бачым сказы такія:... „калісь, у тыя часы, Валевіч глыбака браў да сэрца лёс людзей, якія за сваю дзейнасьць ідэйную лучалі ў вязьніцы... Ён быў з тых, якія цьвёрда дзяржаліся пагляду, што ніхто ня можа адбіраць свабоды за пагляды і за гэныя пагляды вешаць на шыбеніцах. Думаў ён, што сапраўды на душы ляжала яму думка аб агідзе ламаньня духа чалавечага ў ягоных шляхотных імкненьнях. Думаў, што сапраўды рупіўся ён заўсёды да супроцьстаўленьня сабе ідэі і гвалту. А вось вышла цяпер пры новай коньюнктуры, пасьля вялікага зруху ў фактах рэчаіснасьці, што гэныя словы, гэныя собскія, дарагія лёзунгі, яму прыдаюцца цяпер бяз сэнсу ды проста агідлівымі".

„Былі яны сапраўды дэмагогічным сказам, як казалі калісь ягоныя праціўнікі, адкуль пачалі ўцелаішчаць нешта іншае, адкуль пачалі яны прадстаўляць нешта варожае і небясьпечнае. Каб усё гэта ўявіць, трэба было перажыць перамогу свае ідэі".

Быццам передумаўшы ўсё гэта, Валевіч цераз аўтарку снуе гэткія думкі: „зьдзейсьненьне кажнае гістарычнае ідэі азначае такія ейныя суадносіны з сапраўднасьцю, каб новая ідэя была найбольш сходная з тым, на месца чаго яна прышла. І толькі тады яна можа валадаць і трываць, калі закараніцца ў тых самых мясцох зямлі, з каторых вырвала яна ранейшыя, калі ўвальлецца ў выемкі колішняга жыцьця і да гэных выемак датарнуецца найстульней.

Дык вось цяпер іншыя, новыя людзі сядзелі ў вязьніцах, бо вязьніцы...... ня могуць быць парожнімі. І яны, гэныя ўжо людзі, казалі, што нельга зачыняць людзей за ідэі. І зноў пасуседзку зусім, за межамі краіны, дзе іх крыўдзілі, у рэвалюцыйных вязьніцах былі зачынены тыя, каторыя маглі па гэтай старане граніцы зачыняць у вязьніцах.

Ня толькі словы, ня толькі ідэя і лятуценьне ў вечнай абнове сьвета было нечым іншым. Нечым іншым робіцца і самое зьдзейсьненьне. Ды нат' зямля і граніцы кажны раз азначалі нешта іншае".

І трудна сказаць, з сумам ці з ironiяю пісьменьніца пытаецца: „Мо' Малевіч зусім не перамяніўся, мо ня трэ' сароміцца яму за сваю маладосьць. Мо' гэта толькі бязупынна мяняўся

*) „Niedobra Miłość". Nałkowska. — Romans prowincjonalny.

сьвет, і дзеля тэтага ягонае месца за кажным разам было іншае" (бач. 69 — 71).

Аўтарка вельмі крытычна і востра судзіць і ацэнівае шмат якіх пасьляваенных прадстаўнікоў „крэсовага грамадзянства". „Учарашняе" гэных людзей не дае часта, на пагляд аўтаркі, ім дазволу глуміць людзей і думкі і пагляды. Паказывае яна тыпы і вайсковых і дзеячоў самаўрадавых і ўрадоўцаў. Сымпатыя ейная па старане дэмакратыі. Усякім адхілам ад дэмакратыі, ад справядлівасьці не шкадуе яна вострае сатыры. Не шкадуе яна вострых слоў для прадстаўнікоў учарашняга дня, якія ня імкнуліся да зьдзейсьненьня сяньняшняга дня, якім учора надта любае. Да такіх вось тыпаў належыць старая графіня Осенецкая.

Гэтая асоба намагаецца, датарнаваўшысь па меры магчымасьці да сучаснасьці, вярнуцца да мінуўшых дзён. „Пані Осенецкая добра ўпраўляла сваімі маёнткамі. У ейных маленькіх ручках людзі ўвіхаліся з натугаю і сьпехам, працавалі да сёмага поту. Тое самае было і з жывёлаю, ды нат плугі, машыны, трактары і тыя працавалі быццам да апошніх мераў магчымасьці.

Дзерла яна з зямлі не для сябе праўда. Ды за тое і не для сваіх людзей. Стогнучая служба ледзь-ледзь магла дастаць належныя ёй ардынарыі. Служба наракала на немагчымае памешканьне, гэная служба прымушана была таргавацца за грошы, якія зарабіла".

Гэная п. Осенецкая ведала аб парадках у сваіх маёнтках. Уважала, што йнакш ня трэба, ці мо' інакш нат' і немагчыма. Сама калісь расказывала: „Я ніколі не хаджу да іхніх (службы) хатаў. Ведаю, што ў іх жудасна, я абсалютна не магу на гэта глядзець. Дзеці там сядзяць у холадзе і макраце, сьцены там дзіравыя, цераз стрэхі цячэ"...

Пані Осенецкая бачыць, што мужыкі маюць вочы, што яны ўмеюць ацаніць належныя да іх адносіны. Аўтарка гаворыць: „усе найміты неахвотна хадзілі на панскае поле. Ведалі, што чалавечыя сілы будуць там выкарыстаны да апошняга, да таго-ж гэныя людзі думалі аб землях, якія абраблялі, як аб нечым, што належаціме да іх (бач. 87)".

Пані Осенецкая быццам мела калісь іншыя пагляды на гэных мужыкоў-„хамаў". Быццам яна ўмела хадзіць да іхніх цёмных сьцюдзёных хатаў, насіла ім лекі, памагала ўсяляк. Сяньня яна ведае, „што гэта злосныя, дурныя барбары, гэта тая маса, з каторае вышаў забойца ейнага малодшага сына".

Осенецкія ніяк не маглі пасьпець за пераменаю ў парадку і ладзе пасьляваенным, не дапускалі думкі, што „урад, сам урад адчыняе мужыкам школы ў роднай мове, што гэны ўрад з публічных грошаў, народных грошаў утрымлівае настаўнікаў у гэных школах, настаўнікаў тутэйшых, аўтохтонаў"... (бач. 88). І ў сапраўднай роспачы і аканчальным зьнявераньні пытаецца Осенецкая: „ці можна ўявіць, ці можна падумаць, каб нешта такое рабіла Англія... У нас не разумеюць, што толькі моцная рука, толькі вострая ўлада можа ўсё гэта неяк трымаць у парадку".



На пагляд п. Осенецкае, добры пан не карыстаецца ніякім аўторытэтам. Калі, скажам, такі пан пазычае сялянам прылады гаспадарчыя, калі дае ім лепшае зярно, калі не бярэ грошаў за занятую жывёлу, дык мужыкі тады думаюць, што гэткі пан баіцца іх, што ён быццам сядзіць не на сваём, „а мужыка трэба біць, застаўшы яго ў шкодзе, трэба трымаць пагрозамі, тады толькі ён будзе паслухмяны і пакорны, тады ня вырасьце з яго разбойнік".

Уся натуга графіні ідзе на тое, каб найбольш высмактаць з зямлі. На сапраўдны зьдзек выглядае, што ўсе тыя прадукты, якія мужыкі цяжкаю працаю выпрадукавалі з зямлі, ішлі на стол жыдоўскіх кансумэнтаў, якія адны толькі маглі купляць розныя ласушкі. А грошы ішлі заграніцу да сына, які меў падтрымаць высокія амбіцыі панскага роду.

Ня ўсе людзі са сфэры бліскае да графіні думаюць аднолькавымі з ею катэгорыямі. Прыкладам, іншым чалавекам будзе жонка ваяводы. Ваяводзіха заглядаецца на сытуацыю графіні, што тая магла-б інакш жыць. Паводле ваяводзіхі можна на вёсцы знайсьці падыход да сялян, можна паказаць народу добрае сэрца і цераз гэнае сэрца выклікаць давер...

Такіх людзей новых, як ваяводзіха, яшчэ вельмі мала. Землеўласьнікі сабраўшыся ў графіні ўмеюць толькі наракаць на ўрад, на малую апеку над імі, на пагражаючую ім парцэляцыю, на мужыкоў, радыкальна настроеных. Наракаюць, што настроі сялянства ня сустракаюць больш рашучага адпору са стараны ўладаў.

Усё гэта высказывалі ў такі спосаб, быццам гэта былі праблемы агульныя, грамадзкія, у якіх усе зацікаўленыя. Сапраўды аднак выходзіла на тое, што наракалі яны на свае клопаты, што хацелі выкарыстаць сытуацыю, каб абгаварыць іх у прыватным памешканьні з урадавымі дзейнікамі замест зьвяртацца да апошніх да афіцыяльнага бюро.

Гэныя людзі ня ўмелі датарнавацца да новых умоваў жыцьцёвых, баранілі сваіх колішніх прывілеяў і ў змаганьні за штодзенныя дробязі гублялі свой аснаўны тып, мянялі свой характар (101).

Жыцьцё штораз больш крутое сьціскала іх быццам абцугамі. Культура іхняя, традыцыі, мінуўшчына на сяньня ня былі здавальняючым аргумэнтам. Былі яны яшчэ арыстократыяю. Косьці іхнія былі крыху танчэйшыя, апранываліся яны часта лепш. За тое мянялася тое, што было найбольш сутным, іншая была ў іх ужо мэнтальнасьць, структура псыхічная. Клопаты, дробныя раструскі, неабходнасьць змаганьня за кусок хлеба — ўсё гэта было або нечым, да чаго яны ня прывыклі, або ад чаго адвыклі ў цэлым сьцягу пакаленьняў. Новы лад выклікаў у іх

новы сьветапагляд, мяняў адносіны да жыцьця. Згубілі яны панскую пэўнасьць і адначасна тую нейкую бязінтэрэсоўнасьць, якую можна наглядаць і ў сытага сабакі ў адносінах да галоднага цюцькі-бадзякі.

Сяньня ў іншых сфэрах вялісь гутаркі аб каханьні, аб мастацтве, аб прыгожых жанчынах, кніжках і падарожах, аб усіх прадметах, мо' і зусім непатрэбных, якія зьяўляюцца крыніцаю псыхічнае роскашы.

Вывад і аканчальны прысуд аўтаркі, — што ў сфэры „крэсавых" земляўласьнікаў спробы эканамічных клопатаў ня выдзержала культура інтэлектуальная.

Іншы тып паказаны аўтаркаю — сыновая Осенецкае, амэрыканка з паходжаньня. Лучыла „да нас" з таго асяродзішча, дзе ў пасьляваенную пару „былі модныя гуманітарныя адносіны да права кажнага народу, да собскага жыцьця паводле нерэальнае ідэолёгіі Вільсона". Блізка да сэрца Флёр „чужыя меншасьці нацыянальныя, прыгнечаныя ў чужых дзяржавах"... Гэная чужаземка выказывала свае пагляды шчыра, ня гледзячы, ці каму мо' гэта зусім не ўспадобу. Цікавілась усім, езьдзіла з мужам па маёнтках і ваколіцах. Езьдзіла ня дзеля спорту, а каб усё паглядзець. Навучылась хутка пазнаваць селяніна беларуса ад паляка. Шмат чаго ёй не падабалась у краёвай рэчаістасьці.

Флёр са сваім цьвёрдым падыходам да жыцьця не магла зразумець шмат якіх зьявішчаў, якія нагпядала. У аднэй з гутарак са старою Осенецкаю апошняя казала ёй аб знатнасьці роду, аб вялікіх ягоных заслугах у мінуўшчыне, ужо хаця-б дзеля таго толькі, што „пільнаваў" свайго гнязда.

Пытаецца Флёр: „а што гэта такое "датрываць на становішчы?" Ці гэта азначае, што яны радзілісь і паміралі на гэным месцы па тое, каб якга „датрываць"? І адказвае, што аканчальна найлягчэй, калі чалавек якга жыве і працуе там, дзе радзіўся. Гэта і робіць кажны тутэйшы селянін і ніхто не захопліваецца тым, што селянін „датрываў", што не пакінуў свае мовы беларускае".

Старая графіня паклікаецца тады на пралітую кроў продкаў, на заслугі іхнія і змаганьні ў паўстаньнях. Гэта мала зразумела паамэрыканску ўзгадаванай маладой графіні. На ейны пагляд зусім ня трэба выступаць проці свае ўлады. „Аб тым (паўстачьні) гаворыцца тутака — геройства. Тыя-ж сяляне, што забілі Валерага (другі сын Осенецкае) так сама імкнулісь да нейкае незалежнасьці і яны змагалісь за зямлю. Толькі што ў іх гэта называецца азьвярэласьць. Ці-ж вы ўсётакі ня бачыце, што гэныя зьявішчы сходныя з сабою?"

Ці аўтарка добра ведае ўмовы і лад сялянскага жыцьця тых ваколіцаў, якія выводзіць у сваёй повесьці, сказаць трудна. Хутчэй аднак што не, ня ведае. Калі ведае, дык з птушынага лёту. Яна хоча быць аднолькава об'ектыўнаю і да маладое і да старое Осенецкае і да Валевіча і да ўсіх іншых тыпаў. Об'ектыўная яна між іншым і да праблемы беларускае. Яна стаіць за аснаўныя правы да жыцьця кажнае адзінкі, кажнага народу, яна за права кажнага станавіць самому аб сваім лёсе.

І мо' дзякуючы таму, што ня ведае яна тутэйшага жыцьця ў дэталях, дзякуючы таму, што яна далёкая, ня тутэйшая, пачуцьцёва не зацікаўлена, — дзякуючы гэтаму змагла прадставіць бяз большых пахібаў адну са старон краёвага жыцьця. Яна ня злоўжывае інтэлекту. Аб гэным злоўжываньні гаворыць яна вельмі красамоўна. „Калі падумаць над дзейнасьцю інтэлекту, дык гэта ён паясьняе, апраўдывае тое, што зьдзейсьніла даўно пачуцьцё. Інтэлект па тое, каб абаснаваў нашае дзеяньне, каб успакоіў нашыя сумлівы. Дзеля матывіроўкі, можна казаць, служаць усякія лёзунгі" (бач. 208).

Сьведамасьць аб ролі інтэлекту высказаная ў форме даволі рызыкоўнай, амаль што не парадоксальнай, хай нам паможа знайсьці адказ на сумлівы, як паясьніць такія вялікія разыходжаньні паміж людзьмі ды лёзунгамі дзён „учарашніх" і „сяньняшніх".

---

*ПАЎЛЮК СІРАТА*

## Таварышу маёй вёскі

Можа нашым шляхом ня зыйсьціся, мая дарагая,
іх блакітна-імглістую даль загубілі адзін і другі.
Хай паэт у палоне і ў песьнях сваіх дагарае
і вясьнянае сэрца бароніць ад жудаснай сьліскай тугі.

Мне з вясной разьвітацца і сэрца ня хопіць і нельга, —
я радзіўся з вясны, каб вясьнець да нябыту хвілін.
Помню, помню: мы некалі пышную ружу сустрэлі
і ня ведалі: ружа цьвіла, ці сустрэча і вочы цьвілі.

З тэй сустрэчы цьвітучай сарваў я на памятку радасьць
і да сэрца як бант успамінам на век прышпіліў,
і нясу праз жыцьцё непакорны ні бурам, ні здрадам,
каб і сэрцу цяплей, каб сінелі прыветней палі.

Будзе песьня губіцца ў расьпененых студзеням далях,
да цябе даляціць, — ты хоць раз сірату прытулі.
Цёплай сейбіцкай жменяй мы шчыра жыцьцё раськідалі,
каб вясна расьцьвіла для людзей на пакутнай зямлі.

С. КАЛІНА

# Літаратура ў адносінах да жыцьця

(Глядзі кн. 2(15) і 3(16) „Калосься")

Даходзім такім спосабам да асьвятленьня найважнейшага для нас пытаньня. З дасюлешніх разважаньняў відаць ясна, што ўсякія спробы надаваць літаратурнай творчасьці той ці іншы кірунак супярэчны зь яе істотай не прынясуць пажаданых рэзультатаў, але толькі шкоду. Літаратура, як і кожнае мастацтва, будучае найдасканальшым творам людзкога таленту, павінна быць вольная й незалежная ад ніякіх штучных і нязгодных зь яе характамам агранічэньняў. Будучая мастацкім адбіцьцём жыцьця і яго ператварэньнем у апрычоны артыстычны сьвет, можа з гэтага жыцьця выбіраць свабодна патрэбны для сябе матар'ял. Каліж у дадзеным жыцьцёвым асяродзьдзі, зь якім зьвязаны аўтар, разьвіваюцца і дасьпяваюць тыя ці іншыя ідэі, нейкія грамадзкія праблемы становяцца асабліва важнымі, то і так знойдуць яны належнае адбіцьцё ў літаратуры і будуць мець бясспрэчную перавагу над тымі матывамі, якія ў запраўдным жыцьці зьяўляюцца ў дадзены мамэнт усяго толькі другараднымі й пабочнымі. Што літаратурнае мастацтва само сабой рэагуе перадусім на тыя пытаньні, якія ў жыцьці знаходзяць перавагу, зьяўляюцца найбольш дасьпелымі і балючымі, найлепей можа аб гэтым пасьведчыць уся беларуская літаратура. У сваім дасюлешнім разьвіцьці мела яна ў сабе цэлы рад спэцыфічных і вельмі характэрных рысаў, якія выдзялялі яе спасярод многіх іншых літаратураў, як апрычоную цэласьць. Аснаўной такой асаблівасьцяй нашае літаратуры, зь якой выцякалі ўсе іншыя, было шчырае яе зрадненьне з народным жыцьцём. Можым нават цьвердзіць, што літаратура нашая была нятолькі верным адбіцьцём жыцьця народу ўва ўсіх найважнейшых яго праявах, але так-жа ў вялікай меры рэпрэзэнтавала й заступала тыя галіны народнага жыцьця, якія ў іншых абставінах зь літаратурай мелі-б мала чаго супольнага. Яшчэ да нідаўняга часу адраджэньне й разьвіцьцё літаратуры ідэнтыфікавалася ў нас часта з адраджэньнем і разьвіцьцём народу наагул, — бо ў значнай меры выперадзіла гэтае апошняе — а ідэі і прызывы, выказываныя ў літаратурнай творчасьці, клаліся ў васнову ідэолёгічнай праграмы нацыянальнага й палітычнага руху. Было ўсё гэта падыктаванае ходам самога жыцьця, а ня дзеілася пад уплывам вонкавых дырэктываў і настаўленьняў. Падобны-ж характар мелі таксама некаторыя літаратуры іншых народаў, якія, гэтак як і нашая, пераходзілі этапы свайго адраджэньня раўналежна з адраджэньнем народнага жыцьця.

Ясна тады, што літаратурнае мастацтва, будучае сама ў сабе асобным артыстычным сьветам, не адгараджваецца ад рэальнага жыцьця, але цесна зь ім вяжыцца і чула рэагуе на ягоныя праявы. Усьвядамляючы сабе гэтую яго асаблівасьць, ня трэба аднак забывацца, што, ня гледзячы на ягоную арганічную сувязь з жыцьцём і выдатны ўплыў на апошняе, мусіць быць яно ў першую чаргу мастацтвам, адказуючым усім ведамым ягоным варункам і вымаганьням. Грамадзка-жыцьцёвыя праблемы, зьмешчаныя ў літаратурным творы, павінны быць разгляданы аўтарам не як вартасьці ад літаратуры незалежныя, але выключна, як адныя із мастацкіх элемэнтаў твору, як тыя або іншыя ягоныя матывы ці сымболі, апрацаваныя згодна з артыстычнымі вымаганьнямі і арганічна павязаны зь іншымі элемэнтамі твору. Такая мэтода ёсьць канечнай ня толькі з гледзішча на артыстычную вартасьць твору, але служыць яна так-жа лепшаму выражэньню яго ідэолёгічнага зьместу, надае яму большую трывалкасьць і глыбіню, павялічае ягоную запладняючую сілу. Ідэйны элемэнт, выражаны ў літаратурным творы, апрача свае функцыі соцыёлёгічнай, мусіць так-жа выконываць функцыі артыстычныя, як адзін із арганічных элемэнтаў твору, а ня нейкая прычэпка ці надзвычайны дадатак да гэтага апошняга. Дзякуючы гэтаму будзе ён мець у творы вартасьць непрамінаючую нават і тады, калі-б дадзеная ідэя ці праблема перастала быць у жыцьці актуальнай. І наадварот — ідэолёгічны элемэнт, уводжаны ў літаратуру із выразнай шкодай для яе мастацкасьці, будзе мець мельмі малую, усяго толькі публіцыстычную вартасьць самую ў сабе, якая зьгіне бясьсьледна, як толькі перастане існаваць дадзеная праблема.

Гэтыя апошнія ўвагі зьяўляюцца, думаю, яснымі й ачавіднымі кожнаму, бо вельмі выразна пацьвярджаюцца яны на многіх прыкладах з нашай літаратуры. Цэлае мноства твораў яшчэ з часоў „нашаніўскіх", у якіх дэклямавалася праз усе склоны й на розныя лады аб Беларусі (прыкладам: „Беларусь, ты не загінеш, Беларусь, ты не памрэш!..." і г. д) і ўважалася, што хопіць гэтай дэклямацыі, каб верш быў надрукаваны, а аўтар ягоны дастаў дыплём добрага паэта — як-жа бледнымі й мізэрнымі прадстаўляюцца сяньня. А з другога боку патрыётычныя вершы Купалы, аб якіх была ўжо гутарка, зьяўляюцца таксама перададаванымі ідэолёгічным зьместам, аднак ня гледзячы на гэта нятолькі ня згубілі ані троха із сваей вартасьці, але касуюць сабой усе іншыя ягоныя творы. Другім вымоўным прыкладам, як можна ўдала пагадзіць ідэйныя элемэнты твору зь яго артызмам, зьяўляецца ўся творчасьць Танка, аб чым шырака мы высказаліся на іншым месцы. Купала й Танк прадстаўляюць вельмі цікавы прыклад „упоэтызаваньня" ідэйнага зьместу яшчэ дзеля таго, што конкрэтызуюць яго ў сваіх творах зусім розна: ідэі Купалы выступаюць у творах беспасярэдна ў форме магутных лёзунгаў і прызываў, тады, калі ў Танка пераважна выплываюць яны арганічна із намаляваных у творы абразоў і сытуацыяў. Ня гледзячы на гэтыя розьніцы, так адзін, як і другі умеюць містэрна падпарадкаваць іх артыстычным вымаганьням твору.

Далейшай справай, зьвязанай з гэтым пытаньнем, якую тут трэба закрануць, ёсьць нутраное настаўленьне аўтара адносна апісванага ім жыцьця, яго асабістыя псыхолёгічныя адносіны да праблемаў і зьявішчаў, якія стараецца паказаць у літаратурным творы. Справа ў тым, што ўсё тое, аб чым аўтар гаворыць, што апісывае і да чаго заклікае, мусіць выплываць зь яго глыбокіх асабістых перакананьняў, як вартасьць ім самым перажытая і пачуцьцёва яму блізкая. На гэты апошні мамэнт клаў асаблівы націск нядаўна памёршы выдатны ангельскі пісьменьнік Язэп Конрад, які пісаў 28.X. 1895 г., да Эдварда Нобля, што артысту трэба „кожнае ўражаньне, кожную думку, кожны абраз папросту выціснуць зь сябе — бяз літасьці і без астачы. Трэба ператрэсьці найцямнейшыя куткі свайго сэрца, апошнія каморкі свайго мозгу; трэба ўсё гэта прасачыць, гонячыся за абразом, даючым поўную оптычную ілюзію, за адпаведным выражэньнем. І трэба рабіць гэта за ўсякую цану шчыра; трэба паступаць так, каб з канцом дзеннае працы чуўся вычарпаным, апарожненым з усякага пачуцьця, з усялякай думкі, з пустой галавой і з балючым сэрцам, з адчуцьцём, што нічога — зусім нічога не асталося ўжо ў табе“.

Ды ня толькі павінен згаджацца з самым сабой, із сваім сумленьнем паэт ці пісьменьнік, рэалізуючы свае мастацкія пляны, але ў ня меншай так-жа меры мусіць ён быць у згодзе з акружаючым жыцьцём, а не цягнуцца ад яго з-заду або замыкацца ў штучна створаным абстракцыйным сьвеце. Літаратура ў тым толькі прыпадку будзе мець вялікую творчую сілу і трывалкасьць, калі вырастае беспасярэдна з жыцьцёвых нетраў і ў разьвіцьці сваім не адрываецца ад магутных хваляў жыцьця, якія бурляць у масах. Усякі-ж ненатуральны адскок ад ходу жыцьцёвых працэсаў зьяўляецца роўназначным з упадкам літаратуры, у найлепшым-жа прыпадку — вядзе яе на бездарожжа. Гэтае апошняе зьявішча можам назіраць з асаблівай яркасьцю ў розных буржуазных літаратурных кірунках, якія разьвіваюцца сярод слаёў грамадзянства, што з гледзішча грамадзкага зусім ужо перажыліся і адарваліся ад здаровых каранёў бягучага жыцьця. Літаратура такая, згубіўшы сувязь з рэальнасьцю, зьяўляецца бясплоднай і ня мае аніякага творчага ўплыву на грамадзянства. Пераважна бывае яна пазбаўленая шчырага й сьвежага эмоцыянальнага падкладу, над якім пераважаюць сухія інтэлектуальныя элемэнты; калі-ж і прабіваюцца часамі некаторыя пачуцьці, то бываюць яны пераважна конвэнцыянальныя, у большай ці меншай меры штучныя, заакцэнтаваныя ўсяго толькі для асягненьня вонкавага эстэтычнага эфэкту. З такога падыходу да літаратуры выплываюць знаныя сяньня кірункі, якія, зусім адарваўшыся ад жыцьцёвага зьместу, займаюцца ўсяго толькі фармальнымі экспэрымэнтамі.

Беларускай літаратуры фактычна яшчэ не пагражала і не пагражае гэтая небясьпека, бо была яна заўсёды арганічна



зьвязанай з найважнейшымі працэсамі, якія разьвіваліся ў народзе. была заўсёды творчая й паступовая ў васносінах да праяваў і патрэбаў рэальнага жыцьця. Тая невялічкая частка нашага грамадзянства, якая з тых ці іншых прычынаў зрывае сваю арганічную лучнасьць з жыцьцём, што бурліць у народных масах, дзякуючы спэцыяльным сяньняшнім абставінам перастае гэтым самым быць беларускім грамадзянствам, дык і ня можа мець ані беспасярэдняга ўплыву на літаратуру. Пры гэтым, каб быць беларускім паэтам у сяньняшніх варунках, трэба праўдзівага геройства, дык ясна, што ніхто зь пішучых не заглядаецца на сваю працу выключна, як на нейкі вырафінаваны экспэрымэнт, пазбаўлены глыбейшага жыцьцёвага сэнсу. Але паколькі ня можа быць сяньня ў нас мовы аб нейкай дэгэнэрацыі літаратурнага мастацтва альбо яго сьвядомым адрываньні ад найважнейшых плыняў цякучага жыцьця, патолькі здараюцца часамі выпадкі неразуменьня таго, што трэба сьмела глянуць жыцьцю ў вочы і браць яго такім, якім яно ёсьць. Замыканьне вачэй на некаторыя праявы нашага сяньняшняга жыцьця, хаця й жудасныя й балючыя, і ўцяканьне ад яго ў выабражаны шчасьлівейшы сьвет вядзе іменна да аслабленьня альбо й разарваньня сувязі літаратуры з жыцьцём. Гэтак сама мала ўсяго толькі кідаць актуальныя грамадзкія прызывы і дэклямаваць аб народных балячках і патрэбах, калі ўсё гэта не знаходзіць моцнага апорышча ў ідэйным падкладзе цэлага твору альбо ў псыхічным настаўленьні самога аўтара.

## 3

## Крытэрыі артыстычнае ацэны літаратурнага твору

Літаратурны твор, якога заданьнем зьяўляецца выклікаць у чытача тыя ці іншыя эстэтычныя перажываньні, можа так-жа, як бачым, закранаць розныя жыцьцёвыя праблемы і ідэі і іх накідаць чытачу. Наперакор некаторым тэорыям, баронячым „чыстасьці“ мастацтва, многія аўтары стараюцца рэалізаваць у сваіх творах іменна гэтае другое пытаньне, прыступаюць да пісаньня маючы наўвеце гатовую ўжо праблему, якой сьвядома хочаць надаць нятолькі эстэтычнае выражэньне, але роўналежна з гэтым ці пры помачы гэтага — зрабіць уплыў на грамадзянства. З усім гэтым, ясна-ж, трэба лёяльна лічыцца, а не ваяваць зь вятракамі, адмаўляючы ўпорыста адной ці другой эвэнтуальнасьці права да жыцьця.

У сувязі з гэтым астаецца яшчэ адно вельмі важнае пытаньне, на якое пастараемся крыху кінуць сьвятла. Дзеля таго, што існуюць літаратурныя творы зь ідэолёгічным зьместам, якія, апрача сваей эстэтычнай вартасьці, даюць чытачу адпаведнае асьвятленьне важных для яго жыцьцёвых пытаньняў, і творы, пазбаўленыя ідэолёгічнага элементу, то можна зрадзіцца шмат у каго перакананьне, што павінны існаваць крытэрыі ацэны літаратурнага твору з гледзішча ўсяго толькі на ягоную тэматыку,

г. зн. з гледзішча на тое, аб чым гаворыцца ці апісваецца ў творы. Сучасная навука аб літаратуры, бяручы пад увагу яе аўтономічнасьць, г. зн., што літаратура сама ў сабе прадстаўляе апрычоны мастацкі сьвет, ня бачыць у гэтым аніякай розьніцы, цьвердзячы, што артыстычная вартасьць твору не залежыць ад таго, што ў ім сказана, але выключна ад таго, як сказана, г. зн. ад спосабу і характару мастацкага апрацаваньня твору. Ня можа гэтаму запярэчыць нават і той факт, што, як часамі на першы пагляд можа выдавацца, тэмы, зусім арыгінальныя й новыя ў літаратурным творы, могуць прадстаўляць ужо гэтым самым большую вартасьць за тэмы агульназнаныя, паўтараныя ў цэлым радзе літаратурных твораў і дзеля гэтага — збаналізаваныя. Ня трэба аднак забывацца, што гэтая „банальнасьць“ залежыць выключна ад спосабу артыстычнага апрацаваньня тэмы, а не ад яе самой. Вельмі добра гэта пацьвярджае сучасная літаратура, якая любіць аднаўляць старыя тэмы й матывы, знаныя й характэрныя для даўнейшых літаратурных эпохаў. З мастацкага гледзішча ня можна ім аднак нічога закінуць, бо спосаб іх артыстычнага апрацаваньня і ўняцьця зьяўляецца зусім новы й арыгінальны, які ня мае нічога супольнага з апрацаваньнем традыцыйным.

Каб усьцерагчыся непаразуменьняў, трэба адцеміць, што гаворачы ўсьцяж аб вартасьці літаратурнага твору, маем наўвеце толькі літаратурную ягоную вартасьць, а ня нейкую іншую. Што нікаторыя літаратурныя творы могуць так-жа мець вартасьць пазалітаратурную, як вартасьць грамадзкую, нацыянальную, маральную, этычную і г. д., у залежнасьці ад таго, ці апісываюць і ў належны спосаб асьвятляюць успомненыя праблемы, гэтага ня маем патрэбы пярэчыць. Напасьледак была ўжо аб гэтым мова вышэй. Калі-ж аднак задзержываемся так доўга над гэтым заблытаным пытаньнем, то ходзіць толькі аб тое, ці літаратурны твор, дзякуючы свайму ідэолёгічнаму зьместу, мае, апрача тэй ці іншай пазалітаратурнай вартасьці, так-жа большую вартасьць артыстычную, ці, разьвіваючы перад чытачом нейкую блізкую яму праблему, выклікае гэтым самым глыбейшае эстэтычнае перажываньне?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, няма патрэбы шукаць спэцыяльных доказаў, бо мусілі-б тады паўтарыць амаль усё вышэйсказанае. З дасюлешніх разважаньняў аб істоце літаратуры і яе аўтономічнасьці сярод іншых зьявішчаў, будучы плодам людзкога таленту, вынікае ясна, што ня можа быць ніякай *абсалютнай* розьніцы ў вартасьці літаратурнага твору ў залежнасьці толькі ад таго, што гэты твор у сабе апісывае. Затое ў некаторых прыпадках можа быць між імі розьніца *адносная,* калі апісаны ў творы факт ёсьць сам па сабе для нас асабліва блізкім, прамаўляе глыбей да нашай пачуцьцёвасьці і выклікае багатшыя перажываньні. Гэтак напрыклад *Тры песьні* Танка, якія для кожнага будуць выдавацца творам няштодзеннай мастацкай



якасьці, асабліва зьяўляюцца блізкімі беларускаму чытачу, бо закранаюць пытаньні нязвычайна для яго балючыя й важныя. Іншая справа, што сам спосаб прадстаўленьня гэтага пытаньня зьяўляецца ў Танка нязвычайна сугэруючым, што ўжо адносіцца да артыстычнага апрацаваньня тэмы. У кожным прыпадку няма сумлеву, што літаратурны твор, заснованы на матар'яле пачуцьцёва блізкім чытачу, выкліча ў ім глыбейшыя й багатшыя эстэтычныя перажываньні.

Гэты „матар'ял пачуцьцёва блізкі чытачу“ не абавязкава мусіць агранічвацца ўсяго толькі да ідэолёгічнага зьместу твору ці нейкай праблемы, асабліва важнай у грамадзкім жыцьці. Наадварот, паняцьце гэтае можа ахопліваць вялікі круг розных іншых зьявішчаў, якія для чытача прадстаўляюць асаблівую пачуцьцёвую вартасьць. У кожным аднак прыпадку зьяўляецца гэтая вартасьць адноснай, бо тое, што можа аднаму выдавацца пачуцьцёва блізкім, другому будзе раўнадушным, а яшчэ іншаму зусім далёкім і чужым, а ведаем, што з чыста суб'ектыўных паглядаў і адчуваньняў ня можым выводзіць ніякіх абсалютных увагульненьняў, роўна абавязуючых кожнага. З другога боку энтузыястам ідэйнасьці літаратуры не зашкодзіць ведаць, што нятолькі творы із выразным ідэолёгічным зьместам могуць выклікаць адказуючыя яму перажываньні ў чытача, але нярэдка так-жа й такія творы, каторыя зьяўляюцца яго пазбаўленыя. Не заўсёды лёгка ў сувязі з гэтым азначыць, што іменна зьяўляецца ідэйным элемэнтам літаратурнага твору, а што не, бо й гэтыя два паняцьці зьяўляюцца да некаторай меры даволі адноснымі. Гэтак напрыклад вышэй пераліченыя вершы Купалы бясспрэчна вызначаюцца глыбокім ідэйным элемэнтам, які дзякуючы мастацкай канкрэтызацыі нязвычайна жыва прамаўляе да чытача. Але часамі ня меншыя выклікае ў нас грамадзкія пачуцьці й беларуская народная песьня, апісаньні беларускіх краявідаў у *Новай зямлі* Коласа і Танкавай *Нарачы,* хаця ў вапісаньнях гэтых ідэйнага элемэнту ў тым значэньні, як у Купалы, ня знойдзем із сьвечкай.

Гэты просты прыклад, але як-жа вымоўны, пераконывае нас, што ня можна звужаць і ўпрошчываць некаторых паняцьцяў, якія ў істоце сваей зьяўляюцца даволі скамплікаваныя і вымагаюць больш далікатнага да іх падходу. Гэтак і ў дадзеным прыпадку: — зь вершаў Купалы выліваюцца думкі й пачуцьці беспасярэдна, іншыя-ж творы, прыведзеныя тутака, родзяць у нас адпаведныя перажываньні толькі дзякуючы блізкім асацыяцыям між тым, што ў іх апісываецца, а тым, з чым зьяўляюцца ў прычыновай сувязі: артыстычна паказанае вонкавае хараство Беларусі, а так-жа блізкая кожнаму з нас мэлёдыя народнай песьні актуалізуюць нашую любоў і пачуцьцёвую сувязь з родным краем.

* * *

З усіх нашых разважаньняў аб адносінах літаратуры да канкрэтнага жыцьця і аб адбітай у ёй запраўднасьці выплывае яшчэ адна пасярэдняя ўвага, але ня менш важная. Літаратура, як мы ўжо бачылі, адбівае ў сабе рэальны сьвет у вельмі розных і багатых аспэктах, гэтак сама і яе становішча адносна гэтага сьвету і ўплыў на яго зьяўляюцца вельмі скамплікаванымі і не зьмяшчаюцца ў вадных і тых самых рамах для кожнага новага прыпадку. Кожны літаратурны твор, а нават кожнае ў ім зьявішча, хаця й падлягаюць аснаўным законам, кіруючым мастацкім жыцьцём, зьяўляюцца самыя ў сабе зьявішчамі адзінымі й непаўтаральнымі, бо кожныя наступныя будуць мець іншы характар, іншыя асаблівасьці. Дык і ў інтэрпрэтацыі і ацэне іх трэба заглядацца на кожны літаратурны твор, як на вартасьць да некаторай меры зусім новую і ад іншых незалежную, высьцерагаючыся ўсякіх упрошчываньняў і схэматычнасьці.

*(Канец)*

---

*А. ДУБРОВІЧ*

* * *

— Гэй, віхор шырокакрылы,
падарожнік няпрытульны,
дзе зьвіваў ты хмарам грывы,
дзе спраўляў свой лёт разгульны?

Раскажы, што ў сьвеце бачыў,
скрось—на захадзе й на ўсходзе, —
крумкачы аб чым дзе крачуць,
аб чым весткі ў сьвеце ходзяць? —

— Быў далёка я за морам,
цалаваўся з акіянам,
на сваіх сьнyговых горах
я гуляў з вясельлем п‘яным.

І на захадзе й на ўсходзе
сьвет грыміць і звоніць стальлю,
сьмерць шалёны скок заводзе,
жыцьцё ломячы бяз жалю.

Гэй, там ёсьць чаму паўчыцца!..
сам вучыць — ня маю часу...

І віхор далей імчыцца
без спачынку, без папасу.



*АД. СТАНКЕВІЧ*

# З літуанізмаў у беларускай мове

## В.

**Вушак**—верхні брус, наддзьверны касяк; літ. **ušokas**—тое-ж.
**Выметвацца** — выкідвацца, выкручвацца, скакаць бяз толку, махаючы галавой, рукамі, нагамі й усім целам; непаважны гэта хлапец: выкідваецца ён, выметваецца; літ. **mesti**, (meta, metė) — кідаць, кінуць, выкінуць, выкідваць, адкідаць, адкінуць, **metus** — няўежджаны, ськіваючы з сябе чалавека, конь.
**Вайдавацъ, вадзіцца** — спрачацца, гневацца (з кім), калаціцца, у нязгодзе з кім жыць; літ. **vaidas** — звадка, калатня, спрэчка.
**Вайцяць** — прабіраць, лаіць каго, крычаць на каго; літ. **vaitoti** — стагнаць, наракаць.
**Венцер**, венцяры — рыбалоўная прылада з ніцяной сеткі на абручах; літ **venteris** — тое-ж.
**Віляць** — махаць, выкручваць чым; сабака хвастом віляе; ня быць шчырым у гутарцы, у паступках, укрываць праўду; ён нешта віляе, праўды ня кажа; літ. **vilioti** (vilioja, viliojo)—вабіць, падманваць, спакушаць, **vilius** — абман, злы намер, падход з ашуканствам.
**Валіць** сукно ў валюшы, намачваць і ўбіваць; літ. **valyti** — чысьціць, ачышчаць, прачышчаць; **velėti** — біць пранікам, мыючы хусьцё, мыць, калаціць.
**Валюш** — будынак, дзе прылады, каб валіць; літ. **veliušis**. Хоць валіць і валюш могуць паходзіць ад славянскага: валіць, звальваць у кучу, адгэтуль расейскія **валенкі**.
**Вэркі** — меснасьць пад Вільняй: літ. **verkti** — плакаць, легенда кажа, што Вітаўт Вялікі палюючы, калі тут былі непрайдзімыя лясы, знашоў у лесе пакінутае плачучае дзіця і затым гэту меснасьць назваў Вэркамі.
**Вяпла** — разявяка, апоўзьлік, разінка; літ. **vėpla** — тое-ж.
**Вашкель, Вашковіч** — прозьвішчы; літ. **vaškas** — воск. Хоць можа быць ад **Іван** — **Івашка**.
**Валэндацца** — дарма час траціць, нічога не рабіць, бадзяцца, цягацца з мейсца на мейсца; літ. **valanda** — гадзіна, праводзіць гадзіны.

## Г.

**Гіль** — авадзень, гілёсы, гіляваць; літ. **gyloti**, **gylinoti** — гіляваць, бегаць падчас сьпекі (аб скаціне), гарачыня — скаціна гілюе; літ. **gylys** — авадзень, жыгала, **gilti** — калоць, раніць тонкім вострывам, жыгаць, джгаць, стрыкаць, адносіцца да пчалы, зьмяі, крапівы.
**Гейстуны** — сяло недалёка ад Барун; літ. **geisti** — сільна чаго жадаць, прагнуць, **geistinas** — той, каго трэба жадаць.

**Грэбля** — гаць, насып, стаў; літ. **gruoblė** — купіна, **gruoblyne**, **gruoblins** — поўнае купінаў, выбоінаў месца, дарога. Апрача гэтага ў Беларусаў гэтае слова абазначае так-жа дарогу ці месца агулам нізкое, балотнае.

**Гаўя** — чыгуначная станцыя недалёка ад Ліды; літ. **gauja** — таўпа, мноства людзей, стада (сабак, ваўкоў), банда, шайка.

**Гайлешы** — сяло Крэўскай вол.; літ. **gailėtis** — каяцца, раскайвацца, жалець чаго, шкадавацца.

**Гудаўшчына** — сяло Гальшанскай вол.; літ. **gudas** — Беларус, **Gudai** — Беларусы, **Gudija** — Беларусь, **gudėti** — беларусець, словам gudas літоўцы часам называюць не-літоўцаў агулам, прынамсі так было даўней.

**Гурштын (овіч)** — прозьвішча ў в. Шутавічы пад Смургонямі і ў в. Арленяты ў Крэўскай вол.; літ. **gursti** (gursta, gurdo) — не сьпяшыць, ацягвацца, траціць час, вянуць, слабець, гінуць, дохнуць.

**Груца** — ячменныя буйныя крупы, крупяная каша, крупнік; літ. (з нямецкага) **gruce** — ужываецца ў тым-жа самым значэньні.

**Гнібіць** — уціскаць, крыўдзіць, гнясьці; літ. **gnybti** — шчыпаць, шчапіць, сьціскаць шчыпцамі. Але так-жа можа быць ад слова — **гнёт, гнясьці**.

**Гуня, гунька** — суконная посьцелка, пераважна для накрываньня коней. Пакрый гунькай (гуняй) каня; літ. **gunia** — значэньне тое-ж самае.

**Гулта** — сьвіная пасьцель, папраў сьвіням гулта. Твая пасьцель, як сьвіное гулта; літ. **gultas, (gulta)** — пасьцель, ложка, лаговішча, **gulti** — легчы, класьціся, налягаць, зьлягаць.

**Граўжышкі, Гроўжышкі** — мястэчка ў Ашмянскім пав.; літ. **graužikas** — грызун, **graužymas** — дакоры сумленьня, **graužynas** — пяшчанае месца, шчэбель.

**Гервяты** — мястэчка на ўсход ад Вільні; літ. **gervė** — жураў.

**Грыгеляны** — сяло на ўсход ад Ашмяны; літ. **Grigas** — Рыгор.

**Гінеўцы, Гінёўцы** — сяло там-жа; літ. **gynioti** — бараніць, абараняць, забараняць.

**Гудзеняты** — сяло між Ашмяной і Барунамі; літ. **gudinti** — прывучаць, **gudiniai** — дробная цыбуля.

**Гарэцкаўшчына** — двор і сяло Гальшанскай вол., між Багданавам і Барунамі; літ. **garėti** — параваць (калі пара з чаго выходзіць), выдыхацца, сохнуць (аб чалавеку), **gorė** — гаршчок з тлеючымі вуглямі, **gorėti** — пячы ў горле, калі што вострае зьесьці, пяршыць.

**Гàліцца** — сільна чаго жадаць, упорыста да чаго імкнуцца. Карскі выводзіць ад літ. **galeti** — магчы, быць у сіле, **galimas** — магчымы.

**Галіна** — ветка; **літ. galinis** — канцавы, канчатны, крайні: **galinis** — мізінец.

**Гудагай** — чыгуначная станцыя за Нова-Вялейкай; літ. **gudas** і бел. **гай**: беларускі гай.



М. ШКЯЛЁНАК

# Прадмет беларускае гісторыі

Што мае быць прадметам гісторыі Беларусі? У прынцыпе адказ на гэта пытаньне ёсьць просты: *беларуская гісторыя павінна даць абраз мінуўшчыны беларускага народу і з гэтай мэтай заняцца сыстэматычным вывучэньнем гістарычных фактаў, павязаць іх ніткай прагматызму, а напасьледак даць сынтэтычны агляд гістарычных падзеяў.* Практычнае апрацаваньне гэтых задачаў напатыкае, аднак, на перашкоды падвойнага характару, якія прымушаюць беларускага гісторыка, прынамся сучаснага, iсьці ў кірунку агранічэньня менаваных заданьняў. Першая перашкода дыктуецца агульным станам гістарычнае навукі, ясьней — гістарычнае мэтодолёгіі, другая залежыць ад варункаў спэцыфічна беларускіх: стану жаролаў беларускае гісторыі, дасюлешняе беларускае гісторыёграфіі.

Сутнасьць першае прычыны зьмяшчаецца ў тым, што гістарычная мэтодолёгія яшчэ не дайшла да тае дасканаласьці, якая-б дазваляла гісторыку безаглядна ёй карыстацца. Нясучы сьвятло ў цёмныя закуткі мінуўшчыны, гісторык павінен пільна зважаць, ці ён ідзе тым шляхам, які найлепш дазваляе ўбачыць гэтыя куткі, а значыцца павінен усьцяж аглядацца на тасаваны ім мэтад.

Значэньне апошняга выявіцца ужо пры пляновай сэгрэгацыі гістарычнага матарыялу, ад якой залежыць паўніня малюнку мінуўшчыны, а яшчэ ў большай ступені пры шуканьні залежнасьці між здарэньнямі, інакш пры іх тлумачэньні. Дасьледчык, нават нацыянальнай гісторыі, мае перад сабой вялікае мноства гістарычных фактаў, важных і няважных, якія трэба разьбіць на групы і выбраць найбольш характэрныя для намаляваньня абразу пережытых народам падзеяў. Але гэта групаваньне павінна адбывацца паводле пляну, абымаючага тыя кірункі жыцьця народу, якія ў сваей суцэльнасьці далі-б найбольш дасканальны і праўдзівы малюнак мінуўшчыны.

Якія-ж гэта маюць быць кірункі?

На працягу шэрагу стагодзьдзяў зацікаўленьне гісторыкаў абмяжоўвалася толькі палітычнымі падзеямі, войнамі, рэвалюцыямі і адпаведна да гэтага дабіраліся гістарычныя факты. Сама гісторыя разумелася, як літаратурнае апавяданьне аб менаваных здарэньнях, з тэндэнцыяй да навучаньня сучасьнікаў. Гэткі стан гісторыі ёсьць характэрны для клясычнае Грэцыі, Рыму, сярэднявечча, гуманізму аж да пары француского рацыяналізму з канца XVIII ст. Філёзафы-рацыяналісты не займаліся гісторыяй, як такой, а бачылі ў ёй толькі адзін з сродкаў да пазнаньня жыцьця чалавецтва, галоўна яго сэнсу і кірунку. З гэтай мэтай яны сыстэматызавалі адпаведна і гістарычны матарыял, адкіда-

ючы тую яго частку, якую лічылі нехарактэрнай, чым абясцэньвалі масу гістарычных фактаў. З другога аднак боку гэткі пагляд на гісторыю прымушаў рацыяналістаў пашырыць яе рамы ў кірунках дагэтуль ігнараваных. Яны заінтэрасаваліся ня толькі фактамі палітычнага і ваеннага характару, але і эвалюцыяй навук, мастацтва, звычаяў і г. д. Запраўдным зьместам гісторыі падаўнейшаму былі палітычныя і ваенныя падзеі, але ўсё часьцей да апавяданьняў аб іх дадаваліся агляды „поступаў чалавечага духу". Дасьледваючы агульны сэнс жыцьця чалавецтва, рацыяналісты ня шукалі яго ў самой гісторыі, а толькі ў сваіх філёзофічных канцэпцыях. Гэты знойдзены „сэнс" яны ўносілі ў гісторыю і адпаведна да яго сыстэматызавалі гістарычны матарыял. На гэтай аснове працы іхнія ёсьць тэндэнцыйнымі, але сам факт увядзеньня сыстэматызацыі гістарычнага матарыялу і пашырэньне межаў заінтэрасаваньня гісторыі ёсьць вялікай заслугай філёзафаў-рацыяналістаў.

Раз выйшаўшы з традыцыйнага кругу зацікаўленьня, гісторыя ўжо не затрымоўваецца ў пашырэньні яго межаў і абхоплівае найшырэй праявы жыцьця народу.

Сяньня ад нацыянальнае гісторыі вымагаецца вывучэньня ня толькі войнаў і палітычных падзеяў, але і *матарыяльных умоваў жыцьця народу, яго культуры, эканамічнага быту, грамадзкіх і гаспадарственных установ*. Пашырэньне ў гэтых кірунках гістарычных досьледаў дасьць у рэзультаце больш менш поўны абраз перажытага народам. Само праз сябе разумеецца, што пасьпех гістарычных досьледаў абмяжаваны колькасьцю і якасьцю дайшоўшага да нас матарыялу. Найлепшыя пляны астануцца толькі плянамі, калі няма матарыялу. *Гісторыя Беларусі павінна абняць менаваныя галіны народнага жыцьця*, каторыя з гледзішча сучаснае мэтодолёгіі і патрэб грамадзянства дастаткова характарызуюць абраз мінуўшага.

Азначэньне межаў заінтэрасаваньня гісторыі, пляновая сэгрэгацыя гістарычнага матарыялу — гэта першае заданьне гісторыка. Наступным будзе тлумачэньне гістарычных фактаў, інакш шуканьне між імі прычыновае сувязі. Толькі ў вадносна рэдкіх прыпадках запраўдныя прычыны гістарычных фактаў пераказалі нам тагачасныя наглядчыкі. У бальшыні прыпадкаў гісторык сам павінен шукаць гэтых прычын, каб павязаць факты ніткай прагматызму. Гэта важная мэтодолёгічная квэстыя перажыла вялікую эволюцыю, зь якой неабходна пазнаёміцца, каб на яе фоне ўцяміць дасюлешнія памылкі гістарычнае мэтодолёгіі з гэтага гледзішча і азначыць шлях найбольш правільнага навукова спосабу шуканьня прычын гістарычных фактаў.

Ад пачатку гісторыі і амаль да палавіны XIX ст. гісторыкі тлумачылі факты, як рэзультат дзеяньня нейкіх надпрыродных сілаў. Гэткім парадкам паўстала некалькі тэорыяў, апёртых на шуканьні прычын гістарычных зьявішчаў не ў самой гісторыі, а навонкі яе. Найстарэйшая зь іх — *тэолёгічная*, меўшая сваіх



прадстаўнікоў нават да апошніх часоў,—лічыць, што гістарычнымі зьявішчамі кіруе надпрыродная, боская сіла, якая вядзе ўсё да празначанай Богам мэты. Але гісторык не патрабуе шукаць першае прычыны або апошняе мэты існуючага.

З гэтага мэтафізычнага жарала выплывае і гэгельянская *тэорыя ідэй*, каторыя зьдзейсьніваліся ў гісторыі паступова за пасярэдніцтвам зьмяняўшых адзін другога народаў. Гэтыя ідэі, як-бы жывыя істоты, мелі быць прычынамі гістарычных падзеяў. Тэорыя гэта аджыла свой век, але водгукі яе існуюць яшчэ і сяньня ў форме г. зв. гістарычных місыяў, прыпісваных народам, або асобным адзінкам.

У лучнасьці з тэорыяй ідэй была і *тэорыя разумнага характару гісторыі, або тэорыя няўхільных прычын*, каторая казала, што ўсялякі рэальны гістарычны факт адначасна ёсьць разумным, г. ё. згаджаецца з разумным плянам усяго існуючага. Паводле гэтай тэорыі ўсякі сацыяльны факт мае raison d'etre у разьвіцьці грамадзянства, інакш, што ўсё дзеіцца выгадна для грамадзянства. Тэорыя гэта надта аптымістычная, але не навуковая, бо сама нават абсэрвацыя існуючага хутчэй даказвае праціўнае.

Гэткай-жа аптымістычнай ёсьць і *тэорыя бязупыннага і неабходнага прагрэсу чалавецтва*, выплываючая з таго-ж самага паняцьця аб разумным кіраваньні сьветам. Хоць гэта тэорыя была прынята пазытывістамі, але ейны мэтафізычны характар аж надта відавочны. „Прагрэс" у звычайным разуменьні ёсьць ня што іншае, як суб'ектыўнае выражэньне, якім азначаюцца карысныя для нас зьмены. Але калі-б узяць гэта слова і ў ваб'ектыўным сэнсе („павялічэньне размавітасьці і каардынацыі зьявішчаў"—як кажа Спэнсэр), дык вывучэньне гістарычных фактаў не паказвае на бязупынны прагрэс чалавецтва, а толькі на чародныя поступы, побач з заняпадам, і не дае ніякіх асноў прыпісваць гэтыя поступы нейкай сталай прычыне, свомай усяму чалавецтву, а не шэрагу мясцовых прыпадковых здарэньняў.

Пералічаныя тэорыі, аб'ясьняўшыя гістарычныя факты з помаччу мэтафізыкі, былі разьбіты г. зв. „гістарычнай школай" у Нямеччыне, якая стварыла собскую тэорыю, шукаўшую прычын не ў надпрыродных сілах, *а ў самым грамадзянстве*. Тэорыя гэта пэрсаніфікавала грамадзянства, прыпісвала яму спэцыяльны *тэмпэрамэнт*, асаблівы *геній* нацыі або расы, каторы праяўляецца ў розных галінах людзкой дзейнасьці і тлумачыць іхнюю ўзаемную сувязь. Гэткім парадкам прычын гістарычных зьявішчаў, перажытых паасобным народам, паводле прадстаўнікоў гістарычнае школы, трэба шукаць у істоце самога народу. Гэткі пагляд быў значным поступам, але прадстаўнікі гістарычнае школы, пэрсаніфікуючы грамадзянства і прыпісваючы яму, быццам жывой істоце, асобную сілу да разьвіцьця, ня стрымаліся на гэтым і пачалі ажыўляць іншыя адарваныя паняцьці (напр. закон, слова, абрад, догмат). Гэтыя ажыўленыя абстракцыйныя

паняцьці мелі як-бы собскую сілу, пхаючую іх да эволюцыі. Пачалі казаць аб жыцьці і выміраньні слоў, догматаў, установ і г. д. Гэткім парадкам побач з гістарычнымі фактамі стварыўся цэлы сьвет фікцыйных істотаў. Каб пазбыцца гэтай мітолёгіі, ня трэба шукаць прычын гістарычных фактаў у ведарваньні ад іх канкрэтнае асновы — думаючых і дзеючых індывідуумаў. А калі і карыстацца абстракцыйнымі назовамі, дык трэба асьцерагацца ўсякае мэтафоры, якая прыпісвала-б ім дзеяньні жывых істотаў.

Побач з гэтымі мэтафізычнымі і мэтафорычнымі тлумачэньнямі гістарычных працэсаў былі спробы пры дасьледваньні прычын тасаваць клясычны мэтад прыродных навук — *параўнаньне раўналежных радоў* наступаючых па сабе фактаў дзеля высьвятленьня, каторыя зь іх спатыкаюцца заўсёды разам. Аднак, існаваньне двух фактаў у некалькі радох не даказвае яшчэ, што адзін зь іх ёсьць прычынай другога, бо абодвы могуць быць рэзультатам нейкай іншай прычыны.

Напасьледак трэба зацеміць, што даволі паважнае значэньне ў тлумачэньні гістарычных фактаў здабыў сабе *эканамічны* мэтад, каторы прымушае шукаць прычын перажытых дадзеным грамадзянствам падзеяў у яго эканамічнай структуры.

Ужо само павярхоўнае пералічэньне спосабаў, якімі гісторыкі стараліся і стараюцца тлумачыць гістарычныя факты, паказваюць на іхнюю разнаякасьць, а гэтым самым і на іхнюю недасканальнасьць. Мэтодолёгічнае дасьледваньне прычын якогась факту патрабуе аналізы варункаў, у якіх ён адбыўся, да чаго патрэбна добрая знаёмасьць гэтых варункаў. А падобнае знаёмасьці ў гісторыі якраз і нямашака, дзеля чаго прыходзіцца адмовіцца ад высьвятленьня прычын з помаччу простага мэтоду, як гэта адбываецца ў іншых навуках. Аб прычынах фактаў гісторыкі даведваюцца або ад аўтараў дакумэнтаў, наглядаўшых факты, або па аналёгіі з прычынамі, дзеючымі ў сучаснасьці і нагляданымі кожным з нас. Аўтары дакумэнтаў пераказалі прычыны толькі *паасобных* нагляданых імі фактаў. Не маглі яны перадаць прычын *агульных* перамен, *агульных* фактаў. Каб дасьледваць прычыны агульных фактаў, гісторык можа карыстацца толькі *аналёгіяй* між сучаснасьцю а мінуўшчынай, пры помачы беспасрэднага нагляданьня перамен у сучасных грамадзянствах.

Мэтад гэткага дасьледваньня, прапагаваны ў Францыі праф. Ланглуа і Сэньёбос'ам, хоць яшчэ ня зусім скрысталізаваўся, але ў асновах сваіх выдаецца найбольш правільным. Галоўныя яго асновы паводле гэтых вучоных зьмяшчаюцца ў наступным:

1) Каб дабрацца да прычын узаемадзеяньня розных прывычак у грамадзянстве, трэба адкінуць абстракцыйную форму, якую гэтыя прывычкі прыймаюць у мове дакумэнтаў (догмат, закон, установа), а дабрацца да рэальных, канкрэтных цэнтраў, якімі заўсёды ёсьць думаючыя і дзеючыя людзі. Толькі ў іх лучацца розныя роды дзейнасьці, азначаныя абстракцыйнымі паняцьцямі. Узаемадзеяньне гэтых родаў тлумачыцца або нейкай пануючай *прыкметай* чалавечае натуры, або *сытуацыяй* людзей, каторая адбіваецца на праявах іхняе дзейнасьці. Узаемная залежнасьць ня можа быць аднолькавай між рознымі родамі дзейнасьці: яна будзе вялікшай там, дзе адзінка знаходзіцца ў цеснай сувязі з масай (эканамічнае, палітычнае, сацыяльнае жыцьцё) і слабейшай у галінах умысловае дзейнасьці, дзе асабістая ініцыятыва праяўляецца свабадней (мастацтва, навукі).

2) Каб дабрацца да прычын эволюцыі, трэба так-жа зьвярнуцца да адзіных істотаў, каторыя могуць пасьлядоўна разьвівацца, паіменна да людзей. Прычынай усякае эволюцыі ёсьць перамена або ў *матарыяльных абставінах існаваньня* або *прывычаеньнях людзей*. Адносна апошняй трэба зацеміць, што абсэрвацыя паказвае нам дваякія перамены: або людзі астаюцца тыя самыя, але зьмяняюць свае прывычкі, або людзі, якія трымаліся старых звычаяў, сходзяць са сцэны і замяняюцца іншымі, каторыя ўжо ня трымаюцца звычаяў сваіх папярэднікаў. Гэткая зьмена пакаленьняў выдаецца ў нашыя часы найбольш істотнай прычынай эволюцыі. Існуе тэндэнцыя думаць, што тое самае было і ў мінуўшчыне: эволюцыя адбывалася тым вальней, чым больш маладыя пакаленьні трымаліся звычаяў сваіх продкаў.*)

Напасьледак трэба зацеміць, што на гістарычныя здарэньні ўплываюць бязумоўна расавыя розьніцы між народамі, але гісторыя не дае магчымасьці дасьледаваць гэтых уплываў.

Гэткім парадкам мы азначылі круг зацікаўленьня беларускага гісторыка пры досьледах над гісторыяй собскага народу і пазнаёміліся з сутнасьцю першай перашкоды агульнага характару — сучасным станам гістарычнае мэтодолёгіі. Але беларускі гісторык павінен лічыцца з іншымі труднасьцямі, якія дыктуюцца сучасным станам досьледаў над беларускай гісторыяй. Побач з пералічанымі на пачатку заданьнямі, беларускі гісторык павінен мець на ўвазе яшчэ адно: — *зьбіраньне гістарычных матарыялаў.* Стан беларускае гісторыёграфіі да гэтай пары такі, што прымушае беларускага дасьледчыка проста зьбіраць факты і даваць ім першую навуковую апрацоўку. Беларускія гістарычныя матарыялы раськіданы па ўсей Эўропе, а нават Сібіры. Толькі частка іх апублікавана, значная-ж частка і дагэтуль ёсьць трудна даступнай, схаванай у розных чужацкіх установах, або прыватных архівах, дзе іх у літаральным сэнсе слова трэба адкрываць. І толькі там, дзе факты ўжо сабраны і асьветлены, беларускі гісторык можа здабыцца на агульнейшыя гістарычныя выснавы, характарыстыку таго ці іншага гістарычнага працэсу і нават даць абраз тае пасьлядоўнасьці, у якой разьвіваліся асноўныя факты ў гісторыі Беларусі.

Паддаючы навуковай апрацоўцы гістарычныя матарыялы,

*) Ланглуа и Сеньобосъ. Введеніе въ изучэніе исторіи. Перевод Серебряковой, С.П.Б. 1899 г.

беларускі дасьледчык надта часта спаткаецца з распрацаваньнем гэтых матарыялаў чужымі гісторыкамі. Нармальна ня было-б дзіва, каб гісторыяй Беларусі займаліся ня толькі Беларусы, але і чужынцы. Аднак розныя спэцыфічныя дзейнікі выклікалі тое зьявішча, што вялікая бальшыня працаў чужых гісторыкаў аб Беларусі ёсьць тэндэнцыйнай, а гэтым самым не навуковай. Таму беларускі гісторык павінен усьцяж гэтыя тэндэнцыі мець на ўвеце і шляхам крытыкі зь імі змагацца.

Неабходнасьць зьбіраньня матарыялаў і першае іхняй апрацоўкі ня выключае аднак магчымасьці пісаньня гісторыі Беларусі ўжо цяпер. *Касьцяк эволюцыі гістарычнага працэсу Беларусі ў галоўных нарысах распрацаваны,* што і дае беларускаму дасьледчыку легітымацыю да агульнай працы над гісторыяй Беларусі. Новыя матарыялы могуць толькі выясьніць няясныя мамэнты ў гісторыі, некаторыя асьвятліць інакш, або паўней, але ня зьменяць ужо распрацаваных асноў белар. гістарычнага працэсу.

Навуковае апрацаваньне беларускага гістарычнага працэсу мае і вялікае практычнае значэньне. Паводле старога афорызму, нацыянальная гісторыя ёсьць шляхам да нацыянальнага самаасьведамленьня. І запраўды, веда мінуўшчыны памагае зразумець сучаснасьць і вытлумачыць заданьні будучыні. Народ, ведаючы сваю гісторыю, жыве сьвядома, ёсьць чулы на акружаючую сапраўднасьць і разумее яе. З гэтага гледзішча заданьнем кожнага нацыянальнага гісторыка ёсьць даць свайму грамадзянству абраз мінуўшчыны ў праўдзівым аспэкце. Паказаўшы грамадзянству галаўнейшыя мамэнты яго гістарычнага жыцьця, беларускі гісторык гэтым споўніць сваю задачу. Практычнае прытарнаваньне гэтай веды ад яго не залежыць.

Гэткім парадкам з усяго вышэйменаванага відаць, што як тэорэтычны гэтак і практычны пункт гледжаньня ставяць гісторыі Беларусі аднолькавую задачу: *сыстэматычнае прадстаўленьне таго гістарычнага працэсу, каторы прывёў беларускую нацыянальнасьць да яе сучаснага палажэньня.*

*А. ДУБРОВІЧ*

## Калісь любові хмель вясьняны

Калісь любові хмель вясьняны,
што на калосьсі віс красой,
пілі мы сэрцам аж да п'яна,
сьмялась радасьць нам расой.
Расталісь мы: на шлях змаганьня
адзін я без цябе пашоў,
цябе жыцьця маніла раньне,
магілай веяў звон акоў.
Я йшоў нямала ў непагоду...
І зноў мой край, і знова ты,
насустрач мне твой твар пагодны,
ўсё такжа сьвежы, малады.
Адно,—што зьменнага я бачу:
вачэй агонь раўней гарыць;
ня раз мо' выпілі бяз плачу
сьлязу, што ў сэрцы накіпіць?
А мо' ты сэрцам зразумела
цану нявыбітых дарог?..
Дык дай руку! і разам з верай,
пайдзём да слаўных перамог!



*М. ШКЯЛЁНАК*

# Сынтэза беларускае гісторыі

### (паводле праф. М. Доўнар-Запольскага)

Хто з Беларусаў, хоць крыху знаёмы з досьледамі над роднай гісторыяй, не спатыкаўся з прозьвішчам праф. Доўнар-Запольскага, вялікім і дарагім ня толькі дла беларускага гісторыка, але наагул для кожнага Беларуса! Праф. Доўнар-Запольскі — гэта запраўды нашая гордасьць. Працы яго, прысьвечаныя гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў, ведамы загранічнаму навуковаму сьвету. Няўтомны працаўнік, праф. Доўнар-Запольскі выпусьціў у сьвет шмат капітальных працаў у мове расейскай і беларускай аб сваей бацькаўшчыне-Беларусі. Але ня толькі ў гэтым зьмяшчаецца яго заслуга ў беларускай гісторыі, як навуцы. Шмат хто з ведамых гісторыкаў пісаў аб мінуўшчыне Беларусі, аднак значэньне іх ёсьць куды меншае. Заслуга праф. Доўнар-Запольскага галоўная ў тым, што ён першы палажыў фундамэнты сынтэзы беларускай гісторыі і вывеў асновы яе будучага прыгожага будынку. Бязупынныя студыі над мінуўшчынай свайго народу дазволілі праф. Доўнар-Запольскаму дасканальна апанаваць гістарычны матарыял і зірнуць, калі так скажам, з птушынага ўзьлёту на беларускую мінуўшчыну. Беларускім гісторыкам астаецца толькі ісьці шляхам, паказаным праф. Доўнар-Запольскім. Ясна, што гэты шлях патрабуе яшчэ ачысткі, магчыма, што ў некаторых мясцох яго трэба будзе выпраставаць, але кірунак яго ёсьць ужо азначаны. А гэта самае галоўнае.

Гэтая сынтэза нашае мінуўшчыны выражана ў працы паважанага прафэсара „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі", хоць думкі сконцэнсаваныя ў ёй ня трудна знайсьці ўва ўсіх яго працах манаграфічных.

Пазнаёмімся із зьместам разгляданай працы. На пачатку трэба зацеміць, што праца гэта зьявілася ў пэрыяд расейскай рэвалюцыі, калі ўсе народы б. расейскай імпэрыі, а ў іх ліку і Беларусы, імкнуліся да збудаваньня собскае гаспадарственнасьці, калі паўставалі Польшча, Латвія, Літва, Чэхаславаччына і інш. новыя дзяржавы. Вось-жа праф. Доўнар-Запольскі падаў гістарычныя асновы да будаванай тады ў Менску беларускае гаспадарственнасьці і адначасна выказаў і свой пагляд на беларускую гісторыю, даючы яе кароткі сынтэтычны агляд.

Спыніўшыся над этнографічным абшарам, займаным беларускім народам, праф. Доўнар-Запольскі кажа:

> „Беларуская нацыянальнасьць шчыльна жыве на гэтым абшары, а ў яе асяродзьдзі як кроплі спатыкаюцца іншыя нацыянальнасьці, згрупаваныя пераважна ў гарадах і мястэчках, і прадстаўляючыя сабой наплыўшы элемэнт".

Гаворачы як-бы аб прычыне, выклікаўшай яго працу, праф. Доўнар-Запольскі кажа:

„Нярэдка чуюцца як бы няпэўныя і сумліўныя галасы, ці беларуская нацыянальнасьць можа тварыць асобнае самастойнае гаспадарства, або, прынамся, увайсьці як фэдэратыўная частка ў саюз гаспадарстваў. Гэтыя няпэўнасьці і сумлевы апіраюцца на няведаньні роднай гісторыі і на недастатквай ацэне культурнае трываласьці беларускага народу".

А далей пераходзячы да сынтэзы нашай гісторыі зацемлівае:

„Часам наіўна выказваюць сумлеў, што беларускага гаспадарства ня было. Гэта правільна: пад гэткім назовам гаспадарства ня было, як ня было да паўстаньня гаспадарства італьянскага, бэльгійскага і г. д. Але беларуская нацыянальнасьць прадстаўляе сабой моцна збудаванае гаспадарства із плямёнаў Літоўскай Русі, г. ё. тэй часткі Русі, каторую абыймала Літоўскае Княства. І Беларусь, як зараз пабачым, адносна нядаўна згубіла азнакі быўшае сваей гаспадарственнасьці, моцнай, трывалай, якая адрозьнівалася гэткімі асновамі разьвіцьця, якімі мы можам толькі гардзіцца... Асновы гаспадарственнай самастойнасьці глыбака заложаны ў беларускай нацыянальнасьці і апіраюцца на дзейніках гістарычных, этнографічных, лінгвістычных і эканамічных. Гэтыя дзейнікі захварбоўвалі ўсю гісторыю Беларусі"...

Далей праф. Доўнар-Запольскі выказвае пагляд, які ўсё больш здабывае прыхільнікаў у навуцы, што:

„Беларусы зьяўляюцца амаль адзіным славянскім племенем, за вынняткам хіба палякоў, якое здаўна жыве ў сваей старонцы, ніскуль сюды ня прыходзіла і ня ўбрала ў сябе чужых элемэнтаў. Дзеля гэтага Беларусы паводле гістарычных і этнографічных асаблівасьцяў зьяўляюцца найбольш чыстым славянскім племенем".

Гэтым самым праф. Доўнар-Запольскі адкідае пагляд аб прыходзе беларускіх плямёнаў з „агульна-славянскай" або „агульна-рускай" прарадзімы. Гаворачы аб асноўнай рысцы ў адносінах Беларусаў да свае гаспадарственнасьці ў мінуўшчыне, аўтар кажа:

„Імкненьне да гаспадарственнай самастойнасьці, уменьне бараніць гэтую самастойнасьць, імкненьне да свабоднага дэмакратычнага ладу, зьяўляюцца асноўной рыскай гістарычнае мінуўшчыны беларускага народу. І мы ня ведаем другога славянскага племені, у якога-б гэтая рыска натолькі яўна праяўлялася, як у нашых продкаў".

Гэта вельмі важная агульная тэза, да якой праф. Доўнар-Запольскі дайшоў у сваіх студыях. У далейшых разважаньнях праф. Доўнар-Запольскі робіць памылку, калі вылічае Крывічоў, Дрыгавічоў і Радзімічаў, як беларускія плямёны, а не ўспамінае аб Вяцічах і Северанах. Але тады, калі аўтар пісаў разгляданую працу, ня было яшчэ досьледаў праф. Растаргуева і інш., даказаўшых беларускасьць гэтых плямёнаў. Ідучы-ж за навейшымі працамі, беларускія гісторыкі павінны абняць сваім зацікаўленьнем Севершчыну і, зразумела, Пскоўшчыну, як заселеную Крывічамі. З гледзішча гістарычнага разьвіцьця беларускае гаспадарственнасьці праф. Доўнар-Запольскі разрозьнівае пачаткава існаваньне трох самастойных беларускіх гаспадарстваў: *Полацкага, Смаленскага і Турава-Пінскага,* падчырківаючы, як характэрную азнаку, існаваньне ў Полацку асобнай ад кіеўскай дынастыі — Рогваладавічаў. Пераходзячы да гэнэзы — Вялікага Княства Белар.-Літоўскага, праф. Доўнар-Запольскі адкідае распаўсюджаную тэорыю аб г. зв. „літоўскіх падбоях", паводле якой Вялікае Княства было збудавана шляхам падбою этнографічна-літоўскім элемэнтам беларускіх гаспадарстваў:

„Гэтак гістарычная навука рашуча зьбівае ўсе азнакі заваяваньня беларускіх земляў літоўскім князем".

Працэс злучэньня беларускіх земляў адбываўся дабравольна—шляхам умоваў, або жанімства князёў. Выказаная тут думка нязвычайна характэрная і сьмелая. Але апошнія досьледы ў поўнай ступені яе пацьвярджаюць. Археолёгічныя раскопкі ў Горадні, ведзеныя польскім археолёгам Ёдкоўскім (Jodkowskim) пацьвярджаюць, што існавала магутнае беларускае горадзенскае княства над Нёманам, якое было ў сутычнасьці з беларускім Навагрудкам. У гэтых княствах паўстаў новы беларускі цэнтр, зь якім злучыліся на аснове шырокае фэдэрацыі іншыя беларускія гаспадарствы, творачы адну дзяржаву.

Праводзячы далейшую сынтэзу, праф. М. Доўнар-Запольскі паклікаецца на цэлы рад аргумэнтаў, якія даказваюць беларускі характар новага гаспадарства. Аргумэнты гэтыя мы абмінаем, бо яны ёсьць агульна ведамыя ўсім, хто хоць павярхоўна знаёмы з нашай гісторыяй.

На прыкладах Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта Казіміравіча, Жыгімонта Аўгуста праф. Доўнар-Запольскі апірае сваю тэзу, што і Палякі выбіралі нашых гаспадароў сваімі каралямі і што гэта пэрсанальная вунія ні ў чым не нарушала сувэрэннасьці Вялікага Княства. Не нарушала гэтай сувэрэннасьці і Люблінская вунія 1569 г., бо гэта быў дагавор роўных з роўнымі.

Прычыны заняпаду беларускай гаспадарственнасьці праф. Доўнар-Запольскі бачыць у Берасьцейскай рэлігійнай вуніі 1595 г., якая прынясла ў Беларусь рэлігійную вайну. Гэта вайна нішчыла ўсе сілы народу. Побач з гэтым пачаліся польскія ўплывы на беларускую шляхту і магнатаў. Гандаль і прамысловасьць заняпалі, сялянства, дзякуючы ўзросту шляхоцкіх прывілеяў, трапіла ў поўную залежнасьць ад паноў. Беларуская мова ўступала паступова месца польскай або лацінскай.

Аднак, калі вышэйшыя слаі насельніцтва паддаваліся полёнізацыі, дык сялянства і ў значнай ступені мяшчанства ўпорыста баранілі свайго права на самастойнае рэлігійна-нацыянальнае жыцьцё.

Калі Беларусь трапіла пад Расею, у ёй пачалі ўвадзіцца расейскія парадкі. Расейскі рэжым змагаўся з палітычнымі ўплывамі апалячанай шляхты, палітыкуючым каталіцызмам, аднак, кажа праф. Доўнар-Запольскі:

„Гэта барацьба вялася няўдала, груба і несыстэматычна. Расейскі ўрад амаль да 60 гадоў дрэнна разумеў, што ён мае справу з бе-

ларускім краем. Ён не дагадваўся, ды па сутнасьці кірунку сваей палітыкі і ня мог апёрціся на дэмакратычныя элемэнты: на сялянства і мяшчанства. Дзеля гэтага, як ня дзіўна, полёнізацыя і пад Расеяй мела вялізарныя поступы, бо расейскі ўрад пасьпеў адтаўкнуць ад сябе ўсе тыя элемэнты, якія адзначаліся беларускім нацыянальным духам".

Гэткая палітыка зьнеахвоціла да сябе Беларусаў і таму яны, імкнучыся да вызваленьня ад расейскага рэжыму, прыймалі актыўны ўдзел у паўстаньнях 1831 і 1863 г. г.

Характарызуючы асновы гаспадарственнага і сацыяльнага ладу Беларусі, праф. Доўнар-Запольскі піша гэтак:

„Найдаўнейшы пэрыяд гісторыі Беларусі характарызуецца панаваньнем дэмакратычных ідэяў у сацыяльным і гаспадарственным ладзе. Найвышэйшую ўладу мела веча, якое выбірала князёў. Клясавага падзелу ня было, панавала ідэя роўнасьці".

Гэткі парадак існаваў да пачатку XVI ст., калі дыфэрэнцыяцыя сацыяльных клясаў, ішоўшая з Польшчы і этнографічнай Літвы, падзяліла і беларускае грамадзянства на тры клясы: шляхту, мяшчанства і сялянства. Гаспадарственны лад Беларуска-Літоўскае дзяржавы праф. Доўнар-Запольскі характарызуе, як рэспубліканскі, з выбіраным на ўсё жыцьцё прэзыдэнтам, званым вялікім князем, гаспадаром. Гэты лад вытварыўся шляхам эволюцыі даўнейшага вечавога парадку. На гэтыя дэмакратычныя парадкі Беларусі зьвярнуў вялікую ўвагу расейскі рэжым. У б. расейскай імпэрыі ня было правінцыі, да якой урад аднасіўся-б гэтак варожа, як да Беларусі. Расейскі ўрад зьліквідаваў дасюлешняе школьніцтва і ўзамен фактычна ня даў нічога. Гэткія меры расейскага ўраду спрычыніліся да далейшае полёнізацыі беларускае інтэлігенцыі, бо ўсе выдатнейшыя адзінкі, якія імкнуліся да палітычнае свабоды, далучаліся да польскага руху, скуль чакалі хутчэйшага вызваленьня. Пагардліва адносячыся да сялянства і мяшчанства, расейскі рэжым не даваў магчымасьці да разьвіцьця нашай інтэлігенцыі. Тым, што выходзілі з гэтых чыста беларускіх клясаў, не давалі працы ў краі, а высылалі ў глыбіню Расеі. У Беларусь наплывалі вялікарускія ўрадоўцы.

Змагаючыся з беларускай культурай і яе прадстаўнікамі, расейскі ўрад інстынктыўна або і сьведама разумеў самастойнасьць гэтай культуры і баяўся яе.

А запраўды, з культурнага гледзішча беларуская нацыянальнасьць — кажа паважаны аўтар — можа з гордасьцю ўспамінаць сваю мінуўшчыну. Праф. Доўнар Запольскі вылічае вялікіх прадстаўнікоў беларускай культуры, пачынаючы ад XII ст., у галіне асьветы, літаратуры, права, над чым мы ня будзем спыняцца, бо гэтая квэстыя ёсьць ведамай шырэйшаму беларускаму грамадзянству і ня толькі беларускаму. Рэлігійнае змаганьне аслабіла, праўда, разьвіцьцё самабытнай беларускай культуры, але, кажа аўтар:

„Важна тое, што беларускі народ перанёс гэту пару змаганьня і ў значнай ступені гарады ды ўсё сялянства асталіся вернымі сваей нацыянальнасьці. Брацтвы далі вытрывалы прыклад змаганьня за сваю нацыянальнасьць. Яны абаранілі беларускую культуру, літаратуру,



асьвету і беражна давялі нацыянальныя традыцыі, пачуцьцё нацыянальнае самабытнасьці да пачатку XIX ст., калі рэлігійная барацьба згубіла свой сэнс".

Беларуская культура на працягу навейшай сваей гісторыі мела шмат стратаў, узбагачваючы польскую і расейскую. Касьцюшка, Сыракомля, Крашэўскі, Адам Міцкевіч (дададзём ад сябе — Дастаеўскі) — гэта па паходжаньню Беларусы, якія працавалі на карысьць чужых культур.

Ідэя беларускага адраджэньня набрала асаблівага размаху ад 80 гадоў мін. стагодзьдзя, ня гледзячы на вялізарныя перашкоды з боку ўлады. Адрадзілася беларуская літаратура, ідэя беларускае гаспадарственнасьці. Усё гэта паказвае:

„на жывучасьць беларускай нацыянальнасьці"...

У канцы сваей працы праф. Доўнар-Запольскі, сумуючы высновы, кажа, што гісторыя беларускага народу ёсьць бліскучым доказам існаваньня яго гаспадарственнай самастойнасьці, яго выробленай стагодзьдзямі культуры, літаратуры, этнографічнай і языковай апрычонасьці. Упорыстае-ж змаганьне беларускага народу за сваю нацыянальнасьць сьведчыць аб жывучасьці, пругкасьці і здольнасьці яго да ўсебаковага разьвіцьця.

Гэтак выглядае сынтэза беларускай гісторыі паводле глыбокага яе дасьледчыка праф. М. Доўнар-Запольскага. Апрача ўспомненых вышэй засьцярогаў, да яе нічога ня можна дадаць. З прыемнасьцю трэба толькі адцеміць, што беларускія гісторыкі ў сваіх досьледах пайшлі па шляху паказанаму гэтым вялікім нашым вучоным, якога справядліва можна назваць бацькам беларускае гісторыі, як навукі.

---

Карыстаючыся з аказіі, падаём, што Мітрафан Доўнар-Запольскі да расейскае рэвалюцыі быў прафэсарам Кіеўскага Унівэрсытэту імя сьв. Уладзіміра, а калі ў Б. С. С. Р., у Менску, паўстаў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, ён перанёсься сюды. Аднак, калі ў Б.С.С.Р. пачалася русыфікацыя, маскоўскія ўлады высялілі яго з Беларусі. У апошніх гадох Масква загадала перачыркнуць дасюлешнія працы беларускіх гісторыкаў, як шкодныя. Гісторыю Беларусі маюць напісаць маскоўцы, або іхнія найміты, у якой мае быць даказана, што беларускі народ толькі тады пачаў „шчасьліва" разьвівацца, калі трапіў пад Расею. Гэтае „шчасьлівае" разьвіцьцё ён заўдзячвае апецы „старэйшага брата" — вялікага расейскага народу. Аб гэтых новых „асновах" да гісторыі Беларусі шырака піша між іншым „Літаратура і Мастацтва". Гэта новая „гісторыя" Беларусі павінна зьмясьціцца ў рамах агульна-расейскае гісторыі і мае быць доказам адзінасьці імкненьняў народаў С.С.С.Р., а так жа палітычнае і культурнае перавагі „старэйшага брата"— расейскага народу. Аляксандра Неўскі, цар Іван III, Пётра I маюць быць і героямі Беларусі.

Гэтак мае быць „перароблена" наша гісторыя, каб быць у згодзе з камуністычна-расейскай палітычнай доктрынай. Трэба адзначыць, што нават царскі рэжым не адважваўся на падобны цынізм.

*Я. ШУТОВІЧ*

# 10 год літаратурнае творчасьці Міхася Машары

„Я ня жыву — гару, уздымам п'яны,
сную, ...пяю я песьні звонкія, часамі
горкія, Табе мой край, каханы.
(Із зборніка „На сонечны бераг").

1928 год. „З пакаленьня працоўна-сялянскага, Беларусаў прыгонны ўнук", Міхась Машара ў вастрозе, у віленскіх Лукішках. Папаў сюды „прыпадкам", у сувязі із справай „Грамады", ведамай беларускай масавай палітычнай, зьліквідаванай у 1927 годзе, арганізацыі. Варункі вастрожнага жыцьця, больш чым якія, выклікаюць у вязьняў глыбейшыя перажываньні, рэфлексыі над сабой і над акружаючым сьветам. І наш вязень, пазьней шырака ведамы, папулярны паэт, — натура ўражлівая, чулая і інтэлігентная, праз 30 месяцаў прабываньня ў вастрозе, перажыўшы адзіночкай, шмат перажыў, перадумаў, шляхам самаадукацыі інтэлектуальна разьвіўся, а галоўнае пазнаў сябе, як паэта — выкрыў у сабе літаратурныя здольнасьці.

О, ты вастрог!
Ў сьцянах тваіх панурых,
у час даўгой, даўгой начы,
вучыўся я змагацца з бурай
і крыльлі тут расьціў душы.

Тут рос мой дух... мацнела вера,
ў тваіх мурох пазнаў сябе,
і песьню першую нясьмела
тут прапяяла муза мне.

(З цыклю „Падарожжа" № 2(6) „Калосься" 1936 г.).

Паэт пачаў пісаць і друкавацца. Апроч многіх дробных вершаў, напісаў у вастрозе і маленькую, высока-мастацкую лірычную паэмку „Валачобнае" (надрук. у „Нёмане", III, 1932 г.), якая ёсьць ня чым іншым, як гімнам роднай Беларусі, яе адраджэньню, — гімнам вясьне, сонцу, свабодзе, вольнай думцы, — а так-жа ня менш мастацкую паэмку, вытрыманую ў бадзёрых, радасных тонах — „Радаўніца" („Нёман" IV).

Першы зборнік вершаў „Малюнкі" выйшаў з друку ў 1928 годзе. Сёлета, такім чынам, мінае 10 гадоў літаратурнае творчасьці Міхася Машары. З гэтай нагоды прысьвячаем нашаму юбіляру гэты скромны артыкул.

Улюбленым жанрам літаратурнага творства Машары — вершаваная паэзія, пры гэтым лірыка. Ня чужая яму і мастацкая проза, а так-жа драматургічны жанр.

Машара — плодны, творчы талент. Міма пэрманэнтна трываючых, няспрыяючых матарыяльных і духовых варункаў жыцьця, напісаў за 10 год адносна многа твораў, дробныя вершы лічацца сотнямі. Асобныя выданьні, апрача ўспомненых *„Малюнкаў"* з 1928 г., вышлі дагэтуль такія: *„На сонечны бераг"* — зборнік вершаў, 1934 г.; *„Вось тут і разумей"*, драматычны абразок, 1934 г.; *„Сьмерць Кастуся Каліноўскага"*, гістарычная паэма, 1934 г.; *„Вясельле"*, апёртая на народным абрадзе — вясельлі — паэмка, 1934 г.: зборнік вершаў *„На прадвесьні"*, 1935 г.; *„Мамчына горка"*, паэма, абаснаваная на фальклёры, 1936 г.; сцэнічны абразок з сялянскага жыцьця *„Чорт з падпечча"*, 1936 г.; драма ў трох актах *„Лёгкі хлеб"*, 1937 г; зборнік вершаў *„З пад стрэх саламяных"* (сканфіскаваны), 1937 г. Паводле разьмеру, фармат 8°, маленькія гэтыя выданьні. Колькінаццаць, колькідзесяць бачын. Толькі адно апошні зборнік вершаў — „З пад стрэх саламяных" налічае 100 з лішнім бачын. Многа вершаў паэта, надрукаваных у беларускіх часапісах, не ўваходзяць у вылічаныя зборнікі.

Вось і ўся дасюлешняя надрукаваная літаратурная прадукцыя нашага песьняра. Мала й многа: мала — з увагі на багацьце душы і творчыя магчымасьці таленту песьняра, многа — з увагі на жудасныя варункі ягонага жыцьця і працы, а так-жа з увагі на выкліканыя вонкавымі мамэнтамі варункі беларускай выдавецкай працы, дзеля якіх нікаторыя творы песьняра яшчэ і дагэтуль, або зусім ненадрукаваныя, або надрукаваныя ў розных часапісах ня вышлі асобнымі выданьнямі.

Ня будзем тут разглядаць усяго творства Машары. Разглядзім толькі паэзію.

Машара — паэт-гамадзянін. Як і ўсе амаль нашыя паэты і пісьменьнікі, ён далёкі ад пагляду „мастацтва для мастацтва", ягонае творства, выражаючы соцыялёгічныя мамэнты, — пранітавана элемэнтамі беларускага нацыянальна-грамадзкага утылітарызму, ідэолёгіяй нацыянальнага адраджэньня і сацыяльнага вызваленьня.

Беларусь, яе адраджэньне, у Машары зьяўляецца прадметам сваеасаблівага, як-бы рэлігійнага культу, крыніцай творчага натхненьня, оптымізму, мэтай і радасьцяй жыцьця.

І гэта зразумела:

„Ты мне многа дала маць-зямліца:
агонь сэрца і жар пачуцьця...
Ў маім целе юнацкім я чую

увесь творчы разгул тваіх сіл,
ўсе імкненьні... тугу векавую
ад пачатку, — да цемры магіл".

(„З пад стрэх саламяных", бач. 23).

„Толькі Ты, мая Матка-Краіна,
радасьць песьціш у сэрцы адна;

ні зашто Тваю жудзь не спакіну,
буду піць з Табой чарку да дна".

(„На сонечны бераг", бач. 37).

Шчыры, глыбокі патрыётызм, любоў Бацькаўшчыны, беларускай вёскі, вера ў адраджэньне Беларусі і ў лепшую будучыню народу — асабліва ярка выражаны ў многіх вершах праграмна-дэкляратыўнага тыпу, у вершах на вясковыя тэмы, у непазбаўленых дэкляратыўнага характару прыродаапісальных вершах, а так-жа ў натхнёнай, успомненай ужо намі паэмцы „Валачобнае".

Паэт, безгранічна любячы і аддаючы ўсе свае сілы Беларусі за жыцьця, не перастае яе дзейна любіць і па сьмерці:

„З пад зары тужыць зарніцай
па табе, мой родны край,
буду з Богам я сварыцца
за цябе там часта — знай.

За грахі мае цяжкія
буду ў раю пастухом —
пасьціць зоры ва-нявыя,
спаць пад воблачным кустом.

На зарніц дрыжачай грыве
ноччу неба аб'яжджаць
і на млечнай сонцаў ніве
табе песьні гадаваць.

Край сярмяжны, сэрцу мілы!
Жаль растацца мне з табой.
Я жадаўбы цябе сілай
зацягнуць у рай з сабой".

(„З пад стрэх саламяных", бач. 37).

Будучы паэтам-грамадзянінам, апяваючы адраджэньне Беларусі і заклікаючы народ ісьці наперад „пад знакам Пагоні сьвятым", Машара ня ёсьць чалавекам партыйным:

„Ня знаем мы: — нацпэмаў і хадэкаў,
ніякіх „філаў" ані „ізмаў"

(„Падарожжа" — „Калосьсе" № 2, 1936 г., бач. 79).

Ён не тасуе крытэрыяў партыйна-палітычных пры ацэне грамадзкай дзейнасьці Беларусаў — „ня знаем лепшых і благіх" (ібідэм, бач. 78), — паэт, які выражае агульна-нацыянальную ідэолёгію, любіць усіх дзяцей працоўнай Беларусі.

Характэрнай асаблівасьцяй беларускай літаратуры ад Багушэвіча да нашых дзён, нават і савецкай беларускай літаратуры да 1930 — 1931 г., ёсьць тое, што ў ёй элемэнт нацыянальны пераплятаецца з соцыяльным. Гэтае зьявішча мы бачым і ў Машары. Ідучы пад нацыянальным сьцягам Пагоні, будучы песьняром новай Беларусі, у якой закрасуе сонца і свая праўда, Машара адначасна зьяўляецца песьняром „працоўнае эры", песьняром працоўнай Беларусі і працоўнага чалавека агулам.

„Песьні!.. Солад ваш і мукі
пеняць радасьці і боль.
Я хачу пявучым гукам
залаціць мазоль".

(„На сонечны бераг", бач. 27).

Ужо сама соцыяльная прырода Машары, як сына вясковых шэрых хатаў, скланяе яго ісьці шляхам працоўных, „з працоўнымі братамі" („На прадвесьні", бач. 21) і залаціць мазоль.

Соцыяльныя мотывы выражаны песьняром пераважна ў форме агульных заклікаў-зваротаў да вёскі, да ўсіх „пакрыўджаных і лішніх", каб будавалі свой лепшы лёс, жыцьцё.

„Браты, браты Краіны сіняй,
у нашых песьнях многа сьлёз!
Давайце сум-тугу раскінем,
і створым новы лепшы лёс".

Выражаны яны такжа ў мастацкіх абразох, прадстаўляючых, галоўным чынам беларускую вёску, сялянскі быт, працу. Трэба шкадаваць, што ў Машары адносна мала такіх абразоў. Беларуская літаратура ўзбагацілася-б запраўды мастацкімі пэрламі



каб Машара побач з эгоцэнтрыкай лірычнай і патрыётычнымі „дэклярацыямі" даў больш такіх вершаў, як „Ручнічкі", „Бульбу даелі ўчора", „Гора ў вёсцы", „Хата", „Хата бабылькі", гдзе запраўды паэтыцкімі абразамі залоціцца „мазоль".

Характэрным для ідэолёгічнай стараны творчасьці Машары, для яе соцыяльных мамэнтаў, ёсьць тое, што паэту — хоць заяўляе нам, што із „старога сьвету" „руйнуе ўсё, ка зноў тварыць" („На Прадвесьні", бач. 19), і марыць аб тым часе, калі „зямля станецца садам бяз меж, парканаў і тынкоў і жыць пачнем мы іншым ладам, без беднаты і жабракоў", („Падарожжа" — „Калосьсе" № 2, 1936 г., бач. 80), калі „зьнікне зьдзек, прымус і краты" (ібідэм) і людзі „будуць бяз сьлёз і пракляцьця жыць у згодзе вялікай сям'ёй" („На Прадвесьні", бач. 8), — існуючы грамадзка-гаспадарскі лад, з яго сыстэмай індывідуальнай гаспадаркі, здаецца, дагаджае. Чырвонай ніткаю праз творчасьць Машары праходзіць любоў да старой, горам спавітай, вёскі, вёскі індывідуальнай працы і гаспадаркі. Паэт, здаецца, нават супроць хутарызацыі, якая, хоць не нарушае прынцыпу індывідуальнай уласнасьці, зьмяняе аднак твар вёскі, зьмяняе яе вонкавую структуру, і не дае селяніну палепшаньня долі („Гора ў вёсцы"—„З пад стрэх саламяных", бач. 39, і „Поле, межы"...— тамжа, бач. 47). Адно кепска ў соцыяльна-гаспадарчых адносінах, гэта тое, што „цяжка на нашай зямліцы жыць без зямлі батраку" („Бульбу даелі ўчора" — „З пад стрэх саламяных", бач. 40), што эксплёатуецца наемніцкая праца „вясковага пралетара" („З траплом у руцэ" — ібідэм, бач. 14), што гаруе бядняк на панскім полі („За плугам" — ібідэм, бач. 79), і што яшчэ ў XX веку вясковаму мужыку, які корміць „сытых і тлустых" — „голад сушыць грудзі" („На сонечны бераг", бач. 77).

Істотнай прычынай соцыяльнай крыўды і соцыяльнай несправядлівасьці ёсьць тое, што людзі, грамадзянствы і народы забыліся аб „Вялікім Слове", што спачатку ў Бога было („Новаму Году" — „З пад стрэх саламяных", бач. 88), забыліся аб тэй праўдзе, „што на крыжу" („Падарожжа" — „Калосьсе", № 1, 1936 г., бач. 8) і аб прыказаньні добрага Бога — бачыць „у браце брата" (ібідэм, бач. 12).

Так нацыянальная доля Беларусі, за якую трэба змагацца, як і грамадзкі лад, адносіны паміж людзьмі, галоўным чынам узалежнены ад выробленьня этычнага людзей.

У нашага песьняра вельмі паважнае месца займае прырода. Прыродаапісальныя матывы, побач з грамадзкімі — нацыянальнымі і соцыяльнымі, твораць тэматычную домінанту ўсяе лірыкі Машары. Зразумелая рэч, Машара, будучы сынам вёскі, узгадаваны на ўлоньні прыроды, найбольш беспасрэдна адчувае яе красу, творчыя ў ёй працэсы і зьмены. Прырода, з рознымі ў ёй зьявамі, для паэта зьяўляецца крыніцай творчага захапленьня, родзіць у ім настрої радасьці, часамі суму, а так жа глыбейшыя рэфлексыі. Паэт амаль у арганічнай залежнасьці ад пры-

роды. Часта, і пераважна, даючы малюнкі прыроды паэт адначасна выражае ў іх ідэі беларускага грамадзкага ўтылітарызму, патрыётычныя настроі, прадстаўляе сялянскі быт, а так-жа выражае асабістыя перажываньні і розныя дачыненьні да жыцьця і сьвету. Вось чаму прырода ў Машары ня мае такога „чыстага" выражэньня, якое мы спатыкаем нпр. у Арсеньневай.

Каб скончыць з агаворкай тэматыкі творчасьці Машары, трэба зазначыць, што апроч успомненых ужо намі тэмаў, знаходзім у Машары крыху лірыкі каханьня, вершаў прысьвечаных месту, крыху рэфлексыяў над рознымі зьявамі жыцьця і быту, — пры чым усё гэта, зразумела, ня мае спэцыяльна беларускага аспэкту і набірае характару агульна-чалавечага.

Характэрнай і галоўнай асаблівасьцю творчасьці Машары, разглядаючы яе з псыхолёгічнае стараны, гэта тое, што пераважаюць у ёй тоны бадзёрасьці, радасьці, оптымізму. Гэтай асаблівасьцю Машара рэзка адрозьніваецца ад нашых паэтаў „нашаніўцаў" і іх эпігонаў, якіх творства агулам кажучы вытрымана ў тонах суму і жалю.

Гэтая асаблівасьць яшчэ тым цікавая, што прыватныя абставіны жыцьця паэта, а так-жа об'ектыўныя ўмовы жыцьця беларускага народу не ствараюць для яе адпаведнага грунту.

Галоўнымі крыніцамі оптымізму Машары ёсьць глыбокая вера ў сілы народу і ў адраджэнскую справу, а так-жа беларуская прырода.

Праўда, хоць рэдка, але спатыкаем у Машары зьявішчы, калі на ягоныя „вясёлыя песьні паклаў нехта сум", калі замест свае песьні „купаць у сонцы" „і пра сонца пяяць заўсягды" сум агартае сэрца і душу песьняра. Таксама, як крыніцамі оптымізму зьяўляюцца грамадзкія мамэнты і прырода, — галоўным чынам гэтыя самыя дзейнікі выклікаюць і сум у паэта.

З гледзішча фармальна-мастацкага, творы Машары прадстаўляюцца розна. Ёсьць творы вялікай мастацкай вартасьці, ёсьць так-жа і слабыя. Агульным недахопам зьяўляецца ў Машары даволі вялікая ўбогасьць стылю і мовы, а так-жа ў многіх выпадках няўважныя адносіны да апрацаваньня тэхнічнага твораў. Машара піша згодна з канонамі старой паэтыкі.

Дасюлешняя творчасьць нашага Юбіляра дзеля сваей ідэолёгічнай вартасьці, а так-жа дзеля многіх мастацкіх вартасьцяў, ёсьць значным укладам у сучасную беларускую літаратуру.

У адным з вершаў паэт кажа:

Мінець жыцьцё!.. Ня шкода, што ня ўбачу
Йзноў красачны расквіт вясны,
Адно жадаў-бы знаць, ці сьлед адзначу
Пражытых дзён тут на зямлі.

(„На сонечны бераг", бач. 68).

Сьлед свой у беларускай літаратуры ўжо паэт адзначыў і то вельмі позытыўна. Зычым Яму далейшага разьвіцьця таленту і ўзбагачэньня нашай літаратуры новымі творамі.



*Я. СТАНКЕВІЧ*

# Мова крывіцкага (беларускага) рукапісу XVI стаг. „Аль кітаб"

## Фонэтычны й морфолёгічны разбор

## ПЕРАДМОВА

Разгляданы далавàх рукапіс „Аль кітаб" напісаны пакрывіцку*) (пабеларуску) арабскімі літарамі і належыць да даволі багатай беларускай ці — ляпей кажучы — крывіцкай літаратуры арабскім пісьмом (рэлігійнай літаратуры крывіцкіх мусульман). Я апісаў яго ў „Slavii" XII, 3 — 4, там-жа надрукаваў веданьні аб крывіцкай літаратуры арабскім пісьмом наагул, надрукаваў так-жа прынцыпы транскрыпцы „Аль кітабу" з арабскага пісьма на лацінскае ды кароценька падаў гісторыю крывіцкіх мусульман.**) У тым-жа нумары „Slavii" надрукавана мною ў лацінскай транскрыпцы поэма „Мэрадж" з „Аль кітабу". Гэтта паўтараць напісанага ў „Slavii" ня буду, бо ў „Калосьсю" ня будзе друкавацца тэкст „Аль кітабу", але толькі разбор мовы ягонае. Адно мушу каротка паведаміць аб прынцыпах транскрыпцы „Аль кітабу", бо бяз гэтага былі-б незразумелыя прыводжаныя ў працы прыклады.

Гэтай працы маёй станаўко ня шчасьціць. Напісана яна была ў 1925 г. ў Празе. У 1927 г. да мяне зьвярнуўся Інстытут Беларускае Культуры ў Менску з пропозыцай выдаць тэкст „Аль кітабу" і маю языкаведную працу аб ім. Але тымчасам адносіны да Крывічан (Беларусаў) у З.Р.С.Р. пагоршалі. Каб друкаваць у Б.Р.С.Р. навуковую працу беларускую, трэ было быць

*) Назоў „Крывіч, крывіцкі" і пад. ўжываецца ў гэтай працы, як і ў іншых, у значэньню не пляменным, але агульна-нацыянальным, значыцца замест няправільнага назову „Беларус, беларускі" і г. д. Назоў „Крывіч, Крывія" і г. д. адзіне правільны ўваднсінах да нашага народу. Ён ужываўся як агульна-нацыянальны ад XII да пал. XIV стаг., калі быў выцісьнены новым назовам „Літва, Ліцьвін" і г. д. Назоў „Крывіч" і г. д. просьле сьветнай (сусьветнай) вайны памалу аднаўляецца і асабліва быў пашырыўшыся ў 1923 — 1928 г.г. у межах радзянае Беларусі. У 1928 г. ён быў забаронены Масквою.

**) Шырэй аб гісторыі крывіцкіх мусульман і аб іх літаратуры падана мною ў „Гадавіку Беларускага Навуковага Т-ва", Вільня, 1933 г.

у ласцы маскоўскае комуністычнае партыі. Дайшло да таго, што за надрукаваньне ў „Працы клясы філёлёгіі“ т. II. Беларускае Акадэміі Навук майго артыкулу былі звольнены із свайго становішча віцэ-старшыня й сакратар Акадэміі. Ведама, што пры таковых адносінах не магло быць мовы аб друкаваньню мае працы. У 1930 г. на пропозыцу проф. Станіслава Шобэра я паслаў тэкст „Аль кітабу“ ў рэдакцу „Prac filologicznych“, дзе ён меў друкавацца разам із маёю працаю. Калі аднак із прычыны агульнага крышу (крызысу) наступны том „Prac filologicznych“ доўга ня выходзіў, а Языкаведная Сэкца Навукова-Дасьледавальнага Інстытуту Усходняе Эўропы (Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej) у Вільні пастанавіла надрукаваць маю працу аб мове „Аль кітабу“ разам із транскрыбаваным тэкстам ягоным, я тэкст „Аль кітабу“ ўзяў назад ад проф. Шобэра. Аказалася аднак, што я пасьпяшыўся, бо нягледзячы на пастанову такое высакакомпэтэнтнае ўстановы, як Языкаведная Сэкца менаванага Інстытуту, у каторую ўходзілі найвыдатнейшыя прадстаўнікі польскае языкаведы, як профэсары — Ян Атрэнбскі, Ян Развадоўскі, Казімер Ніч, Эрвін Кошмідэр,—галоўны рэдактар выдавецтваў Інстытуту, проф. Сьцяпан Эрэнкройц, ня гледзячы на абяцаньні, не знайшоў дагэтуль грошаў на выданьне мае працы. Дзеля таго ў 1937 г. мела друкаваць маю працу аб мове „Аль кітабу“ бібліётэка Ўрублеўскіх у Вільні. Але, заняты працаю на чорны кавалак хлеба, я ня меў часу перакласьці яе на польскую мову.

Пачынаючы цяпер друк свае працы ў „Калосьсю“, я не магу ня ўспомнець словамі шчырае падзякі свайго Дарагога Вучыцеля, спад. проф. Ольдрыха Гуера за ўсю тую веду, каторую я здабыў у яго, спад. Антона Луцкевіча дырэктара Крывіцкага музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні, за прысланьне ў сваім часе „Аль кітабу“ ў Прагу і спад. Марыю Тауэр'анку за транскрыпцу яго.

*Аўтар*

**Ад Рэдакцыі:** друкуючы артыкул гр. д-ра Я. Станкевіча, рэдакцыя, згодна з воляй аўтара, пакідае ўсе асаблівасьць мовы артыкулу, хоць з нікаторымі з іх не згаджаецца.



# Прытарнаваньне арабскае абэцэды да крывіцкага языка і прынцыпы транскрыпцы

Крывіцкія пісьменьнікі, пішучы арабскім пісьмом, мусілі арабскую абэцэду прытарнаваці да крывіцкага языка.

У варабскай абэцэдзе ёсьць па тры літары дзеля абазначэньня гукаў *з*, *с* і *к*. Гэта давала магчымасьць абазначаць розныя крывіцкія сугукі сычачыя ды цьвярдое й мяккое *к*. Арабская літара, абазначаючая *д* заднепаднябеннае, ужываецца дзеля абазначэньня крывіцкага *з* цьвярдога; транскрыбавана яна пераз *z*, прыкладам *zaraz*. Дзьве другія араб. літары для *з* абазначаюць крывіцкае *з* мяккое; транскрыбаваны яны адна пераз *ź*, другая пераз *z'*, пр. *źmeniŭše*, *z'emla*. Араб. літара, абазначаючая войстрае заднепаднябеннае *с*, ужываецца дзеля абазначэньня крывіцкага *с* цьвярдога; транскрыбавана пераз *s*, пр. *sad*. Дзьве іншыя арабскія літары дзеля *с* абазначаюць беларускае *с* мяккое, яны транскрыбаваны пераз *ś* і *s'*, пр. *śeḫośvetnij*, *s'oj*.

З трох літараў дзеля *к* у крывіцкім тэксьце ўжываюцца толькі дзьве: заднепаднябенная дзеля цьвярдога *k* і пярэднепаднябенная дзеля *k* мяккога; транскрыбаваны яны: першая пераз *к*, другая пераз *к* із значком мякчыні. Прыклады: *kazac*, *k'idac*. Зь дзьвюх літараў дзеля гуку *т* у крывіцкім языццэ ўжываецца толькі адна, абазначаючая арабскае заднепаднябеннае *т*; транскрыбавана пераз *t*., пр. *tabe*.

Дзеля ўсіх іншых сугукаў у варабскай абэцэдзе ё толькі па аднэй літары. Па аднэй яны асталіся і ў языццэ крывіцкім, хоць тут апрача *р*, *д*, *т*, *дж*, *ж*, *ч*, *ш*, што заўсёды цьвярдыя, усе іншыя сугукі, залежна ад месца ў слове, бываюць цьвярдыя або мяккія. Значыцца, апрача *зь*, *сь*, *к'* мякчыня ўсіх іншых крывіцкіх сугукаў у „Аль кітабе“ не абазначана. Трэба, значыцца, дагадацца, дзе прачытаць мякка, а дзе цьвёрда, што зусім ня трудна. Зусім накшая вымова крывіцкіх сугукаў *дз*, *ц* прынучыла прыдумаць дзеля іх у варабскай абэцэдзе апрычоныя значкі, каторыя, як бальшыня іншых літараў, ужываюцца, як дзеля *дз*, *ц* цьвярдых ((ludzkoha, pričinca), так дзеля мяккіх (chadzic). Літары, каторых мяккая вымова не абазначаецца ў рукапісе, так-жа транскрыбаваны без абазначэньня іх мякчыні. Толькі арабскае *лям*, абазначаючае *л* і *ль*, транскрыбавана залежна ад вымовы пераз *ł* ці *l* (hołas, kali). Арабскае *ваў* перададзена часткава літараю v (перад самагукамі, пр. vada), а часткава літараю ŭ (між самагукам і сугукам ды на канцы слова, прыкл. voŭk, biŭ).

Крывіцкі гук *е* абазначаецца ў „Аль кітабе“ пры помачы значка для арабскага *а* кароткага.

Крывіцкае *а* абазначана ў рукапісе пры помачы арабскага значка дзеля *а* даўгога, або часткава — згодна з арабскай абэцэдаю—на пачатку слова пры помачы айн (транскрыбуецца знач-

ком ‘) і арабскага значка дзеля *a* кароткага. У варабскім пісьме па *k*, *ch*, *t* значок дзеля кароткага *a* вымаўляецца як *a* (а не як *e*); дзеля таго і ў беларускім тэксьце часта дзеля абазначэньня *a* па k, ch, t ня ставіцца значок даўжыні. Транскрыбавана: араб. кароткае *a* пераз *e* (śedzec), араб. даўгое *a* пераз *a* (sad, śadz). Хоць арабскае кароткае *a* па k, ch, t і з ‘ (айн) вымаўлялася як *a*, то аднак транскрыбаваны яны пераз *e* (у другім прыпадку з ‘), бо нярэдка ў крывіцкім тэксьце па k, ch, t і з айн пішацца так-жа *a* даўгое. Прыклады: ‘ebačimśe, ketorij, matke (=абачымся, каторы, матка).

У бальшыні прыпадкаў крывіцкае *o* абазначаецца пры помачы значка дзеля арабскага *y* даўгога, а *y* пры помачы значка дзеля арабскага *y* кароткага, але нярэдка бывае наадварот: араб. *y* даўгое ўжываецца дзеля крывіцкага *y*, а *y* кароткае дзеля крывіцкага *o**). Транскрыбавана: араб. *y* кароткае пераз u (u ‘ahnu=у агню, ‘uława=олава), араб. *y* даўгое, калі абазначае крывіцкае *o* — пераз *o* (hołas), а калі абазначае крывіцкае *y* — пераз ū (z dimū=з дыму).

Крывіцкія *i*, *y* абазначаюцца аднолькава, пры тым блізу заўсёды значком дзеля арабскага *i* кароткага, адно напару значком дзеля араб. *i* даўгога. Транскрыбаваны: першая літараю *i*, другая літараю ī. Ведама, што ў транскрыпцы перад *e* і *i* могуць стаяць, як мяккія, так і цьвярдыя сугукі, начай кажучы *e*, *i* не абазначаюць мякчыні папярэдніх сугукаў.

Дзеля таго што пры транскрыпцы перапісавалі літара ў літару, дык перапісалі так-жа айн (‘) перад *y* (na‘uka), хоць у такім палажэньню айн нічога не абазначае.

Знакоў прыпынку ў рукапісе нямашака, у транскрыпцы паставіў іх я. Вялікія літары таксама я паставіў.

Бачыны й радкі транскрыпцы адпавядаюць бачынам і радком „Аль кітабу“. Панумаравана подле захаванае часьці рукапісу, каторы нумарацы ня мае.

## Дзе быў напісаны „Аль кітаб“?

Уперад, чымся прыступіць да граматычнага разбору мовы „Аль кітабу“, важна даведацца на прасторы якога крывіцкага (беларускага) дыялекту ён быў напісаны. „Аль кітаб“ мусіў быць напісаны там, дзе жылі крывіцкія мусульмане, а гэтыя ў XV—XVII стаг. жылі сярод крывіцкага насяленьня хрысьціянскага там, дзе й цяперака, значыцца ў цяперашніх паветах: Віленска-Троцкім, Ашмянскім, крышку ў Валожынскім, далей у Наваградзкім, Слонімскім і Горадзенскім. Як бачым, менаваны прастор вялізны, на

*) У пазьнейшых рукапісах крывіцкіх арабіцаю араб. у даўгое ўжываецца толькі дзеля крывіцкага **о**, а кароткае дзеля крыв. **у**. Хістаньне ў ужываньню ў нашым рукапісе араб. значкоў дзеля араб. кароткага й даўгога **у** паказуе на ня поўнае яшчэ скрысталізаваньне крывіцкага правапісу арабіцаю ў справе абазначэньня крывіцкага **у** і **о** і сьведчыць аб даволі раньнім напісаньню „Аль кітабу“.



ім ё колькі крывіцкіх дыялектаў. З другога боку чыста народная мова „Аль кітабу“ дае магчымасьць азначыць месца яго паўстаньня подле адных асаблівасьцеў языковых. Дык да мовы й зьвернемся.

Каб азначыць месца напісаньня „Аль кітабу“, даволі зьвярнуць увагу на гэткія асаблівасьці мовы ягонае:

1) Ненацісьненае *o* заўсёды пераходзіць у *a* з вынятказм канцавога *o* ў канчатку gen. sg. (родн. скл. адз. л.) прыметаў і прыметных займёнаў із націскам на карані. Прыклады: kažnahu 8a2, naŭčonahu 13a15, adzinahu 14b6 (= кажнаго і пад.), sūdnaho 4a. А калі націск на канчатку, дык на канцы ё-*a*: śvetoha, dna 26a3, złoha 65b2, jakoha 63b13. Аднолькава gen. sg. займёнаў *ніхто*, *нішто*: nikoha 48b11, 52a5, ničoha 54a2 і інш.

2) *a*-, *ja*- асновы і мускія *o*-, *jo*- асновы маюць у nom.—ac. pl. (наз.—він. мн. л.) толькі канчатак *-i*, *-ы*: vałasi 110b5, 131a1, kupci 60b3, hałavi 72b1, starani 75b8.

3) 1 praes. pl. (1 ас. мн. л. цяп. ч.) дзеясловаў тэм. мае канчатак — *м* (‘adpośnikajemśe 94b6, vidzim 95b11, ’ebačimśe 96b12.

4) Дзеясловы із захаваным самагукам асновы маюць перад канчаткам *-це* ў 2 pl. imp. (2 ас. мн. л. загаднага ладу) самагук *-i* (*-ы*): ścerażiceśe 20a3, razijdziceśe 28b6, hledzice 84b15 і інш.

У аканьню мова „Аль кітабу“ згаджаецца з крывіцкім дыялектам паўднёва заходнім (тачней: з паўночна-ўсходняй часьцю дыялекту паўднёва-заходняга) і зь віленска-ашмянскімі гутаркамі. Іншымі трыма менаванымі асаблівасьцьмі згаджаецца з крывіцкім дыялектам цэнтральным і ўзноў із віленска-ашмянскімі гутаркамі. Усімі менаванымі асаблівасьцьмі мова „Аль кітабу“ згаджаецца зь віленска-ашмянскімі гутаркамі. Іншыя асаблівасьці мовы „Аль кітабу“ не пярэчаць напісаньню яго ў мове віленска-ашмянскіх гутаркаў. Значыцца „Аль кітаб“ паўстаў на прасторы віленска-ашмянскіх гутаркаў крывіцкага языка.*)

*) Віленска-ашмянскія гутаркі (названы гэтак подле большых местаў іхняга прастору — Вільні й Ашмяны) апісаны мною ў варт. „Narzecza języka białoruskiego” („Sprawy narodowościowe“ № 5, Варшава 1928 г.,) і ў варт. „Stan badań nad klasyfikacją dialektów języka białoruskiego“ (Balticoslavica“ II, Вільня 1936 г.). Граніцы віленска-ашмянскіх гутаркаў гэткія: Калі ад вусьця р. Ісачы ў Бярэзіну (Нёмнаўскую) правядзём на заход ля мест. Вішнева (Валожынскага, ля станцы Багданава) лінію да языковае граніцы зь Ліцьвінамі ля мест. Воранова, дык азначым граніцу паўднявую нашых гутаркаў. На поўн. й зах. граніца віленска-ашмянскіх гутаркаў зыходзіцца зь языковаю граніцаю крывіцка-літоўскаю. На ўсходзе граніца праходзіць ад р. Бярэзіны на поўнач да літоўскае граніцы блізка Гадуцішак так, што ў цэнтральным беларускім дыялекце астаюцца Валожына, Забярэзьзе, Гародзькі, Пруды, Залесьсе, Смаргоні, Данюшава, Жойдзішкі, Вішнева (Вялейскае, ля Сьвіра), хіба Сьвір, далей Мядзел, Постаўе, а да віленска-ашмянскіх гутаркаў адыходзяць: Вішнева (Валож. пав.), Крэва, Гальшаны, Солы. Значыцца прастор, займаны віленска-ашмянскімі гутаркамі, складаецца з гэткіх цяперашніх паветаў: Віленска-Троцкага, Ашмянскага, бяз воласьці Смаргонскай ды невялічкіх часьцеў паветаў Валожынскага, Лідзкага й Сьвянцянскага. Пры гэтым трэба зацеміць, што точныя граніцы гэтых гутаркаў у пав. Валожынскім, Лідзкім і асабліва Сьвянцянскім дагэтуль не ўстаноўлены.

# Фонэтыка

## Самагукі

### Аканьне

Найвялікшай асаблівасьцяй крывіцкіх самагукаў ёсьць аканьне, г. зн. пераход ненацісьненых *o, e,* а напару і іншых самагукаў у *a* (*я*). Наш рукапіс мае мноства прыкладаў аканьня. Разгледжу асобна прыклады на пераход *o* ў *a* і асобна на пераход *e* ў *a* (*я*).

*Пераход ненацісьненага o ў a.* Прывяду некаторыя прыклады на пераход ненац. *o* ў *a*. Дзеля таго што, як *o* спачатнае, пераходзіць у *a* так-жа ненацісьненае *o* з даўнейшага *ъ*, прыклады на іх будуць прыведзены разам. *A* на месцу этымолёгічнага *o* ненацісьненага ў 1-м складзе перад націскам: Prarok 13a17 *), daždžu ibid., ‘adzinamu 42b9, pačaŭ 41a2, pa dzešec 17a9, pa razu 17a8.

У другім складзе перад націскам: ‘Ad stvaricela 38b16, dakranūūšiśe 32b16, panižaŭ 12a13, ‘adpūsklivij 3b14, pa čirvonam załatom 17a16, ‘addaliūši 2b14, vałasi 133a1, ‘aśminaccać 38b17, ne‘abrakajučiśe 40a9, daždžavoha 47b16.

У трэйцім і дальшых складох перад націскам: ‘abdaravaŭ 19b7, pad hałavuj 19b7 (= пад галавой), da ‘adpūščene 23a11, ‘aśmidześat 47b8, da saraku 57a6, bahatiri 130a5, ’ad ‘aśmidześat četiroch hod 14a10, ‘ad perehavuru (=voru) 41b1.

У складох па націску. У першым складзе па націску: sustavaŭ 1a16, pomači 4b1, ‘udzačnaśći 9a9, małaku (=-o) belaje i smačnaje rajśkaje 22b10-11, čełevekaŭ 31b1, nad cełam, pravaj 55b15.

Так сама *a* на месцу ненацісьненага канцавога *o* маюць у nom. - ac. sg. (наз. - він. адз. л.) усе ймёны ніякага роду — назоўныя, прыметныя, парцііціпіяльныя, займёны ніякага роду ды прыслоўі, паўсталыя скасьцяненьням nom. - ac. sg. сярэдніх прыметаў: chełopstva i paddanstva činiš 4a12, tvaju (= -o) słova 61b3, svaju (= -o) ceła 60a11, ‘adzinostva 4b2, mnoha 14a12, ‘uśo ceła naha, hrešna 129b3, choc bliska, ‘a hłiboke (= -ka) 73b1, bahamołstva činiŭ 14b2.

Аднолькава ў другім складзе па націску: moŭčikam 9b10, nevulnikaŭ (=-vo-) 12a5, kłopataŭ 52a2, pitalnikaŭ 79b2, patničnaj 33a9, nevernikaŭ 13a6, dzeravam 44b2, 73b3, hułasam (= ho-) 19a2, 42b10, słova stvaricelśkaje 57b2, pošepkam 81b14, na toje dzerava 75a8, skažu, što śe dzejała 108a3.

Згодна з асаблівасьцьмі арабскага пісьма па *k, cḫ, t* арабскі значок дзеля *a* кароткага абазначае крывіцкае *a* (а ня *e*, як па іншых сугуках). Значыцца ў прыкладах — chełop 4a3, kerona 40a12, pachevali 18b13, kolke (adv.) 43a1, tevari 60b3, da kełen 58b3, cherošich 96a3 і ў мностве іншых падобных — *e* па *k, cḫ, t* трэба чытаць як *a*. Транскрыбаваны падобныя прыклады пераз *e*, а ня *a*, бо пісар „Аль кітабу“ ў тых самых словах піша такжа па *k, cḫ, t,* хоць у мяншыні прыпадкаў, *a* (значыць ставіць арабскае *a* даўгое), прыкл.: chałop 79b10, charošija 90a1, chavanem 51a4, karona 26a17, kaleni 84a1, kolka (adv.) 40b15, 42a1, tavariši 61b7, katorije 130a5, łokac 73b9.

Так-жа згодна з асаблівасьцьмі арабскага пісьма, араб. *a* кароткае з айн абазначае крывіцкае *a*. Аднак такое *a* з айн транскрыбавана пераз *e* із значком ‘, бо ў тых самых словах аўтар нярэдка перадае крывіцкае *a* (як із ненацісьненага *o*, так і спачатнае) пры помачы араб. *a* даўгога з айн. Калі-б у вабодвых прыпадках транскрыбаваць аднолькава пераз *a*, дык быў-бы зацерты ў даным прыпадку правапісны стан рукапісу. Дык таковыя прыклады ў транскрыпцы, як ‘edna, ‘ebaraniŭ, трэба чытаць таксама, як ‘adna, ‘abaraniŭ, значыцца з *a* на пачатку слова.

**a** *ў прыймёнах-прыстаўках.* Гэтта будзе на месцу зацеміць, які самагук зьяўляецца ў рукапісе на месцу вакалізаванага *ъ* ў прыймёнах-прыстаўках. Найбалей прыкладаў ё ў прыймені *з*, паўсталым зьліцьцём sъ і jьz. Гэтае прыймя ў справе *ъ* прыняло функцу спачатнага прыймені sъ. Прыклады з *a* на месцу даўнейшага *ъ* ў прыймені *з*: s’ohodne i z*a* mnoj pan hutariŭ 5a4, zapsūje 43a17, 43b8, 84b9, 74a3, 84a10, zapsūješ 49a3, 59a2, nechaj i za mnoj vidzicca 59a8, nezapsūje 74a4, 84b2, 84b11, štob za mnoj muviła (= -mo-) 96a13. Але блізу гэтулькі ё прыкладаў із *e* ў гэтым прыймені, прыкл.: zetne 1b7, zebraciśe 20a1, ze snū parvaŭśe 84b17, zebranije 88b14, iz’ neba zešle 96b17, pleči s krištału, kapita ze srebra 110b4, ze mnoj vidzeŭśe 132a4. У прыпадках, дзе аўтар піша *зэ*, на яго відавочна ўплываў польскі правапіс.

Аўтар, значыцца, нярэдка пізаў *зэ* замест *за* із *зо*, хоць вымаўляў *за*, аб чым сьведчаць прыклады із *за*. Адгэтуль лёгка было абмыліцца й напісаць *e* на месцу спачатнага *a* ў прыймені *za*, на што ё таксама прыклады: ze kažnij dzen postu 24b3, zebaŭlaliśe 24b12, 34a2, побач zabaŭlaliśe ibid., zenechaŭ 40b8, zevuć 40a16 побач zavuc ibid.

Гэтак аканьне зьдзейла ў дадзеным прыпадку зьліцьцё прыймені *з* (*зо*) з прыйменям *за*.

Аднолькава ё із самагукам у прыймёнах *перад, пад, ад*: pereda mnoj 76b7, 81a17, Pada ūśe pakoji 124b4, ‘adarvecca 126a3.

*Апрычоныя прыпадкі.* Мускія й сярэднія прыметы, дзеяпрыметы, лічбы парадкавыя і займёны, калі маюць націск на карані, канчаюцца ў gen. sg. (родн. адз. л.) на — *аго*. Прыклады: chmelnahu 1b1, velikahu 2a15, łaskavahu 5a10, padobnahu 7a3, kažnahu 8a2, 13a8, 13a15 і г. д., naŭčonahu 13a15 (= хмельнаго і г. д.), naŭčonaho 13a17 і інш., miłościvaho 24b1, pateho 16b17; прыкладаў мноства.

*) Першая лічба ля кажнага прыкладу паказуе бачыну рукапісу, другая — радок.

Тыя самыя хормы, калі маюць націск на канчатку, канчаюцца ў gen. sg. на — *ога*: złoha 8a8, 76b12, 65b2, małoha 17b5, takoha 16b15, staroha 13a7, śvetoha 26a3, 75b12, 89a1, 'ad złoha 42a16, daždžavoha 47b16, živuha 48a3, čūžoha 58b1, jakoha 63b13, drūhoha 106a4, 108b9, 122b1, 123b4, darahoha 123a7, 132a5 і інш. Аднолькава gen. sg. займёнаў *нiхто, нiшто* (з nikъto, ničьto): nikoha 48b11, 52a5, 78a9, 89a14, ni 'ad koha 52a8, ničoha 54a2, 74a7, 84a11, 87a16, 94b11, 96a10, 104b15, 120a6, 'astatnahu śvetoha dna 26a3, śem rečej złoha, sabe škadlivahu (= -ho) maje mec 65b2, ničoha śveckahu 74a7 (= -ho). Прыкладаў множства. У трох апошніх прыкладах побач із канчаткам —*аго* прыметаў із націскам на карані маем канчатак — *ога* ў прыметаў і займёнаў із націскам на канчатку.

Колькі адхінаў: levoho 131a8, 126a7, pravohu ibid зам. levaho і пад., а так-жа živuho 98b14, ničoho 71a10, зам. živoha і пад. Нельга відзець у гэтых прыкладах адбіцьцё вымовы аўтаравае. Гэткаму адбіцьцю пярэчыць множства прыкладаў накшых, вышпрыведзеных, каторыя зьяўляюцца нормальнымі ў рукапісе, як і ў цяперашніх віленска-ашмянскіх гутарках. Менаваныя водхіны мусілі паўстаць у ваўтара ґрафічна з прычыны ймкненьня ягонага да некаторае „правільнасьці“, што ўзноў зьявілася пад уплывам тых-жа хормаў із іншым націскам. У вапошнім прыкладзе можна бачыць недагляд пад уплывам папярэдняга *о*.

Ё два прыклады з -*а* на канцы ў gen. sg. прыметаў із націскам на карані: posła božeha 52b16, pereścerehajučeha 82b10. Можна было-б падумаць, што ў гэтых прыкладах адбілася вымова суседняга крывіцкага дыялекту цэнтральнага, дзе гэтыя хормы цяпер заўсёды ўжываюцца. Але аўтар ня мог гукаць двума рознымі дыялектамі. Дык і гэтыя хормы адно ґрафічныя, паўсталыя пад уплывам хормаў з -*а* на канцы ў gen. sg. прыметаў із націскам на канчатку, як *малога* і пад.

Канцавое -*о* gen. sg. прыметаў і пад. із націскам на карэнным самагуку паўстала з ранейшага *а* аналёгіяй gen. sg. займёнаў *яго, таго, майго* і г. д. Што гэткая аналёгія магла дзеіць, бачым із таго, што ў дыялекце цэнтральным уплыў аналёгіі пайшоў у кірунку адваротным: пад уплывам канцавога *а* gen. sg. прыметаў там паўстала *а* пад націскам на канцы gen. sg. займёнаў (*кага, чага, яга, майга* і г. д.). Але чаму аналёгія ня дзеіла на канцавое -*а* ў gen. sg. прыметаў із націскам на канчатку, значыцца такіх, як *маладога* і інш? Прычына гэтае розьніцы можа быць адно ў тым, што відавочна *а* зь ненац. *о* ў складзе беспасярэднім па націску было мацнейшае за *а* ў другім складзе па націску.

Іншы запраўдны (а не адно ґрафічны) адхін ад аканьня знаходзім у словах: poŭhoda 106b7, 106b8, poŭšasta 49b13, poŭdna 106b14, poŭstane 96b15, 34b8. Гэтта *о* зьявілася—пад уплывам наступнога вусьнянага гуку *ў*,—з *а*, паўсталага зь ненац. *о* таксама, як у некаторых гутарках этымолёгічнае, на'т націсьненае *а* пад уплывам *ў* перайшло ў *о*, прыкл. *доў, зоўтра* зам. *даў, заўтра*.

Слова „чалавек“ аўтар блізу заўсёды піша з *е* па *л* (čełeveke 13a17 і інш.) і адно вельмі рэдка з *а* (čełavečej 18a2, čełavek 11a1, 28b2, čełavekam 44b8). Ведама, вымова была толькі з *а* па *л*.

Разгледжу прыклады зь ненацісьненым *о* ў рукапісе. Наўперад тут маем полёнізмы, прыкл.: spełno 109a1, oto 110a2, stvoril 118a6 (*ł* паказуе на полёнізм), velkości 88a13 і некаторыя іншыя.

У суфіксах і ў склонных канчатках на месцу ненацісьненага этымолёгічнага *о* або *ъ* звычайна ё *а*, але нярэдка сустракаецца і *е* (араб. *а* каротк*е*), прыкл.: padarek 35b8, sorek 30b4, pred Panem Bohem 39a10, mus'ulmaninem (dat. pl.) 31a17, iz dubrej (= do-) vuli (= voli) 52b13, pravej rukoj інш. Гэтыя і да іх падобныя прыклады паўсталі ґрафічна пад уплывам пісаньня *е* папольску ў падобных прыпадках.

Зь іншых словаў і хормаў, каторыя ў „Аль кітабе“ сустракаюцца зь ненацісьненым *о*, вялізная бальшыня ё такіх, каторых этымолёгічнае *о* так ці накш зварочавала на сябе ўвагу аўтара. Гэтак, прыкладам, слова „міласьць“ і тваропыя ад яго найчасьцей пішуцца з *о* (miłośc 82a12, 82b9 і інш.), бо аўтар у сучасным літаратурным языццэ беларускім (крывіцкім) часта бачыў дый й сам, пішучы альфабэтам крывіцкім, мусіў пісаць яго з *о*. Калі якое слова часта сустракаецца ў хорме з націсьненым *о*, ё балей даных, што аўтар напіша яго з *о* і ў палажэньню бяз націску.

На першых дзесяцёх (1а — 5b) бачынах рукапісу я палічыў усе прыклады, дзе ненацісьненае *о* перайшло ў *а*, і прыклады, дзе такога пераходу ня было. Аказалася, што на менаваных бачынах ё 280 прыкладаў на пераход ненацісьненага *о* ў *а* і 12 прыкладаў такіх, дзе ненац. *о* асталося не перайшоўшы ў *а*. Ад гэтых 12-ёх прыкладаў трэба адняць 2 відавочныя полёнізмы — гэта miłośerdnij (пакрывіцку было-б miłosernij — з *с* цьвярдым і бяз *д*) і povelbena (= повельбеня). Гэткія балей меней адносіны будуць і ў цэлым рукапісе. Да менаваных 12-ёх прыкладаў непераходу ненац. *о* ў *а* я не залічыў канцавога *о* gen. sg. прыметаў і пад. з націскам на карані (novaho), бо ў гэтай хорме, як паказана вышэй, мы маем пазьнейшы пераход *а* зь ненац. *о* ў *о* з прычыны *аналёгіі* (падобнасьці).

З усяго вышсказанага, як і прыведзеных прыкладаў, ясна відаць, што ў мове „Аль кітабу“, а тым самым у віленска-ашмянскіх гутарках XVI стаг., з выняткам дзьвюх катэгорыяў — канцавога *о* ў gen. sg. прыметаў і інш. з націскам на карані і *о* перад *ў* — усякае іншае ненацісьненае *о* пераходзіла ў *а*.

Невялічкую колькасьць прыкладаў у рукапісе зь ненацісьненым *о* лёгка выясьніць наступным спосабам. Аўтар праўда ненац. этым. *о* перадаваў наагул фонэтычна (подле вымовы), значыцца праз *а*. Але ці з гэтага маем судзіць, што ў ваўтара было сьвядомае ймкненьне да фонэтычнага правапісу? Ані ён, ані ягоныя папярэднікі рэформатарамі правапісу ня былі, бо

калі-б так было, дык іхняя рэформа мусіла-б адбіцца на крывіцкім правапісе кірыліцаю, чаго аднак ня сталася. Ён пісаў у даным прыпадку фонэтычна, бо накш пісаць не патрапіў, ня будучы навытырыўшыся ў правапісе этымолёгічным, як пісьменьнікі крывіцкім (кірыліцаю) альфабэтам.

Апіраючыся адно на вышразгледжаным матар'яле, ня можна сказаць, каб аўтар, прыступаючы да свайго твору, імкнуўся пісаць этымолёгічна. Але на'т у такім прыпадку гэткае ймкненьне да этымолёгічнае „правільнасьці" мусіла зьявіцца ў часе самога пісаньня, калі аўтар абярняся сустракаўся, што тое самае слова ці хорма пад націскам мае *о*, а не пад націскам *а*. Вось у сувязі з гэтым і паўстала-б у „Аль кітабе" гэная невялічкая колькасьць прыкладаў з этым. ненац. *о*. Прыймаючы аднак пад увагу тагачасныя культурныя варункі ў Крывіі (Беларусі), трэба прызнаць, што некаторае ймкненьне да этымолёгічнасьці правапісу мусіла быць у ваўтара ўжо адразу. Як чалавек інтэлігентны, ён, калі й ня пісаў, дык мусіў чытаць тагачасную крывіцкую літаратуру кірыліцаю, пісаную й друкаваную правапісам этымолёгічным. Правапіс агульна-крывіцкае літаратуры ня мог ня ўплываць на аўтара, тым балей, што гэны правапіс меў аўторытэт урадовасьці, гаспадарсьцьвенасьці.

---

## М. І. Забэйда-Суміцкі ў Вільні

Выдатным здарэньнем у музычным жыцьці Вільні зьявіўся 10.XII 1938 г. канцэрт нашага тэнара-сьпевака Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага і выступіўшага разам зь ім беларускага хору Рыгора Раманавіча Шырмы. Як бачым, канцэрт, ужо па адным гэтым, можна было-б назваць наагул *беларускім*. На гэта складалася яшчэ і тое, што праграма канцэрту ў пераважаючай частцы зьмяшчала творы беларускай музычнай душы. Аднак, выдатнае ўчасьце ў праграме канцэрту ўкраінскіх кампазытараў, Кошыца і Гайворонськага, робіць зьмест і значэньне канцэрту яшчэ глыбейшым і шырэйшым, дый ня толькі ў галіне яго чыста музычнай цэннасьці, але і ў сэнсе культурнага братаньня двух суседніх, найбольш адзін да аднаго блізкіх і падобных народаў — беларускага і ўкраінскага. Можна пайсьці яшчэ далей. У праграме былі творы літоўскага і польскага музычнага генія, былі, праўда найслабей, прадстаўлены і расейскія кампазытары. Дык канцэрт меў характар абраза таго мірнага і згоднага сужыцьця ў высшым, сьветлым і радасным сьвеце мастацкай культуры ўсіх пералічаных народаў, якога, нажаль, няма ўсьцяж у яго рэальным жыцьці.

У цэнтры канцэрту, як заўсёды, стаяў артыст Забэйда. Ён сьпяваў з вялікім мастацкім уздымам. Апроч дзьвюх невялічкіх, але цудоўных пэрлінак Моцарта і Бэтховэна, красу якіх артыст адцаніў запраўды-ж мастацка-тонкай аддзелкай дэталяў, блізу ўся рэшта праграмы была ахвяравана народнай музыцы, пераважна, як сказана, беларускай. Бо-ж дзьве песьні Манюшкі стаяць, як блізу ўсё яго творства, на граніцы народнай і „культурнай" музыкі. Блізу чыста народнымі, нават пахнуўшыя яшчэ сьвежа паднятай ськіваю літоўскай зямлі, былі дзьве песьні літоўскага кампазытара Шымкуса. Усё гэта выканаў артыст з уласьцівай яму мастацкай тонкасьцю і блескам. Але ўсё гэта не захоплівала глыбей — ані самога артыста, ані, як вынік гэтага, — і слухача. Слухачы, ведаючы ўжо добра, чаго можна спадзявацца ад мастака, чакалі з нецярплівасьцю далейшага. І вось — дачакаліся. Калі сьпявак запяяў пабеларуску беларускія народныя песьні ды новастворыныя на іх аснове, дый на словы нашых паэтаў, рамансы, — і ён сам „прэабразіўся", быццам узышоў на гару „Фавор", і слухачы адразу пачулі над ім і ў ім ласку Божую... Ён увесь зазьяў, засьвяціўся, паміж ім і слухачамі адразу перакінуліся залатыя ніці-коскі, якія злучылі ўсіх, што былі ў салі, у адну духоўную істоту — амаль як у сьвятыні. Бо-ж так заўсёды дзеіць запраўднае мастацтва, якое, як даводзяць сучасныя філёзафы рэлігіі, зьяўляецца як быццам „сенцамі", якія вядуць у харомы апошняй...

Родная песьня захапіла ўсю істоту артыста, а ня толькі яго высокі музычны інтэлект і яго віртуозную тэхніку мастака першае клясы. І гэта, як сказана, адразу перадалося аўдыторыі. У выкананьні беларускай песьні наш мастак ня толькі ня мае канкурэнтаў, але зьяўляецца сам запраўднай „рэвэляцыяй". Беларуская песьня, беларускі романс — запраўдная „рэгалія" артыста. Тут — запраўдная творчая яго орыгінальнасьць. Бо-ж кожны мастак, ці тварэц, ці выканаўца, які таксама мае нешта ад тварца, калі ён — запраўдны мастак, — заўсёды, у сваіх вышэйшых узьлётах, неадарвана зьвязаны з найглыбейшымі нетрамі роднае народнае стыхіі. Адсюль плыве тая сьветлая пэўнасьць сябе і радасьць, якую адчувае кожны мастак дый якой заражае ён другіх моцна абапёршыся на глыбокія карэньні, якія — праз родную Матку-Зямлю — лучаць яго з апошнімі асновамі самога сусьвету. Мастак можа сьмела расьці ў вышыню, каб у сваіх найвышэйшых узьлётах, як быццам зірнуць у твар Самога Бога, дый ад Яго несьці людзям нізіны і цяжкай працы найвышэйшую радасьць сьвятога мастацтва... Ня дзіва, што артыста з Божае ласкі прымалі з захопленьнем... Дый ня толькі Беларусы, якіх, зразумела, было найбольш у прасторнай, але поўнай да краёў залі ўнівэрсытэту. Саля была напоўнена ўсімі тымі, каго прыцягівала наагул жывая творчая душа народнага масыву, якая з такім хараством адбілася ў красуні-песьні беларускага народу... Артыста выклікалі без канца, паднясьлі яму кветкі.

Дзякуй яму за тое, што ён даў, за тое, што ён усьцяж робіць для пашырэньня і славы беларускай песьні — для паднняцьця жывой душы беларускага народу. **Ул. Чэмер**

# Хроніка

— 27 лістапада Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні зарганізаваў вечар літоўскай літаратуры. У праграму вечару ўходзілі рэфэрат аб літоўскай літаратуры і дэклямацыі перакладзеных на беларускую мову твораў літоўскіх паэтаў. Рэфэрат дужа хораша і рачова, даючы ў ім усю гісторыю літоўскай літаратуры, як старой так новай і сучаснай, прачытала віленская літоўская паэтка Она Міцюте. Дэклямаваліся вершы з віленскіх літаратараў: О. Міцюте, А. Жукаўскаса, Ё. Кекштаса, з ковенскіх—Ё. Коссу-Александравічыуса і К. Боруты.

— 10 сьнежня адбыўся ў Вільні канцэрт з удзелам слаўнага нашага сьпевака Міхала Забэйды-Суміцкага і хору Бел. Студэнцк. Саюзу пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы. Канцэрт прайшоў вельмі ўдачна. Арганізаваў яго Белар. Студ. Саюз.

З нястачы месца, падаём у гэтым нумары часапісу толькі рэцэнзыю на выступленьне Міхала Забэйды-Суміцкага, аб хору і выкананых ім песьнях зьмесьцім артыкул у наступным нумары.

— 6 і 7 сьнежня выступаў у Вільні ведамы варшаўскі балет Тацяны Высоцкай. У праграму выступленьня між іншым уваходзіў улажаны Высоцкай і аснаваны на беларускіх народных матывах балет „Юр'я".

— Нядаўна ў Мюнхене выйшла кніжка А. Сандэрс'а — „Um die Gestaltung Europas" (Аб перабудове Эўропы), у якой нямала гаворыцца і аб Беларусі.

— Т-ва Навуковае Помачы ім. Ўрублеўскіх у Вільні выдала друкам папольску магістэрскую працу Хведара Ільляшэвіча п. з. „Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie", у якой аўтар шырока прадставіў гісторыю і дзейнасьць гэтай слаўнай беларускай друкарні (1575—1622).

— Беларускі паэт і пісьменьнік Вінцук Адважны (Марыянін кс. Я. Гэрмановіч), пасьля высяленьня а.а. Марыянаў з Друі, улетку выехаў з Вільні. Пражывае цяпер у Рыме.

— 27.XII. 1938 г. выехалі з Вільні, выселеныя з прыгранічнай паласы на 5 год рашэньнем віленскага ваяводы, беларускія культурныя дзеячы: кс. Адам Станкевіч, кс. Уладыслаў Талочка і інж. Адольф Клімовіч. Пражываюць яны цяпер (за прыгранічнай паласой): першы—ў Слоніме, другі — ў Беластоку, трэці — ў Варшаве. Высяленцы ад рашэньня ваяводы злажылі рэкурс да Міністра Унутраных спраў.

— Кс. Адам Станкевіч яшчэ перад высяленьнем пасьпеў выдаць друкам сваю чарговую, вельмі вартасную, кніжку „Беларускі хрысьціянскі рух".

У наступным нумары нашага часапісу падамо на яе рэцэнзію. Кніжка фармату $8^0$ налічае 280 бачын і каштуе ўсяго 2 зл.

Паважаны Аўтар піша цяпер новую кніжку „Хрысьціянства і Беларускі народ".

— У Беларускім Навуковым Т-ве. Гістарычная сэкцыя пасьвяціла дзьве свае зборкі — 13 і 20 лістапада — выслуханьню абшырнага рэфэрату свайго сябры мгра С. Паўловіча на тэму „З гісторыі беларускае царквы" і дыскусіі аб ім. З увагі на вельмі цікаўныя мамэнты, закранутыя дакладчыкам — добрым знаўцам свайго прадмету,—узьнялася жывая дыскусія, у каторай было адзначана шмат іншых мамэнтаў, вартых распрацоўкі нашымі дасьледчыкамі на ніве беларускае гісторыі.

10 і 12 сьнежня адбылася другая ўжо за 1938 год урадавая праверка дзеяльнасьці і маемасьці Беларускага Навуковага Т-ва. Праверка была зроблена па загаду віленскага гарадзкога старасты. Рэвізоры не знайшлі ніякіх адхіленьняў ад статуту Т-ва і дзеючых законаў. Каса і маемасьць знойдзена ў поўным парадку.

— У Беларускім Музэі ім. Ів. Луцкевіча за 1938 год лічба аглядаўшых Музэй дасягла 5285 асобаў (у тым 113 экскурсіяў). Дагэтуль гадавая фрэквэнцыя не



дасягала 5 тысяч у год, і сёлетняя цыфра паказвае сталы ўзрост зацікаўленьня грамадзянства Беларускім Музэям.

За той-жа 1938 год Белар. Музэй атрымаў ад розных асобаў ахвяр і дэпозытаў рэчамі 165, да таго-ж 331 манэту і 78 банкнотаў.

Даведываемся, што Музэй атрымаў ад старога беларускага дзеяча з Коўна інж.-арх. Кляўдыюша Душэўскага паведамленьне, што з сваіх заробкаў ён пастанавіў выплачваць даволі значную суму штомесячна на дапамогу Музэю.

Як ведама, Музэй, пазбаўлены дзяржаўнае дапамогі ад чэрвеня 1938 году, утрымліваецца выключна за складкі сяброў і прыхільнікаў Музэю. Сума, здабываная што-месяц гэтым шляхам, пакрывала дагэтуль толькі выдаткі на аплату музэйнага памяшчэньня ў дзяржаўным гмаху і на неадкладныя бягучыя патрэбы. Дапамога інж. Душэўскага дасьць магчымасьць хоць мінімальнае аплаты ахвярнае працы музэйных работнікаў.

Гожа адзначыць, што інж. Душэўскі ўжо каля 20 гадоў жыве ў Коўне і сваей фаховай працай здабыў для сябе паважныя матар'яльныя падставы быту, каторыя далі яму магчымасьць ня толькі пабудаваць для сябе пекны дом у сталіцы Літвы, але, як бачым, і дапамагчы із сваіх заработкаў беларускай культурнай установе. Пажадаем, каб за ягоным прыкладам пайшлі і другія заможныя Беларусы, лічба каторых з году ў год узрастае.

— У канцы кастрычніка ў сталіцы Савецкай Беларусі — Менску — адбылася трэцяя ўсебеларуская алімпіяда мастацкай самадзейнасьці. Удзел у выступленьнях на алімпіядзе прыняло звыш 1,500 лепшых сьпевакоў, танцораў, музыкантаў, якія рэпрэзэнтавалі шматтысячную армію ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасьці беларускага народу. Сярод удзельнікаў алімпіядыстаў была ня толькі моладзь, але, хоць у малым ліку, і старэйшыя асобы, з якіх адрозьніваліся здольныя мастакі - самадзейнікі: напр. 70 гадовы калгасьнік Кірэй Запатылак, які памастацку выконываў беларускія народныя танцы, 75 гадовы калгасьнік Міхал Панцялеенка, выканаўца беларускіх народных мэлёдыяў на жалейцы.

Мастацкая самадзейнасьць паказала, які багаты беларускі народ талентамі.

— 2-га сьнежня закончылася усебеларуская выстаўка народнага выяўленчага мастацтва. Выстаўка трывала месяц часу і яе адведала 43 тыс. асоб.

Асаблівую ўвагу наведывальнікаў зварочвалі абразы — вышыўкі. Пасьля выстаўкі спэцыяльнае журы раздало 96 асобам-мастакам прэміі. Першую прэмію ў суме па 1000 руб. атрымалі мастакі-самавукі Паварыч і Ліпай. Лепшыя экспанаты гэтай выстаўкі будуць высланы на ўсесаюзную выстаўку ў Маскву.

— У лістападзе ў Менску адбылася выстаўка работ маладых мастакоў Беларусі. Вызначылася творчасьць наступных мастакоў: Зайцава, Пашкевіча, Ціхановіча, Гаўрыленкі, Монасзона, Дакальскай і Тарасіка. Мастак Тарасік праявіў нязвычайны талент; крытыкі варожаць Тарасіку вялікую мастацкую будучыню. Таксама вельмі абяцаючым мастаком паказаўся Красоўскі.

— У кастрычніку адбылася ў Менску нарада драматургаў Савецкай Беларусі. На нарадзе прысутнымі былі і госьці з іншых рэспублік Савецкага Саюзу.

На нарадзе абгаварывалі плян працы драматургаў на будучыню і справы арганізацыйнага характару. Між іншым на нарадзе прысутныя даведаліся, што: З. Бядуля мяркуе напісаць новую п'есу на тэму калгаснага жыцьця, К. Крапіва прыступіў да напісаньня новай сатырычнай камэдыі на сучасную тэматыку, Я. Колас піша п'есу аб Крычаўскім паўстаньні.

— Радыёкамітэт Савецкай Беларусі паміж 1—10 кастрычнікам праводзіў радыёконкурс на лепшую мастацкую самадзейнасьць. У конкурсе прымалі ўдзел лепшыя калектывы і індывідуальныя выканаўцы мастацкай самадзейнасьці з дваццаці раёнаў Беларусі. Да конкурсу прыступіла 20 харавых і музычных калектываў

і 25 індывідуальных выканаўцаў. Агульная колькасьць удзельнікаў — 524 асобы. Пасьля конкурсу радыё-камітэт выбраным выканаўцам і калектывам раздаў каля 20-ці прэміяў на суму 4 тыс. руб.

— Ад 12 да 30 лістапада ў Менску адбылася дэкада савецкай музыкі. У праграму дэкады былі ўключаны творы старэйшых савецкіх кампазытараў і кампазытарскага маладняка. Беларускіх савецкіх кампазытараў рэпрэзэнтавалі: Аладаў, Цікоцкі, Туранкоў і Залатароў.

Спэцыяльны канцэрт быў прысьвечаны творчасьці кампазытараў Савецкай Украіны. У дэкадзе бралі ўдзел хор і аркестр беларускіх народных інструмэнтаў.

— 23 сьнежня адбыўся ў Менску выпуск слухачоў 3-х месячных курсаў на кіраўнікоў калектываў мастацкай самадзейнасьці пры доме народнай творчасьці Б.С.С.Р. Курсы скончылі 106 удзельнікаў, з іх: 28 кіраўнікоў драматычных гурткоў, 15 харавых, 32 танцавальных і 31 музычных.

— У сьнежні адбылася ў Менску дэкада Акадэміі Навук Б. С. С. Р. На паседжаньнях былі абгаварываныя справы выключна гаспадарчага характару (Эканоміка Беларусі). Справы гуманістычных навук зусім не разгляданы.

— Кіностудыя „Савецкая Беларусь” выпусьціла поўнамэтражны навукова папулярны фільм „Геаграфія Б.С.С.Р.“. Фільм гэты паказывае багацьці Савецкай Беларусі і празначаны ў дапамогу школьнікам.

— Пісьменьнік Адвард Самуйлёнак напісаў новую п'есу п. заг. „Пагібель ваўка”. Крытыкі і пісьменьнікі аценілі твор, як высока мастацкі і арыгінальны ў беларускай літаратуры. Арыгінальны ён тым, што глыбака філёзофічны.

Гэты твор ставіць Самуйлёнка, як кажуць крытыкі, у рады лепшых пісьменьнікаў Савецкага Саюзу.

— Беларускія пісьменьнікі З. Бядуля, П. Броўка і М. Клімковіч езьдзілі ў Кіеў з рукапісам — перакладам „Кабзара” Т. Шэўчэнкі на беларускую мову, дзеля сконфрантаваньня з арыгінальнымі выданьнямі ўспомненага твору.

— Нядаўна выйшаў з друку новы твор—п'еса М. Клімковіча „Кацярына Жарнасек”. Гэты твор ужо ставіцца на сцэнах тэатраў Савецкай Беларусі.

— Ад 6 да 9 сьнежня адбываўся ў Менску першы зьезд мастакоў Савецкай Беларусі. На зьезьдзе прысутнымі былі дэлегаты з усіх куткоў Беларусі.

На зьезьдзе абгаварываліся справы арганізацыйныя і творчыя.

— У лістападзе ў дзяржаўным выдавецтве Беларусі адбылася нарада актыву выдавецтва разам з прадстаўнікамі пісьменьнікаў, кнігагандлю, прысьвечаная абмеркаваньню праекту тэматычнага пляну Дзярж. Выд. Беларусі на 1939 год. Паводле намечанага пляну мае быць выдрукавана Д.В.Б. у 1939 г., 600 назоваў кніг. З гэтага на беларускую арыгінальную літаратуру празначана толькі 16 назоваў!

Як бачым, беларускае арыгінальнае творста зводзіцца ў „незалежнай” Беларусі да нуля. Затое 584 кніжкі будуць перакладзеныя, зразумела, з „об'щепонятнаго” расейскага языка.

---

**Супрацоўнікі «Калосься»:** *В. Багдановіч, А. Бужанскі, А. Бярозка, М. Васілёк, Ст. Грынкевіч, А. Дубровіч, Хв. Ільляшэвіч, А. Іверс, С. Каліна, А. Клімовіч, Я. Крыга, М. Машара, М. Пяцюкевіч, С. Сахараў, Кс. А. Станкевіч, Я. Станкевіч, П. Сірата, П. Сергіевіч, М. Танк, С. Хмара, А. Чэмер, Ул. Чэмер, М. Шкялёнак, Р. Шырма.*

Redaktor-Wydawca Jan Szutowicz Рэдактар-Выдавец Ян Шутовіч.






## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш. друкі

**Ad. Stankievič,** Biełaruski Chryścijanski ruch. Вільня 1939.
**Ateneum Wileńskie,** XIII, сшытак 2. Вільня 1938.
**Беларускі Летапіс,** № 4-5, Вільня 1938.
**Богословія,** XVI, кн. 4. Львоў 1938.
**Droga pracy,** № № 8, 9—10. Крамянец 1938.
**Orientala christiana periodica,** IV, № III.—IV. Рым 1938.
**Oriens,** сш. 6 і наст. Варшава 1938.
**Hrvatska Revija,** № № 11—12. Загрэб 1938.
**Lietuviškas Baras,** № № 11—12, Вільня 1938.
**Летопис Матице** српска, за ліпень—сьнежань. Новы сад 1938.
**Українська книга,** I—VII. Львоў 1938.
**Kamena,** (51—54). Хэлм Люблінскі 1938.
**Kuźnica,** № 19 і наст. Катовіцы 1938.
**Polityka,** № № 26—29. Варшава 1938.
**Slavia,** XVI, сш. 1. Прага 1938.
**Sygnały,** № № 56—59. Львоў 1938.

---

У нумары 2 (15) „Калосься“ надрукаваны мой інфармацыйны артыкул аб грузінскім паэце Шота Руставелі і ягонай паэме „Віцязь у тыгравай скуры“. Не падаў я ў артыкуле літаратуры, з якой карыстаў, і гэта лічу ягоным недахопам. Карыстаў-жа я з наступнай літаратуры, — іменна з адносных артыкулаў, зьмешчаных у часапісах: „Літаратура і Мастацтва“ № № 68 і 69, 1937 г., „Полымя рэвалюцыі“ № 12, 1937 г., „Дзвоні“ № 1 — 2, 1938 год.

*Я. Шутовіч*

---

# Ад Рэдакцыі:

Выхад з друку гэтага нумару часапісу, з незалежных ад рэдакцыі прычын, спозьніўся. Друкарскі набор чарговага нумару пачнецца ў першай палавіне лютага 1939 г. Просім дзеля гэтага Паважаных Супрацоўнікаў парупіцца ў пару прыслаць матарыялы.

